УДК 811.161.3’373
ББК 81.2Беи-3
К78



Навуковы рэдактар доктар філалагічных навук,
прафесар М . Р. П р ы г о д з і ч

Р э ц э н з е н т ы:
кафедра гісторыі беларускай мовы і дыялекталогіі
УА «Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. С. Пушкіна»
(загадчык кафедры дацэнт *М. М. Аляхновіч*);
доктар філалагічных навук, прафесар *В. Д. Старычонак*

**Красней, В. П.**

К78 Беларуская тэрміналогія : зб. арт. / В. П. Красней ; рэдкал. : Э. А. Ялоўская (адк. рэд.) [і інш.] ; навук. рэд. М. Р. Прыгодзіч. – Мінск : БДУ, 2011. – 216 с. : іл.

ISBN 978-985-518-474-5.

Прыводзяцца найбольш значныя працы прафесара В. П. Краснея, прысвечаныя беларускай тэрміналогіі і стылістыцы мастацкіх і навуковых тэкстаў. Адсочваецца працэс тэрміналагізацыі агульнаўжывальных слоў беларускай мовы. Аўтар акцэнтуе ўвагу на методыцы работы майстроў слова, класікаў беларускай літаратуры, раскрывае творчы характар пошуку неабходных сродкаў для выкладу думкі.

Кніга адрасавана студэнтам, выкладчыкам, аспірантам, навуковым супрацоўнікам БДУ, можа быць карыснай для настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры.

**УДК 811.161.3’373**
**ББК 81.2Беи-3**

**ISBN 978-985-518-474-5**

# ПРА АЎТАРА

## ГЭТАЙ МОВАЙ Я СЛОВЫ ЛЮБОВІ ШАПЧУ...

Вельмі добра, калі ў жыцці нам шанцуе на прыязных, спагадлівых людзей, шчырых і адданых суразмоўцаў і дарадцаў, у рэшце, калег па працы і навуковых зацікаўленнях – тых, хто ўмее адэкватна ацаніць зробленае табой і тваімі вучнямі, хто можа падтрымаць словам і справай, звярнуць увагу на раней не заўважанае, падказаць лепшы выхад з няпростага становішча... Менавіта такім мне і многім беларускім і замежным навукоўцам, метадыстам-практыкам, настаўнікам уяўляецца Віктар Пятровіч Красней – прафесар-тэрмінолаг, педагог, своеасаблівы мовавед-рамантык, адмысловы стыліст і... проста прыгожай душы чалавек.

Ён з таго пакалення, што апаліла апошняя вайна. І хоць у 1941 г. было яму толькі пяць гадкоў, але час той і сёння помніцца – адступленнем чырвонаармейцаў, роспачнымі слязьмі маці, цяжкімі месяцамі нішчымніцы, нарэшце – доўгачаканым пераможным маем 1945 г. … Ці думаў ён тады, што пройдзе колькі часу і цэлых тры гады праслужыць спецыялістам штабной работы ў групе савецкіх войскаў у Германіі. Выпадкова ці не, але штабістам Віктар Пятровіч стаў з-за почырку – акуратна-каліграфічнага, прыгожага і выразнага, якім і сёння адметныя рукапісныя старонкі яго справаздач, афіцыйных дакументаў. Гэтым талентам ён абавязаны маці, што самастойна навучылася пісьму, і настаўніцы роднай мовы і літаратуры Ганне Канстанцінаўне Жэшко. З вялікай цеплынёй успаміналі яе ў лютым 2005 г. у сценах роднай школы аднагодкі-выпускнікі, якія сабраліся разам праз паўстагоддзя. Гэта яна, улюбёная ў беларускае слова, выдатны знаўца літаратуры і вуснай народнай творчасці, стала для юнака прыкладам і ўзорам шанавання роднага і блізкага, пачутага ад родзічаў і суседзяў, вычытанага ў кніжках і прамоўленага на ўроках слова… І таму асаблівых сумненняў наконт далейшай вучобы не было – толькі філфак БДУ.

Гады вучобы на аддзяленні беларускай і рускай мовы і літаратуры праляцелі хутка. І вось ужо аднакурснікі Вячаслаў Рагойша, Жанна Дапкюнас, Лявон Акаловіч, Мікола Пашкевіч (яму В. Быкаў прысвяціў свой «Абеліск»), Мікола Бандарэнка і іншыя раз’ехаліся па месцах працы. У канцы лета Віктар Красней і яго маладая жонка, аднакурсніца Святлана Аляксандраўна Навіцкая, прыехалі ў Равяціцкую СШ Бярозаўскага раёна. Пачаліся штодзённыя клопаты – сшыткі, сачыненні і дыктоўкі, краязнаўчыя паходы, літаратурны і драматычны гурткі. Нарадзіўся сын Сяргей. Восенню 1965 г. з філалагічнага факультэта нечакана прыйшла прапанова паступаць у аспірантуру. Доўгіх роздумаў не было. Прамільгнулі экзамены, і Новы 1966 г. маладая сям’я Краснеяў сустракала ў Мінску. Не было ваганняў і адносна навуковага кіраўніка кандыдацкай дысертацыі «Беларуская філалагічная тэрміналогія пачатку XX ст.»,



В. П. Красней. На пачатку працы ў БДУ

паспяхова абароненай у 1969 г. Гэта быў прафесар Леў Міхайлавіч Шакун. Афіцыйныя апаненты прафесар Аркадзь Жураўскі і тады яшчэ дацэнт Уладзімір Анічэнка ў сваіх водгуках адзначылі не толькі высокі навукова-тэарэтычны ўзровень і арыгінальны падыход да аналізу лінгвістычнага матэрыялу, але і рэкамендавалі працягваць вывучэнне тэрміналагічнай лексікі ў далейшым. Так яно і атрымалася, хоць з прыходам на кафедру беларускай мовы БДУ прыйшлося шмат увагі ўдзяліць падрыхтоўцы лекцый і практычных заняткаў, а пазней – падручнікаў і дапаможнікаў для філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў: «Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы» (1978, 1986, у сааўтарстве з Л. М. Шакуном), «Сучасная беларуская мова» (1984, 1995), «Сучасная беларуская мова: Практычныя заняткі» (1989). Хоць гэтыя працы і ствараліся аўтарскімі калектывамі, але рэцэнзенты ў адзін голас адзначалі выразнасць і прадуманасць у выкладзе матэрыялу, цікавейшую факталагічную базу практыкаванняў менавіта Віктара Краснея.

Выкладчыцкі вопыт на філфаку БДУ, праца над дапаможнікамі для вышэйшых навучальных устаноў сталі добрым падмуркам і пры стварэнні падручнікаў і вучэбна-метадычных распрацовак для агульнаадукацыйнай школы. А пачалося ўсё з выдавецтва «Народная асвета», якое ў пачатку 1980-х гадоў заснавала серыю кніг «Бібліятэка настаўніка беларускай мовы і літаратуры». Рэдактар Іван Курбека «падбіў» на гэтую справу Віктара Пятровіча. Першая кніга «Лексіка і фразеалогія беларускай мовы» (1982) была прынята настаўнікамі ледзь не на «ўра» – даступна, лёгка і папулярна, даходліва пададзены матэрыял стаў настольным у штодзённай працы беларусаведаў краіны. А неўзабаве выйшла і новае выданне, дапоўненае і значна пашыранае, пад назвай «Грані слова», якое вытрымала тры выданні (1986, 1992, 1996) і

нават атрымала ў 1986 г. бронзавы медаль на ВДНГ СССР. З гэтага часу і пачалося «двайное» жыццё мовазнаўцы: на карысць студэнта-філолага як будучага настаўніка роднай мовы і школьніка-пачаткоўца, якому так неабходна было паказаць хараство роднага слова, пераканаць у яго штодзённай неабходнасці. Тады ж і склаўся славуты тандэм – Віктар Красней і Яўген Лаўрэль (вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута адукацыі), плёнам працы якога жывіцца не адно пакаленне беларускіх школьнікаў і настаўнікаў. Падрыхтаваны наступныя падручнікі па беларускай мове для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы: а) з 10-гадовым тэрмінам навучання: 4 клас (1988); б) з 11-гадовым тэрмінам навучання: 3 клас (1997, 1998); 5 клас (1990, 1991, 1993–1995, 1998 – дыплом 2 ступені на конкурсе «Падручнік 2000 года»); 6 клас (1993, 1996, 1999); в) з 12-гадовым тэрмінам навучання: 2 клас (1999, 2000); 4 клас (2001, 2002); 5 клас (2002, 2003). Выйшлі і такія метадычныя дапаможнікі, як «Беларуская мова ў 5 класе» (1990, 2002); «Беларуская мова ў 6 класе» (1999, 2000), «Беларуская мова ў табліцах і схемах» (1997, 1998, 2000, 2002, 2004, 2008), «Экзамен па беларускай мове» (2000, 2001), «Здаём экзамен па беларускай мове» (2001, 2003), «Алімпіяды па беларускай мове» (2000, 2001), «Тэсты па беларускай мове»: 4 клас (2003), 5–6 класы (2003), «Дыдактычны матэрыял па беларускай мове» (2003), «Беларуская мова: Поўны школьны курс: Тэорыя» (2007, 2008), «Беларуская мова ў 3 класе» (2007), «Зборнік экзаменацыйных матэрыялаў па беларускай мове для агульнаадукацыйных устаноў (узровень агульнай сярэдняй адукацыі): тэксты для пераказаў» (2009) і інш.



Прафесар В. П. Красней і дацэнт Е. С. Мяцельская



На свяце філолагаў у Вязынцы.
*Злева направа*: П. І. Навойчык, І. А. Чарота, В. П. Красней, М. Р. Прыгодзіч

У гэтыя ж гады ён у сааўтарстве з калегамі па кафедры М. Прыгодзічам, Л. Сямешкай, супрацоўнікамі тагачаснага Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі прымае ўдзел у стварэнні калектыўнай манаграфіі «Беларуская мова: Najnowsze dzieje języków slowian'skich», што выйшла ў 1998 г. у Опалі (Польшча), у сааўтарстве з Б. Грынбергам і Н. Краеўскай выдае «Русско-белорусский словарь электротехнических терминов» (1993). Дзейсны ўдзел прыняў Віктар Пятровіч у распрацоўцы «Канцэпцыі моўнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», у стварэнні праграм па беларускай мове для сярэднеадукацыйнай і пачатковай школы з беларускай мовай навучання.

Беларускім навукоўцам прафесар Віктар Красней вядомы і як адзін з найбольш аўтарытэтных тэрмінолагаў, многія працы яго сталі ледзь не хрэстаматыйнымі і шырока цытуюцца ў даследаваннях рознага ўзроўню. У лексіка-семантычным, структурным і генетычным аспектах ён даследаваў мовазнаўчыя, літаратуразнаўчыя, матэматычныя, астранамічныя, прыродазнаўчыя тэрміны ў беларускіх дакастрычніцкіх выданнях пачатку ХХ ст., вызначыў прынцыпы стварэння і праблемы развіцця і ўпарадкавання нацыянальнай тэрміналогіі ў 20–90-я гады мінулага стагоддзя. Гэтай праблематыцы прысвечана некалькі дзесяткаў грунтоўных прац, сярод якіх такія асноватворныя артыкулы, як «Аб сінонімах, дублетах і варыянтах у тэрміналогіі» (1995), «Пошукі прынцыпаў і шляхоў распрацоўкі беларускай нацыянальнай тэрміналогіі на пачатку ХХ ст.» (1997), «Да пытання тэрміналагічнай нормы» (2002), «Некаторыя лінгвістычныя аспекты нармавання тэрміналогіі» (2004) і інш. Не выпадкова трое з чатырох падрыхтаваных ім кандыдатаў навук прысвяцілі свае дысер-

тацыйныя працы асобным тэрмінасістэмам – прыродазнаўчай і прамысловай (Т. Капяйко), батанічнай (А. Лапкоўская), філасофскай (Ю. Лук'янюк). Яны, як і дзесяткі яго дыпломнікаў, сотні выпускнікоў філалагічнага факультэта, удзячныя свайму настаўніку за такт і вытрымку, уменне знайсці спагадлівае слова, падтрымаць і аказаць шчырую дапамогу ў навуковым пошуку. Удзячныя Віктару Пятровічу і шматлікія пераможцы і прызёры рэспубліканскіх алімпіяд па беларускай мове, удзельнікам і старшынёй журы якіх ён з'яўляецца шмат гадоў.

Віктар Пятровіч – адзін з нямногіх навукоўцаў, хто тэксты сваіх прац піша амаль адразу і без асаблівых правак, але гэтаму папярэднічае карпатлівае прадумванне, вусная стылістычная апрацоўка, велізарная мыслярская работа. І таму лёгка заўважыць, што кожны радок, кожная думка, кожнае слова ўжыты абсалютна дакладна, як кажуць, да месца. Тэкстам вучонага ўласціва выразная эмацыянальная афарбоўка, у пэўнай ступені публіцыстычнасць, якія сведчаць пра ўменне аўтара гаварыць пра складанае даходліва і зразумела. Вось, напрыклад, як хораша ён звяртаецца да сённяшніх і будучых пакаленняў рупліўцаў на шчодрай і такой працаёмкай ніве беларусазнаўства. У яго словах, шчырых і даверлівых, пранікнёна-лірычных і натхнёна-патрыятычных, мудрых і сардэчных, усё яго жыццё – лёс адданага роднай зямлі вучонага і настаўніка:

*Больш за 40 гадоў я на службе роднаму слову. У рознагалосым, рознамоўным свеце родная мова перажывае не лепшыя часы, калі нават у сваёй дзяржаве ва ўстановах і арганізацыях, у школах і ВНУ, рэдакцыях газет і часопісаў, на радыё і тэлебачанні яна знаходзіцца на другіх ролях.*



Прафесар В. П. Красней з удзельнікамі спецсемінара па беларускай тэрміналогіі

*У лістападзе 1999 г. па прапанове Бангладэш Генеральная Асамблея ААН абвясціла 21 лютага Міжнародным днём роднай мовы, каб кожны народ задумаўся аб лёсе роднай мовы.*

*Мудрасці, дабрыні, прыстойнасці кожны чалавек вучыцца ў свайго народа, звяртаючыся да духоўнай спадчыны, найперш да мовы, якая ад пакалення да пакалення перадае народнае разуменне дабра і ліха, плён гістарычных падзей, плён глыбокіх сардэчных рухаў, сляды пражытага гора і пражытай радасці, усю гісторыю духоўнага жыцця народа.*

*Вялікія асветнікі ўсіх часоў і народаў вышэй за ўсё цанілі глыбінную мудрасць роднага слова, бо ў словах роднай мовы, як у жывых сведках мінулага і сучаснага, адлюстроўваецца ўся гісторыя народа: чым і як жылі нашы продкі, як жывуць сучаснікі, як шчыравалі і шчыруюць у працы, як змагаліся і змагаюцца, як весяліліся і весяляцца ў вольны час.*

*Мова народа – найвялікшы скарб, у якім б'ецца сэрца народа, жывуць яго вераванні і погляды, яго мары і спадзяванні, яго мудрасць і талент, яго псіхалогія і філасофія.*

*Кожны народ праз сваю родную мову стварае сваю «мадэль» свету. Таму мы, беларусы, каб не страціць генетычнай памяці і ўсвядоміць сваё этнічнае «я» ў агульнасусветнай супольнасці людзей, павінны шанаваць і гаварыць сваёй мовай, каб яна жыла і спявала ў вуснах цяперашняга і будучых пакаленняў. Яшчэ не ўсё страчана.*

У гэтых словах увесь ён – прадказальны ў паводзінах і ўчынках і адначасова няўрымслівы, па-юнацку захоплены, клапатлівы сем'янін, старэйшы калега і шчыры дарадца. Выдатнік адукацыі Віктар Пятровіч Красней узнагароджаны Ганаровай граматай Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь як шчыры працаўнік на ніве сучаснага беларусазнаўства. Ён з'яўляецца яскравым прыкладам самаадданага служэння яго вялікасці РОДНАМУ СЛОВУ.


*Мікалай Прыгодзіч,*
загадчык кафедры
гісторыі беларускай мовы БДУ,
доктар філалагічных навук, прафесар

# БЕЛАРУСКАЯ СПЕЦЫЯЛЬНАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ НА СТАРОНКАХ «НАШАЙ НІВЫ»*

Сістэма беларускай нацыянальнай тэрміналогіі склалася толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, аднак ужо ў пачатку XX ст. распачалася, па сутнасці, падрыхтоўчая работа ў напрамку фарміравання беларускай спецыяльнай лексікі. Вялікую ролю ў гэтым адыграла легальная беларуская газета «Наша ніва», якая выходзіла ва ўмовах нацыянальнай экспансіі царызму і забароны мець школу на роднай мове. У папулярнай форме, даступнай самым шырокім масам, без спецыяльнай дэталізацыі «Наша ніва» давала шматлікія парады на сельскагаспадарчыя тэмы, асвятляла некаторыя з'явы прыроды, прыводзіла звесткі з геаграфіі, астраноміі, медыцыны, закранала самыя разнастайныя бакі грамадска-палітычнага і культурнага жыцця. Раскрываючы сутнасць таго ці іншага пытання, газета ўводзіла ва ўжытак навуковыя паняцці і адпаведныя словы-тэрміны, якія разам з намінатыўнай выконвалі і дэфінітыўную функцыю. Разнастайная тэматыка публікуемых матэрыялаў вымагала адпаведных тэрміналагічных сродкаў: сельскагаспадарчых, мовазнаўчых, літаратуразнаўчых, прыродазнаўчых, матэматычных, геаграфічных, хімічных, астранамічных, фізічных, медыцынскіх, навукова-тэхнічных, батанічных і іншых слоў-тэрмінаў.

Аднак ніводная група тэрмінаў не ўтварала яшчэ сістэмы, нават самай элементарнай. Ствараліся адпаведныя лексемы для азначэння паняццяў той ці іншай галіны ведаў і ўводзіліся ва ўжытак. Адны з іх тлумачыліся: *брушны тыфус* (*гарачка*), *мэтэор* (*быццам агністы клубок*), *аўтамабіль* (*воз, на каторым едуць без коней, як на машыне*); іншыя не патрабавалі таго, бо праясняліся ў кантэксце або былі ўжо вядомы чытачу як словы бытавой лексікі, якія ў спецыяльнай сферы набывалі новае значэнне: *дарога* (астр.), *вугол* (матэмат.)[1].

---

* Першая публікацыя ў выданні: Матер. межвуз. респ. конф. аспирантов и молодых ученых, посвящ. 50-летию Великой Окт. соц. рев. – Минск, 1967. – С. 176–178.

[1] Тут і ў іншых выпадках захоўваецца правапіс прааналізаваных крыніц, але лацінка ўсюды замяняецца кірыліцай.

Розны і генезіс тэрміналагічных сродкаў. Некаторыя ўзнікалі на базе бытавой гаворкі (*гарачка*, *сухоты*, *квас*, *сьцежка*, *калыханьне зямлі*), а ў большасці выпадкаў запазычваліся з рускай або польскай мовы, а праз іх – з грэчаскай, лацінскай і іншых моў (*рэўматызм*, *сымфонія*, *халера*, *опера*, *літэра*). Гэта збліжала беларускую мову з іншымі мовамі, а ў лексічнай сістэме ствараўся пласт так званых «інтэрнацыяналізмаў».

Па свайму саставу гэта пераважна лексемы простыя, аднакарэнныя і двухкарэнныя (*зык*, *азот*, *зямлітрасеньне*, *электрычэство*). Аднак сустракаюцца і састаўныя, утвораныя з двух і больш кампанентаў, з якіх адны (*вугальная кіслата*, *сыпны тыфус*, *праваднік электрычэства*) характарызуюцца, другія не характарызуюцца цэльнасцю намінацыі і дэфініцыі, а таксама семантычнай непадзельнасцю (*тэорыя складаньня вершаў*, *ваколіца ракі*).

Што да якаснай характарыстыкі тэрмінаў, то трэба адзначыць, што многія з іх вызначаліся семантычнай дакладнасцю, лаканічнасцю, адсутнасцю адценняў эмацыянальнасці і экспрэсіўнасці. Але неабходна заўважыць, што на старонках газеты часта выкарыстоўваліся словы-дублеты, якія азначалі адно і тое ж навуковае паняцце, не ўносячы нічога новага ў раскрыццё яго зместу. Тлумачыцца гэта перш за ўсё тым, што часта ўжываліся словы, розныя па паходжанню, але аднолькавыя па значэнню (*літэра* і *буква*, *квас* і *кіслата, намоўка* і *пагаворка*), а іншы раз нават аднолькавыя па паходжанню (*дарога* і *сьцежка*, *купарвас* і *вітрыёль*). Выбар таго ці іншага тэрміна з такой дублетнай пары нярэдка вызначаўся густам аўтара.

Увогуле ж, спецыяльная лексіка, што сустракаецца на старонках «Нашай нівы», дае багаты матэрыял для вывучэння асаблівасцей фарміравання лексічных сродкаў сучаснай беларускай мовы.

## З ГІСТОРЫІ ФАРМІРАВАННЯ БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАТЫЧНАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ*

Імклівы рост абмену інфармацыі, пашырэнне міжнародных моўных зносін і практыка машыннага перакладу вельмі востра ставяць на парадак дня праблему стандартызацыі тэрміналогіі. Аднак вырашыць гэтую праблему толькі на ўзроўні сінхраніі немагчыма.

У сувязі з гэтым асаблівае значэнне набывае вывучэнне гісторыі фарміравання лексіка-семантычных сродкаў, у прыватнасці спецыяльнай тэрміналогіі той ці іншай галіны ведаў.

Беларуская граматычная тэрміналогія як важнейшы паказчык агульнага развіцця літаратурнай мовы выпрацавалася пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

* Першая публікацыя ў выданні: Беларуская лексікалогія і этымалогія. – Мінск, 1968. – С. 90–92.

Аднак яшчэ ў пачатку XX ст. на старонках некаторых беларускіх выданняў выкарыстоўваліся асобныя словы для абазначэння тых ці іншых граматычных паняццяў. Хоць у той час размова ішла пра самыя элементарныя лінгвістычныя паняцці, сярод адзначаных слоў вылучаліся і такія, якія можна лічыць граматычнымі тэрмінамі. Гэтыя словы-тэрміны, даволі разнастайныя па зместу, не ўтваралі яшчэ цэласнай сістэмы, хоць бы і самай элементарнай. Так, напрыклад, мы сустрэлі толькі два тэрміны ў значэнні назваў часцін мовы: *рэчэвік* (у значэнні «назоўнік») і *прыметнік.* Для абазначэння катэгорыі ліку выкарыстоўваўся тэрмін *многае чысло*, але ў разгледжаных крыніцах не сустрэліся адпаведныя лексемы са значэннем адзіночнага і парнага ліку. Адноснай паўнатой вызначаецца толькі састаў тэрмінаў для абазначэння асобных раздзелаў навукі аб мове (*фонэтыка, морфологія, сынтаксіс*) і тэрмінаў пунктуацыі (*кропка, двукропе, закавыка, кропка з закавыкай, клічнік, пытаннік, злуч, працяжка, чужэслоў, недасказ*).

Адной з самых характэрных асаблівасцей граматычных тэрмінаў пачатку XX ст. з'яўляецца тое, што яны ў частых выпадках маглі дубліраваць адзін другога. У выданнях гэтага часу сустракаюцца такія дублетныя тэрміны з адным і тым жа значэннем, напрыклад: *буква – літэра – знак – значок*; *ударэнне – нагалоскі* (*ударэньня*); *канчатак – канчар* (*окончаніе*); *мова – язык – гутарка*; *склад – слог*; *тэрмін – вучонае слова* і інш. Такія дублеты часам сустракаюцца нават у адных і тых жа выданнях, напрыклад: *літэра* і *знак* (Беларускі лемэнтар або першая навука чытання. Пб., 1906), *буква, літэра* і *значок* (Наша ніва, 1911–1912 гг.), *нагалоскі* (*ударэньня*) і *ударэньня* (Наша ніва, 1907–1913 гг.). Можна адзначыць яшчэ і такі факт: на першай старонцы газеты «Наша ніва» рэгулярна пісалася: «першая беларуская газета з рысункамі выходзіць што тыдзень рускімі і лацінскімі літэрамі», а ў матэрыялах, якія друкаваліся ніжэй, сустракаем, акрамя тэрміна *літэра*, словы-дублеты *буква* і *значок* (часцей *буква*).

Некаторыя тэрміны маюць марфалагічныя дублеты: *акцэнт* і *акцэнтацыя, славар* і *слоўнік, мінулы* і *мінуўшы час, канчатак* і *канчар*.

Монасемічныя тэрміны складалі пераважную большасць, аднак былі і такія лексемы, якім адпавядала некалькі семем. Так, напрыклад, тэрмін *скланенне* ўжываўся наогул у значэнні «склон» і «скланенне», а ў сучасным разуменні гэта лексема не ўжывалася. Адносна слоў *мова* і *гутарка* трэба адзначыць, што яны ўжываліся ў двух планах: у плане значэння ўзуальнага і значэння аказіянальнага. У тых выпадках, калі тэрмін не з'яўляўся адназначным, ён не адпавядаў патрабаванню семантычнай дакладнасці, быў сінтагматычна залежным, а значэнне яго можна было вызначыць толькі ў кантэксце.

Зразумела, што не ўсе тэрміны былі кароткімі, лаканічнымі і яснымі. Былі такія, як: *вучоныя словы, філёлёгічныя асобеннасці, граматычнасць* і інш.

Сустракаюцца і такія, якія наогул не ўласцівы беларускай мове. Гэта *многае чысло, рэчэвік, канчар, славар* і інш.

Таму заканамерна, што не ўсе тэрміны былі дэрывацыйна прадуктыўнымі. Гэта ў першую чаргу тыя, якія не былі лаканічнымі і якія не адпавядалі асаблівасцям беларускай мовы.

Некаторыя з тагачасных слоў-тэрмінаў былі семантычна неакрэсленымі, заключалі ў сабе лішнюю інфармацыю, напрыклад: *скланенне, філёлягічныя асобеннасці, частка мовы*.

Што да эмацыянальнасці і экспрэсіўнасці, то трэба адзначыць, што яны не ўласцівы ўсім без выключэння тэрмінам. Усе яны былі стылістычна нейтральнымі.

У далейшым большасць тэрмінаў захавала форму і значэнне да нашага часу (*склад, літара, аканне* і інш.), другія ўдакладнілі сваю форму ці змест (*многае чысло, працяжка, скланенне*), а трэція зусім зніклі з мовы (*граматычнасць*). Некаторыя лексемы былі наогул заменены новымі: *здарэнне* (*націск*)*, закавыка* (*коска*).

Увогуле ж, да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў беларускіх выданнях выкарыстоўвалася невялікая колькасць тэрмінаў (усяго каля 80), і пераемнасць у граматычнай тэрміналогіі адбывалася не столькі ў плане выкарыстання і ўдасканалення старых тэрмінаў, колькі ў плане стварэння новых.

## НЕКАТОРЫЯ АСАБЛІВАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ ПАЧАТКУ XX ст.*

Сучасная беларуская літаратурная мова мае даволі складаную і разгалінаваную сістэму звязаных паміж сабой агульнасцю асновы функцыянальных стыляў, якія ў сукупнасці забяспечваюць моўныя патрэбы беларускай сацыялістычнай нацыі, у тым ліку патрэбы спецыяльнай намінацыі і камунікацыі.

Каб нацыянальная мова магла паспяхова выконваць свае функцыі, яна павінна поруч з іншымі стылямі мець развіты навуковы стыль.

Сістэма структурна-функцыянальных стыляў беларускай літаратурнай мовы склалася толькі ў савецкі час, але ўжо ў дакастрычніцкі перыяд, хоць і ў неспрыяльных умовах, пачаў фарміравацца стыль беларускай крытыкі як стыль навуковы. На старонках легальных газет «Наша ніва» і «Гоман» у раздзелах «Пачтовая скрынка», «Агляд кніг» і іншых даюцца парады пачынаючым аўтарам, друкуюцца заўвагі-анатацыі на тую ці іншую кнігу. З'яўляюц-

* Першая публікацыя ў выданні: Праблемы беларускай філалогіі. – Мінск, 1968. – С. 62–65.

ца рэцэнзіі на зборнікі твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа, К. Буйлы, М. Гарэцкага і інш., артыкулы-агляды развіцця новай беларускай літаратуры і творчасці некаторых пісьменнікаў. У гэтых крытычных матэрыялах выкарыстоўваюцца асобныя словы-тэрміны, якія служаць для намінацыі і дэфініцыі спецыяльных літаратуразнаўчых паняццяў.

Імкненне гаварыць проста і ясна прыводзіла да таго, што ў якасці тэрмінаў ужываліся словы агульнанароднай мовы. У сферы спецыяльнай камунікацыі яны набывалі больш або менш строга акрэсленае тэрміналагічнае значэнне і паспяхова выконвалі свае функцыі, напрыклад: *завязь* – завязка, *развязка, канцоўка* – рыфма і інш.

Часам сустракаюцца моўныя адзінкі апісальнага характару, утвораныя шляхам спалучэння ўжо вядомых слоў: *наука писанне виршэй* – тэорыя вершаскладання, *творы на сцэну* – драматычныя творы і інш.

Не заўсёды была магчымасць стварыць адпаведны тэрмін на лексічным матэрыяле роднай мовы. У такіх выпадках аўтары запазычвалі неабходныя спецыяльныя сродкі. Запазычваліся перш за ўсё тэрміны з рускай і польскай мовы, узнікшыя часткова на матэрыяле грэчаскай, лацінскай, французскай і іншых моў: *аллегорыя, аўтобіографія, баллада, басня, гавенда, гі*(*ы*)*мн, монолёг, загавор, драма, інтэрлюдія, классыцызм, модэрнізм, сэнтымэнталізм, рондо, соннэт, сарказм, зраўненьне, поэмат, фарса* і многія іншыя. Большасць з іх была ўведзена ў навуковы ўжытак М. Багдановічам, Р. Зямкевічам і аўтарамі рэцэнзій на асобныя выданні твораў беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. Параўнальна невялікая група выкарыстана ў матэрыялах раздзелаў «Пачтовая скрынка», «Агляд кніг» і інш. Запазычанне з'явілася настолькі важным сродкам папаўнення спецыяльнай лексікі, што лексічныя адзінкі іншамоўнага паходжання складаюць амаль палавіну літаратуразнаўчых тэрмінаў, засведчаных на старонках дакастрычніцкіх беларускіх выданняў. Як правіла, яны замацаваліся ў мове і ўваходзяць у сістэму сучаснай літаратуразнаўчай тэрміналогіі.

Не кожны тэрмін быў зразумелы шырокаму чытачу, таму іншы раз у тэксце давалася яго непасрэднае тлумачэнне пры дапамозе глос. У функцыі апошніх выступалі словы, якія, на думку аўтара, вядомы чытачу. Гэтыя моўныя адзінкі прыводзіліся ў дужках, ужываліся ў якасці прыдатка або далучаліся пры дапамозе злучніка *ці: акт* (*зьява, дзея*), *псэўдонім* (*прозвішчэ*), *ідэя-думка, дыалёг-гутарка, апавяданьне ці расказ* і інш.

Дакладнасць для навукі – суровая неабходнасць, таму словы-тэрміны павінны правільна арыентаваць на адпаведнае паняцце. Большасць тэрміналагічных адзінак гэтым вызначалася.

Аднак у пэўных выпадках для намінацыі і дэфініцыі аднаго і таго ж паняцця ўжываліся словы-дублеты, эквівалентныя па сваёй семантыцы. Так, дубліраваліся такія тэрміны, як *прымаўка – прымавіска – памоўка – пагаворка – пагавор – прыслоўе, замова – загавар, верш у прозе – паэзія прозай, акт – з'ява – дзея – праява – сцэна – абразок* і інш.

Некаторым тэрмінам уласціва была марфалагічная дублетнасць, напрыклад: *апавя*(*е*)*даньне* – *апаведанько* – *апаведаніўка, жарт* – *жарцік, страфа* – *с*(*ш*)*трофка* і інш. Тлумачыцца гэта тым, што ў беларускай мове пачатку XX ст. яшчэ адсутнічалі сталыя нормы словаўтварэння і тэрмінаўтварэння.

Большасць тагачасных тэрмінаў характарызуецца монасемічнасцю, аднак былі і такія лексемы, якім адпавядала некалькі семем (напрыклад, *байка* – у значэнні «байка» і «казка»; *верш* – у значэнні «адзінка мернай рытмізаванай мовы» і «від лірычнага твора» і інш.).

Увогуле ў матэрыялах маладой беларускай крытыкі засведчана значная колькасць тэрмінаў, з дапамогай якіх можна было аналізаваць і паасобныя мастацкія творы, і творчасць таго ці іншага пісьменніка. Так, пры аналізе літаратурных твораў выкарыстоўваліся такія тэрміны, як *тэма, ідэя, вобраз, матыў, тэндэнцыя, герой, тып, завязь, развязка, будова, схема* (апошнія два ў значэнні «кампазіцыя»), *рытм, рыфма, цэзура* і інш., а для абазначэння літаратурных родаў і відаў – тэрміны *паэма, сатырычная паэма, верш, верш у прозе, раман, аповесць, апавя*(*е*)*даньне, нарыс, драма, трагедыя, інтэрмедыя, камедыя, сатыра, байка, жарт, ода* і інш.

Гэта дае падставу сцвярджаць, што літаратуразнаўчыя тэрміны, выкарыстаныя на старонках беларускіх выданняў пачатку XX ст., з'явіліся асновай для стварэння ў савецкі час дасканалай сістэмы літаратуразнаўчай тэрміналогіі.

## БЕЛАРУСКІЯ ЛІНГВІСТЫЧНЫЯ ТЭРМІНЫ ПАЧАТКУ XX ст.*

Акад. В. У. Вінаградаў на Ўсесаюзнай тэрміналагічнай нарадзе адзначыў: «Праблема распрацоўкі і ўпарадкавання тэрміналогіі розных галін навукі, тэхнікі, эканомікі і культуры народаў Савецкага Саюза з'яўляецца адной з актуальных тэарэтычных і практычных задач савецкага мовазнаўства»[1].

Імклівы рост абмену інфармацыяй, пашырэнне міжнародных моўных кантактаў і практыка машыннага перакладу вельмі востра ставяць на парадак дня праблему стандартызацыі тэрміналогіі. Вырашыць жа гэту задачу толькі на ўзроўні сінхраніі немагчыма, паколькі «мова, будучы гістарычнай з'явай, знаходзіцца ў стане пастаяннага і безупыннага развіцця. Таму і «дыханне» дыяхраніі не можа не адчувацца ў самой сінхраніі»[2]. Зразумела, што

* Першая публікацыя ў выданні: Лексікалогія і граматыка. – Мінск, 1969. – С. 17–25.

[1] Вопросы терминологии : сборник. – М., 1961. – С. 8.

[2] *Будагов Р. А.* Введение в науку о языке. – М., 1965. – С. 152.

ў кожны канкрэтны перыяд развіцця мовы сінхранію можна часова адмежаваць ад дыяхраніі, каб выявіць асаблівасці развіцця адпаведных моўных з'яў, бо інакш «аднаму стану мовы можна прыпісаць тое, што некалі было ўласціва яе другому стану»[1].

У сувязі з гэтым асаблівае значэнне набывае вывучэнне гісторыі фарміравання лексіка-семантычных сродкаў мовы, у прыватнасці, спецыяльнай тэрміналогіі той ці іншай галіны ведаў. Трэба падкрэсліць, што «гісторыя тэрміналогіі – гэта праблема не толькі нацыянальна-гістарычная, але і інтэрнацыянальная праблема гісторыі сусветнай навукі і праблема гісторыі чалавечых цывілізацый, гісторыя культурных узаемадзеянняў і груповак народаў»[2].

Беларуская нацыянальная тэрміналогія як найважнейшы паказчык агульнага развіцця літаратурнай мовы выпрацавалася пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, калі беларуская мова, як і мовы іншых народаў Савецкага Саюза, набыла шырокія дзяржаўныя функцыі. Зразумела, для таго каб беларуская літаратурная мова стала мовай дзяржаўнасці, навукі, культуры, магутным сродкам прагрэсу і выхавання народных мас, неабходна было поруч з іншымі лексічнымі сродкамі выпрацаваць нацыянальную тэрміналогію.

У савецкі час склалася і сістэма беларускай лінгвістычнай тэрміналогіі. Аднак яшчэ ў пачатку XX ст. на старонках некаторых беларускіх выданняў, дзе ў плане публіцыстычных выступленняў закраналіся пытанні мовы як «першаэлемента» нацыянальнай культуры, а таксама ў першых падручніках па роднай мове ўжо выкарыстоўваліся асобныя словы для азначэння тых ці іншых лінгвістычных паняццяў. І хоць размова вялася пра самыя элементарныя паняцці, ужываліся такія лексічныя адзінкі, якія можна лічыць лінгвістычнымі тэрмінамі.

У сучасным мовазнаўстве звычайна адзначаюць наступныя асаблівасці слоў-тэрмінаў. Яны павінны быць:

- дакладна суаднесенымі з тымі паняццямі, для выражэння якіх служаць;
- лексічна сістэмнымі;
- монасемічнымі, калі не абсалютна (у межах усяго слоўніка), то абавязкова адносна адназначнымі (сінхронна, у межах дадзенай тэрміналогіі і блізкіх да яе);
- сінтагматычна незалежнымі;
- па магчымасці кароткімі, лаканічнымі, створанымі ў адпаведнасці з нормамі мовы;
- дэрывацыйна прадуктыўнымі.

Тэрміны не павінны:

- несці ў сабе лішняй інфармацыі;
- мець сінонімаў, марфалагічных дублетаў, амонімаў.

---

[1] *Будагов Р. А.* Введение в науку о языке. – М., 1965. – С. 152.

[2] Вопросы терминологии : сборник. – М., 1961. – С. 7.

Акрамя ўсяго, эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць і мадальнасць у словах гэтага спектра лексікі павінны быць зведзены да нуля.

Увогуле ж, пад тэрмінам мы будзем разумець сінтагматычна незалежнае слова ці спалучэнне слоў з пэўным лексічным значэннем спецыяльнага характару і ўласцівым ім адзінствам намінацыі і дэфініцыі, якое рэалізуецца ў той ці іншай тэрміналагічнай сістэме.

Улічваючы вышэйпаказаныя патрабаванні, спынімся на некаторых словах, якія ў беларускіх выданнях пачатку ХХ ст. выкарыстоўваліся для абазначэння асобных лінгвістычных паняццяў, і выявім лёс гэтых моўных адзінак у сістэме той тэрміналогіі, што склалася ў пазнейшы час.

Сярод іх сустракаюцца:

1. назвы навукі аб мове і тых ці іншых раздзелаў мовазнаўства: *навука філологічная* (*навука аб мовах*), *граматыка, фонэтыка, морфологія, этымолёгія* (у тым жа значэнні, што і *морфологія*), *сінтаксіс, складня, склад мовы* (апошнія два ў значэнні «сінтаксіс»), *ортографія, правопіс*(*ь*)*мо, пісаньне* (правапіс);

2. назвы гукаў: *гук, зык, гаманок, галасок, голос, згук* (усе ў значэнні «гук»), *галосныя* (у тым жа значэнні побач – *самагалосныя*), *гучны* (галосны), *сагалосныя* (зычныя), *мяккі гаманок* (мяккі гук), *гаманок цьвёрды* (цвёрды гук), *чужые зыкі* (запазычаныя гукі);

3. назвы літар: *літэра, буква, знак, значок* (апошнія тры ў значэнні «літара»), *сагалосная литэра* (зычная літара), *кароткае ў, знак мягкасьци* (раздзяляльны мяккі знак), *літара ї, літара ӓ, чужые знаки* (запазычаныя літары);

4. назвы розных з'яў фанетыкі: *аканьне, дзэканьне, склад, слог* (склад), *склад мяккі, націск, ударэнне, нагалосак, акцэнт* (апошнія тры ў тым жа значэнні, што і *націск*);

5. назвы часцін мовы: *рэчэвік* (у значэнні «назоўнік»), *прыметнік, глагол*;

6. назвы марфем слова: *корань, карэнь, канчар.* Была выкарыстана і лексема *прыстаўка,* аднак яна захоўвала ў сабе толькі ідэю «прыстаўкі», а ўжывалася ў значэнні «прыназоўнік»: «Другое скланеньне (каго? чаго?) рэчэвікоў творыцца праз *прыстаўку «оф».* Напр. бацька – ды фадэр, бацькі – оф ды фадэр, бацькоў – оф ды фадэрс...» (Я. Околовіч. Рады для эмігрантоў... Вільня, 1912, с. 62);

7. назвы розных граматычных катэгорый і форм: *род, чысло* (лік), *многае чысло* (множны лік), *скланеньне* (у значэнні «склон» і «спражэнне»), *другое скланеньне* (у значэнні «родны склон»), *трэцяе скланеньне* (у значэнні «давальны склон»), *цяперашні час, час мінуўшы споўнены* (у значэнні «прошлы час», што абазначае дзеянне, якое адбылося да моманту гутаркі), *час мінулы ня споўнены* (у значэнні «прошлы час», што абазначае дзеянне, якое не закончылася да моманту гутаркі), *час будучы, форма варунковая* (умоўны лад), *форма тэрміновая* (дзеепрыметнік);

8. назвы паняццяў лексікалогіі і лексікаграфіі: *слова, сымвол* (слова), *значэньне, пачатковае значэньне, змест, тэрмін, вучонае слова* (у значэнні «навуковы тэрмін»), *барбарызм, чужыннае слова, чужое слова* (апошнія два ў значэнні «запазычанае слова»), *провінціоналізм, русіцызм, полонізм, слоўнік, славар, слоўнічак* (тры апошнія ў значэнні «лексікон»), *слоўнік месны* (г. зн. дыялектны), *сынонім;*

9. назвы знакаў пунктуацыі: *знаки застановачныя* (знакі прыпынку), *кропка, точка* (кропка), *закавыка* (коска), *кропка з закавыкай* (г. зн. кропка з коскай), *кличник, пытанник, злуч* (злучок), *працяжка* (працяжнік), *чужэслоў* (двукоссе), *недасказ* (шматкроп'е);

10. іншыя лінгвістычныя намінацыі: *выгавар, выгавор, вымова, акцэнт, акцэнтація* (усе ў значэнні «вымаўленне»), *глаголіца, гражданка, лацініка, мова, язык, гаворка* (апошнія два ў значэнні «мова»), *гутарка* (у значэнні «мова» і «дыялект»), *гутарка-дыалект, зварот, зварот мовы, зварот рэчы, зварот выгавору* (апошнія чатыры ў значэнні «словазлучэнне»), *мова літэратурная, фраза, сказ, конструкція мовы, эспэранто, скорапісь, філёлёгічные асобеннасьці.*

Спынімся некалькі на тым, як вышэйназваныя лексічныя адзінкі выконвалі свае функцыі ў сферы спецыяльнай камунікацыі, наколькі дакладнай была іх семантыка.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што многія словы вызначаліся семантычнай дакладнасцю, не выклікалі ніякіх дадатковых асацыяцый, напрыклад: *фонэтыка, сінтаксіс, літэра, аканьне, дзэканьне, націск, склад, рэчэвік, прыметнік, корань, сынонім, тэрмін* і інш. Яны характарызаваліся монасемічнасцю, структурнай дасканаласцю, сінтагматычнай незалежнасцю, карацей кажучы, былі «ідэальнымі» тэрмінамі.

Але калі большасць тэрмінаў вызначалася монасемічнасцю, то адзінства ў выбары сродкаў металінгвістычнага выражэння аднаго і таго ж паняцця не было, а таму многія тэрміны ў шматлікіх выпадках маглі дубліраваць адзін другога. Варыянтнасць – адна з самых характэрных асаблівасцей тагачасных моўных адзінак. Возьмем для ілюстрацыі тэрміны-назвы гукаў. Са значэннем «гук» выданні пачатку XX ст. засведчылі такія лексемы:

• *гаманок:* «Досьць былоб выўчыцца літары, а тады – пішы толькі тыя літары, якія азначаюць чутыя *гаманкі»* (Акцюб. Думкі да граматыкі. «Сьветач», 1916, № 1, с. 6);

• *зык, галасок:* «...усякае слова складаецца с частак, каторые называюцца складами, а склад з *зыкоў,* то-е *галаскоў»* («Беларуски лемэнтар або Першая навука чытання», Пб., 1906, с. 25);

• *голас:* «Калі мы кажэм «а–а», то гэты *голас* на паперы азначаем знакам «А» («Першая чытанка», Вільня, 1917, с. 4);

• *згук:* «Замест «и» (васьмірычнаго) мы прынялі «і» (дзесяцірычнае), бо ў нашай мове німа *згука* «и» (васьмірычнаго), а ёсць толькі «і» (дзесяцерычнае) («Наша ніва», 1913, № 21).

Як бачым, для азначэння аднаго навуковага паняцця выкарыстана пяць слоў, прычым у некаторых выпадках тэрміны-дублеты сустракаюцца ў адных і тых жа выданнях (гл. *зык, галасок).* Дубліраваліся і такія тэрміны, як *націск – ударэнне – нагалосак – акцэнт, літэра – буква – знак – значок, значэньне слова – змест, слоўнік – славар – слоўнічак, мова – язык – гутарка – гаворка, сінтаксіс – складня – склад мовы, морфологія – этымолёгія* і інш. Каб паказаць, наколькі гэта было характэрна для тагачаснай моўнай практыкі, прывядзём і такі факт. На першай старонцы газеты «Наша ніва» рэгулярна пісалася: «Першая беларуская газэта з рысункамі выходзіць, што тыдзень рускімі і лацінскімі літэрамі», а ў матэрыялах, якія друкаваліся ніжэй, акрамя тэрміна *літэра,* сустракаем словы-дублеты *буква, знак, значок.*

Чым тлумачыцца такая багатая варыянтнасць? Перш за ўсё – сутыкненнем розных моўных стыхій, калі для намінацыі і дэфініцыі аднаго і таго ж паняцця ўжываліся лексемы, раўназначныя па сваёй семантыцы, але розныя па паходжанню. Так, у значэнні сучаснага тэрміна *сінтаксіс* быў выкарыстаны інтэрнацыяналізм *сінтаксіс,* паланізм *складня* і лексікалізаванае спалучэнне *склад мовы,* утворанае на базе лексічнага матэрыялу роднай мовы.

Але не толькі ў гэтым прычына, бо сустракаюцца таксама эквіваленты, аднолькавыя як па семантыцы, так і паходжанню, напрыклад: *морфологія – этымолёгія, націск – нагалосак, гутарка – гаворка.* Справа, відаць, у тым, што калі ў размове пра пэўную моўную з'яву вынікала патрэба карыстацца словам са спецыяльным значэннем, то выбар ці стварэнне адпаведнай лексемы залежалі і ад розных суб'ектыўных фактараў. Таму атрымалася так, што многім семемам адпавядала не адна, а некалькі лексем. Калі для агульнаўжывальнай лексікі гэта звычайная з'ява, то для тэрміналогіі – істотны недахоп.

Справа ўскладнялася яшчэ і тым, што ў некаторых выпадках варыянтнасць вяла да страты тым ці іншым тэрмінам монасемічнасці. Так, напрыклад, слова *гутарка* стала полісемічным, таму што ўжывалася ў значэнні сучасных тэрмінаў *мова:* «А як мы сталі чуць яе і ад вучоных людзей, дык у нас болей і болей расьце вера ў тое, што, мусіць, і наша *гутарка* мае гэткіе самые правы на жыцьцё, як расейская, або нямецкая ці французская» («Наша ніва», 1911, № 44), *дыялект:* «Беларускі народ гаварыў і гаворыць рознымі *гутаркамі,* каторые мейсцамі блізкі да польскай мовы, мейсцамі – да украінскай, мейсцамі – да расейскай»... («Наша ніва», 1912, № 14), *гаворка:* «У гаду 1866 напісана камэдыя ў пінскай *гутарцы* «Пінская шляхта»... (Вінцук Дунін-Марцінкевіч. Шчэроўскіе дажынкі, Пб., 1910, с. 5). У такіх выпадках пра семантыку тэрміна трэба гаварыць у двух планах: у плане значэння ўзуальнага і аказіянальнага. Дарэчы, значэнне дысемічнага тэрміна *скланеньне* поўнасцю абумоўлена кантэкстам, таму што ён быў ужыты ў функцыі сучасных тэрміналагічных адзінак *склон* і *спражэнне:* «Трэцяе *скланеньне* (каму? чаму?) творыць зазвычай дадатак «ту». Напр. бацьку...– ту ды фадэр, бацьком – ту ды фадэрс»... (Я. Околовіч. Рады для эмігрантоў... Вільня, 1912, с. 62); *«Скланенне* слоў «быць» і «мець» (там жа, с. 59).

Таму заканамерна, што ў тых выпадках, калі тэрмін не з'яўляўся адназначным, ён не адпавядаў патрабаванню семантычнай дакладнасці, быў сінтагматычна залежным, а семантыку яго можна было выявіць толькі ў кантэксце.

Але не толькі мнагазначныя тэрміны вызначаліся недакладнасцю. Не мелі непасрэднай суаднесенасці з паняццем і некаторыя монасемічныя лексічныя адзінкі. Тлумачыцца гэта тым, што адны з іх былі створаны на аснове памылкова арыентуючых прыкмет (*мяккі склад, літэра сагалосная, слова вучонае*), другія – па аснове істотных прызнакаў, але недастатковых для ўтварэння тэрмінаў (*літэра загалоўная, гучны, чужэслоў*).

Некаторыя тэрміны маглі несці ў сабе лішнюю інфармацыю, напрыклад, *філёлёгічные асобеннасьці:* «Гэтак нямецкі філёлёг... апіраючыся на *філёлёгічные асобеннасьці* беларускай мовы... дайшоў да вываду, што «беларусы не становяць ні маскоўскаго, ні украінскаго народу, а твораць саўсім асобны славянскі народ» («Беларускі календар на 1917 год», Вільня, 1916, с. 27), *навука філологічная:* «...Цяпер украінскі вучоны Щурат апіраючыся на *філологічную навуку* (*навуку аб мовах*), на гісторыю, а таксама на падабенства музыкальнаго мотыву (голасу песьні) – «Богородзічы» да мотыву грэцко-цэркоўных сціхоў, – давядзе, што Грунвалдская песьня злажылася на нашай старой Беларусі, і мова яе блізка да даўнейшай беларускай» («Наша ніва», 1909, № 18).

Па структуры тагачасныя тэрміны можна падзяліць на тры групы:

1) простыя: *склад, мова, слоўнік, зык, скланеньне, тэрмін* і інш.;

2) складаныя: *чужэслоў, самагалосныя, двукропе* і інш.;

3) састаўныя: *зварот мовы, слова вучонае, знаки застановачныя, слоўнік месны, літэра загалоўная* і інш.

Сярод тэрмінаў першай групы выдзяляюцца аднамарфемныя (*зык, гук, знак*) і полімарфемныя, якія выступаюць у розным марфалагічным афармленні: суфіксальным (*слоўнік, аканьне*), прэфіксальным (*націск, злуч*), прэфіксальна-суфіксальным (*працяжка, нагалосак*). Увогуле ж марфалагічным спосабам утворана параўнальна невялікая колькасць тэрмінаў. Малая прадуктыўнасць названага спосабу тэрмінаўтварэння тлумачыцца перш за ўсё тым, што не было яшчэ адпаведнага лексічнага матэрыялу, на базе якога магло б адбывацца ўтварэнне новых лексем шляхам дэрывацыі.

У другую групу ўваходзіць таксама нязначная колькасць лексем, паколькі асноваскладанне, як адзін са спосабаў тэрмінаўтварэння, не было характэрным для тагачаснай беларускай лінгвістычнай тэрміналогіі.

Самая шматлікая група – трэцяя. Амаль палавіна тэрмінаў утворана па сінтаксічнаму (лексіка-сінтаксічнаму) спосабу, сутнасць якога заключаецца ў наступным: ствараюцца лексікалізаваныя спалучэнні слоў, што «імкнуцца стаць адным словам, адной лексемай, хоць і не згубіўшы яшчэ формы словазлучэння»[1]. Гэта, па сутнасці, субстантыўныя спалучэнні, якія, як і прос-

[1] *Реформатский А. А.* Введение в языковедение. – М., 1967. С. 121.

тыя словы-тэрміны, у большай ці меншай ступені характарызуюцца адзінствам намінатыўнай і дэфінітыўнай функцый. Як правіла, яны складаюцца з двух слоў-кампанентаў. У якасці тэрмінаэлементаў звычайна выступаюць назоўнік і прыметнік. Галоўнымі тыпамі двухсастаўных тэрмінаў з’яўляюцца лексікалізаваныя спалучэнні «прыметнік + назоўнік» і «назоўнік + назоўнік»: *сагалосная литэра, галосны знак, вялики знак, цяперашні час, месны слоўнік, чужое слова, вучонае слова, склад мовы, знак мягкасьци, зварот мовы* і інш. Характэрна, што ў якасці тэрмінаэлементаў у спалучэннях тыпу «прыметнік + назоўнік» выступалі, як правіла, агульнаўжывальныя прыметнікі са значэннем бытавога характару, а назоўнікі звычайна мелі ўжо спецыяльную семантыку. Назоўнікі ў такім разе выражалі асноўнае паняцце, а прыметнікі падкрэслівалі прыкмету ці функцыю гэтага паняцця або родаваму паняццю надавалі відавое, прыватнае азначэнне. У спалучэннях тыпу «назоўнік + назоўнік» у ролі галоўнага тэрмінаэлемента выступалі назоўнікі спецыяльнага характару, а ў ролі паясняльнага, удакладняючага – назоўнікі агульнаўжывальныя або таксама назоўнікі са спецыяльным значэннем. Акрамя вышэйадзначаных, утвараліся і лексікалізаваныя спалучэнні тыпу «назоўнік + прыметнік (дзеепрыметнік)»: *літэра загалоўная, форма варунковая, час будучы;* «назоўнік + дзеяслоў»: *мода пісаць;* «лічэбнік + назоўнік»: *другое скланеньне.* Аднак апошнія не былі тыповымі для беларускай лінгвістычнай тэрміналогіі.

Частка тэрмінаў утварылася семантычным спосабам, сутнасць якога ў тым, што семантыка слова, шырокая ў сферы агульнага выкарыстання, заключаецца ў пэўныя, строга акрэсленыя рамкі спецыяльнага словаўжывання, і лексема набывае тэрміналагічнае значэнне. Менавіта так з’явіліся тэрміны *зык:* «Выгавар жэ гэты аднак саўсім акуратна ня мог быць перэдадзены, бо англіцкая мова мае шмат такіх *зыкоў,* каторых заўсім мы не знаем» (Я. Околовіч. Рады для эмігрантоў.., Вільна, 1912, с. 26), *склад:* «...усякае слова складаецца з частак, каторые называюцца *складамі»* («Беларуски лемэнтар або Першая навука чытання», Пб., 1906, с. 26) і інш.

Характэрна, што ў другой палавіне XIX ст. у значэнні тэрміна *склад* было ўжыта лексікалізаванае спалучэнне *складаные літэры: «Складаные літэры.* Ба за бэ бі бо бу ца... Вля...» (Элемэнтар для добрых дзеток каталікоў (друкаваны лацінкай), Варшава, 1862, с. 5–9), а словы, якія мелі больш аднаго складу, называліся складанымі: *«Складаные словы.* Баць-ка, мат-ка, сы-нок... Ня роб дру-го-му што ты ня хо-чэш каб та-бе ро-бі-лі...» (Там жа, с. 10–11).

Наогул жа гэты спосаб на першапачатковым этапе стварэння тэрміналагічных сродкаў быў даволі прадуктыўным, таму што, гаворачы словамі даследчыка, «агульнае развіццё і стан навуковага пазнання былі такімі, што галоўным фактарам, вызначаючым тэрмінаўтварэнне, была не адпаведнасць паняцця і слова, а некаторыя аналогіі»[1]. Пры гэтым першапачатковае значэнне, на базе якога складалася спецыяльнае, у большасці выпадкаў захоў-

[1] *Даниленко В. П.* Как создаются термины? // Русская речь. – 1967. – № 2. – С. 59.

валася і, такім чынам, семантычная структура лексемы ўзбагачалася (*голас, корань*). Праўда, некаторыя спецыяльныя значэнні, што развіліся ў словах са сферы агульнага ўжывання, не замацаваліся ў працэсе развіцця мовы і выйшлі з навуковага ўжытку (*закавыка, клинок, зык*).

Важным спосабам папаўнення сродкаў спецыяльнай камунікацыі з'явілася запазычанне. Лексічныя запазычанні падзяляюцца на прамыя, што ўвайшлі ў беларускую мову непасрэдна з іншых моў, і ўскосныя, засваенне якіх адбывалася праз пасрэдніцтва трэцяй мовы. Непасрэдна з рускай і польскай мовы, а таксама праз пасрэдніцтва апошніх беларуская мова пачатку XX ст. запазычыла такія тэрміны, як *точка, славар, буква, скланеньне, складня, сынтактычны, акцэнт, граматыка, фонэтыка, морфологія, сінтаксіс, ортографія* і інш. Запазычваліся, як правіла, лексемы, якія ўжо мелі багатую традыцыю металінгвістычнага словаўжывання ў іншых мовах, у выніку чаго беларуская мова збліжалася з гэтымі мовамі, а ў лексічнай сістэме яе складваўся пласт так званых інтэрнацыяналізмаў.

Акрамя вышэйадзначанага тыпу запазычання, пры якім запазычваюцца гукавыя асаблівасці слова і яго намінацыя, адбывалася запазычанне іншага парадку– марфалагічнае калькаванне. Так утварыліся тэрміны *чужэслоў* (параўн. польск. *cudzysłow*), *зварот мовы* (руск. *оборот речи*) і інш.

Працэс асваення запазычанняў лексіка-семантычнай сістэмай беларускай мовы працякаў па-рознаму. Большасць слоў была лексічна асвоена (мы разумеем пад лексічным асваеннем слова яго сэнсавае асваенне), але многія лексемы яшчэ былі ў стане фанетычнага і графічнага асваення, напрыклад: *барбарызмы, сынонімы, провінціоналізм, сынтактычны* і інш.

Гэты працэс завяршыўся ў савецкі час, калі канчаткова былі выпрацаваны нормы беларускай літаратурнай мовы.

Розныя па сваёй структуры, паходжанню, семантычнай дакладнасці і якаснай характарыстыцы, лінгвістычныя тэрміны, што выкарыстоўваліся ў беларускіх выданнях пачатку XX ст., у далейшым развіваліся неаднолькава. Адны з іх да нашага часу захавалі словаформу і семантыку (*склад, націск, аканьне* і інш.). Другія паступова ўдакладнілі сваю форму ці значэнне (*скланеньне, многае чысло, працяжка* і да т. п.). Частка іх зусім знікла з мовы: гэта, па-першае, тыя, якія ўжываліся ў пачатку стагоддзя як дублеты (*буква, знак, значок* – побач з *літэра*), па-другое, тыя, што азначалі пэўнае лінгвістычнае паняцце, але былі недасканалымі з боку сваёй структуры (*аджыўшае слова* і інш.) ці з'яўляліся лексічна несістэмнымі (*рэчэвік, форма варункавая*).

Як сведчыць разгледжаны матэрыял, беларуская мова, якая даволі рана была зафіксавана ў друкаваных выданнях (XVI ст.), да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі не мела цэласнай сістэмы лінгвістычных тэрмінаў, хоць бы і самай элементарнай. У беларускіх выданнях пачатку XX ст. была выкарыстана параўнальна невялікая колькасць тэрмінаў, і далейшае развіццё беларускай лінгвістычнай тэрміналогіі адбывалася не столькі ў плане асваення і ўдасканалення наяўных лексем, колькі ў плане стварэння новых.

# АБ НЕКАТОРЫХ АСАБЛІВАСЦЯХ МОВЫ БЕЛАРУСКАЙ ДАКАСТРЫЧНІЦКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ КРЫТЫКІ*

Сучасная беларуская літаратурная мова ў выніку плённага развіцця за гады савецкай улады дасягнула такой ступені дасканаласці, што стала мовай навукі і культуры, дзейсным сродкам сацыяльнага прагрэсу і выхавання шырокіх народных мас. Яна, як і ўсякая іншая развітая мова, мае даволі складаную і разгалінаваную сістэму звязаных паміж сабой агульнасцю асновы функцыянальна-стылістычных разнавіднасцей, якія ў сукупнасці задавальняюць усе моўныя запатрабаванні беларускай сацыялістычнай нацыі, у тым ліку і ў сферы спецыяльнай намінацыі і камунікацыі.

Каб нацыянальная мова магла належным чынам выконваць свае функцыі, яна павінна поруч з іншымі структурна-функцыянальнымі стылямі мець развіты навуковы стыль. Навуковы стыль у кожнай канкрэтнай мове фарміруецца пад уздзеяннем своеасаблівых унутрымоўных і экстралінгвістычных фактараў, якія ўплываюць на інтэнсіўнасць гэтага працэсу і характар узаемасувязей паміж асобнымі стылямі ў сістэме мовы на розных этапах яе развіцця.

Звычайна ў мовах, развіццё і функцыяніраванне якіх як сродку зносін нічым не стрымлівалася, навуковы стыль складваўся паралельна з мастацка-белетрыстычным, грамадска-публіцыстычным, канцылярска-адміністрацыйным і размоўна-бытавым, хоць роля кожнага з іх у станаўленні цэласнай сістэмы стыляў была неаднолькавай[1]. Найбольшы ўплыў на фарміраванне і ўдасканаленне сістэмы стыляў сучасных літаратурных моў аказаў мастацка-белетрыстычны стыль, які вызначаецца багаццем моўна-выяўленчых сродкаў. Гэта асабліва адносіцца да тых нацыянальных моў, якія ў мінулым не мелі спрыяльных магчымасцей для ўсебаковага развіцця.

У выніку пэўных гістарычных умоў беларуская пісьмовая мова ў XVIII ст. прыйшла ў заняпад, тады як у іншых мовах, што развіваліся свабодна, паступова акрэсліўся і пачаў асабліва інтэнсіўна фарміравацца навуковы стыль. У той час, калі забаранялася мець нават пачатковую школу на беларускай мове, нельга было і думаць пра развіццё навуковага стылю.

У выніку рэвалюцыйных падзей 1905 г. ўрадам быў абвешчаны так званы «закон аб свабодзе друку». Аднак беларуская мова да самай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі не мела магчымасцей для пашырэння ў сферы грамадскага і культурнага жыцця, акрамя мастацкай літара-

---

* Першая публікацыя ў выданні: Веснік БДУ. Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. – 1969. – № 1. – С. 57–61.

[1] *Жовтобрюх М. А.* Науковий стиль української мови // Мовознавство. – 1968. – № 1. – С. 3–4.

туры. Новая беларуская літаратура адрадзілася наперакор палітыцы пануючых класаў і ў пачатку ХХ ст. вылілася ў магутную плынь маладой беларускай пісьменнасці на чале з Янкам Купалам і Якубам Коласам. Іх вуснамі загаварыла сама Беларусь, якая ішла змагацца за права «людзьмі звацца» і ў святой барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне бачыла сваю светлую і шчаслівую будучыню.

Маладая беларуская літаратура не магла не выклікаць да сябе ўвагі. За яе бурным развіццём уважліва сачылі рускія, польскія і ўкраінскія пісьменнікі і даследчыкі А. Пагодзін, М. Янчук, С. Русава, Э. Ажэшка, М. Канапніцкая, Я. Карловіч, Е. Янкоўскі, В. Р. Вегняровіч, Рубер, Н. Роўба, І. Свянціцкі, В. Шчурат, Д. Дарашэнка і інш. Яны адзначалі самабытнасць вуснапаэтычнай творчасці беларускага народа, раскрывалі некаторыя характэрныя рысы нацыянальнай беларускай літаратуры, аналізавалі творчасць такіх беларускіх пісьменнікаў, як В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч, Янка Лучына, Янка Купала і Якуб Колас, выказвалі ўпэўненасць, што беларуская літаратура зойме пачэснае месца сярод іншых братніх літаратур.

Нягледзячы на тое, што ў артыкулах і асобных выказваннях пра беларускую літаратуру ХІХ – пачатку ХХ стст. нярэдка можна сустрэць трапныя назіранні і слушныя вывады, усё ж гэтыя матэрыялы не вызначаліся глыбінёй крытычнага аналізу і заставаліся маладаступнымі для беларускай грамадскасці. Выспявала неабходнасць мець беларускую нацыянальную крытыку, якая на роднай мове народа змагла б сказаць кваліфікаванае слова пра творчасць таго ці іншага паэта і дапамагла б чытачу належным чынам яе ўспрыняць.

Беларуская літаратура ХІХ ст. была, па сутнасці, літаратурай адзінак, сярод якіх вылучаліся яркія творчыя індывідуальнасці. Яны клапаціліся аб лёсе маладой пісьменнасці, сачылі за яе развіццём, ацэньвалі творчасць сваіх сучаснікаў ці папярэднікаў і выказвалі асобныя крытычныя заўвагі. Так, некаторыя пытанні развіцця нацыянальнай літаратуры і літаратурнай мовы закрануў А. Абуховіч у вядомым «Літаратурным апраўданні». Ф. Багушэвіч у прадмове да зборніка вершаў «Смык беларускі» выказаў свае крытычныя адносіны да твораў Ф. Тапчэўскага і В. Дуніна-Марцінкевіча. Гэта былі, па сутнасці, першыя крытычныя выступленні на беларускай мове.

У пачатку ХХ ст. літаратура становіцца масавай. У сувязі з гэтым на старонках легальных беларускіх газет «Наша ніва» і «Гоман» у раздзелах «Пачтовая скрынка», «Агляд кніг» і іншых пачалі давацца пэўныя парады маладым літаратарам, заўвагі-анатацыі на тую ці іншую кнігу. З'яўляюцца рэцэнзіі на зборнікі твораў Янкі Купалы, Якуба Коласа і К. Буйлы, М. Гарэцкага і інш. Друкуюцца крытычныя агляды развіцця беларускай літаратуры за пэўны перыяд і творчасці некаторых пісьменнікаў: «Беларуская літаратура ў 1909 году» С. Ясеновіча («Наша ніва», 1910, № 7), «Вінцук Дунін-Марцінкевіч і яго жыццё» В. Тройцы («Наша ніва», 1911, № 51–52), «Ян Баршчэўскі, першы беларускі пісьменнік XIX сталецця» Р. Зямкевіча (у кн.: В. Дунін-Марцінке-

віч. Шчароўскія дажынкі. Купала. Пб., 1910), «Развагі і думкі» М. Гарэцкага (у кн.: «Вялікодная пісанка», Вільня, 1914) і інш. Нарэшце, М. Багдановіч узняў беларускую літаратурную крытыку да ўзроўню прафесійнай і яна змагла асвятляць самыя складаныя з'явы літаратурнага працэсу.

Разам з пашырэннем крытычнай літаратуры складваўся стыль навуковага выказвання на беларускай мове.

Першапачатковы этап фарміравання стылю маладой беларускай крытыкі ў значнай ступені вызначаецца тым, што замест непасрэднага азначэння і характарыстыкі тых ці іншых літаратурных з'яў давалася ў папулярнай форме іх яснае і разам з тым дакладнае апісанне. Вось што, напрыклад, чытаем мы на старонках «Нашай нівы» пра зборнік вершаў Цішкі Гартнага «Песні»:

«*Каб судзіць аб багацьці гаспадара, трэба паглядзець восеньню у яго гумно, каб судзіць аб здольнасьці песьняра, – трэба прачытаць яго творы сабраные ў атдзельную кніжэчку. Вота ж і зборнічэк Цішкі з кароткім загалоўкам «Pieśni», добра нам асьветляе душу і талент аўтара. Цішка не "майструе вершаў", а пяе, пяе ўсей сваей набалелай душой, усім сваім сэрцам гарачым, кіпучым. Найдзіця тут і галубіные песьні каханьня, і сумные жальбы, і сьмелые жаданьня, і ва ўсім чуваць песьняра праўдзіваго, вынасіўшаго кожнае слова ў сваіх набалелых грудзях*» («Наша ніва», 1913, № 50).

Відавочна, што аўтар гэтага фрагмента пісаў для непадрыхтаванага чытача, таму, гаворачы пра асноўныя матывы лірыкі Цішкі Гартнага, ён не ўжыў спецыяльных слоў і зваротаў.

Асаблівасцю стылю тагачасных крытычных матэрыялаў з'яўляецца наяўнасць такіх элементаў мастацка-белетрыстычнага і грамадска-публіцыстычнага стыляў, як эмацыянальнасць, экспрэсіўнасць, паўтарэнне адных і тых жа слоў і зваротаў, ужыванне азначэння пасля азначаемага слова і інш. Гэтыя стылістычныя прыёмы выкарыстоўваюцца, напрыклад, у рэцэнзіі на зборнік вершаў Я. Купалы «Шляхам жыцця». Аўтар рэцэнзіі піша:

«*У пекных, зычных, шчыра і з размахам напісаных вершах адбіваецца жыцьцё нашаго народу, шэрай беларускай вёскі, захаванай негдзе між лясоў і балот. Многа гора, многа бед, крыўды. Многа смутку і жалю, што так цяжка, так дрэнна жывецца народу, каторы нічым не заслужыў на гэткую долю. Але ўжо нейкая новая сіла пачала разварачываць той стары лад, пры катарым дыхаць нельга. ...I вось у вершах Купалы ўсё часьцей і часьцей – поруч з сумнымі настраеньнямі – зьвініць нотка бойкая, жывая; відаць, што сіла кіпіць і рвецца да дзела, да вялікай працы народнай. ...I самі сабой успамінаюцца тые моцные, бытцым з граніту выкаваные словы Купалы*:

К свабодзі, роўнасьці і знаньню
Мы працярэбім сабе сьлед.
І будзе ўнукаў панаваньне
Там, дзе сягоньня плачэ дзед».

(*«Наша ніва»*, 1913, № 16–17).

Іншы раз наглядаюцца своеасаблівыя пераходы ад аднаго спосабу выражэння думак да другога, што ў нейкай меры ажыўляе стыль. Так, у артыкуле «Глыбы і слаі» М. Багдановіч гаворыць:

*«Праўда, вершоў цэліком добрых з боку формы ў Купалы і цяпер ешчэ не шмат; да таго-ж і змест іх не адзначаецца асаблівай глыбінёй і надзвычайнасцю, складаючыся з старых грамадзянскіх і Горкаўскіх матывоў, ды з одгукаў так званага «модэрнізму»; але ўсе-ж ткі талент Купалы ўзрастае, пашырае круг сваіх тэм, і ўжо не галосіць* (*ці, – лепей, – не толькі галосіць*), *а ўжо павевае сьмеласьцю, жыццёвай сілай і пагардай. Гэтая перамена зместу адбілася і на форме вершоў Купалы, асабліва на іх важнейшым, усё ажыўляючым нэрву – моцна забіўшым рытме. Буйны, шпаркі, ён падмывае, захоплюе чытача, гіпнотызуе яго, не дае апамятавацца, затрымацца і нясе яго ўсё далей і далей»* («Наша ніва», 1911, № 3).

Як бачым, пачатак вытрыманы у стылі строгага навуковага разважання. Затым Максім Багдановіч звяртаецца да прыёмаў публіцыстычнага выказвання, гаворыць усхвалявана і стварае такім чынам наглядную, вобразную характарыстыку рытму, уласцівага вершам Янкі Купалы. Такі прыём выкарыстоўваецца таксама і сучаснымі літаратуразнаўцамі.

Аўтары імкнуліся ў пэўных выпадках да таго, каб шляхам параўнання адных паняццяў з другімі, хоць і не менш простымі, растлумачыць невядомае, зрабіць яго больш уяўным і зразумелым. Рабілася гэта дакладна, лаканічна, часам адной-дзвюма фразамі: *«Верш – гэта музыка з слоў, гэта уменьне падабраць і саставіць так словы, каб яны зьвінелі, як сярэбраны званок, каб верш меў такт добрай музыкі»* («Наша ніва», 1910, № 35).

Але самае характэрнае, чым вызначаецца стыль беларускай крытыкі пачатку XX ст., – гэта наяўнасць своеасаблівага лексічнага матэрыялу, які служыць для намінацыі і дэфініцыі спецыяльных літаратуразнаўчых паняццяў. Як бы не імкнуліся аўтары проста і дакладна гаварыць пра тыя ці іншыя з’явы літаратурнага працэсу, заўсёды вынікала патрэба ў выкарыстанні адпаведных слоў-тэрмінаў.

У такіх выпадках у якасці тэрмінаў перш за ўсё ўжываліся словы агульнанароднай мовы. У сферы спецыяльнага навуковага ўжытку яны набывалі строга акрэсленае тэрміналагічнае значэнне. Адбываўся, інакш кажучы, працэс тэрмінаўтварэння на базе агульнаўжывальнай лексікі. Гэтыя тэрміны былі іншы раз даволі ўдалымі. Хоць яны выклікалі пэўныя бытавыя асацыяцыі, аднак так ці інакш раскрывалі сутнасць спецыяльных паняццяў, напрыклад: *завязь* – у значэнні сучаснага «завязка» (*Пасьля гэтай завязі, пачынае расьці і буяць у душы «прымацтво» у панстві і «пасынкоўство» у вёсцы.* «Наша ніва», 1914, № 39, с. 3), *развязка* (*Апаведаньне павінна мець развязку, а яе у Вас німа.* «Наша ніва», 1912, № 9, с. 4), *канцоўка* (*У вершах нима ниякого рытму, тольки канцоўки* (*г. зн. рыфмы. –* ***В. К.***) *падобраны.* «Наша ніва», 1907, № 8, с. 8) і інш.

Выкарыстоўваліся таксама тэрміналагічныя сродкі апісальнага характару, утвораныя шляхам спалучэння ўжо вядомых слоў. Так, у значэнні тэрміна «вершаскладанне» было выкарыстана лексікалізаванае спалучэнне *наука писанне виршэй* (*С карэспандэнции скарыстали; здаецца маеце талент на виршы; тольки ешчэ трэба пазнаемицца с наукай писанне виршэй.* Руководство к стихосложэнію. М. Бродскій. Изд. III... «Наша ніва», 1907, № 33, с. 7), у значэнні «драматычныя творы» – спалучэнне *творы на сцэну* (*Апрача вершоў, паэм і творощ на сцэну, было апрацавана шмат кніжэк для народу, каторые аднак асталіся недрукаванымі.* «Наша ніва», 1912, № 37, с. 3) і інш. Напэўна, аўтары ведалі і адпаведныя тэрміны, але свядома выкарыстalі апісальныя канструкцыі, каб прасцей выказаць свае думкі.

Адзначаныя спосабы тэрмінаўтварэння характэрны для першапачатковага этапу фарміравання навуковага стылю. Аднак у некаторых выпадках немагчыма было стварыць для выражэння таго ці іншага паняцця тэрмін на аснове лексічнага матэрыялу роднай мовы, і тады аўтары звярталіся да інтэрнацыянальнай лексікі, што актыўна функцыяніравала ў іншых мовах. Яны запазычвалі перш за ўсё тэрміны з рускай і польскай мовы, значная колькасць якіх паходзіць з грэчаскай, лацінскай, французскай і іншых моў. У выніку гэтага ў беларускай мове сталі ўжывацца тэрміны *аллегорыя, альманах, аўтобіографія, баллада, басня, бэлетрыстыка, вадэвіль, гавенда, гімн, дыалёг, загавор, інтэрмэдія, классыцызм, модэрнізм, сэнтымэнталізм, пэнтамэтр, сатыра, зраўненьне, поэмат, фарса* і многія іншыя. Большасць з іх сустрэлася ў крытычных артыкулах М. Багдановіча, Р. Зямкевіча і ў рэцэнзіях іншых аўтараў на асобныя выданні беларускай літаратуры. Невялікая частка выкарыстана ў матэрыялах раздзелаў «Паштовая скрынка», «Агляд кніг» і інш. Запазычанне аказалася настолькі важным сродкам папаўнення спецыяльнай лексікі беларускай літаратурнай мовы, што іншамоўныя словы складаюць амаль палавіну тагачасных літаратуразнаўчых тэрмінаў. Як правіла, яны захаваліся да нашых дзён і ўвайшлі ў сістэму сучаснай беларускай літаратуразнаўчай тэрміналогіі.

Вядома, не кожнае лексічнае запазычанне было зразумела чытачу, таму давалася непасрэднае тлумачэнне таго ці іншага тэрміна адразу пры яго ўжыванні. Звычайна ў дужках прыводзіліся яго семантычныя адпаведнікі, якія, на думку аўтара, ужо вядомы чытачу, напрыклад: *«Першай літэратурнай працай Марцінкевіча была «Сялянка», опэра ў з двох актах* (*зьявах, дзеях*)*»* («Наша ніва», 1910, № 48). Некаторы раз словы з тлумачальнай функцыяй выступалі ў якасці прыдатка або далучаліся пры дапамозе злучніка «ці». Дзякуючы гэтым стылістычным прыёмам, аўтары дакладна выказвалі свае думкі.

Дакладнасць для навукі – суровая неабходнасць, да якой трэба імкнуцца ўсімі магчымымі сродкамі. Таму словы-тэрміны, якімі б яны ні з'яўляліся па паходжанню, павінны правільна арыентаваць на адпаведнае паняцце. Большасць тагачасных літаратуразнаўчых тэрмінаў гэтым вызначалася.

Але на пачатковым этапе фарміравання навуковага стылю наглядаецца такая з’ява, калі для намінацыі і дэфініцыі аднаго паняцця выкарыстоўваліся розныя тэрміны, інакш кажучы, словы-дублеты, эквівалентныя па сваёй семантыцы. Так, у значэнні тэрміна «прымаўка» былі ўжыты ў выданнях пачатку XX ст. наступныя лексемы:

• *прымаўка:* «З вялікай хмары малы дождж» гэтак гаворыць адна беларуская *прымаўка* («Беларус», 1914, № 24, с. 6);

• *прымавіска:* Як кажэ *прымавіска:* «кума куме і пойдзе па ўсім сяле» («Беларус», 1914, № 36, с. 5);

• *памоўка:* «Якіе самі, такіе і сані», – кажэ расейская *памоўка* («Наша ніва», 1911, № 13, с. 187);

• *пагаворка:* Што па адзежы прымаюць, а па розуму атпраўляюць, дык гэта мы усе добра ведаем, але часта на гэту праўдзіву *пагаворку* забываюцца («Наша ніва», 1913, № 34, с. 3);

• *пагавор:* Старых людзей *пагавор:* дзе семья, там і сіла, а дзе сіла – за мяжой ніва (П. Беларус. Якім Бяздольны. Вільня, 1914, с.14);

• *прыслоўе:* Кождае што-якое беларус любіць адзначыць прыказкай, *прыслоўем* (М. Горэцкі. Наш тэатр. «Гоман», 1916, № 74, с. 2). Дубліраваліся таксама і такія тэрміналагічныя адзінкі, як *замова – загавор, прыказка – пасловіца, верш у прозе – паэзія прозай* і інш. Дублетнасць тлумачыцца тым, што беларуская мова не выпрацавала яшчэ сталых норм тэрмінаўтварэння, а таму стварэнне ці запазычанне таго ці іншага тэрміна нічым не рэгламентавалася і часта залежала ад розных суб’ектыўных прычын. Аднак дублетнасць не вяла да мнагазначнасці літаратуразнаўчых тэрмінаў, бо кожнае слова, якое выступала ў якасці эквівалента, было адназначным.

Монасемічнасць наогул з’яўляецца характэрнай асаблівасцю літаратуразнаўчых тэрмінаў, выкарыстаных у беларускіх выданнях пачатку XX ст.

Матэрыялы беларускай дарэвалюцыйнай крытыкі засведчылі значную колькасць тэрмінаў, з дапамогай якіх можна было зрабіць дасканалы аналіз і паасобных мастацкіх твораў, і творчасці тых ці іншых пісьменнікаў. Так, напрыклад, для абазначэння літаратурных жанраў і відаў выкарыстоўваліся такія тэрміны, як *паэма, верш, раман, аповесць, апаведаньне, нарыс, драма, трагедыя, камэдыя, сатыра, байка, жарт, ода, баллада, верш у прозе* і інш., а пры аналізе літаратурных твораў – тэрміны *тэма, ідэя, вобраз, галоўная мысль, герой, тып, пралог, завязь* (г. зн. «завязка»), *развязка, будова, схема* (апошнія два ў значэнні «кампазіцыя»), *рытм, рыфма, цэзура, страфа, октава* і інш.

Гэта дае падставу сцвярджаць, што літаратуразнаўчыя тэрміны, якімі карысталася маладая дакастрычніцкая крытыка, з’явіліся асновай для стварэння ў савецкі час больш дасканалай сістэмы беларускай літаратуразнаўчай тэрміналогіі.

Увогуле ж трэба адзначыць, што пры фарміраванні стылю беларускай крытыкі як разнавіднасці навуковых стыляў праявілася агульная тэндэнцыя

выкарыстаць, наколькі гэта магчыма, лексічныя здабыткі жывой мовы народа. Стыль беларускай крытыкі склаўся, такім чынам, на аснове сродкаў агульнанароднай мовы, развіваўся ў яе русле і ўдасканальваўся пад уплывам мастацка-белетрыстычнага і грамадска-публіцыстычнага стыляў.

# НЕКАТОРЫЯ АСПЕКТЫ АНАЛІЗУ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛАГІЧНАЙ ЛЕКСІКІ*

Лексіка сучаснай беларускай літаратурнай мовы інтэнсіўна папаўняецца сродкамі намінатыўна-тэрміналагічнага характару. Аднак у большасці тэрміналагічных сістэм функцыянуюць такія моўныя адзінкі, якія па прыродзе сваёй з'яўляюцца апісальнымі і метафарычнымі выразамі, часта выкарыстоўваюцца дублеты, у некаторых выпадках не наглядаецца пераемнасці, паслядоўнасці, а таксама сістэмнасці ў тэрміналагічнай практыцы. Між тым у наш час асабліва востра ставіцца на парадак дня разам з далейшым папаўненнем і ўдасканаленнем тэрміналагічнай лексікі праблема стандартызацыі тэрміналогіі. Гэтага патрабуе практыка машыннага перакладу і стварэння інфармацыйных моў для тэкстаў па розных галінах навукі і тэхнікі. Паспяховае яе вырашэнне ў значнай ступені залежыць ад таго, наколькі глыбока і ўсебакова будзе даследавана тэрміналагічная лексіка ў яе сучасным стане і гістарычным развіцці. Гэта дасць магчымасць перайсці ад канстатацыі фактаў да свядомага і рацыянальнага іх рэгулявання, а затым на падставе лагічных і лінгвістычных аспектаў выпрацаваць метадалогію мэтанакіраванага тэрмінаўтварэння, сістэматызаваць і стандартызаваць навуковыя і тэхнічныя тэрміналогіі.

Паколькі тэрміны ўваходзяць у лексічны склад мовы (хоць і на становішчы падсістэм), мэтазгодна перш за ўсё даследаваць лексікалагічныя аспекты гэтых моўных адзінак, каб вызначыць іх спецыфіку ў параўнанні з агульнаўжывальнымі словамі. Пры гэтым, карыстаючыся лінгвістычнымі метадамі, важна вывучыць крыніцы, шляхі, спосабы ўтварэння тэрмінаў і іх дэрывацыйную прадуктыўнасць, паказаць, як адбывалася развіццё і станаўленне спецыяльных значэнняў, даследаваць сінанімію і дублетнасць у межах розных тэрміналогій, монасемічнасць і звязаную з ёй сінтагматычную незалежнасць.

Полісемічныя тэрміны і тэрміны-сінонімы, эквівалентныя па сваёй семантыцы, сустракаюцца ва ўсіх тэрміналогіях у пачатковы перыяд іх фарміравання і амаль ва ўсіх сучасных тэрміналагічных сістэмах. Таму, відаць, лексічная варыянтнасць – натуральны працэс, па якім ідзе развіццё тэрміналагічнай лексікі. Што да монасемічнасці тэрміну, то яна можа быць абса-

---

* Першая публікацыя ў выданні: Актуальные проблемы лексикологии. – Минск, 1970. – С. 112–113.

лютнай (у межах усяго слоўніка мовы) ці адноснай (у сістэме данай тэрміналогіі і блізкіх да яе), а ў адпаведнасці з гэтым і сінтагматычная незалежнасць тэрміну павінна кваліфікавацца як абсалютная ці адносная.

Ідэальная сістэма тэрмінаў той ці іншай галіны ведаў адлюстроўвае ў цэлым лагічную сістэму адпаведных навуковых паняццяў, не апрошчваючы і не ўскладняючы яе. Таму вызначэнне карэляцыі лексічных адзінак намінатыўна-тэрміналагічнага характару і паняццяў заснавана на прымяненні метадаў фармальнай логікі. Тэрмін можа выражаць, а можа і не выражаць істотныя прызнакі паняцця, аднак ён павінен дакладна арыентаваць на пэўны аб’ект у сістэме паняццяў той ці іншай галіны ведаў і адпавядаць класіфікацыйнай стройнасці ў межах той тэрміналогіі, членам якой з’яўляецца. Гэта дапаможа вызначыць тэрміналагічную норму і яе варыянт у дачыненні да розных этапаў фарміравання і развіцця канкрэтнай тэрміналагічнай сістэмы ў прыватнасці і ўсёй тэрміналагічнай лексікі мовы наогул.

Сучасныя тэндэнцыі развіцця і стандартызацыі тэрміналогій вымагаюць таго, каб аналіз тэрміналагічнай лексікі вёўся не толькі з дапамогай лінгвістычных і лагічных метадаў, але і метадаў матэматыкі і інфарматыкі. Аднак прымяненне апошніх у беларускай літаратурнай мове пакуль што абмежавана з-за недастатковай вывучанасці фактычнага тэрміналагічнага матэрыялу.

## ВЫТОКІ І ШЛЯХІ СЛОВА*

Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, якая толькі ў апошняе дзесяцігоддзе вылучылася ў асобную галіну беларускага мовазнаўства, стала прадметам пільнай увагі даследчыкаў. Нядаўна выйшаў з друку другі том гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Гэта – як бы працяг сістэматызаванага вывучэння гісторыі нашай літаратурнай мовы, папярэднія этапы якой асвятляюцца ў манаграфіі А. І. Жураўскага, якая склала першы том выдання.

Даследаванне грунтуецца на аналізе шматлікіх пісьмовых помнікаў XIX–XX стст., многія з якіх да гэтага часу спецыяльна не вывучаліся. Прааналізаваны яны па арыгіналах, што дало аўтарам магчымасць зрабіць шэраг дакладных назіранняў над гісторыяй развіцця і станаўлення фанетычнай, арфаграфічнай, граматычнай і лексічнай сістэмы новай беларускай літаратурнай мовы.

Развіццё сродкаў і норм беларускай літаратурнай мовы аналізуецца ў шчыльнай сувязі з канкрэтнагістарычнымі абставінамі, якія абумоўлівалі грамадскія функцыі мовы і такім чынам уплывалі на працэс выпрацоўкі яе асноўных структурна-функцыянальных разнавіднасцей.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя падзяліла гісторыю Беларусі на два перыяды. У адпаведнасці з гэтым, аналіз гісторыі фарміравання літаратурнай мовы праводзіцца ў двух асноўных раздзелах: «Дакас-

* Першая публікацыя ў выданні: Маладосць. – 1970. – № 5. – С. 123–126.

трычніцкі перыяд» (аўтар І. Крамко) і «Паслякастрычніцкі перыяд» (аўтары А. Юрэвіч і А. Яновіч).

Доўгі час адзінай сферай выкарыстання новай беларускай літаратурнай мовы была мастацкая літаратура. Толькі ў сярэдзіне XIX ст. з'явілася публіцыстыка на беларускай мове, а ў пачатку XX ст. ў сувязі з пашырэннем кнігадруку, узнікненнем беларускай легальнай прэсы пачалі друкавацца разнастайныя матэрыялы навукова-папулярнага характару. Зусім зразумела, што асноўную ўвагу пры вывучэнні асаблівасцей развіцця нацыянальнай мовы ў дакастрычніцкі перыяд І. Крамко звяртае на творы мастацкай літаратуры. Даследчык вызначае і падрабязна аналізуе фанетычныя, арфаграфічныя, марфалагічныя, лексічныя (у меншай ступені сінтаксічныя) асаблівасці ананімных твораў, твораў П. Багрыма, Я. Баршчэўскага, А. Рыпінскага, Я. Чачота, вызначае месца і значэнне творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча ў фарміраванні беларускай літаратурнай мовы.

Багаты фактычны матэрыял даў магчымасць сфармуляваць шэраг даволі трапных і пераканаўчых вывадаў. У прыватнасці, адзначаецца, што характэрнай рысай твораў беларускай мастацкай літаратуры XIX ст. з'яўляецца відавочная сувязь іх аўтараў са сваімі роднымі гаворкамі.

Якасна новы этап у гісторыі беларускай пісьменнасці наступіў у пачатку XX ст., калі ў сувязі з уздымам нацыянальна-вызваленчай барацьбы ўзнікла беларуская легальная прэса і стала магчымым друкаванне кніг на роднай мове. Перыядычныя літаратурна-мастацкія і грамадска-палітычныя выданні, брашуры і кнігі навукова-папулярнага і навуковага характару пашыралі беларускую літаратурную мову, садзейнічалі яе структурна-функцыянальнаму развіццю, выпрацоўцы адзіных граматыка-правапісных норм, узбагачэнню лексікі і выяўленча-мастацкіх сродкаў. Так, пастутова пашыралася ў практыцы беларускага кнігадруку і стала тыповай кірыліца (хоць яшчэ выкарыстоўвалася і лацінка), замацаваўся фанетычны прынцып перадачы на пісьме галосных і марфалагічны прынцып перадачы зычных (з некаторымі адхіленнямі пры перадачы дзекання, цекання і іншых спецыфічных фанетычных з'яў беларускай мовы), склаліся ці вызначыліся асноўныя граматычныя нормы, пачала фарміравацца беларуская нацыянальная тэрміналогія.

Увогуле, як слушна адзначаецца ў даследаванні, дзесяцігоддзе з 1906 па 1915 г. было надзвычай важным у фарміраванні нацыянальнай літаратурнай мовы. Моўныя з'явы, характэрныя для ўсёй тэрыторыі Беларусі ці для большай яе часткі, даволі паслядоўна адлюстраваліся на старонках тагачасных беларускіх выданняў. Аналіз гэтага багатага фактычнага матэрыялу прывёў да вываду, што рашаючы ўплыў на выпрацоўку норм літаратурнай мовы зрабілі гаворкі ваколіц Мінска і Вільні. Таму не зусім зразумелая думка аўтара пра тое, што ў фанетыцы, марфалогіі і лексіцы больш прыкметна ўдзельная вага заходніх гаворак. Гэта пярэчыць вывадам самога аўтара. Акрамя таго, некаторыя беларускія даследчыкі сцвярджаюць, што хоць асобныя бакі граматычнай і фанетычнай сістэм беларускай нацыянальнай мовы

фарміраваліся на абмежаванай дыялектнай аснове, аднак ва ўсім сваім аб'ёме нормы літаратурнай мовы адэкватныя граматычнай сістэме не асобнай групы гаворак, а ўсёй сукупнасці іх. Значыць, пытанне аб дыялектнай аснове беларускай літаратурнай мовы патрабуе свайго далейшага вывучэння, прытым не толькі на матэрыяле пісьмовых помнікаў, але і на дыялектных матэрыялах. Што да вызначэння лексічнай асновы беларускай літаратурнай мовы, то ва ўступе да работы сказана: «Адсутнасць пэўных дыялектных слоўнікаў, асабліва заходняй часткі Беларусі, не дазваляе на сённяшні дзень вырашыць пытанне аб ролі канкрэтных гаворак у фарміраванні слоўнікавай базы сучаснай літаратурнай мовы».

Аналізуючы развіццё лексікі літаратурнай мовы ў дакастрычніцкі перыяд, І. Крамко пераканаўча даказвае, што папаўненне слоўнікавага складу адбывалася перш за ўсё за кошт уласнабеларускіх моўных рэсурсаў, шляхам запазычання і марфалагічнага калькавання. У некаторых выпадках даследчык вызначае, калі з'явілася ўпершыню тое ці іншае слова ў беларускай літаратурнай мове. Аднак асобныя сцвярджэнні недакладныя, а часам і супярэчлівыя. Так, у адным месцы кнігі сказана, што словы *прагрэс, геаграфія, тэкст, універсітэт, сіндыкат* упершыню ўвёў А. Ельскі, а ў другім месцы гаворыцца, што названыя словы засведчаны ўпершыню на старонках беларускіх дакастрычніцкіх выданняў пачатку XX ст. Увогуле слушна адзначаецца ў даследаванні, што лексіка беларускай літаратурнай мовы на пачатку XX ст. намнога ўзбагацілася, але, таму што нацыянальная мова па-ранейшаму не мела права шырокага функцыянавання, яна заставалася небагатай на моўна-выяўленчыя сродкі.

Толькі пасля Кастрычніка, калі карэнным чынам змянілася становішча беларускага народа, развіццё літаратурнай мовы набыло небывалы ў гісторыі размах. Аналізуючы гэты працэс, А. Юрэвіч і А. Яновіч падрабязна спыняюцца на асаблівасцях функцыянавання літаратурнай мовы ў савецкі час, вывучаюць шляхі і спосабы выпрацоўкі і ўдасканалення яе фанетычных, арфаграфічных, марфалагічных, лексічных і сінтаксічных норм.

Даследчыкі адзначаюць, што працэс выпрацоўкі граматычных норм непарыўна звязаны са стварэннем падручнікаў, у якіх гэтыя нормы тэарэтычна абгрунтоўваюцца і прапануюцца для шырокай грамадскасці як абавязковыя. У першыя гады савецкай улады выйшла некалькі падручнікаў па беларускай мове, але найбольш удалым лічыцца «Беларуская граматыка для школ» Б. Тарашкевіча. Ён быў кандыдатам Пецярбургскага ўніверсітэта, вучнем А. А. Шахматава, буйным беларускім грамадскім дзеячам. На аснове аналізу гэтай кнігі А. Юрэвіч і А. Яновіч робяць вывад, што Б. Тарашкевіч, абапіраючыся на пісьмовыя традыцыі тагачасных беларускіх выданняў і кіруючыся асаблівасцямі цэнтральных беларускіх гаворак, даволі ўдала і правільна вызначыў важнейшыя граматычныя рысы новай літаратурнай мовы, а на падставе гэтага сфармуляваў асноўныя правілы нашага правапісу.

«Беларуская граматыка для школ» адыграла важную ролю ў выпрацоўцы мовазнаўчай тэрміналогіі. Аднак сцвярджэнне, што марфалагічная тэрміналогія, якой карыстаецца Б. Тарашкевіч, упершыню ствaралася пры складанні гэтага дапаможніка, не зусім правільнае.

Беларуская лінгвістычная тэрміналогія пачала фарміравацца яшчэ ў дакастрычніцкі перыяд, і сярод тэрмінаў, засведчаных на старонках дарэвалюцыйных выданняў пачатку ХХ ст., сустракаецца каля 30 розных марфалагічных тэрмінаў.

Нармалізацыя арфаграфічных і граматычных сродкаў беларускай літаратурнай мовы ў далейшым адбывалася побач з вялікай работай па развіццю і ўнармаванню лексікі, што знайшло сваё адлюстраванне ў шматлікіх слоўніках літаратурнай і дыялектнай мовы, у распрацоўцы беларускай навуковай тэрміналогіі. Аўтары аналізуюць лексікаграфічную працу нашых лінгвістаў першых паслякастрычніцкіх дзесяцігоддзяў як значную з'яву ў беларускім мовазнаўстве і ў культурным будаўніцтве рэспублікі наогул. Тагачасныя перакладныя беларуска-рускія і руска-беларускія слоўнікі, так званыя практычныя слоўнікі, а таксама тэрміналагічныя і дыялектныя зборнікі мелі вялікае значэнне для сістэматызацыі багатага лексічнага матэрыялу і тым самым садзейнічалі выпрацоўцы адпаведных лексічных норм. Тыя ж памылкі, якія сустракаюцца ў слоўніках, А. Юрэвіч і А. Яновіч тлумачаць складанасцю шляхоў развіцця нацыянальнай мовы, наяўнасцю розных поглядаў на крыніцы і рэсурсы ўзбагачэння і ўдасканалення слоўнікавага складу мовы. Аналіз лексічных сродкаў, як адзначаецца ва ўступе да кнігі, абмежаваны «асаблівасцямі двух асноўных адгалінаванняў літаратурнай мовы – мовы мастацкай і навукова-публіцыстычнай літаратуры, якія выразна супрацьстаўляюцца адна адной рознымі функцыямі слова – камунікатыўна-мастацкай, з аднаго боку, і толькі камунікатыўнай – з другога боку». Заўважым, аднак, што ў публіцыстычных творах слова выконвае не толькі камунікатыўную функцыю, але і вобразную, з'яўляецца сродкам стварэння яркіх эпітэтаў, метафар і г. д. Больш таго, у мове публіцыстычнай літаратуры выкарыстоўваюцца прастамоўныя і нават стылістычна зніжаныя словы, што недапушчальна ў навуковых выданнях. Таму мэтазгодна, мабыць, вылучаць навуковы і грамадска-публіцыстычны стылі як асобныя структурна-функцыянальныя разнавіднасці мовы.

На падставе багатага фактычнага матэрыялу даследчыкі робяць вывад, што слоўнікавы склад беларускай літаратурнай мовы папаўняўся перш за ўсё за кошт стварэння новых моўных адзінак на базе наяўнага лексічнага матэрыялу, у выніку пераасэнсавання асобных слоў, шляхам запазычання і марфалагічнага калькавання.

Шмат цікавых назіранняў у апошнім раздзеле кнігі, у якім даецца агульная характарыстыка беларускай літаратурнай мовы 1930–1960 гг., разглядаюцца тэндэнцыі развіцця лексікаграфіі, аналізуюцца лексічныя сродкі мастацкай, навуковай і публіцыстычнай літаратуры.

У адной кнізе, зразумела, нельга вырашыць усе пытанні гісторыі фарміравання і станаўлення беларускай літаратурнай мовы. Патрабуе далейшага вывучэння, у прыватнасці, пытанне пра сувязі беларускай літаратурнай мовы на розных этапах яе развіцця з вуснапаэтычнай творчасцю народу і з іншымі мовамі, паколькі гэта не толькі вызначае агульныя і спецыфічныя рысы ў развіцці той ці іншай мовы, але і абумоўлівае ў значнай ступені яе ўнутраную структуру. Да нашага часу не вывучаны ў нас такія праблемы, як паняцце «норма» і яе «варыянт», асаблівасці фарміравання розных структурна-функцыянальных разнавіднасцей мовы, тэндэнцыі прагрэсу беларускай літаратурнай мовы ў адпаведнасці з агульнымі тэндэнцыямі развіцця нацыянальных літаратурных моў ва ўмовах сацыялістычнага грамадства.

«Гісторыя беларускай літаратурнай мовы» – каштоўны ўклад у беларусазнаўства. Яе з поспехам выкарыстаюць студэнты і настаўнікі і з удзячнасцю прымуць усе, каго цікавіць і хвалюе гісторыя роднай мовы і літаратуры.

## З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ*

Пытанні лексікалогіі і словаўтварэння сталі ў апошнія гады прадметам пільнай увагі даследчыкаў. Аднак гісторыя спецыяльнай тэрміналогіі той ці іншай галіны ведаў застаецца ў сучасным беларускім мовазнаўстве найменш распрацаванай. Мы пакуль што не маем навуковых даследаванняў, якія б асвятлялі працэс фарміравання, папаўнення і ўдасканалення тэрміналагічных сродкаў беларускай літаратурнай мовы.

Даволі часта сцвярджаецца думка, што тэрміналагічная лексіка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове пачала складвацца толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі[1]. Аналіз жа дакастрычніцкіх беларускіх выданняў паказвае, што навуковыя стылі ў беларускай нацыянальнай мове пачалі фарміравацца ў самым пачатку XX ст., калі ў выніку рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбы ажывілася выдавецкая справа на беларускай мове, узнікла нацыянальная легальная прэса і з’явіліся першыя навукова-папулярныя брашуры. Іменна на гэты перыяд прыпадае пачатак пошукаў новых лексічных сродкаў namінатыўна-тэрміналагічнага характару. Даследаваць гэты працэс – значыць прыйсці да больш канкрэтных і аб’ектыўных навуковых вывадаў аб характары першапачатковай тэрміналогіі, садзейні-

* Першая публікацыя ў выданні: Лінгвістычныя даследаванні. – Мінск, 1972. – С. 113–117.

[1] *Крукоўскі Н. І.* Рускі лексічны ўплыў на сучасную беларускую літаратурную мову. – Мінск, 1958. – С. 75; *Юргелевіч П. Я.* Нарыс сучаснай беларускай мовы з гістарычнымі каментарыямі. – Мінск, 1961. – С. 153; *Крывіцкі А. А.* Наша родная мова. – Мінск, 1967. С. 118.

чаць агульнаму ўсебаковаму развіццю мовы. На жаль, у гэтых адносінах беларускія дакастрычніцкія выданні яшчэ не вывучаны.

У артыкуле робіцца спроба прааналізаваць тыя тэрміналагічныя адзінкі, якія выкарыстоўваліся ў матэрыялах маладой беларускай крытыкі пачатку XX ст. пры характарыстыцы літаратурнага працэсу.

Для абазначэння паняцця, якое ў сучасным літаратуразнаўстве звычайна называецца літаратурным напрамкам, на старонках беларускіх дакастрычніцкіх выданняў ужываліся лексікалізаваныя спалучэнні *кірунак літэратурны, напрамак літэратурны* і тэрмін *школа.*

Першыя дзве з адзначаных вышэй тэрміналагічных адзінак утвораны шляхам спалучэння агульнаўжывальнага назоўніка і прыметніка са спецыяльным значэннем. Яны ўвайшлі ў склад сучаснай літаратуразнаўчай тэрміналогіі і могуць функцыяніраваць як сінонімы. Так, напрыклад, А. А. Макарэвіч у «Кароткім літаратуразнаўчым слоўніку» карыстаецца тэрмінам *літаратурны напрамак*[1] (хоць у слоўніку ён і не пададзены), а ў «Беларуска-рускім слоўніку» (1962) засведчаны тэрмін *літаратурны кірунак*[2]. Усё ж у апошні час наглядаецца тэндэнцыя замацаваць спецыяльную дэфініцыю за лексікалізаваным спалучэннем *літаратурны напрамак.* Гэта адпавядае прынцыпу мінімальных разыходжанняў паміж тэрміналогіямі роднасных моў, таму што ў рускай і ўкраінскай мове ўжываецца тэрмін, які ўзнік на базе такой жа словаўтваральнай мадэлі.

Тэрмін *школа* больш уласцівы лінгвістычнай тэрміналогіі, дзе напрамкі прынята называць школамі. Ужыванне яго як сродку літаратуразнаўчай тэрміналогіі вызначаецца пэўнай неакрэсленасцю. Таму ў сучаснай беларускай крытыцы тэрмін *школа,* як правіла, выкарыстоўваецца ў тых выпадках, калі гаворыцца пра гісторыю літаратурнага працэсу, напрыклад: «Вядучы рашучую барацьбу за рэалістычную літаратуру.., Бялінскі становіцца арганізатарам і тэарэтыкам так званай «натуральнай *школы*»[3]. У такіх выпадках тэрмін набывае больш-менш дакладную семантыку.

Як назвы асобных творчых метадаў і літаратурных напрамкаў засведчаны на старонках беларускіх выданняў пачатку XX ст. тэрміны *рэалізм, рамантызм, классыцызм, сэнтымэнталізм, модэрнізм, дэкадэнцтва.* Гэтыя інтэрнацыянальныя тэрміны ўвайшлі ў сістэму сучаснай беларускай літаратуразнаўчай тэрміналогіі, захаваўшы ўвогуле сваю семантыку і марфалагічную форму.

У адным з матэрыялаў сустрэлася моўная адзінка namінатыўна-тэрміналагічнага характару *дэкадэншчына:* «Таго-ж, каб пісьменнікі выйшаўшые з народу праніклiся *дэкадэншчынай* бадай што ня будзе»[4]. Даная лексема вызначалася ярка выражанай эмацыянальна-ацэначнай афарбоўкай, што для тэрміналогіі з'яўляецца істотным недахопам. Таму ў якасці тэрміна замацавала-

---

[1] *Макарэвіч А. А.* Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік. – Мінск, 1963. – С. 43, 62 і інш.

[2] Беларуска-рускі слоўнік; пад рэд. К. Крапівы. – М., 1962. – С. 391.

[3] *Ларчанка М.* На шляхах да рэалізму. – Мінск, 1958. – С. 125.

[4] *Гмырак Л.* Ешчэ раз аб сплачываннію доўгу // Наша ніва. – 1915. – № 34.

ся слова *дэкадэнства.* Ад яго быў утвораны дэрыват *дэкадэнцкі,* які выконваў у пачатку XX ст. тыя ж функцыі, што і ў сучаснай літаратуры, напрыклад: «*Дэкадэнцкіе* настроі так прыкметные ў пісьменствах другіх народаў у нас пакуль што не праяўляюцца»[1].

Акрамя таго, у значэнні, блізкім да тэрміна *сентыменталізм,* было ўжыта на старонках «Нашай нівы» лексікалізаванае спалучэнне *сентыментальнае народнічаства:* «Усім знаёмым з творамі нашых пісьменнікаў кінецца ў вочы тое, што яно перайшло ўжо дзьве стадзіі развіцьця: першую – *сэнтымэнтальнае народнічэства* с сільнай польскай закваскай, другую – рэалізм»[2]. Аднак яно не выйшла за межы адзінкавага выкарыстання, бо з'яўлялася семантычна недакладным і структурна недасканалым.

У артыкуле «Глыбы і слаі» М. Багдановіч ужыў тэрмін *сімвалізм:* «Што датыкаецца да найслабейшага боку паэмы, дык на наш погляд – гэта грубы *сымволізм,* прыпамінаючый дзе якіе кепскіе мейсцы с твораў расейскаго пісьменніка Л. Андрэева»[3]. Даная лексема магла абазначаць асобны літаратурны напрамак і выступаць як адпаведнік слова *сімволіка.* У якім з гэтых двух значэнняў выкарыстана яна М. Багдановічам, вызначыць па адным прыкладзе немагчыма. У сучасным літаратуразнаўстве тэрмін *сімвалізм* функцыяніруе толькі як назва адпаведнага напрамку[4].

З адным і тым жа значэннем засведчаны на старонках беларускіх дакастрычніцкіх выданняў тэрміны *мастацтва для мастацтва* і *штукарства для штукарства.* Варыянтнасць у даным выпадку выклікана тым, што паняцце «мастацтва» ў беларускай літаратурнай мове пачатку XX ст. абазначалася дзвюма моўнымі адзінкамі: *мастацтва* і *штукарства* (параўн. польск.: *sztuka*). Паколькі гэтыя моўныя адзінкі маглі ўжывацца паралельна, то пры ўтварэнні разглядаемых тэрмінаў некаторыя аўтары аддавалі перавагу слову *мастацтва,* а другія – слову *штукарства.* У выніку адно і тое ж паняцце выражалася дзвюма намінацыямі. Аднак тэрмін *штукарства для штукарства* не выйшаў за межы дакастрычніцкага часу, хоць лексема *штукарства* яшчэ і ў савецкі перыяд ужывалася ў значэнні «мастацтва»[5]. У працэсе моўнай практыкі была асвоена намінацыя *мастацтва для мастацтва,* якая дакладна выконвае функцыі спецыяльнага лексічнага сродку.

---

[1] *Гмырак Л.* Ешчэ раз аб сплачыванню доўгу // Наша ніва. – 1915. – № 34.

[2] *Гмырак Л.* Ешчэ раз аб сплачыванню доўгу // Наша ніва. – 1913. – № 33.

[3] *Багдановіч М.* Глыбы і слаі // Наша ніва. – 1911. – № 3.

[4] *Макарэвіч А. А.* Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік. – Мінск, 1963. – С. 109; Беларуска-рускі слоўнік / пад рэд. К. Крапівы. – М., 1962. – С. 853.

[5] Беларуская навуковая тэрміналогія. Вып. 2. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва. – Мінск, 1923. – С. 17; *Гарэцкія М.* і *Г.* Маскоўска-беларускі слоўнік. – Вільня, 1920. – С. 60; *Байкоў М. і Некрашэвіч С.* Беларуска-расійскі слоўнік. – Мінск, 1925. – С. 351; *Некрашэвіч С. і Байкоў М.* Расійска-беларускі слоўнік. – Мінск, 1928. – С. 171.

Адзін раз сустрэліся ў прааналізаваных крыніцах тэрміны *нігілізм* і *парнаграфія:* «Але хоць развіцьце беларускаго пісьменства адбывалося як раз у часе глыбокай рэакціі, калі шмат хто с пісьменнікаў у суседніх нацый даходзіў у пастаноўцы, напр. палавой справы, да *нігілізму,* блізкаго да *порнаграфіі,* то ў нашым пісьменстве ніякіх адгалоскаў гэтаго німа»[1]. З кантэксту можна меркаваць, што тэрмін *парнаграфія* ўжыты у сваім традыцыйным значэнні. Ён быў лексічна асвоены беларускай мовай і ўвайшоў у склад літаратуразнаўчай тэрміналогіі. Вызначыць дакладна семантыку тэрміна *нігілізм* на аснове аднаго прыкладу немагчыма. У пачатку XX ст. ён функцыяніраваў як сінонім скептыцызму, а ў больш вузкім разуменні абазначаў напрамак, што меў месца ў асяроддзі рускіх разначынцаў-шасцідзесятнікаў, якія адмоўна ставіліся да традыцый дваранства і да прыгонніцтва[2]. Відавочна, што ў прыведзеным вышэй сказе тэрмін *нігілізм* не мае ні аднаго з гэтых значэнняў. У беларускіх слоўніках 1920-х гг., у тым ліку і тэрміналагічных, ён зусім не прыводзіцца. Аднак у сістэму сучаснай беларускай літаратуразнаўчай тэрміналогіі лексема *нігілізм* уваходзіць і, як сведчыць слоўнік А. А. Макарэвіча, з’яўляецца дысемічнай[3].

На старонках «Нашай нівы» выкарыстаны словы *стыль* і *стыльнасць*[4]. Пад тэрмінам *стыль* у літаратуразнаўчым значэнні аўтар разумеў «літэратурную форму якога небудзь пісьменніка». Акрамя гэтага, шляхам дэрывацыі было ўтворана слова *стыльнасць,* якому надавалася такая дэфініцыя: «адбіцьцё нашай душы на нашых творах». У даным выпадку, магчыма, меліся на ўвазе ўсе індывідуальныя асаблівасці творчасці таго ці іншага пісьменніка. У сучасным беларускім літаратуразнаўстве тэрмін *стыль* звычайна абазначае «адзінства асноўных ідэйна-мастацкіх асаблівасцей (ідэі, тэмы, характары, сюжэты, мова), якія выяўляюцца на працягу ўсёй творчай працы пісьменніка»[5]. Аднак названым тэрмінам карыстаюцца часам і тады, калі гавораць пра стыль групы пісьменнікаў, блізкіх па сваіх творчых асаблівасцях[6]. Карацей кажучы, як справядліва адзначыў В. У. Вінаградаў, «у галіне мастацтвазнаўства, літаратуразнаўства і лінгвістыкі цяжка знайсці тэрмін больш мнагазначны і супярэчлівы – адпаведнае яму паняцце – больш хісткае (зыбкое) і суб’ектыўна-неакрэсленае, чым тэрмін стыль і паняцце стылю»[7].

У адным з артыкулаў М. Гарэцкага быў выкарыстаны тэрмін *стылізацыя:* «...ёсць у расейскіх пісьменнікаў творы са «стылізацией», ат каторай твор здаец-

---

[1] *Гмырак Л.* Беларускае нацыянальнае адраджэнне // Вялікодная пісанка. – Вільня, 1914. – С. 27.

[2] Энциклопедический словарь. Изд. Брокгауз и Ефрон, т. XXI. – СПб., 1897. – С. 11.

[3] *Макарэвіч А. А.* Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік. – Мінск, 1963. – С. 80.

[4] Наша ніва. – 1911. – № 41.

[5] *Тимофеев Л. И.* Основы теории литературы. – М., 1966. – С. 392–393.

[6] *Тимофеев Л. И.* Указ. тв. – С. 393; *Макарэвіч А. А.* Кароткі літаратуразнаўчы слоўнік. – Мінск, 1968. – С. 113.

[7] *Виноградов В. В.* Проблемы авторства и теория стиля. – М., 1961. – С. 7.

ца бытцам то перэкладжэным с другой мовы...»[1]. Значэнне гэтага запазычанага слова такое ж, якое яно мае і ў сучасным літаратуразнаўстве, – «свядомае і знарок падкрэсленае наследаванне знешніх, фармальных рыс і асаблівасцей творчай манеры (стылю) якога-небудзь пісьменніка ці жанру народнай творчасці»[2].

Ужываўся ў літаратуразнаўчых працах пачатку XX ст. тэрмін *уплыў:* «У некаторых вершах Коласа спатыкаем вялікі *уплыў* расейскіх паэтоў...»[3]. Значэнне гэтага тэрміна ўвогуле не змянілася, ён і ў нашы дні выкарыстоўваецца ў той жа функцыі, што і ў дакастрычніцкі перыяд.

Такім чынам, беларуская мова ўжо ў самым пачатку XX ст. асвойвала тэрміналагічныя адзінкі, якія служылі для намінацыі і дэфініцыі асобных паняццяў літаратуразнаўчага працэсу. Выкарыстоўваліся наступныя словы і лексікалізаваныя спалучэнні: *напрамак літаратурны, кірунак літаратурны, школа, рэалізм, рамантызм, класіцызм, сентыменталізм, сентыментальнае народнічаства, мадэрнізм, дэкадэнства* (*дэкадэншчына*), *сімвалізм, мастацтва для мастацтва, штукарства для штукарства, нігілізм, парнаграфія, стыль, стыльнасць, стылізацыя, уплыў.* Колькасць іх не такая ўжо і шматлікая, але яны абазначаюць асноўныя паняцці, што характарызуюць літаратурны працэс. Амаль усе гэтыя тэрміны сустрэліся ў артыкулах М. Багдановіча, Р. Зямкевіча, М. Гарэцкага і Л. Гмырака – аўтараў, якія найбольш асвятлялі пытанні развіцця маладой беларускай літаратуры.

Большая частка тэрмінаў гэтай групы – так званыя інтэрнацыяналізмы, якія шырока функцыяніравалі ў іншых славянскіх і неславянскіх мовах. Яны і ў беларускай мове вызначаліся дакладнасцю сваёй семантыкі, свабодна ўступалі ў словаўтваральныя сувязі і таму замацаваліся ў сістэме нацыянальнай навуковай тэрміналогіі.

Другая частка разгледжаных тэрмінаў утворана на ўласнай глебе: *кірунак літаратурны, напрамак літаратурны, сентыментальнае народнічаства, мастацтва для мастацтва, штукарства для штукарства.* Матэрыялам для ўтварэння іх маглі паслужыць і сродкі роднай мовы, і словы-дэрываты, аснова якіх – іншамоўная, і наогул асобныя лексічныя запазычанні.

Пераважная большасць тэрмінаў гэтай групы ўвайшла ў лексічную сістэму беларускай мовы. Не замацаваліся толькі лексікалізаваныя спалучэнні *сентыментальнае народнічаства, штукарства для штукарства* (што выкарыстоўваліся поруч з тэрмінамі *сентыменталізм* і *мастацтва для мастацтва),* а таксама тэрмін *стыльнасць,* які не вызначаўся семантычнай дакладнасцю.

---

[1] *Гарэцкі В*. Наш тэатр // Колядная пісанка. – Вільня, 1913. – С. 21.

[2] *Лесин В. М., Пулннець О. С*. Короткий словник літературознавчих термінів. – Київ, 1961. – С. 299.

[3] *Бульба*. Казкі жыцця / Наша ніва. – 1910. – № 40.

# З НАЗІРАННЯЎ НАД МОВАЙ ПАЭМЫ ЯКУБА КОЛАСА «НОВАЯ ЗЯМЛЯ»*

Якуб Колас – пясняр слаўны і бессмяротны. Ён прыйшоў у літаратуру на хвалі рэвалюцыйных падзей 1905–1907 гг. з пранікнёным поглядам Грамадзяніна і Мастака на гісторыю і жыццё свайго народа, свайго роднага краю. Усвядоміўшы пакутлівы лёс беларуса і Беларусі ў гады змрочнай рэакцыі, прыйшоў ён разам з Янкам Купалам у літаратуру, каб «вызваняць лепшыя скарбныя дні для свайго народа», прыйшоў з нялёгкім і пачэсным клопатам аб развіцці ў сваім краі прыгожага пісьменства на роднай мове. «У далёкія дні майго юнацтва, калі мяне так моцна захапляла паэзія і паэтычная творчасць і я ўпотайку складаў песні моваю роднага народа аб яго долі, мяне часта браў горкі роздум: куды пайду я са сваім родным словам? Яно забаранялася, высмейвалася, яно выганялася з усіх устаноў таго часу. Ці дойдзе яно да народа, з цяжкім лёсам якога звязаў я свой лёс і якому аддаваў усё самае дарагое, што было ў маім сэрцы»[1] (*507*), – успамінаў Колас 15 лістапада 1952 г. на ўрачыстым сходзе, прысвечаным 70-годдзю з дня нараджэння. Жыццёвы лёс паэта, яго клопаты, думы, мары і спадзяванні шчасліва спалучаліся з клопатамі, думамі, марамі і спадзяваннямі беларускага народа. І ў змрочныя часы жорсткага нацыянальнага і сацыяльнага ўціску пры царызме, і ў светлыя часы імклівага поступу да новай явы, азоранай пераможным Кастрычнікам, яго вуснамі гаварыў беларускі народ, які змагаўся за сваё нацыянальнае і сацыяльнае адраджэнне, які будаваў сваю светлую і шчаслівую будучыню. Таму імя яго і слава непарыўна звязаны са станаўленнем і росквітам беларускай літаратуры, з фарміраваннем і развіццём беларускага літаратурнага слова.

Сучасная беларуская літаратурная мова ўзнікла на аснове жывой народнай гаворкі і фарміравалася на працягу XIX – пачатку XX стст. ў жанрах мастацкай літаратуры і часткова публіцыстыкі. Гістарычны лёс беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы склаўся так, што да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі яна не мела спрыяльных магчымасцей для свайго развіцця, для пашырэння ў сферы грамадскага і культурнага жыцця і заставалася функцыянальна абмежаванай. Развівалася яна амаль выключна ў творах мастацкай літаратуры, і таму само паняцце «беларуская літаратурная мова» ў дачыненні да гэтага перыяду звужваецца да паняцця «мова беларускай мастацкай літаратуры»[2]. Гэта мова мела, такім чынам, выключна вялікае значэнне ў фарміраванні і развіцці літаратурнай мовы, у выпрацоўцы яе норм.

---

* Першая публікацыя ў выданні: Народныя песняры. Да 90-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа. – Мінск, 1972. – С. 209–220.

[1] Тут і далей па тэксце пазначаюцца старонкі з 11-га тома Поўнага збору твораў Якуба Коласа.

[2] *Шакун Л. М.* Образование белорусского национального языка // Вопросы образования восточнославянских литературных языков. – М., 1962. – С. 120.

У сувязі са сказаным цяжка пераацаніць ролю народнага паэта Беларусі Коласа ў фарміраванні і развіцці сучаснай беларускай літаратурнай мовы, у выпрацоўцы і замацаванні яе лексічных, стылістычных, граматычных і іншых норм, бо яго плённая літаратурная дзейнасць прыпадае якраз на гады станаўлення і развіцця беларускай нацыянальнай літаратуры і беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы, і амаль усе тыя зрухі, якія адбываліся ў мове, знайшлі сваё адлюстраванне ў творах Коласа, якія шмат разоў перавыдаваліся асобнымі выданнямі і ў складзе Збораў твораў. Гэтыя перавыданні розных гадоў даюць перш за ўсё каштоўны матэрыял для таго, каб заглянуць у творчую лабараторыю паэта, паказаць яго карпатлівую працу над словам, а таксама выявіць тыя змены, якія адбываліся ў развіцці сучаснай беларускай літаратурнай мовы на ўсіх яе ўзроўнях.

У гэтым артыкуле мы спынімся галоўным чынам на аналізе таго, як Колас працаваў над словам, як клапаціўся вялікі песняр аб адзінстве ідэйнага зместу і формы сваіх твораў. Свае назіранні і вывады мы зробім на аснове параўнальнага вывучэння тэкстаў розных гадоў выдання паэмы «Новая зямля», аднаго з найбольш значных і буйных твораў беларускай літаратуры.

Колас надзвычай патрабавальна ставіўся да слова. Ён неаднаразова падкрэсліваў, што «ў літаратурнай рабоце мова з'яўляецца і матэрыялам, і інструментам. Вось чаму кожны пісьменнік павінен дасканала валодаць сваім інструментам і ведаць уласцівасці матэрыялу, пры дапамозе якога ён перадае і рэзкія рухі характару, і танчэйшыя адценні пачуцця. Без гэтага валодання і ведання мы ніколі не будзем майстрамі» (*431*).

Творчае крэда Коласа – прастата (але не спрошчанасць) і гранічная дакладнасць слова, погляд на мову як на самы яркі сродак жывапісу, сродак адлюстравання рэчаіснасці ў непаўторных вобразах і малюнках. Паэт праз усё сваё жыццё клапаціўся аб развіцці літаратурнай мовы на жывой народнай аснове, у якой ён бачыў прыгажосць і дакладнасць. На III з'ездзе пісьменнікаў ён гаварыў: «Абмежаванасць у жывым матэрыяле, адсутнасць жывых вобразаў, узятых у народзе, вядзе да таго, што пісьменнік вымушан падмяняць іх сцёртымі словамі, і твор атрымліваецца чэзлым, малакроўным, бледным» (*547*).

Аднак прыгажосць і дакладнасць слова сама па сабе – не галоўнае для паэта. «Задача пісьменніка, – адзначаў Колас, – у фармаванні, адборы лепшага, у прывядзенні мовы да літаратурных норм... Мы павінны мець мову прыгожую, гучную, простую, але гнуткую і выразную» (*431*). Значыць, працуючы над мовай сваіх твораў, Я. Колас клапаціўся аб слове не толькі як аб сродку мастацкага, пластычнага адлюстравання рэчаіснасці, але і як аб часцінцы такога складанага арганізма, імя якому беларуская нацыянальная літаратурная мова. З улікам гэтага мы і зазірнем у таямніцы коласаўскай працы над словам.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што амаль у кожнае новае выданне паэмы «Новая зямля» Колас уносіў тыя ці іншыя праўкі лексічнага і стылістычнага характару, якія паляпшалі твор з боку зместу і формы. Шматлікія тэкставыя праўкі (пераробкі, змяненні, дапаўненні, дапісванні) рабіліся перш за ўсё для таго, каб паглыбіць характарыстыку некаторых вобразаў, стварыць больш

выразныя ў сваёй канкрэтнасці малюнкі, жыва і ярка паказаць асобныя эпізоды, дасягнуць такога адзінства тону, рытмікі, стылю, якое не толькі выяўляе адносіны аўтара да апісваемага, але і адпавядае гэтым адносінам.

Вось, напрыклад, як паэт апісвае луг у першай публікацыі раздзела «Леснікова пасада» і ў першым асобным выданні паэмы «Новая зямля»:

| | |
|---|---|
| Зялёны луг, як скінуць вокам,<br>Абрусам пышным і шырокім<br>Ад хаты зараз пачынаўся<br>І ў шыр і ў доўж ён разсцілаўся<br>Ды йшоў квяцістай раўнiною<br>З высокай мяккаю травою,<br>І зьяў на сонцы ў пералiвах<br>Прыгожых красак. Як на нiвах<br>Жыта збажынка лёгка гнецца<br>І людзям радасна сьмяецца<br>Сваім прыятным дзіўным сьпевам<br>Пад лёгкім ветрыка павевам,<br>Так гнуцца, гойдаюцца травы,<br>Як пройме ветрык іх ласкавы<br>І пойдуць градкі травяные<br>З прыятным пахам чэрадою;<br>Зашэпчуць краскі між сабою,<br>Як бы дзеўчаткі маладые.<br>Эх, луг шырокі! Як жывы, ты,<br>Лучамі сонейка залiты,<br>Стаiш ў мяне перэд вачыма<br>Ты мiл і смуцен, як радзіма,<br>Як наша ціхая старонка...[1] | Зялёны луг, як ськівуць вокам,<br>Абрусам пышным і шырокім<br>Абапал Нёмана расьцілаўся –<br>За хатай зараз пачынаўся<br>Ды йшоў квяцістай раўнiною<br>З мурожнай слаўнаю травою<br>І зьяў на сонцы ў пералiвах<br>Пяшчотных тонаў. Як на нiвах<br>Жыта, збажынка лёгка гнуцца<br>І людзям радасна сьмяюцца<br>Сваім прыемным, мілым сьпевам<br>Пад лёгкім ветрыка павевам, –<br>Так гнуцца, гойдаюцца травы,<br>Як пройме ветрык іх ласкавы,<br>І пойдуць хвалі травяныя<br>З прыемным сьпевам чарадою,<br>Зашэпчуць краскі між сабою,<br>Нібы дзяўчаткі маладыя.<br>Эх, луг шырокі! Як жывы, ты,<br>Праменьнем сонейка залiты,<br>Стаiш у мяне прэд вачыма,<br>Ты мiл і смуцен, як радзіма,<br>Як наша ціхая старонка...[2] |

Усе праўкі лексічнага характару надаюць большую маляўнічасць гэтаму пейзажнаму малюнку, ствараюць адпаведны рытм, дзякуючы чаму радкі ў новай рэдакцыі гучаць больш эмацыянальна, узнёсла, больш паэтычна. Калі гаварыць пра канкрэтнасць малюнка, то відавочна, што ў другім варыянце Колас, нібы мастак-пейзажыст, ледзь-ледзь улоўнымі мазкамі менш акцэнтуе ўвагу на асобных дэталях (параўн.: *і ў шыр і ў доўж ён разсцілаўся – абапал Нёмна расьцілаўся; высокай мяккаю травою – мурожнай слаўнаю травою; прыгожых красак – пяшчотных тонаў; градкі травяные з прыятным пахам – хвалі травяныя з прыемным сьпевам*).

Ад гэтага коласаўскага «ледзь-ледзь» пейзажны малюнак застаецца ўвогуле канкрэтным і выразным, і разам з тым гэта канкрэтнасць набывае больш абагулены характар.

Акрамя таго, замяніўшы радок *«і ў шыр і ў доўж ён разсцілаўся»* на – *«абапал Нёмна расьцілаўся»,* паэт дасягнуў інтанацыйнага адзінства. З той

[1] Наша ніва. – 1912. – № 28–29.

[2] *Колас Я*. Новая зямля. – Менск, 1923. – С. 7.

жа мэтай Колас паправіў радок *«стаіш ў мяне перэд вачыма»* спачатку на – *«стаіш у мяне прэд вачыма»,* затым – *«стаіш у мяне прад вачыма»*[1] і, нарэшце, – *«увесь стаіш перад вачыма»*[2]. Відаць, аўтара не задавальнялі розныя «паэтычныя вольнасці» ў абыходжанні са словам (ужыванне *ў* пасля зычнага, слова *мяне* з ненарматыўным націскам), да таго ж яны не стваралі адпаведнага рытму. Таму паэт імкнуўся, наколькі гэта магчыма, знайсці такія словы і так іх арганізаваць, каб яны не толькі не парушалі адзінага рытму, адзінага эмацыянальнага гучання, але і моўнага «этыкету».

Колас надзвычай клапаціўся аб тым, каб апавяданне вялося ў адпаведным рытмічным ключы. Невыпадкова многія праўкі (нават самыя нязначныя) зроблены паэтам для таго, каб стварыць такі інтанацыйны малюнак, які б у поўнай меры выяўляў характар, адпаведны настрой таго ці іншага персанажа або апавядальніка. Вось толькі адзін прыклад такой працы:

Нясьліся зыкі песень здольных,
У лясох раз-по-раз адбівалісь,
Ім ўсюды ўзгоркі адклікалісь...[3].

Нясліся зыкі песень здольных,
У лясох раз-по-раз адбівалісь;
Ім ўзгоркі ўсюды адклікалісь...[4].

Нясьліся зыкі песень здольных,
У лясах раз-по-раз адбівалісь,
Ім узгоркі адклікалісь...[5].

Нясьліся зыкі песень здольных,
У лясах раз-по-раз адбівалісь,
І ім узгоркі адклікалісь...[6].

Спачатку, як бачым, паэт толькі памяняў месцамі словы *ўсюды* і *ўзгоркі,* але радок па-ранейшаму «спатыкаўся» на рытме. Гэта заўважалася, і тады слова *ўсюды,* якое не несла асаблівай сэнсавай нагрузкі, было зусім апушчана. Аднак і гэта не выратоўвала, таму што вершаваны радок загучаў наогул у іншым рытмічным ключы:

Ім ўзгоркі ўсюды адклікалісь
(ямб) –
Ім узгоркі адклікалісь
(харэй).

Рыхтуючы паэму для Збору твораў у 7-мі тамах, Колас пачаў радок са злучніка *і.* Таму радок адразу загучаў ва ўнісон з іншымі.

Што да ўжывання ў прыведзеным вышэй апісанні лугу слоў *ззяў, прыемным, праменнем,* замест *зьяў, прыятным, лучамі*[7], то гэтыя замены абумоўлены тым, што апошнія словы не ўласцівы сучаснай беларускай літаратурнай мове, з’яўляюцца ненарматыўнымі.

---

[1] *Колас Я*. Новая зямля. – Менск, 1927. – С. 6.
[2] *Колас Я*. Збор твораў у 7-мі т. – Т. 4. – Мінск, 1952. – С. 10.
[3] Наша ніва. – 1912. – № 28 – 29.
[4] *Колас Я*. Новая зямля. – Менск, 1923. – С. 6.
[5] *Колас Я*. Новая зямля. – Менск, 1927. – С. 4.
[6] *Колас Я*. Збор твораў у 7-мі т. – Т. 4. – Мінск, 1952. – С. 8.
[7] Слова *ззяў* (замест *зьяў*) ужыта ў выданні паэмы «Новая зямля» 1927 года (С. 5).

Калі адны праўкі рабіліся з мэтай надаць тым ці іншым апісанням больш абагулены характар, то другія, наадварот, тлумачацца імкненнем аўтара да гранічнай канкрэтнасці малюнка, эпізода і г. д. Для прыкладу параўнаем бытавую замалёўку з раздзела «Раніца ў нядзельку»:

Дзень быў сьвяты. Ешчэ ад раньня
Пяклісь аладкі на сьнеданьне,
І ўжо пры печы з чэпялою
Стаяла маці. Пад рукою
Таўкалісь дзеці, замінալі,
Сьмеялісь, плакалі, сьпевалі.
Услон заняў сваё ўжо места.
На ім стаяла ражка цеста,
І апалонік то і дзела
Па ражцы боўтаў жвава, сьмела
І кідаў цеста ў скавародкі;
Давало піск яно кароткі,
Па скавародах разлівалось
І ў вочавідкі запекалось,
І ўжо адтуль рукою маткі
На зэдаль кідалісь аладкі,
А дзеці іх даўно чэкалі
І на ляту блінцы хапалі.
Ды маслам мазалі ці здорам.
Стаяў асобна ў місцы скорам
Сяго-таго для верашчакі
Хоць не вялікіе прысмакі
Цыбуля, перчык – ўся прыправа,
Але ўсё-ж сьнеданьне цікава.
А для дзяцей найбольшэ сьвята
Пад’есьці смачна і багата,
І звон аб прыпек скавародны
Сьпеваў ў іх душах з дзіўнай сілай,
Знімаў с пасьцелей песьней мілай
Так блізкі сэрцу, так ім родны[1].

Дзень быў сьвяты. Яшчэ ад раньня
Блінцы пякліся на сьняданне,
І ўжо пры печы з чапялою
Стаяла маці... Пад рукою
Таўкліся дзеці, замінալі,
Або сьмяяліся, сьпявалі.
Услон заняў сваё ўжо места.
На ім стаяла ражка цеста,
І апалонік то і дзела
Па ражцы боўтаў жвава, сьмела
І кідаў цеста ў скавародкі.
Давала піск яно кароткі,
Льючыся з шумам на патэльні,
І ў жар стаўлялася пякельны.
І там з яго ўжо ў вачавідкі
Пякліся гладзенькія пліткі
Блінцоў, спаднізу наздраватых,
Угору пышна, пухла ўзьнятых,
І ўжо адтуль рукою маткі
На ўслон шпурляліся аладкі,
А дзеці іх даўно сачылі
І наляту блінцы лавілі,
Заядла мазалі іх здорам.
Стаяў асобна ў місцы скорам,
Сяго-таго для верашчакі.
Хоць невялікія прысмакі –
Цыбуля, перчык, ліст бабкоў
Ды сальца некалькі брускоў.
Мука і квас – і ўся прыправа,
Але ўсё-ж сьнеданне цікава;
А для дзяцей найбольша сьвята,
Абы наесьціся заўзята.
І звон аб прыпек скавародны,
Так блізкі сэрцу, так ім родны,
У нейкім радасным настрою
Сьпяваў ім песьняю сьвятою
І лашчыў сэрцы іх і вушы
І поўніў радасьцю ім душы,
Такі прыемны, мілагучны,
У тэй прыемнасці выключны,
Ён разьліваўся па ўсім целе
І ў момант іх зьнімаў з пасьцелі[2].

[1] Наша ніва. – 1912. – № 39.
[2] *Колас Я*. Новая зямля. – Менск, 1923. – С. 12–13.

Дапрацоўваючы гэтыя радкі, Колас зрабіў перш за ўсё лексічныя праўкі. Слова *аладкі* заменена словам *блінцы* (з суфіксам эмацыянальнай ацэнкі). Лексічны дыялектызм *зэдаль* выкарыстоўваецца ў першапублікацыі як сінонім слова *ўслон.* Аднак гэта, як і ўжыванне семантычнага дыялектызма *ражка,* а таксама слоў *плакалі, кідалісь, чэкалі,* вяло да таго, што паэтычныя фарбы бляклі. Намінатыўную функцыю гэтыя словы выконвалі дакладна, але ў творы яны неслі нагрузку чыста інфармацыйную, а не паэтычную. Ды і ўвогуле ўся бытавая замалёўка хоць і вызначалася дакладнасцю, але мела апісальны характар. Акрамя таго, і з боку стылю яна не вызначалася адзінствам. Параўнаем: *«услон заняў сваё ўжо места», «апалонік то і дзела па дзежцы боўтаў жвава, сьмела і кідаў цеста ў скавародкі», «таўкалісь дзеці, заміналі, сьмеялісь, плакалі, сьпевалі», «даўно чэкалі», «ды маслам мазалі ці здорам».* З аднаго боку – незвычайны дынамізм падзей, такі калаўрот, калі ажываюць нават звычайныя бытавыя рэчы; з другога – змена настрою, рытму ў дзеяннях дзяцей. Верагодна, яно так і было. Але, стаўшы фактам паэзіі, усё гэта павінна быць сказана на адным дыханні. Спачатку, як бачым, не зусім добра атрымалася, таму Колас, рыхтуючы паэму да выдання асобнай кніжкай, перапрацаваў гэту бытавую замалёўку: слова *плакалі* зусім апусціў, словы *кідалісь, зэдаль, чэкалі* замяніў адпаведна словамі *шпурляліся, услон, сачылі*[1]; выразы, якія расслаблялі, запавольвалі рытм, перапрацаваў (параўн.: *«ды маслам мазалі ці здорам»* і *«заядла мазалі іх здорам»; «пад'есьці смачна і багата» і «абы наесціся заўзята»*); сказы, што сваёй інтанацыйнай структурай не «ўпісваліся» ў адзіны рытмічны малюнак, дапоўніў новымі словамі, цэлымі паэтычнымі радкамі. І малюнак нібы ажываў, бо коласаўскае «ледзь-ледзь», свежыя фарбы, новыя дэталі ператварылі звычайную бытавую замалёўку ў паэтычны абразок, поўны мяккага гумару і замілавання. І міжволі прыходзіць на памяць крылатае выказванне рускага мастака К. П. Брулова: «Мастацтва пачынаецца там, дзе пачынаецца ледзь-ледзь»[2].

Колас быў надзвычай патрабавальным мастаком. Радкі сваёй паэмы ён правіў і перапрацоўваў да таго часу, пакуль не знаходзіў найлепшы варыянт, пакуль не дасягаў гарманічнага адзінства зместу і формы. Гэта асабліва праявілася ў час падрыхтоўкі тэксту «Новай зямлі» да выдання асобнай кніжкай. Дастаткова сказаць, што толькі ў раздзеле «Раніца ў нядзельку» аўтар зрабіў каля 100 правак лексічнага і граматычнага характару (замяняў або зусім апускаў тыя ці іншыя словы, формы слоў, змяняў парадак слоў у словазлучэннях і сказах і інш.), акрамя таго, дапісаў больш 100 новых паэтычных радкоў.

Многія тэкставыя праўкі ў паэме Коласа звязаны з дакладнасцю словаўжывання. Гэта было адным з асноўных эстэтычных патрабаванняў паэта, та-

---

[1] Слова *дзежка* замест *ражка* Колас ужыў у выданні паэмы «Новая зямля» 1927 г. (С. 11.).

[2] *Сухотина-Толстая Т. Л.* Друзья и гости Ясной Поляны. – М., 1923. – С. 46–47; *Толстой Л. Н.* Собр. соч. в 20-ти томах. – Т. 15. – М., 1964. – С. 156.

му што слова для пісьменніка – «асноўная канва, па якой будуе ён сваю мастацкую творчасць. І не толькі паасобнае слова, як такое, павінна стаяць у цэнтры ўвагі пісьменніка: ён павінен адводзіць максімум увагі і спалучэнню слоў як у сказах, так і ў агульным плане ўсіх элементаў, з якіх складаецца мастацкі твор: апісанне, дыялогі, абрысоўка характараў, падача сцэн і г. д.» (*92*).

Клопат пра дакладнасць словаўжывання для Коласа – перш за усё клопат пра сэнсавую дакладнасць, імкненне знайсці такое слова і паставіць яго ў такую моўную сітуацыю, дзе б яно раскрывала ўсю гаму сваіх сэнсавых адценняў. І працуючы над паэмай, паэт знаходзіў адпаведныя словы. Параўнаем, напрыклад:

| | |
|---|---|
| Будоўля *горш* ешчэ старая<br>(*НН-12, № 28–29*); | Будоўля *больш* яшчэ старая<br>(*НЗ-23, с. 10*); |
| Цяпер яны *панаедалісь,*<br>Гульнёй дзяцінаю *займалісь*<br>(*НН-12, № 39*); | Цяпер, *здаволіўшысь ядою,*<br>Дзяцінай *цешылісь* гульнёю<br>(*НЗ-23,* с. *13*); |
| Пайшла ў крыніцу і *памыла*<br>*На прызьбі сохнуць палажыла*<br>(*НН-12, № 39*); | Пайшла ў крыніцы *спаласнула*<br>*Сушыцца ўскінула на шула*<br>(*НЗ-23, с. 15*); |
| Ад Бога думкі *раскідае*<br>(*НН-12, № 39*); | Ад Бога думкі *адкідае*<br>(*НЗ-23, с. 16*); |
| Чым служба больш *надоедала,*<br>Тым *дужэй* бацьку прыцягала<br>Свая зямелька... (*НН-13, № 1*) | І чым больш служба *дакучала,*<br>Тым *болей* бацьку прыцягала...<br>(*НЗ-23, с. 24*).[1] |

Праца над дакладнасцю словаўжывання была настолькі важнай, што Колас замяняў не толькі адно слова іншым, але нават адну форму слова іншай яго формай, напрыклад:

З-за рэчкі ціснуцца каровы.
Кароўкі з лесу паказалісь.
Трушком йшла ўперэдзі Красуля,
За ёю Лысая. Рагуля
Ды дзве перазімкі-цялушкі
Ішлі згодна парай, як дзве дружкі.
А ззаду чмыхаў бык Мікіта,
Хвастом матаючы сярдзіта.
А авадні як рой пчаліны,
Сляпіцай лезлі да скаціны
І тхнуць кароўкам не давалі,
Галопам бегчы запраўлялі[2].

Ідзе паперадзе Красуля,
За ёю Лысая, Рагуля
Ды дзве пярэзімкі-цялушкі
Ідуць у згодзе, як дзве дружкі.
А збоку чмыша бык Мікіта,
Хвастом матаючы сярдзіта.
А авадні, як рой пчаліны,
Сьляпіцай лезуць да скаціны,
Гудуць драпежна, тнуць балюча,
Бы крапіва тая пякуча,
Дыхнуць каровам не даюць,
Каровы злосныя бягуць,
Адна другую б’юць рагамі
І толькі тухкаюць нагамі...[3].

[1] Тут прыняты наступныя скарачэнні: НН-12 – «Наша ніва», 1912; НН-13 – «Наша ніва», 1913; НЗ-23 – «Новая зямля». Менск, 1923.

[2] Наша ніва. – 1912. – № 39.

[3] *Колас Я*. Новая зямля. – Менск, 1923. – С. 15.

У другім варыянце карціна вяртання статка з пашы выпісана больш жыва і пластычна. Гэтага паэт дасягнуў не толькі заменай адных слоў іншымі, не толькі ўвядзеннем новых слоў і радкоў, але і заменай формы прошлага часу дзеясловаў формай цяперашняга часу (*паказалісь – ціснуцца, йшла – ідзе, ішлі – ідуць, чмыхаў – чмыша* і г. д.). У даным выпадку паэт свядома выкарыстаў форму так званага цяперашняга гістарычнага часу, каб жыва і эмацыянальна расказаць пра звычайны бытавы факт і такім чынам ператварыць яго ў факт паэтычны.

Замены форм трывання таго ці іншага дзеяслова таксама сведчаць аб тым, што Колас імкнуўся да выключнай сэнсавай дакладнасці. Параўнаем:

| | |
|---|---|
| Алесь не рад быў, што пытаўся,<br>У кут ён борздзенька хаваўся[1]. | Алесь не рад быў, што спытаўся,<br>І ў кут ён борздзенька хаваўся[2]. |

У першым варыянце выкарыстаны дзеясловы незаконченага трывання (*пытаўся, хаваўся*), а ў другім – форма незаконченага трывання *пытаўся* заменена формай законченага трывання *спытаўся.* Пры гэтым форма дзеяслова *хаваўся* засталася нязменнай. Агульны сэнс кантэксту ад гэтага ўвогуле не змяніўся. Аднак відавочна, што форма законченага трывання дзеяслова (*спытаўся*) тут больш да месца, паколькі для аўтара прынцыпова важна канкрэтызацыя факта як адзінкавага, чым проста ўказанне на тое, што дзеянне адбылося (*пытаўся*).

Высокая патрабавальнасць Коласа да слова на працягу ўсёй яго творчай дзейнасці звязвалася з клопатам пра чысціню мовы. Як падкрэсліваў паэт, пра гэта асабліва павінны дбаць вядомыя пісьменнікі, таму што нават «невялікія моўныя неахайнасці ў іх творах, дапушчаныя ці праз недагляд, ці праз паспешлівасць, успрымаюцца літаратурнай моладдзю як канон, пашыраюцца ў новых творах і пагражаюць небяспекай стаць моўнай нормай» (*432*). Назіранні над працай Коласа паказваюць, што многія праўкі лексічнага характару зроблены з улікам моўнай нормы. Так, у працэсе працы над тэкстам «Новай зямлі» паэт замяняў дыялектныя словы і формы, а таксама словы і формы, характэрныя рускай мове, такімі словамі і формамі, якія набылі статус нормы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Напрыклад, словы і формы *хмурны, прыятны, тэй, оздух* (*воздух*), *кождым, вагнуўшайся, мейсцо, адчотліва, расчот, от, не акараскацца, сустрачалі, кожэн, уласць, нашчот,* ужытыя ў першапублікацыі асобных раздзелаў, былі пазней заменены адпаведна словамі і формамі *хмуры, прыемны, той, паветра, кожным, вагнутаю, месца, выразна, разлік, вось, не адкараскацца, сустракалі, кожны, улада, наконт.*

Што да прастамоўных слоў, то іх ужыванне абумоўлівалася выключна стылістычнымі мэтамі, той мастацкай функцыяй, якую павінны яны выконваць у творы. Параўнаем для прыкладу наступныя радкі:

[1] Наша ніва. – 1913. – № 1.
[2] *Колас Я*. Новая зямля. – Менск, 1923. – С. 26.

– Ну, што? Намазаліcь аладак?
Жартуе дзядзька тут з малымі,
Ідучы ў хату разам з імі.[1]

Між ім і бацькам Костусь ўсеўся;
Аладак ён даўно наеўся...[3]

– Ну, што? Наеліся аладак?
Жартуе дзядзька тут з малымі
Ды йдзе ўжо ў хату разам з імі[2].

Кастусь сядзеў між ім і татам;
Ён да яды ня так быў падак,
Бо ўжо намазаўся аладак...[4]

У першым выпадку прастамоўнае слова *намазаліcь* Колас замяніў пры падрыхтоўцы паэмы да друку стылістычна нейтральным словам *наеліся.* Гэта важна было для характарыстыкі дзядзькі Антося. З другога боку, пры апісанні снедання сям'і Міхала, наадварот, слова *наеўся* паэт замяніў словам *намазаўся,* таму што яно вельмі дакладна характарызавала Кастуся, які паспяшаўся пад'есці да таго, пакуль уся сям'я сядзе за стол.

Такім чынам, аналіз карпатлівай працы Я. Коласа над мовай паэмы «Новая зямля» паказвае, што разнастайныя па свайму характару праўкі рабіліся ў адпаведнасці з тымі высокімі эстэтычнымі патрабаваннямі, якія ставяцца да мовы мастацкай літаратуры. Карыстаючыся жывой народнай гаворкай, якая з малаком маці ўвайшла ў яго істоту, Я. Колас апрацоўваў гэту мову, узнімаў яе да ўзроўню літаратурнай і на яе жыватворнай аснове стварыў класічны мастацкі твор, выключны па сваёй паэтычнасці, вялікай і мудрай прастаце. Чытаеш радкі паэмы і хочацца паўтарыць словы Л. М.Талстога: «Як ні дзіўна гэта сказаць, а мастацтва (художество) патрабуе яшчэ большай дакладнасці, précision, чым навука».

# ДА ПЫТАННЯ АБ ПАРАЎНАЛЬНЫМ ВЫВУЧЭННІ БЕЛАРУСКАГА І РУСКАГА ТЭРМІНАЎТВАРЭННЯ[*]

Праблема ўпарадкавання навуковых тэрміналогій развітых нацыянальных моў з'яўляецца ў наш час асабліва вострай і патрабуе неадкладнага вырашэння.

Сучасная беларуская навуковая тэрміналогія – даволі развітая сістэма, якая абслугоўвае многія сферы жыцця і дзейнасці беларускага народу. Ад-

[1] Наша ніва. – 1912. – № 39.
[2] *Колас Я*. Новая зямля. – Менск, 1923. – С. 16.
[3] Наша ніва. – 1913. – № 1.
[4] *Колас Я*. Новая зямля. – Менск, 1923. – С. 20.
[*] Першая публікацыя ў выданні: Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур. Тэзісы дакладаў і паведамленняў II рэспубліканскай канферэнцыі (17–19 мая 1973 г.). – Мінск, 1973. – С. 142–144.

нак у навуковым стылі па-ранейшаму ўжываюцца шматлікія тэрміны-дублеты, сярод якіх выдзяляюцца намінатыўна-тэрміналагічныя адзінкі, утвораныя пры дапамозе розных словаўтваральных сродкаў. Між тым упарадкаваная тэрміналогія павінна характарызавацца такім адзінствам сістэмы паняццяў і сістэмы знакаў, дзе кожны тэрмін з'яўляецца сістэмным у плане зместу і ў плане выражэння.

Сістэма паняццяў у кожнай галіне ведаў мае адпаведную сістэму лексічных абазначэнняў, якая дакладна, без спрашчэння і ўскладнення, адлюстроўвае ўсе тыя аб'екты, што з'яўляюцца прадметам вывучэння данай навукі.

Пры ўпарадкаванні існуючых тэрміналагічных сістэм неабходна найперш імкнуцца да таго, каб выразіць класіфікацыю паняццяў той ці іншай галіны ведаў у адпаведнай структуры і форме тэрмінаў. Аднак у сувязі з тым, што некаторыя пытанні тэорыі тэрміна ў беларускім мовазнаўстве застаюцца слаба распрацаванымі, гэта патрабаванне не заўсёды вытрымліваецца, і на старонках сучасных беларускіх выданняў даволі часта выкарыстоўваюцца марфалагічныя тэрміны-дублеты, напрыклад: *сушка – сушэнне, выпраменьванне – выпрамяненне, часціца – частачка – часцінка* і пад.

У асобных выпадках гэтага можна было б пазбегнуць, калі б у дастатковай меры ўлічваўся вопыт па стандартызацыі тэрміналагічнай лексікі ў іншых мовах, асабліва ў рускай (тым больш, што многія беларускія тэрміны ствараліся па ўзору адпаведных рускіх тэрмінаў). Так, напрыклад, у рускай мове тэрмінаэлементы *словообразующая* (*приставка*), *формообразующая* (*приставка*) і *производящая* (*основа*) утвораны па адной словаўтваральнай мадэлі і з'яўляюцца лексічна сістэмнымі. Адпаведныя тэрмінаэлементы ў беларускай мове (*словаўтваральная, формаўтваральная* і *ўтвараючая*) не вызначаюцца лексічнай сістэмнасцю, паколькі маюць розныя фармальныя паказчыкі. Таму за норму мэтазгодна прыняць тэрмін *утваральная* аснова, які нядаўна пачаў выкарыстоўвацца некаторымі беларускімі лінгвістамі. Параўнанне тэрмінаў рускай мовы *окислитель, восстановитель* з адпаведнымі беларускімі *акісляльнік* і *аднавіцель* таксама сведчаць, што патрабаванне лексічнай сістэмнасці не ўлічана: суфіксы -*нік* і -*цель* сінанімічныя сваім словаўтваральным значэннем, але для тэрміналогіі істотна і чыста фармальная тоеснасць.

Увогуле параўнанне і супастаўленне фактаў тэрмінаўтварэння беларускай і рускай моў дазваляе, з аднаго боку, выявіць агульныя рысы, характэрныя для адной і другой мовы, а з другога – вызначыць і асэнсаваць асаблівасці, тыпалагічна рэлевантныя для беларускай мовы. У самых агульных рысах такое лінгвістычнае апісанне можа весціся ў наступным плане:

а) стварэнне сістэматызаванага слоўніка тэрмінаў, які б адлюстроўваў сістэму паняццяў той ці іншай навукі;

б) вылучэнне на аснове слоўніка тэрмінаў асобных падсістэм, мікрасістэм і тэрміналагічных радоў, у асноўным кіруючыся тым, паняцці якой класіфікацыйнай групы ў лагічнай схеме навукі даныя тэрміны абазначаюць;

в) аналіз (у межах падсістэм і радоў) асобных тэрміналагічных адзінак у адпаведнасці з тымі патрабаваннямі, якія ставяцца да гэтага пласта лексікі ў сучасным мовазнаўстве;

г) вылучэнне тыпалагічнай структуры тэрмінаў, характару тэрміналагічных значэнняў асноў, каранёў і афіксаў як унутры асобных мікрасістэм і тэрміналагічных радоў, так і ў сістэме ўсёй тэрміналогіі той ці іншай навукі ўвогуле.

Такое даследаванне беларускай тэрміналагічнай лексікі, калі яно вядзецца на ўзроўні сінхраніі і дыяхраніі і шляхам параўнання з адпаведнымі моўнымі адзінкамі рускай (як і іншых роднасных моў), дасць магчымасць падрабязна ахарактарызаваць метадалогію тэрмінаўтварэння, распрацаваць своеасаблівы «алгарытм» для ўтварэння тэрмінаў і перайсці да свядомай і мэтанакіраванай тэрмінатворчасці.

# ТЭРМІНАЛАГІЧНЫЯ РЭГІЯНАЛІЗМЫ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЕ ПАЧАТКУ XX ст.*

Новая беларуская літаратурная мова ўзнікла на базе жывой народнай гаворкі. На гэтай агульнай аснове ў нейкай ступені акрэсліліся ў XIX ст. мастацка-белетрыстычны, грамадска-публіцыстычны і размоўна-бытавы стылі, хоць ярка выражаных адрозненняў у арганізацыі мовы яны яшчэ не мелі.

У пачатку XX ст. у сувязі з пашырэннем кнігадрукавання, са з'яўленнем легальнай беларускай прэсы, з выхадам у свет асобных часопісаў, кніг і брашур навукова-папулярнага характару поруч з гэтымі стылямі пачалі складвацца своеасаблівыя формы і прыёмы навуковага выказвання, пачала фарміравацца беларуская навуковая тэрміналогія. На старонках тагачасных беларускіх выданняў друкаваліся матэрыялы і паведамленні на розныя навуковыя тэмы (гістарычныя, эканамічныя, сельскагаспадарчыя, мовазнаўчыя, літаратуразнаўчыя, астранамічныя, геаграфічныя, біялагічныя, медыцынскія і інш.), у сувязі з чым для намінацыі і дэфініцыі асобных паняццяў выкарыстоўваліся адпаведныя тэрміналагічныя адзінкі. Пры гэтым аўтары імкнуліся выкарыстаць выяўленчыя магчымасці беларускага слова і ў сваёй моўнай практыцы арыентаваліся на жывую народную гаворку. У выніку яны свядома ўводзілі ў сферу спецыяльнай камунікацыі асобныя рэгіяналізмы, надаючы ім функцыю тэрмінаў, напрыклад: Мейсцэ мае пекнае, бо раскінуўся між

* Першая публікацыя ў выданні: Рэгіянальныя асаблівасці беларускай мовы, літаратуры і фальклору. Тэзісы дакладаў рэспубліканскай навуковай канферэнцыі (25–26 мая 1973 г.). – Гомель, 1973. – С. 36–38.

дзьвюх рэк – Дзьвіны і Дзісенкі; апошняя пры *сутоках* сваіх з Дзьвіною хоць і мелкая, але тож шырокая рэка, а ў часе вясенных паводак падыймаецца часамі на сажэней пяць і залівае шырокі пас зямлі – больш *удолы*, на каторых пасьля такіх *растопаў* расьце пекная трава, бо зямліца ад гэтых *растопаў* здабрываецца ілам («Наша ніва», 1909). Тую сілу, каторая ў форме пяруноў зніштажае дабро і забівае людзей, чэлавек па *дротах* пусьціў асьветляць электрычные лямпы, круціць машыны («Наша ніва», 1912). У працэсе моўнай практыкі такія словы, як правіла, не атрымлівалі пашырэння і выходзілі са сферы навуковага ўжывання.

Не замацоўваліся таксама ў складзе тэрміналагічнай лексікі вузкія дыялектызмы, якія выкарыстоўваліся пры апісальных канструкцыях і прыводзіліся ў дужках з аўтарскімі заўвагамі тыпу «называюць месцамі», напрыклад: Калівы пустые, што не выдаюць насеньня, растуць летам і восенню, а тые калівы, што выдаюць насеньня, з'яўляюцца вясной, як толькі сьнег згоніць (называюць іх мейсцамі *гігелямі*) і ўжо ў маі пасьпеваюць («Саха»).

Значна часцей у якасці намінатыўна-тэрміналагічных адзінак ужываліся словы, якія не былі абмежаваны толькі асобнымі гаворкамі (хоць і не з'яўляліся агульнавядомымі), напрыклад: *Хвошч* (мейсцамі яго называюць скрыпам) расьліна многалетняя, разрастаецца с каранёў («Саха»). Падобныя лексічныя рэгіяналізмы адпавядалі тэндэнцыям развіцця беларускай літаратурнай мовы і замацоўваліся ў складзе тэрміналогіі. Не выпадкова М. Гарэцкі ў 1914 г. пісаў: «Увага! Калі ёсць гдзе у кутках Беларусі слова на вышэйшае ("отвлеченное") паняцце. (Гродзеншч., лятуцецъ – мечтать) ці добры тэхнічны тэрмін і т. д., каторых ніхай сабе йшчэ і ня ведаюць усе беларусы, дык іх варта увясьці у нашу літаратурную мову, чымся пазычаць у суседаў».

На жывую народную мову арыентаваліся пры выпрацоўцы нацыянальнай тэрміналогіі і члены Беларускай навукова-тэрміналагічнай камісіі, створанай у савецкі час. «Што датыча самога характару тэрміналогіі, то ў аснову яе браліся словы, існуючыя ў жывой народнай мове, як астача (остаток), хмызьняк (заросль), насеньне (семена), паравальне (испарение) і г. д», – адзначалася ў «Весніку НКА» (1921). Аднак пры аналізе такіх слоў у кожным канкрэтным выпадку неабходна вызначыць, з'яўляюцца яны агульнавядомымі, дыялектна абмежаванымі ці аўтарскімі неалагізмамі, утворанымі на ўзор адпаведных слоў з тагачаснай жывой народнай гаворкі.

Увогуле пачатковы этап фарміравання беларускай навуковай тэрміналогіі характарызуецца тым, што ў якасці тэрмінаў у сферы спецыяльнай камунікацыі ўжываліся (наколькі гэта было магчыма) словы з гутарковай мовы, бо, як пісаў В. У. Вінаградаў, «усякая навука пачынае з вынікаў, здабытых мысленнем і мовай (речью) народа, і ў далейшым у сваім развіцці не адрываецца ад народнай мовы».

# БЕЛАРУСКІЯ МАТЭМАТЫЧНЫЯ ТЭРМІНЫ ПАЧАТКУ XX ст.*

Гістарычны лёс беларускай літаратурнай мовы склаўся так, што на працягу ўсяго XIX ст. яна развівалася амаль выключна ў стылі мастацкай літаратуры і часткова публіцыстыкі. Толькі ў пачатку XX ст., калі выйшлі першыя легальныя газеты, з'явіліся навуковыя і навукова-папулярныя выданні, у беларускай літаратурнай мове пачалі складвацца своеасаблівыя формы і прыёмы навуковага выказвання. І хоць гэтыя нешматлікія, але разнастайныя навуковыя паведамленні не вызначаліся яшчэ шырынёй тэматыкі і ў стылістычных адносінах мала чым адрозніваліся ад размоўна-бытавога стылю, лексічная сістэма беларускай літаратурнай мовы стала папаўняцца сродкамі намінатыўна-тэрміналагічнага характару. Аднак некаторыя даследчыкі гэтага не ўлічваюць і працягваюць сцвярджаць, што тэрміналагічная лексіка ў сучаснай беларускай літаратурнай мове пачала складвацца толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, робяць неабгрунтаваныя вывады адносна часу ўзнікнення паасобных беларускіх тэрмінаў[1]. Таму зразумела, што вывучэнне на матэрыяле беларускіх дакастрычніцкіх выданняў пачатку XX ст. лексічных сродкаў тэрміналагічнага характару дазволіць прыйсці да больш канкрэтных і аб'ектыўных вывадаў аб асаблівасцях фарміравання беларускай нацыянальнай тэрміналогіі і будзе садзейнічаць больш дакладнаму гістарычнаму апісанню спецыяльнай лексікі той ці іншай галіны ведаў.

У гэтым артыкуле мы зробім некаторыя назіранні над семантыкай і структурай асобных лексічных знакаў, што выкарыстоўваліся на старонках беларускіх дакастрычніцкіх выданняў пачатку XX ст. для абазначэння паняццяў элементарнай матэматыкі. Сярод гэтых моўных адзінак тэрміналагічнага характару сустракаюцца словы і спалучэнні слоў для намінацыі і дэфініцыі:

а) некаторых агульных паняццяў арыфметыкі як навукі пра цэлыя і рацыянальныя лікі і розныя дзеянні над імі: *арыфмэтыка* (*арытмэтыка*), *лічэньне, лік, вылічаньне, счысленьне, спосаб лічэньня, спосаб ліку, спосаб, чыннасць, лічыць, рахаваць, рахункі, выдзяленьне цэлага, раздрабленьне, перэварачываньне;*

б) паняццяў, суадносных з паасобнымі арыфметычнымі дзеяннямі: *складаньне, лік просты, складанае, складанка, злічво, складаць, дадаваць, злічыць, далічыць; адлічаньне, зменшанае, адлічанае, астатак, адлічаць, адні-*

* Першая публікацыя ў выданні: Веснік БДУ. Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. – 1975. – № 1. – С. 25–30.

[1] Гл., напр.: *Крывіцкі А. А.* Наша родная мова. – Мінск, 1973. – С. 117.

*маць; множэньне, множнае, множнік, множыва, множыць; дзяленне, дзельнае, дзельнік, дзель, астатак, дзяліць;*

в) паняццяў, звязаных з абазначэннем лікаў: *лік, чысло, лічба, цыфра, адназначные лічбы, двохзначные лічбы, мнагазначные лічбы; дроб, дробня, дробня прасьцейшая, дробня правільная, дробня няправільная, чысліцель, знаменацель, часьць, часьціна, цэлая лічба, цэлае, нуль, адзінка, дзесятка, сотка, тысяча, мільён, мільярд.*

Акрамя таго, сустрэліся такія моўныя адзінкі, як *задача, умова задачы, задачнік, адказ, працэнт, складанае чысло*.

Магчыма, не ўсе гэтыя словы і спалучэнні трэба разглядаць як тэрміны, аднак ужываліся яны пераважна ў тых выпадках, калі размова вялася пра розныя аперацыі над лікамі, пра навучанне арыфметыцы. Выдзеленыя на ідэаграфічнай аснове асобныя лексіка-семантычныя групы тэрміналагічных адзінак функцыянальна адпавядаюць у лагічнай схеме навукі пэўнаму класіфікацыйнаму раду сумежных матэматычных паняццяў. Гэтыя класіфікацыйныя рады лагічна звязаных паміж сабой паняццяў адпаведным чынам суадносяцца паміж сабой, а ў пэўных сегментах перакрыжоўваюцца ці проціпастаўляюцца. Таму і ў паасобныя лексіка-семантычныя групы ўваходзяць словы і спалучэнні слоў, якія: 1) характарызуюцца адназначнымі суадносінамі азначальнага з азначаным (адзін тэрмін – адно паняцце); 2) абазначаюць не адно, а некалькі паняццяў (адзін тэрмін – некалькі паняццяў); 3) суадносяцца з адным і тым жа паняццем (некалькі тэрмінаў – адно паняцце); 4) выражаюць паняцці, што ўваходзяць у розныя класіфікацыйныя рады і лагічна проціпастаўляюцца (*складаньне – адлічаньне, множэньне – дзяленьне* і да т. п.).

Такім чынам, у плане зместу сярод аналізуемых слоў і спалучэнняў вылучаюцца монасемічныя, полісемічныя, сінанімічныя і антанімічныя моўныя адзінкі.

Многія тэрміналагічныя адзінкі характарызуюцца адназначнасцю, выразнай і дакладнай суаднесенасцю з тым матэматычным паняццем, для намінацыі і дэфініцыі якога выкарыстоўваюцца: *складаньне, множэньне, множнік, дзяленьне, дзельнік, дзель, дроб, знаменацель, чысліцель*. Названыя і некаторыя іншыя тэрміны ва ўсіх выпадках ужывання вызначаліся адназначнасцю і даволі высокай ступенню дакладнасці. Толькі асобныя словы-тэрміны абазначалі не адно, а некалькі паняццяў, напрыклад:

– Найпрасьцейшы спосаб лічэньня – гэта злічыць разам некалькі чысел. ... новае чысло, каторае ад гэтаго ліку дастаем, – злічво[1];

– Навука тэорыі – гэта злічво і праверка пройдзенага (I).

---

[1] *Юрэвіч Г.* Задачнік для пачатковай школы. Першы год навукі. – Вільня, 1916. – С. 3.

Г. Юрэвіч з’яўляецца аўтарам і другога дапаможніка – «Задачніка для пачатковай школы. Другі і трэйці год навукі» (Вільня, 1916). Пры спасылках першы задачнік у дужках абазначаецца рымскай лічбай I, другі – лічбай II.

У першым прыкладзе слова *злічво* ўжыта для абазначэння выніку, які атрымліваецца пры складанні лікаў, у другім жа – значэнне данага слова шырэйшае, аднак дакладна акрэсліць яго семантычны аб'ём з прыведзенага кантэксту немагчыма.

Два паняцці абазначаў таксама тэрмін *астатак*:

– Другі спосаб – гэта той, калі трэба ад аднаго чысла, большаго, адняць другое, меншае... Тое, што астаецца, называецца астатак (І).

– Калі пры дзяленьні лічб выходзе астатак, то на дзелі трэба дапісаць дробню, чысліцель каторай ровен астатку, а знаменацель дзельніку (ІІ).

Відавочна, што ў першым выпадку тэрмін *астатак* ужыты для намінацыі і дэфініцыі выніку аднімання, а ў другім – велічыні, якая атрымліваецца пры адніманні ад дзялімага здабытку дзельніка на цэлую дзель. Падобнае выкарыстанне адзначаных тэрмінаў тлумачыцца тым, што пры перакладзе задачніка на беларускую мову не былі дакладна акрэслены, асэнсаваны і размежаваны паняцці, якія часткова перакрыжоўваліся, накладваліся адно на другое. Але паколькі яны ўваходзілі ў розныя класіфікацыйныя рады, то патрэбны былі і адпаведныя намінацыі.

Некаторыя тэрміны не зусім дакладна выражалі сутнасць матэматычнага паняцця. Так, тэрмін *мешаные іменные лічбы* ўжываўся як сродак абазначэння састаўных лікаў з назвамі тых адзінак, з якіх яны складаюцца (напрыклад, 18 руб. 7 кап.; 52 пуды 16 фунтаў 3 лоты 2 залатнікі і пад.). Аднак значэнне гэтага тэрміна можна вызначыць толькі з кантэксту. Аналагічная з'ява назіраецца і ва ўжыванні такіх намінацый, як *лік, лік просты, пэрэварачываньне, разрадные лічбы* і інш.

Асобныя матэматычныя паняцці абазначаліся не адным, а некалькімі словамі ці спалучэннямі. Дублетнасць – даволі пашыраная з'ява сярод аналізуемых тэрміналагічных адзінак, напрыклад: *дроб*[1] *– дробня, лік просты – лік – складаньне, лік – лічэньне, злічво – сума, цыфра – лічба – число, часьць – часьціна, цэлая лічба – цэлае*. Такія дублетныя рады – вынік намінацыі і дэфініцыі таго ці іншага матэматычнага паняцця рознымі тэрміналагічнымі знакамі на старонках розных выданняў: *дроб*[3] *– дробня* (ІІ); *цыфра*[2] *– лічба*[3] *– число* (І); аднаго і таго ж выдання: *лік просты – лік – складаньне* (І). Вось характэрны прыклад: Дзеля абазначэньня дробні ўжываюцца дзьве лічбы: адна паказывае, на сколькі роўных *часьцей* раздзелена адзінка, і лічба гэта называецца знаменацелям дробні; а другая паказывае, сколькі гэткіх *часьцін* поўніцца ў дробні, і гэта лічба назывецца чысьліцелям дробні (ІІ). Тлумачыцца гэта перш за ўсё тым, што беларуская літаратурная мова развівалася ў неспрыяльных умовах і выкарыстанне тых ці іншых лексічных

---

[1] *Околовіч П.* Рады для эмігрантоў, каторые едуць у Амэрыку, а такжэ размовы беларуска-англіцкіе. – Вільня, 1912. – С. 59.

[2] Наша ніва. – 1909. – № 34.

[3] Беларускі лемэнтар, або Першая навука чытання. – Пб., 1906. – С. 28.

сродкаў нічым не рэгламентавалася. Таму, калі вынікала патрэба азначыць якое-небудзь навуковае паняцце, аўтары пры выбары, стварэнні ці запазычанні слова са спецыяльным значэннем часам кіраваліся суб’ектыўнымі меркаваннямі. У выніку адно і тое ж паняцце на старонках розных выданняў абазначалася па-рознаму. Што да выкарыстання тэрмінаў-дублетаў адным і тым жа аўтарам, то, на нашу думку, гэта тлумачыцца наступным. Стыль навуковага выказвання беларускай літаратурнай мовы толькі пачынаў складвацца, таму нешматлікія тэрміны ў навуковым ці навукова-папулярным тэксце сваім ужываннем нічым не адрозніваліся ад агульнаўжывальных слоў, хоць пры гэтым функцыянальная розніца паміж тымі і другімі ўсведамлялася. Не выпадкова некаторыя з іх тлумачыліся або самі выступалі ў якасці глосы, напрыклад: *«Гэты спосаб мы і будзем называць: лік просты, – іначэй: складаньне; лік просты* (*складаньне*) (*I*)*».* Наогул, сама будова тэксту і ўжыванне лексічных сродкаў, у тым ліку і тэрміналагічных, у значнай ступені абумоўлены тагачасным агульным узроўнем культуры і светапогляду беларускага народа, калі «ўся беларуская літаратура тых часоў адрасавалася і была разлічана на шырокае кола чытачоў з невысокім адукацыйным ўзроўнем»[1].

Гэта ў сваю чаргу аказвала ўплыў на фарміраванне стылю навуковага выказвання і тэрміналагічных сродкаў беларускай літаратурнай мовы ў пачатку XX ст. Пры даследаванні шляхоў і спосабаў фарміравання беларускай нацыянальнай тэрміналогіі неабходна ўлічваць таксама і той факт, што самі аўтары навуковых і навукова-папулярных прац набывалі веды па той ці іншай галіне навукі на іншай мове (перш за ўсё рускай). Таму пры выкладанні пэўных навуковых звестак на беларускай мове вынікала неабходнасць запазычыць ужо вядомыя іншамоўныя тэрміны або перадаць іх сродкамі беларускай мовы, адшукаўшы ці стварыўшы семантычныя адпаведнікі. У выніку асобныя тэрміны перакладаліся і, такім чынам, шляхам калькавання на аснове ўласных лексічных сродкаў ствараліся беларускія тэрміны, сярод якіх па ступені суадноснасці славаўтваральных марфем з адпаведнымі рускімі тэрмінамі найперш вылучаюцца:

а) словы, што складаюцца з уласцівых беларускай мове каранёвых і афіксальных марфем: *адказ* (*ответ*)*, лік* (*счет*)*, вылічаньне* (*вычисление*) і інш.;

б) словы, у склад якіх уваходзяць агульныя для беларускай і рускай мовы каранёвыя, але розныя афіксальныя марфемы: *зменшанае* (*уменшаемое*)*, множнік* (*множитель*)*, дзельнік* (*делитель*) і інш.

Калі ж сустракаліся пэўныя цяжкасці пры перакладзе і не знаходзілася ў тагачаснай беларускай літаратурнай мове адпаведных лексічных ці славаўтваральных эквівалентаў іншамоўным тэрмінам, то апошнія запазычваліся і без якіх-небудзь істотных змен шляхам транскрыпцыі ці транслітарацыі ўводзіліся на старонкі беларускіх выданняў, напрыклад: *дроб, счысленьне, ас-*

---

[1] Гістарычная лексікалогія беларускай мовы. – Мінск, 1970. – С. 250.

*татак, чысліцель, знаменацель* і інш. Праз рускую мову ўвайшлі ў лексічную сістэму беларускай мовы і асобныя словы неславянскага паходжання: *нуль, мільён, мільярд, цыфра, працэнт*.

Матэрыял паказвае, што большасць адзінак намінатыўна-тэрміналагічнага характару, што выкарыстоўваліся на старонках беларускіх дакастрычніцкіх выданняў пачатку XX ст. для абазначэння матэматычных паняццяў, утворана на ўласнай лексічнай аснове. І гэта заканамерна, таму што «усякая навука, – гаворачы словамі акад. В. У. Вінаградава, – пачынае з вынікаў, здабытых мысленнем і мовай народа, і ў далейшым сваім развіцці не адрываецца ад народнай мовы»[1].

Па структуры ўсе тэрміналагічныя адзінкі падзяляюцца на простыя (каля 76 %) і састаўныя (каля 24 %). Простыя тэрміны, лексічная аснова якіх уласнабеларуская (ці шырэй – славянская), утвораны пераважна марфалагічным спосабам пры дапамозе розных суфіксаў і часткова – бязафіксным спосабам, напрыклад: *адказ, дзель, вылічаньне, множнік*. Пры гэтым у асобных выпадках наглядаецца пэўная заканамернасць у выкарыстанні тых ці іншых словаўтваральных элементаў. Так, назвы арыфметычных дзеянняў, розных аперацый з лікамі ўтвораны ад дзеясловаў пры дапамозе суфіксаў *-аньн-*, *-еньн-*: *складаньне, адлічаньне, дзяленьне, раздрабленьне*. Падобная з’ява наглядаецца і ў асобных назвах кампанентаў і вынікаў арыфметычных дзеянняў: параўн. *складанае* і *зменшанае, множнае* і *дзельнае, множнік* і *дзельнік, злічво* і *множыва*. Праўда, тлумачыцца гэта ў значнай ступені ўплывам рускай матэматычнай тэрміналогіі, якая к гэтаму часу была ўжо даволі развітай і ўнармаванай. Да таго ж многія з прыведзеных слоў, як ужо адзначалася вышэй, створаны па ўзору адпаведных рускіх тэрмінаў.

Састаўныя тэрміны – гэта па сутнасці субстантыўныя лексікалізаваныя спалучэнні тыпу «назоўнік + назоўнік», «назоўнік + прыметнік» і «прыметнік + назоўнік», асобныя з якіх характарызаваліся адзінствам намінацыі і дэфініцыі і функцыянальна не адрозніваліся ад простых слоў-тэрмінаў, напрыклад: *спосаб ліку, чысло множное, адназначные лічбы, разрадные лічбы* і інш. У такіх двухкампанентных спалучэннях у якасці галоўнага тэрмінаэлемента звычайна выступае назоўнік, які ў сістэме матэматычных тэрмінаў ужо мае спецыяльную дэфініцыю, а граматычна залежны кампанент надае яму прыватнае, відавое азначэнне: параўн.: *дробня – дробня прасьцейшая, дробня правільная, дробня няправільная; лічба – адназначные лічбы, двохзначные лічбы, многазначные лічбы, разрадные лічбы, цэлая лічба; лік – лік просты*. У сэнсавых адносінах кампаненты састаўных тэрмінаў узаемна ўдакладняюць адзін другога: граматычна галоўны прадвызначае канкрэтны змест залежнага кампанента, а апошні, у сваю чаргу, акрэслівае значэнне першага. Ствараюцца злітныя семантычныя адзінкі, значэнне якіх – не простая сума

---

[1] *Виноградов В. В.* Основные типы лексических значений слов // Вопросы языкознания. – 1953. – № 5. – С. 6.

значэнняў іх кампанентаў, а тая дэфініцыя, якая прыпісваецца тэрміну зыходзячы з сутнасці абазначанага ім паняцця ў тым ці іншым класіфікацыйным радзе лагічнай схемы навукі.

У далейшым матэматычныя тэрміны, што выкарыстоўваліся на старонках беларускіх дакастрычніцкіх выданняў пачатку XX ст., развіваліся неаднолькава. Адны тэрміны замацаваліся ў сферы спецыяльнай камунікацыі, захаваўшы сваю структуру і семантыку, хоць асобныя з іх і прайшлі даволі складаны шлях асваення. Так, напрыклад, тэрмін *дроб* упершыню ў беларускіх выданнях пачатку XX ст. быў засведчаны ў кнізе Я. Акаловіча «Рады для эмігрантаў, каторые едуць у Амэрыку, а такжэ размовы беларуска-англіцкіе» (1912 г.). У «Задачніку для пачатковых школ» Г. Юрэвіча было выкарыстана слова *дробня*, а ў слоўніку арыфметычнай тэрміналогіі, выдадзеным ў Вільні (1921 г.), – слова *дробязь*. Аднак спецыяльная дэфініцыя за словамі *дробня* і *дробязь* не замацавалася. Беларуская навукова-тэрміналагічная камісія рэкамендавала тэрмін *дроб*, які адразу пачаў выкарыстоўвацца ва ўсіх беларускіх савецкіх падручніках і дапаможніках па арыфметыцы. Не адразу замацаваўся таксама тэрмін *множнік*: у асобных выданнях 1920–1930-х гг. выкарыстоўваліся ў адной і той жа функцыі лексем *множнік, чыннік, множыцель*, пакуль перавага не была аддадзена першаму.

Некаторыя тэрміны ў працэсе моўнай практыкі паступова ўдакладнілі сваю структуру (параўн.: *чысло множнае → лік множны → множыва → множымае; іменные (лічбы) → найменныя (лікі); складанае → складанка → складнік → складаемае* і да т. п.) ці набылі большую акрэсленасць у плане зместу (*лічба, астатак, цыфра* і інш.).

Не замацаваліся ў сферы навуковага ўжывання словы і спалучэнні, якія ў структурных адносінах не адпавядалі тэндэнцыям развіцця беларускай матэматычнай тэрміналогіі ці былі створаны не на ўласнай лексічнай аснове або выкарыстоўваліся як дублетныя найменні: *спосаб ліку, спосаб лічэньня, перэварачываньне, злічво, адлічаньне, зьменшанае, множыва, знаменацель, чысліцель, часьць* і інш.

Аднак у асобных выпадках да нашага часу захавалася фанетыка-марфалагічная і лексічная варыянтнасць у абазначэнні некаторых матэматычных паняццяў. Так, на старонках падручнікаў і дапаможнікаў выкарыстоўваецца, як правіла, тэрмін *адымананне*, хоць у «Беларуска-рускім слоўніку» (1962 г.) перавага аддаецца варыянту *адніманне*, які засведчаны таксама на старонках БелСЭ. У якасці назвы аднаго з кампанентаў арыфметычнага дзеяння дзяленне ў «Задачніку для пачатковых школ» Г. Юрэвіча ўжыта слова *дзельнае*; у другім выданні (1919 г.) – *дзельная*; у «Маскоўска-беларускім слоўніку» М. і Г. Гарэцкіх – *дзельня*; у складзе арыфметычнай тэрміналогіі (Вільня, 1921 г.) – *дзельны*; у «Весніку Народнага Камісарыята асветы ССРБ», «Методыцы арыфметыкі» Т. Лукашэвіча і С. Валаскевіча (1922 г.), іншых падручніках і дапаможніках 1920–1930-х гг., а таксама ў «Слоўніку матэматычнай тэрміналогіі» (Беларуская навуковая тэрміналогія, вып. 14, 1927) – *дзеліва*; у падручніках

1940–1950-х гг. – *дзялімае*. У сучасных падручніках выкарыстоўваецца тэрмін *дзялімае*, хоць на старонках БелСЭ падаецца тэрмін *дзеліва*. Або яшчэ: дысемічны тэрмін *астатак* быў выцеснены са сферы спецыяльнай камунікацыі ў 1920–1930-х гг. марфалагічным варыянтам *астача* са строга акрэсленай дэфініцыяй, а іменна: велічыня, якая атрымліваецца пры адніманні ад дзялімага здабытку дзельніка на цэлую дзель. Аднак з канца 1930-х гг. зноў пачаў шырока выкарыстоўвацца ў названай функцыі тэрмін *астатак*, які ўжываецца і ў сучасных падручніках і метадычных дапаможніках па матэматыцы. Праўда, на старонках БелСЭ па-ранейшаму перавага аддаецца тэрміну *астача*.

Увогуле на старонках беларускіх дакастрычніцкіх выданняў пачатку XX ст. засведчана невялікая колькасць матэматычных тэрмінаў. І хоць асобныя з іх замацаваліся ў сферы спецыяльнай камунікацыі, беларуская матэматычная тэрміналогія, у тым ліку і тэрміналогія арыфметыкі, сфарміравалася толькі ў савецкі час, а яе развіццё і ўдасканальванне працягваюцца і ў нашы дні.

## АСТРАНАМІЧНЫЯ ТЭРМІНЫ Ў БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯХ ПАЧАТКУ XX ст.*

У пачатку XX ст. у выніку нацыянальна-вызваленчай барацьбы народаў царскай Расіі была абвешчана так званая «свабода друку». Беларуская кніга і беларускі перыядычны друк атрымалі права на легальнае існаванне, і тады на беларускай мове з асветніцкімі мэтамі з'явіліся асобныя падручнікі, арыгінальныя і перакладныя навукова-папулярныя выданні, адрасаваныя самаму шырокаму чытачу. Акрамя таго, разнастайныя матэрыялы навуковага і навукова-папулярнага характару змяшчаліся на старонках беларускіх дакастрычніцкіх газет і часопісаў, хоць не заўсёды яны вылучаліся ў асобную рубрыку і вызначаліся якой-небудзь сістэмай у падачы навуковых звестак з той ці іншай галіны ведаў. Аднак яны, як і асобныя навуковыя і навукова-папулярныя выданні, садзейнічалі ў пэўнай ступені развіццю беларускай літаратурнай мовы, узбагачэнню яе лексічнай сістэмы, бо вымагалі для намінацыі і дэфініцыі або апісання тых ці іншых навуковых паняццяў адпаведных лексічных сродкаў, у тым ліку слоў і спалучэнняў намінатыўна-тэрміналагічнага характару. І хоць гэтыя крыніцы пакуль што слаба даследаваны з боку мовы, мы не можам не ўлічваць іх пры асвятленні асаблівасцей фарміравання і развіцця новай беларускай літаратурнай мовы, яе лексіка-семантычнай сістэмы ўвогуле і тэрміналагічнай лексікі ў прыватнасці.

---

* Першая публікацыя ў выданні: Веснік БДУ. Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. – 1976. – № 3. – С. 26–31.

У гэтым артыкуле мы разгледзім з боку семантыкі і вызначым некаторыя асаблівасці функцыяніравання, увядзення ў адпаведны тэкст тых моўных адзінак, якія выкарыстоўваліся на старонках беларускіх дакастрычніцкіх выданняў пачатку XX ст. для намінацыі і дэфініцыі ці апісання асобных астранамічных з'яў і паняццяў.

Сярод гэтых моўных адзінак сустракаюцца словы, спалучэнні і апісальныя звароты для выражэння, абазначэння ці характарыстыкі:

а) самой навукі пра будову і развіццё нябесных цел і Сусвету, асобных аб'ектаў яе вывучэння: *астраномия, гвезда, зара, зараніца, зьвезда, зорка, зорка падаючая, зорка стаячая, зорка хвастатая, зямля, камэта, камэта Галея, луна, месяц, мэтэор, мятла, навука аб зорках* (*гвездах*)*, нябеснае цела, плянэта, сонца* (*сонцэ*);

б) паняццяў, звязаных з вывучэннем нябесных цел і Сусвету: *астранамічная абсэрваторыя, астраном* (*астронам, астраломъ*)*, далйокавидз, зорник, микроскоп, обсэрваторыя, падзорная труба, тэлескоп, шклы* і інш.;

в) паняццяў сферычнай астраноміі, паняццяў, звязаных з рухам планет, свяцiл і іншых нябесных цел у Сусвеце: *абкручываецца, аблятаць, агнёвы дождж, абходзіць, вага, восень, вось, высакосны* (*вісакосны*)*, вясна, вярцецца, гадзіна, год, граница, дзе неба з землйою стыкаецца, гуляць, дарога зямли навокала сонца, дошч зорак, закат, закон зьмены частак году, заход, зацьменнье, зварот, зіма, канец, клубок, клубок-зямля, круг, круглавіна, кружыцца, круціцца, куля, кругападобнае зацьменьне, лета, летасчысленьне, маладзік, мінута, мяжа, небасклон, небасхіл, ноня, нябесны праствор, пара, пара году, паўднёвы полюс, паўночны полюс, палудзень, пераступны год, полюс, праходзіць, просты год, прыбышовы год, прыцягаць, пярсцёнак, рок, рух, сьвет, север, склон неба, скляпеньне синяе, смуга, стаяньне сонца, стораны сьвета, суткі, сфэра зямлі, сьцежка, сэкунда, тыдзень, усход, цэла зацьменьне, цяжкасьць, частка году, шар* і інш.;

г) паняццяў, звязаных з будовай Сусвету, з будовай і размяшчэннем нябесных цел: *атмасфера, астатняя квадра, белы пояс, белы хвост, белы шрам, ветах* (*веташок, ветох*)*, Воз, воздух, Вяликая Мядзьведзица, вячэрняя зорка, грамада зорак, другая квадра, квадра, косы, круг, куча зоркаў, маладзік, Мински гасьцинец, млечная дарога, млечны пояс, Млечны Шлях, неба, паветра* (*паветрэ, поветра*)*, пас зоркаў, паўмаладзік, першая квадра, плямы, поўната, поўня, перамены месяца, пыл, ранняя зорка, сход, чацьвертая квадра, чэцьверць* і інш.

Названыя словы і спалучэнні выкарыстоўваліся пераважна на старонках навукова-папулярных выданняў, асобных газет і часопісаў у тых выпадках, калі размова вялася пра розныя астранамічныя з'явы і паняцці. Аднак у плане зместу гэтыя моўныя адзінкі не вызначаліся аднатыпнасцю. Сярод іх вылучаюцца чатыры асноўныя групы:

1) словы намінатыўна-тэрміналагічнага характару: *астраном, атмасфэра, камэта, метэор* і інш.;

2) моўныя адзінкі агульнаўжывальнага характару, якія ў адпаведных кантэкстах набывалі спецыяльнае, тэрміналагічнае значэнне: *зорка, месяц, сонца* і інш.;

3) словы, якія пераносна ўжываліся для абазначэння той ці іншай астранамічнай з'явы або паняцця і разам з тым захоўвалі ў сабе бытавую выразнасць, якая адчувалася нават пры выкарыстанні гэтых моўных адзінак у сферы спецыяльнай камунікацыі: *мятла, плямы* і інш.;

4) спалучэнні слоў, якія ў навукова-папулярных выданнях вызначаліся ў семантычных адносінах паняційнай акрэсленасцю і ў большай ці меншай ступені выконвалі дэфінітыўную, намінатыўную ці апісальную функцыю: *Вяликая Мядзьведзица; граница, дзе неба з зямлйою стыкаецца; дарога зямли навокала сонца; зорка падаючая* і інш.

Першыя, як правіла, выкарыстоўваліся ў якасці сродку намінацыі і дэфініцыі таго ці іншага навуковага паняцця ва ўсіх выпадках іх ужывання і, што асабліва характэрна, у аднолькавых ці блізкіх кантэкстах, напрыклад: *Зацьменьня сонца бывае тыкеля на маладзику*[1]; *зацьменьне часьці месяца будзе 27 лютаго*[2]; *У міністэрстві асьветы пачалі прыгатаўляцца да арганізацыі доглядаў за будучым у 1914 гаду зацьменьнем сонца*[3]; *Давучыўшыся да сівых валасоў, а посьле дабіваючыся як і калі буде зацьменьне, дзе якіе планэты, ня меў часу зірнуць у вёску*[4].

Шмат якія словы гэтай групы – запазычанні інтэрнацыянальнага характару. У навуковых ці навукова-папулярных тэкстах, разлічаных на шырокага чытача, яны маглі аказацца незразумелымі, таму ў пераважнай большасці выпадкаў так ці інакш тлумачыліся, каменціраваліся. У некаторых выданнях гэта дасягалася шляхам апісання, раскрыцця сутнасці якой-небудзь з'явы або паняцця пры адначасовым выкарыстанні адпаведных тэрмінаў, напрыклад: *Зорки, што сьвецяць сваим сьветам, стаяць у адным мейсцы, и дзеля таго называюцца стаячымі. Навокала их, як наша зямля и месяц, ходзиць шмат других зоркаў. Яны ня маюць свайго сьвету, але сьвецяць так, як наш месяц, гэта значыць, што ад их адсьвечываець нам йихняе сонцэ. Гэтые зорки называюцца плянэтами*[5]; *Англичанин Гэршэль выдумаў такие шклы шлифованые, каторые увялічываюць и зближаюць, якбы вяликие акуляры, праз каторые можна видзець на тысячу миль. Шклы гэты упраўлены ў трубу, падобную да гарматы, а такая труба называецца далйокавидзам або тэлескопам*[6]. Як відаць з кантэксту, сутнасць паняцця «планета» раскрываецца не праз адпаведную дэфініцыю, а праз апісанне невядомай пазнаваемай астранамічнай з'явы, якое грунтуецца на тым, што ўжо вядома чыта-

---

[1] Гутарки аб неби и зямли. – Пб., 1907. – С. 48.
[2] Беларускі календар «Нашай нівы» на 1914 год. – Вільня, 1914. – С. 3.
[3] Наша ніва. – 1913. – № 40.
[4] Наша ніва. – 1912. – № 10.
[5] Гутарки аб неби и зямли. – Пб., 1907. – С. 53.
[6] Тамсама. С. 65.

чу пра Сонца, Месяц і зоркі, вядома нават не з кніг, а з яго жыццёвай практыкі. На жыццёвую практыку разлічана таксама апісанне тэлескопа: у апісанні – параўнанне з акулярамі, з гарматай, а ў выніку – знаёмства з новым інструментам, новым паняццем. І ў адным і ў другім выпадку мэта дасягаецца: чытач (ці ўяўны субяседнік) знаёміцца з асноўнымі рысамі, прыметамі, уласцівасцямі навуковага паняцця, што цалкам адпавядае асветніцкім мэтам навукова-папулярнага тэксту. Праўда, тэрмін *тэлескоп* у прыведзеным прыкладзе ўжыты поруч з лексічнай адзінкай *далёкавідз*. У іншых выпадках тэрмін *тэлескоп* сустракаецца ў якасці глосы да спалучэння *падзорная труба* (таксама ў постпазіцыі). Магчыма, тэрмін *тэлескоп* павінен быў садзейнічаць правільнаму ўспрыняццю чытачом такіх новых для яго моўных адзінак, як *далёкавідз*, *падзорная труба*, акрэсліўшы ў пэўнай ступені іх змест, тым больш, што тэрмін *тэлескоп* выкарыстоўваўся і ў якасці самастойнай моўнай адзінкі і пры гэтым не тлумачыўся. Аднак слова *далёкавідз* можна разглядаць як факт індывідуальнага, аказіянальнага ўжывання, таму што ў іншых выданнях яно не засведчана, ды і ў «Гутарках аб неби и зямли» сустракаецца толькі адзін раз у вышэйпрыведзеным прыкладзе. Адносна яго паходжання могуць быць розныя меркаванні: або яно ўтворана на аснове спалучэння *далёка відзець* па ўзору тэрміна *тэлескоп* (гр. *tēle – далёка* + *skopeō – гляджу*), або з'явілася пад уплывам польскага *dalekowidz* (*дальназоркі*). Першае ўяўляецца больш верагодным: у «Гутарках аб неби и зямли» выкарыстоўваюцца агульнаўжывальныя для беларускай мовы словы і словы-інтэрнацыяналізмы, якія генетычна ўзыходзяць да грэчаскіх ці лацінскіх каранёў, і трэба думаць, што пры перакладзе кнігі на беларускую мову К. Кастравіцкі і С. Шаўлоўскі, перш чым выкарыстаць які-небудзь іншамоўны тэрмін, аналізавалі і ўлічвалі яго паходжанне і значэнне і пры магчымасці стваралі па іх узору адпаведныя словы. Не выпадкова сутнасць некаторых паняццяў, для намінацыі і дэфініцыі якіх выкарыстоўваліся падобныя лексічныя адзінкі, у асобных выпадках раскрывалася з улікам літаральнага значэння слова, напрыклад: *шмат йосьць яшчэ таких дзиўных хвастатых зорак, што называюцца камэтамі або мйотлами* [параўн.: гр. *komētēs* (*aster*) *хвастатая* (*зорка*)[1]]. Праўда, у гэтым выпадку выкарыстана поруч з тэрмінам *камета* і чыста народная назва – *мятла*, функцыя якой заключаецца ў тым, каб дапамагчы чытачу больш наглядна ўявіць адпаведнае нябеснае цела, з'яву ў Сусвеце і разам з тым садзейнічаць увядзенню новага тэрміна ў навуковы зварот і яго засваенню не толькі ў пісьмовай, але і ў вуснай мове.

Іншы раз апісанне адлюстроўвала якую-небудзь істотную ўласцівасць, прымету таго ці іншага паняцця або з'явы і прыводзілася ў дужках пры выкарыстанні тэрміна, хоць гэтай прыметы было недастаткова для таго, каб тэрмін правільна арыентаваў на адпаведнае паняцце і не выклікаў дадатковых асацыяцый, напрыклад: *Каля нашай станцыі ў ночы праляцеў мэтэор*

[1] Словарь иностранных слов под ред. И. В. Лёхина и проф. Ф. Н. Петрова. – М., 1954. – С. 337.

(*бытцам агністы клубок*), *і так ясна засьвяціў нейкую мінуту, што як бы хто запаліў электрычэства*[1].

Моўныя адзінкі другой групы – агульнаўжывальныя словы з даволі шырокай семантыкай. Так, мнагазначнымі ў лексіка-семантычнай сістэме беларускай мовы пачатку XX ст. з’яўляліся словы *зорка, зямля, месяц, сонца*: ужываліся яны ў прамым і пераносных значэннях не толькі ў літаратурнай, але і ў гутарковай мове. У тэкстах навуковага і навукова-папулярнага характару ў семантычнай структуры гэтых слоў адбываліся пэўныя зрухі ў плане тэрміналагізацыі, аб чым даволі яскрава сведчаць наступныя прыклады: *Таких гвезд, як наша зямля, йосьць болей*; *Усяка зорка, што маець свой сьвет, падобна на сонца, а што сонца – простая зорка*; *А кольки зоркаў на неби, гэтага яшчэ нихто не зрахаваў и не зрахуець николи, бо трудна зличыць усе тые сонцы и плянэты*; *вочы мыляюць, кали йим, здаецца, што месяц сам праз сябе сьвециць, а тым часам йон дапраўды цйомны, як наша зямля*; *Месяц атсьвечвае тыкеля тым сьветам, што яму дае сонцэ. Так сама и з другими зорками: иншыя сваим сьвецяць, а иншыя сьветам сонца. Першыя называюцца сонцами, а другие называюцца месяцами и зараницами и так далей*; *Яны ня маюць свайго сьвету, але сьвецяць так, як наш месяц, гэта значыць, ад йих адсьвечываець нам йихняе сонцэ. Гэтыя зорки называюцца плянэтами*; *Апрыч сонца, месяца, плянэт, йосьць яшчэ падаючые зорки*; *Апрыч сонца, месяца и зорак, у тым сьвет-прасторы бязканечным шыбае також и наша зямля*; *Гэтыя зорки стаячые такие самые сонцы и сами сьвецяць*; *Камэты – зорки, тольки тое, што яшчэ не згусьцеўшы*[2]; *Зямля наша круглая. Яна ходзіць каля сонца*[3] .

З прыведзеных прыкладаў відаць, што ў словах *зорка* (дублет *гвезда*), *сонца, зямля* і *месяц* на аснове іх звычайнага бытавога сэнсу, на аснове бытавых уяўленняў і асацыяцый у сферы спецыяльнай камунікацыі развіваліся новыя, тэрміналагічныя значэнні і ўжыванні, хоць яны не заўсёды вызначаліся дакладнасцю і рэгулярнасцю. Так, слова *зорка* ў адных выпадках выкарыстоўвалася як агульная назва любога цела сонечнай (а іншы раз і зорнай) сістэмы; у другіх – як сродак намінацыі і дэфініцыі толькі нябесных свяцілаў.

Новае значэнне слова *сонца* – «самасвяцільнае нябеснае цела». На аснове гэтай істотнай прыметы·адбылося збліжэнне такіх двух паняццяў, як «сонца» і «зорка», у выніку чаго ў лексіка-семантычнай сістэме беларускай літаратурнай мовы ўтварыўся новы сінанімічны рад і ў адпаведных кантэкстах тэрміны *сонца* і *зорка* сталі ўзаемазамяняцца. Акрамя таго, тэрмін *сонца* пашырыў сваю парадыгму, калі пачаў выкарыстоўвацца на старонках навукова-папулярных выданняў не толькі ў форме адзіночнага, але і ў форме множнага ліку – *сонцы*. Па сутнасці, у працэсе моўнай практыкі паступова

[1] Наша ніва. – 1909. – № 35 і 36.

[2] Усе прыклады, пададзеныя ў гэтым абзацы, узятыя з выдання: Гутаркі аб неби и зямли. – Пб., 1907.

[3] Беларус. – 1914. – № 13.

фарміравалася ўсё больш дакладная дэфініцыя тэрміна *сонца* – «самасвяцільнае нябеснае цела, цэнтральнае свяціла планетнай сістэмы».

Слова *зямля* таксама набывала тэрміналагічнае значэнне, а іменна: «цёмнае нябеснае цела, якое рухаецца вакол Сонца і сваёй уласнай восі».

У слове *месяц* на аснове бытавых уяўленняў развілося такое агульнае значэнне: «нябеснае цела», якое, як сказана ў «Гутарках аб неби и зямли», «сьвециць сьветам сонца». Не выпадкова падобныя нябесныя целы ў сонечнай (і ў зорнай) сістэме названы ў памянёнай кнізе *месяцамі*. Праўда, на старонках гэтага ж выдання нябесныя целы, якія «ня маюць свайго сьвету... а адсьвечываюць нам йихняе сонцэ», названы *планетамі*. Такім чынам, на аснове адзначанай прыметы паняцці «месяц» і «планета» збліжаліся і проціпастаўляліся самасвяцільным зоркам – сонцам. Таму тэрмінамі *месяц* і *планета* К. Кастравіцкі і С. Шаўлоўскі карысталіся як сінонімамі. З развіццём навуковых ведаў кожны з гэтых тэрмінаў набыў акрэсленую дэфініцыю, і ў беларускай літаратурнай мове савецкага часу іх ужыванне строга рэгламентавана, дыферэнцыравана.

Трэцюю групу найменняў складаюць звычайныя бытавыя словы. Іх выкарыстанне ў навуковых і навукова-папулярных тэкстах мае аб’ектыўную аснову: у пазнаваемых астранамічных з’явах і паняццях па асацыяцыі з бытавымі прадметамі вылучаецца якая-небудзь істотная рыса, уласцівасць, прымета, якая здольна выклікаць у свядомасці чытача ці слухача ўяўленне аб гэтай з’яве ці паняцці цалкам, што і дазваляе выкарыстаць пры намінацыі навуковага паняцця адпаведнае бытавое слова. Так, поруч з тэрмінам *камета* ў той жа функцыі выкарыстоўвалася слова *мятла*: *Аб гэтых камэтах людзи шмат байкаў распусьцили па сьвеци, кажучы, што такая мятла на неби паказываецца на вайну, голад, благое паветрэ и другие няшчасьця*[1]. Чым абумоўлена такое ўжыванне слова, выразна відаць з наступнага прыкладу: *Ну а якъ ты думаешь, Михей, ти вяликія гэта камэты, што часто яны бываюць видны и у насъ на неби иная якъ въникъ, другая с хвастомъ, а иная с косами*[2]. Наогул, падобныя метафарычныя пераносы найменняў на аснове знешняга падабенства характэрны для навукова-папулярных тэкстаў.

Своеасаблівую групу моўных адзінак складаюць словазлучэнні рознага характару. Адны з іх прадстаўляюць сабой лексікалізаваныя спалучэнні, якія з’яўляюцца сродкам дакладнага абазначэння адпаведнага родавага (*поры года – вясна, лета, восень, зіма*) ці відавога (*зацьменне – кругападобнае зацьменьне, поўнае зацьменьне*) паняцця; другія – свабодныя злучэнні слоў апісальнага характару (*граница, дзе неба з зямлйою стыкаецца; дарога зямли навокала сонца*). Ужыванне апошніх уласціва навукова-папулярным тэкстам і тлумачыцца імкненнем пазбегнуць спецыяльных тэрмінаў, якія маглі аказацца незразумелымі шырокаму чытачу, напрыклад: *Не рез бо, як ехаў я ў суседнюю вйоску, а на’т и далей яшчэ, у горад, заўсюды я тое самае бачыў: заўсю-*

[1] Гутарки аб неби и зямли. – Пб., 1907. – С. 55.

[2] Белорусскіе народные разсказы. Сочинения Иосіфа Даниловича Орловского. – Т. 1. – Полоцкъ, 1908. – С. 32.

*ды тая граница, дзе неба з зямлйою стыкаецца, як бы ўцякала ад мяне*[1]. Выкарыстанне ў прыведзеным кантэксце тэрміна *лінія гарызонта* ўскладніла б успрыняцце думкі, паколькі не кожны чытач разумеў сутнасць паняцця «гарызонт». Таму аўтары навукова-папулярных твораў, разлічаных на шырокія народныя масы з невысокім адукацыйным узроўнем, пазбягалі вузкаспецыяльных тэрмінаў і аддавалі перавагу розным апісальным зваротам, хоць апошнія часам прадстаўлялі сабой дэфініцыю адпаведнага паняцця. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова параўнаць вышэй прыведзены выраз *граница, дзе неба з зямлёю стыкаецца* з тымі экспліцытнымі азначэннямі «лініі гарызонта», якія даюцца ў навуковай і энцыклапедычнай літаратуры савецкага часу, напрыклад: *Лінія, па якой неба як быццам зліваецца з зямлёю, называецца лініяй гарызонта*[2]; *Лінія, дзе неба, здаецца, мяжуе з зямлёю, называецца лініяй гарызонта*[3]. Відавочна, што гэтыя азначэнні ў прынцыпе не адрозніваюцца ад таго, што засведчана ў «Гутарках аб неби и зямли».

Такім чынам, характэрнай асаблівасцю навуковых і навукова-папулярных тэкстаў пачатку ХХ ст. з'яўляецца тое, што навуковыя паняцці, як правіла, уводзіліся ў сістэму тых ці іншых жыццёвых асацыяцый. Гэтым абумоўлена выкарыстанне ў якасці тэрміналагічных сродкаў агульнаўжывальных і бытавых слоў, якія набывалі адпаведную сэнсава-паняційную акрэсленасць лексікалізаваных спалучэнняў і апісальных выразаў, што выконвалі не столькі інфармацыйную функцыю, колькі дэфінітыўную. Ужыванне вузкаспецыяльных тэрмінаў суправаджалася рознымі тлумачэннямі і таксама адпавядала асветніцкім мэтам навукова-папулярных выданняў. Так паступова ў беларускай літаратурнай мове складваліся своеасаблівыя прыёмы і спосабы навуковага выказвання, а ў лексіка-семантычнай сістэме фарміравалася навуковая тэрміналогія.

## АБ ПАРАЎНАЛЬНА-ТЫПАЛАГІЧНЫМ ВЫВУЧЭННІ ТЭРМІНАЛАГІЧНАЙ ЛЕКСІКІ*

Адной з характэрных асаблівасцей развіцця лексіка-семантычнай сістэмы сучаснай беларускай літаратурнай мовы з'яўляецца тэрміналагізацыя яе слоўнікавага складу. Пры гэтым паралельна з колькасным папаўненнем лексікі новымі тэрмінамі адбываецца няспыннае ўдасканаленне існуючых адзінак у плане лексіка-семантычнай і структурна-марфалагічнай рэгулярнасці,

[1] Гутарки аб неби и зямли. Пб., 1907. С. 19.

[2] *Лойка М., Сакольчык А*. Фізічная геаграфія. – Мінск, 1932. – С. 3.

[3] Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. – Т 3. – Мінск, 1971. – С. 371.

* Першая публікацыя ў выданні: Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур: тэз. дакл. III Рэсп. канф. – Мінск, 1977. – Ч. 2. – С. 142–144.

больш выразнай спецыялізацыі ўсіх слова- і формаўтваральных тэрмінаў. Гэта патрабуе глыбокага і ўсебаковага вывучэння тэрміналагічнай лексікі, у тым ліку і параўнальна-тыпалагічнага яе аналізу. Апошняе асабліва важна, паколькі шляхам параўнання адзінак, што ў розных мовах вызначаюцца поўнай ідэнтычнасцю выражаемых імі паняццяў, выяўляюцца і акрэсліваюцца, акрамя агульных рыс, такія знешне фармальныя, але надзвычай паказальныя спосабы і сродкі стварэння тэрмінаў, якія з'яўляюцца спецыфічнымі для той або іншай мовы сродкамі, спосабамі і тыпамі выражэння адпаведнага прадметна-лагічнага зместу. Аднак дастаткова надзейнае вызначэнне як агульных, так і тыпалагічна рэлевантных сродкаў і спосабаў тэрмінаўтварэння ці тыпаў тэрмінаў магчыма толькі пры параўнанні тэрміналагічнай лексікі розных моў ва ўсёй яе цэласнасці.

Тэрміналагічная лексіка – сукупнасць такіх адзінак, якія служаць для намінацыі і дэфініцыі навуковых ці тэхнічных паняццяў. У лексіка-семантычным плане яны адрозніваюцца ад агульнаўжывальных слоў пэўнымі функцыянальна-стылістычнымі ўласцівасцямі і ствараюць своеасаблівую адносна замкнутую падсістэму лексічнага складу, г. зн. тэрміналогію адпаведнай мовы. У сваю чаргу, у межах тэрміналогіі на паняційна-лагічнай аснове вылучаюцца асобныя аб'яднанні, элементы якіх характарызуюцца агульнасцю катэгарыяльнага значэння, абумоўленага той ці іншай галіной навукі або тэхнікі. Такія аб'яднанні – гэта пэўныя сукупнасці, групы, падгрупы, мікрагрупы, рады і пары тэрмінаў, якія ўтвараюць пэўным чынам арганізаваную структуру, што адлюстроўвае лагічную схему той ці іншай навукі. Элементы тых ці іншых аб'яднанняў тэрмінаў з'яўляюцца рознымі па колькаснаму складу, генезісу, фонамарфалагічнай, словаўтваральнай і семантычнай характарыстыцы, па суадносінах з адпаведнымі паняццямі і інш. Таму параўнальна-тыпалагічнае вывучэнне тэрміналагічнай лексікі як роднасных, так і нероднасных моў можа весціся на розных узроўнях, а прадметам даследавання пры гэтым можа з'яўляцца тэрміналогія як своеасаблівая падсістэма мовы (тыпалогія падсістэмы), аб'яднанні, сукупнасці, групы, падгрупы, мікрагрупы тэрмінаў як мікрасістэмы (тыпалогія мікрасістэмы), рады і пары тэрмінаў (фрагментарная тыпалогія).

Аднак пры падобным аналізе неабходна найперш выявіць тыя істотныя прыметы, уласцівасці, паняцці, якія паслужылі асновай для стварэння іменна дадзенага тэрміна як сродка намінацыі і дэфініцыі іменна дадзенага паняцця. Гэта важна па дзвюх прычынах: па-першае, прыметамі, што вылучаюцца ў пазнаваемых паняццях і на аснове якіх апошнія класіфікуюцца, абумоўлены тыя адрозненні, якія ўласцівы тэрміналагічнай лексіцы ў плане зместу; па-другое, класіфікацыя паняццяў знаходзіць сваё выражэнне ў адпаведнай класіфікацыі тэрмінаў, аналіз якіх у плане структуры дазволіць выявіць спосабы і сродкі стварэння тэрмінаў, ступень іх прадуктыўнасці, рэгулярнасці, а значыць і спецыялізацыі ў розных мовах. У выніку праведзенага такім чынам даследавання тэрмін як своеасаблівая адзінка асвятляецца ў двух напрамках: ад

прыметы (як асновы матывацыі) да паняцця, з аднаго боку, а з другога, – ад паняцця да тэрміна. Калі пры гэтым атрыманыя даныя розных моў так ці інакш параўноўваюцца, то гэта дае магчымасць з высокай ступенню надзейнасці вылучыць семантычныя і структурныя тыпы тэрмінаў, адны з якіх адлюстроўваюць агульныя заканамернасці развіцця тэрміналагічнай лексікі розных моў, а другія – спецыфічныя рысы, абумоўленыя структурнымі і лексіка-семантычнымі асаблівасцямі кожнай мовы ў асобнасці.

# ПРЫРОДАЗНАЎЧАЯ ЛЕКСІКА НА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ ПАЧАТКУ XX ст.*

Пачатак XX ст.– своеасаблівы этап у фарміраванні і развіцці беларускай літаратурнай мовы. Гэта быў час, калі беларуская кніга і перыядычны друк атрымалі права на легальнае існаванне, у розных гарадах распачалі сваю дзейнасць выдавецтвы, у выніку чаго з'явіліся на беларускай мове газеты, часопісы, арыгінальныя і перакладныя кнігі і брашуры навуковага ці навукова-папулярнага характару. На старонках гэтых выданняў змяшчаліся разнастайныя матэрыялы, у тым ліку і на прыродазнаўчую тэматыку. Гэта спрыяла таму, што лексіка беларускай літаратурнай мовы папаўнялася словамі і спалучэннямі тэрміналагічнага характару, узбагачалася сістэма сродкаў выражэння, складваліся своеасаблівыя прыёмы і спосабы навуковага выказвання.

На ідэаграфічнай аснове сярод тэрміналагічных найменняў вылучаюцца асобныя групы слоў, спалучэнняў і выразаў, якія выкарыстоўваліся для намінацыі і дэфініцыі ці апісання:

1) асобных галін ці раздзелаў навукі аб прыродзе і некаторых агульных паняццяў, звязаных з вывучэннем прыроднага асяроддзя: *батаніка, біологія, зоологія, географія, навука а расьлінах, батанік, географічные варункі, насьледства, натура, сэлекція, эволюція* і інш.;

2) паняццяў картаграфіі і тапаграфіі: *атлас, географічная карта, масштаб, плян, полюс, палуднёвы полюс, топограф* і інш.;

3) разнастайных па форме, памерах і генезісе няроўнасцей паверхні Зямлі, паняццяў і з'яў літасферы: *абрыў, верх, вулкан, гара, гарачая гразь, горла кратэра, даліна, загасшы вулкан, землетрасеньне, канал, лава, лагчына, нізіна, перакоп, раўніна, узгорак, яр* і інш.;

4) паняццяў і з'яў гідрасферы і геаграфіі Сусветнага акіяна, водаў сушы і водных шляхоў: *акіян, заліў, затока, праліў, вадапад, ваколіца ракі, возера,*

---

* Першая публікацыя ў выданні: Беларуская мова. – 1977. – Вып. 5. – С. 18–27.

*жолаб, озера, падводныя скалы, пакат, парог, русло рэкі, леднік, бухта, дарога водная, карабельнае прыстанішчэ* і інш.;

5) частак свету, прыродных зон, асобных ландшафтных элементаў: *Афрыка, часьць сьвету, пустыня, тайга, выспа, гай, залесак, отмел* і інш.;

6) атмасферных, метэаралагічных з'яў і паняццяў: *бура, вецер, гарачыня, гром, завіруха, жара, праліўны дождж, спякота, суш* і інш.;

7) карысных выкапняў: *багацтва, натуральнае багацьце, волава, вугаль, белая глінка, грыфельны камень, металы, мінералы, руда* і інш.;

8) расліны і яе органаў, паняццяў і з'яў, звязаных з будовай і жыццём раслін: *ашыек, бялок, вочка, галіна, запладняць, завязь-семя, каліва, кара, камялёк, корань, ліст, расток, стваліна* і інш.;

9) асобных раслін, іх відаў, класаў ці груп: *бабовые расьліны, выраiйная зелень, дрэва фруктовае, жывучкі, зела, кветкі балотныя, мікробы, плесень, расьліннасьць, скрып, трава, хвошч* і інш.;

10) тыпаў, класаў, атрадаў, родаў ці відаў жывёл, насякомых і г. д., а таксама паняццяў, звязаных з іх паходжаннем і жыццём: *бык дзікі, бугала, гады, дамовая жывёла, жучкі, жывы твор, зьвер, кузака, кузулькі, мятлік, птаства, птушкі зернеядные, самка, шчупак* і інш.

Прыведзеныя словы, спалучэнні і выразы сведчаць, што большасць аўтараў пры характарыстыцы геаграфічнага асяроддзя, апісанні прыродных умоў, расліннага і жывёльнага свету імкнулася пазбягаць ужывання вузкаспецыяльных тэрмінаў. Выкарыстоўваліся перш за ўсё агульнаўжывальныя словы, што адлюстроўвалі жыццёвы вопыт працоўнага чалавека. Адлюстроўваючы канкрэтныя ўяўленні і паняцці працоўнага чалавека аб навакольным асяроддзі, такія лексічныя адзінкі вызначаліся сэнсавай дакладнасцю і ў любым кантэксце не выклікалі якіх-небудзь дадатковых асацыяцый, напрыклад: *брод, вецер, гай, залесак, луг, мароз, птушка, яма* і інш.

Разам з тым у тэкстах навуковага і навукова-папулярнага характару бытавая выразнасць некаторых агульнаўжывальных слоў як бы адыходзіла на задні план, а ў іх сэнсавай структуры вылучалася сістэмна-паняційная акрэсленасць, і такім чынам звычайнае бытавое слова, уведзенае ў сферу спецыяльнай камунікацыі, паступова набывала адпаведную дэфініцыю, тэрміналагізавалася.

Напрыклад: *Зьбярыце і засушыце ўсе кветкі, траўкі і з ё л к і... адным словам – усё што расьце каля вас і што даецца засушыць. І каб запісалі «мейсцовае названьне». Дзе расла, на якім грунце, якія у суседстве-расьліны, якая карысьць ці шкода*[1].

У гэтым звароце «Да школьнай моладзі» Цёткі выкарыстаны агульнаўжывальныя словы *кветкі* і *траўкі.* Яны мнагазначныя, але прыведзены ўрывак сведчыць пра імкненне надаць ім у сістэме батанічных найменняў пэўную сэнсавую дакладнасць. Калі ўлічыць, што ў якасці агульнай назвы ад-

---

[1] Лучынка. – Кн. 5. – Мінск, 1914. – С. 28.

ной з найбольш пашыраных у свеце прыроды форм жывых сістэм засведчана лексема *расліна,* то становіцца відавочнай сістэмна-паняційная акрэсленасць слоў *кветкі* і *траўкі.* Зусім верагодна, што першае ўжыта для абазначэння раслін, адной з істотных прымет якіх з'яўляецца наяўнасць адна- ці двухполых кветак, а другое – раслін з характэрнымі парасткамі, якія не аднаўляюцца і адміраюць у канцы вегетацыі. І ў адным і ў другім выпадку ўлічаны такія класіфікацыйныя прыметы, што даюць магчымасць аднесці пэўныя расліны адпаведна да кветкавых ці травяністых і на гэтай падставе дазваляюць вылучыць групу кветак і групу траў. Гэтыя групы раслін і меліся на ўвазе ў вышэйпрыведзеным прыкладзе. І хоць у далейшым за лексемай *кветка* замацавалася іншая дэфініцыя (орган кветкавых раслін, з дапамогай якога адбываецца полавае размнажэнне), а замест лексемы *траўкі* ў батанічнай сістэматыцы пачаў выкарыстоўвацца тэрмін *травы* (пазбаўлены семантызаванага суфікса *-к,* што надаваў слову эмацыянальна-экспрэсіўнае адценне), гісторыя гэтых слоў паказвае, якімі шляхамі адбывалася спецыялізацыя значэнняў агульнаўжывальных слоў, іх тэрміналагізацыя.

Слова *зёлкі* не з'яўлялася агульнаўжывальным, а сустракалася ў некаторых беларускіх гаворках (магчыма, пад уплывам польскай мовы) як назва лекавых раслін. З такім значэннем ужыта яно на старонках «Лучынкі» і іншых выданняў, пра што сведчыць наступны прыклад: *Ну, гэтаго мала; трэба, каб спацеў ад зёлак*[1]. Прыклады паказваюць, што выкарыстанне слова *зёлкі* ў беларускіх выданнях пачатку XX ст. таксама звязана з пэўнай класіфікацыяй раслін, аднак пры ўпарадкаванні батанічнай тэрміналогіі ў паслякастрычніцкі час у якасці тэрміну яно не замацавалася.

Набывалі ў тэкстах навуковага і навукова-папулярнага характару адпаведную сістэмна-паняційную акрэсленасць словы *мора* і *акіян.* Пад уплывам вуснапаэтычнай творчасці ў стылі мастацкай літаратуры назіраецца выкарыстанне такой састаўной назвы, як *мора-акіян: У Вільні быў аж два разы, а заморам-акіянам, дзе жывуць паганые, і туды яго насіла*[2]; *Аб сабе нам скажы! Тыж ня гдзе быў, не да места езьдзіў, быў, як той маскаль Лукаш кажэ, за морам-акіянам!*[3] Аднак такое выкарыстанне абумоўлена тым, што ў літаратурным творы дадзеная лексічная адзінка выконвае не столькі намінатыўную функцыю, колькі чыста экспрэсіўную, мастацка-выяўленчую.

У некаторых тэкстах навукова-папулярнага характару словы *мора* і *акіян* не заўсёды вызначаліся сэнсавай дакладнасцю: Тое *мора, з якога найбольш прыносяцца да нас дажджы, так званы Атлантычны акіян* (*праз яго ж і ў Амэрыку едуць*)*, дык акіян гэты не замерзае ніколі, бо там цёпла; А ўсйож гэта яшчэ не ўся зямля, яно ж бо апроч сухое зямла яшчэ моры кольки займаюць, а дзе каторые з их кажуць, як цэлые гасударства вяли-*

---

[1] *Гушча Т.* Родныя зьявы. – Вільня, 1914. – С. 162.
[2] *Крапіўніцкі М.* Па рэвізіі. – Пб., 1911. – С. 4.
[3] *Новіч А.* Амэрыканец. – Пб., 1913. – С. 9.

*чыни! Кажуць, што каб усе моры сабраць па сабе ў вадно, а зямлю па сабе, то убачыли б, што вады трэйчы больш, як сухой зямли*[1].

У першым прыкладзе размова вядзецца пра акіян, але пад уплывам жывой моўнай стыхіі выкарыстоўваецца то слова *мора,* то *акіян.* У другім – ужываецца толькі слова *мора,* але калі ўлічыць, што пры гэтым звернута ўвага на велічыню мораў, то дапушчальна і такое меркаванне, што мора і акіян абазначаліся адной лексемай – *мора.* Увогуле, падобнае словаўжыванне магчыма ў такіх моўных сітуацыях, калі для разумення асноўнага сэнсу выказвання не патрабуецца строгае размежаванне розных геаграфічных паняццяў. У прыведзеным прыкладзе гаворыцца пра зямную паверхню, у прыватнасці пра тое, што дзве трэціх яе займаюць воды Сусветнага акіяна, а астатнюю частку – суша.

І калі пры гэтым было ўжыта толькі слова *мора,* то яно не зацямніла сутнасці выказвання і не перашкодзіла чытачу правільна ўспрыняць тое, пра што яму апавядаецца, бо ў яго свядомасці з даўніх часоў бязмежнасць воднай прасторы асацыіруецца перш за ўсё з морам.

Аднак у тых выпадках, калі патрабавалася больш ці менш свядомае размежаванне адпаведных геаграфічных паняццяў, словы *мора* і *акіян* ужываліся як асобныя найменні тэрміналагічнага характару: *Клубок-зямля паволі з векамі астывала, цьвярдзела, на ёй парабіліся горы, акіяны, моры, але ў нутры сваім зямля і да гэтуль растопляна*[2]*;А мне атказываюць: вышлі у морэ, дагэтуль былі у затоцэ...*[3]*; У паўночна-заходняй часьці Афрыкі – пры Срэдзіземным моры і Атлантыцкім Акіані – ляжыць багаты і ўраджайны край Марокко*[4].

Характэрна, што такое словаўжыванне назіраецца на старонках розных выданняў. Значыць, словамі *мора* і *акіян* карысталіся як геаграфічнымі тэрмінамі ў такіх моўных сітуацыях, калі вынікала неабходнасць дакладна абазначыць прадмет апісання ці гутаркі. Гэта выразна відаць на прыкладзе апавядання А. Новіча «Амерыканец», дзе ў якасці мастацка-выяўленчага сродку выкарыстана своеасаблівая састаўная назва *мора-акіян,* а калі неабходна было дакладна назваць паняцце, калі на першы план стала задача дакладнай інфармацыі, аўтар у апавяданні «У дому лепей» ужыў адпаведныя тэрміналагічныя адзінкі *мора* і *затока.* Так словы *мора* і *акіян* паступова асэнсоўваліся шырокім чытачом як асобныя тэрміналагічныя сродкі абазначэння розных геаграфічных паняццяў, хоць бытавая выразнасць гэтых слоў захоўвалася і ў адпаведных кантэкстах праяўлялася.

Іншы раз агульнаўжывальнае слова, якому надавалася функцыя тэрміну, уводзілася ў тэксты навуковага і навукова-папулярнага характару ў суправаджэнні глосы, у якасці якой звычайна выступалі тэрміны, напрыклад: *Колькі*

---

[1] Гутарки аб неби и зямли. – Пб., 1907. – С. 3.

[2] Лучынка. – Кн. 3. – Мінск, 1914. – С. 18.

[3] *Новіч А.* У дому лепей. – Пб., 1911. – С. 11.

[4] Наша ніва. – 1909. – № 30.

*гадоў таму назад у Пецярбурзе аткрылося таварыство, каторае мело мэту злучыць каналам рэкі Заходнюю Дзьвіну і Днепр, паглубіць і пашырыць у вярхоўках жолабы (русла) гэтых рэк...*[1] Відаць, аўтар усведамляў, што слова *жолаб* у тэрміналагічным значэнні магло аказацца не зусім зразумелым, таму і выкарыстаў тэрмін *русла,* заключыўшы яго ў дужкі. Адсутнасць якога-небудзь тлумачэння пры гэтым дае падставу меркаваць, што тэрмін *русла* быў вядомы і зразумелы аўтару і чытачу, аднак па нейкіх чыста суб'ектыўных прычынах не задавальняў перш за ўсё аўтара, тым больш што ў іншых выпадках засведчаны толькі тэрмін *русла: ...шмат залежа ешчэ ад таго, як вузкае ці шырокае бывае русло ракі* [2].

Сустракаюцца на старонках беларускіх дакастрычніцкіх выданняў пачатку XX ст. асобныя тэрміналагічныя адзінкі, утвораныя ад асноў агульнаўжывальных слоў: *...а цяпер пакажэм тольш, якую форму мае плесень, калі яе уяличыць у многа разоў. Форма будзе такая: ...стволик-камялёк плесни, ... карэньчыки плесни... Як бліжэй прыгледзишся да гэтае плесени, то и пабачыш, што яна мае камелёк-нитачку, на каторай ёсьць галоўка. Ад низу нитачки-стволика идуць як бы карэньчыки и яны пранизываюць той прадмет, на каторым сидзиць плесень*[3]*; Усё, што ёсьць у расьліне: яе кара, дрэвоціна, лісьце, карэньне, насеньне – выводзіцца з гэтых кармоў, с каторых расьліна жыве*[4]; *...мейсцэ, дзе канчаецца стваліна, а пачынаецца карэньне, называецца ашыйкам*[5].

Словы *камялёк, стволік, галоўка, карэньчык, нітачка* выкарыстаны ў артыкуле «Нявидзимые нашы вораги», у якім расказваецца пра будову і распаўсюджанне плесневых грыбоў. Кантэкст паказвае, што ў навукова-папулярных творах гэтым словам надавалася спецыяльная дэфініцыя і яны мелі выразную сэнсава-паняційную акрэсленасць: абазначалі асобныя органы плесні. Плесні іншы раз такія маленькія, што іх можна разгледзець толькі пад мікраскопам. Адсюль зразумела, чаму ў якасці тэрміналагічных сродкаў выкарыстоўваліся словы з суфіксамі, якія маюць памяншальнае значэнне (у нашым выпадку *-к, -ік, -ачк, -чык).* У сістэме прыродазнаўчай тэрміналогіі падобныя тэрміны не страцілі адцення памяншальнасці і асобныя з іх даволі шырока выкарыстоўваюцца ў навуковай літаратуры (параўн.: *галоўка* і *галава, грыбкі* і *грыбы* і да т. п.).

Словы *дрэвоціна* і *стваліна* таксама выконваюць выразна акрэсленую дэфінітыўную функцыю: першае абазначае паняцце, звязанае з унутранай будовай сцябла (цвёрды, самы шырокі слой сцябла, што знаходзіцца пад карой), другое – паняцце адпаведнага органа расліны (адраўнелае сцябло). Гэтыя

---

[1] Наша ніва. – 1909. – № 38.
[2] Лучынка. – Кн. 4. – Мінск, 1914. – С. 9.
[3] Наша ніва. – 1906. – № 3.
[4] Беларускі календар «Нашай нівы» на 1914 год. – Вільня, 1914. – С. 60.
[5] Беларускі календар «Нашай нівы» на 1911 год. – Вільня, 1911. – С. 60.

тэрміналагічныя адзінкі ўтвораны пры дапамозе суфікса *-ін,* які звычайна надае слову значэнне адзінкавасці. Аднак у даным выпадку яго функцыянальная роля некалькі іншая: ён падкрэслівае своеасаблівасць тых паняццяў, якія абазначаны словамі *дрэвоціна* і *стваліна,* у адпаведных класіфікацыйных радах лагічнай схемы навукі аб прыродзе. Праўда, пазней у працэсе моўнай практыкі ў якасці нормы замацаваліся тэрміны *драўніна* і *ствол,* аднак прыведзеныя прыклады сведчаць пра тое, што ўжо на першапачатковым этапе фарміравання беларускай нацыянальнай прыродазнаўчай тэрміналогіі назіралася (хоць і ў нязначнай ступені) спецыялізацыя асобных слова- і формаўтваральных сродкаў.

Характэрнай асаблівасцю выкарыстання ў якасці тэрміналагічных сродкаў агульнаўжывальных слоў ці слоў, утвораных на іх аснове, з'яўляецца тое, што яны, як правіла, уводзіліся ў навуковыя, навукова-папулярныя і літаратурна-мастацкія тэксты без ніякіх тлумачэнняў, таму што ў сэнсавых адносінах былі дастаткова матываванымі. Толькі ў некаторых выпадках з мэтай больш дакладнага асэнсавання той ці іншай з'явы або паняцця поруч з тэрмінам прыводзілася экспліцытнае азначэнне: *Днепр з яго прытокамі* (*рэкамі, што ў яго ўліваюцца*) *мае вялікае значэнне...*[1]

Калі ў функцыі тэрміну выкарыстоўваліся лексічныя адзінкі, абмежаваныя стыхіяй жывой гутарковай мовы, яны амаль заўсёды пэўным чынам тлумачыліся: *Хвошч* (*мейсцамі яго называюць скрыпам*) *расьліна мнагалетняя, разрастаецца с каранёў; тые калівы, што выдаюць насеньня, з'яўляюцца вясной, як толькі сьнег згоніць* (*называюць і х мейсцамі гігелямі*) *і ўжо ў маі пасьпеваюць*[2].

З прыкладаў відаць, што асобныя аўтары ў пошуках неабходных намінатыўна-тэрміналагічных адзінак свядома звярталіся да жывых народных гаворак, дзе знаходзілі патрэбныя словы і ўводзілі іх у сферу спецыяльнай камунікацыі. Калі пры гэтым браліся словы, не абмежаваныя вузкім моўным арэалам (*хвошч*), то яны замацоўваліся ў літаратурнай мове і набывалі статус тэрміну. Роля лексічнага рэгіяналізму, які прыводзіўся ў тлумачэнні, заключалася ў тым, каб, з аднаго боку, садзейнічаць замацаванню ў якасці тэрміналагічнай адзінкі больш пашыранага ў гаворках слова (хвошч толькі месцамі называлі скрыпам, значыць, аўтар аддаваў перавагу слову *хвошч*), а з другога – звярнуць увагу на адсутнасць агульнапрынятага лексічнага знака і ўжыць пры гэтым вядомае аўтару слова мясцовай гаворкі (*гігялі*), не лічачы, аднак, яго адзіна магчымым сродкам абазначэння адпаведнага паняцця (не выпадкова ўжыта апісальная канструкцыя і ў пабочнай заўвазе прыведзена слова *гігялі,* а не наадварот).

Аналіз прыродазнаўчай лексікі беларускай літаратурнай мовы пачатку XX ст. паказвае, што арыентацыя на ўласныя моўныя рэсурсы была даволі

[1] Наша ніва. – 1909. – № 4.
[2] Саха. – 1912. – Кн. 6. – С. 16.

адчувальнай і ўсе аўтары імкнуліся да таго, каб у тэкстах навуковага і навукова-папулярнага характару выкарыстаць перш за ўсё выяўленчыя магчымасці беларускага друкаванага і жывога гутарковага слова. І ўсё ж абмежавацца толькі лексічнымі рэсурсамі беларускай мовы яны не маглі і таму выкарыстоўвалі тэрміны іншамоўнага паходжання. Звычайна гэта назіраецца пры апісанні прыродных з'яў, не ўласцівых для Беларусі, а таксама пры характарыстыцы асобных навуковых паняццяў: *Гэтый увесь цэликом лёд называўся и называецца у навуцы ледником, а той час, кали гэтые ледники на свеци найбольш были, называецца ледниковым периодом; Як дзень памаленьку зменяецца ночью, так и у жыццю нашым у прыродзе усе зменяецца адно другим, зменяецца паволи, памаленьку и гэта павольнае змяненне у навуцы называецца эволюцией*[1]*; Вось тут і становіцца ў помач гэта «сэлекція» або падбор лепшаго сорту зерна з ураджаю*[2]; *...бактэрыямі завуць дробненькіе жывёлачкі, голым вокам іх і не даглядзець, а толькі ўбачыць можна праз такіе шклы, каторые паказываюць усё вялікшым*[3]; *На сьвеце шмат ёсць такіх высокіх гор, што часамі выкідаюць з сябе, з надтрэснутых бакоў, а яшчэ часцей з самага верху гарачую гразь разам з вялікімі аскабалкамі разарваных камнёў ад страшнай сілы ўзрыву. Вось гэтые горы носяцьназваньне вулканаў*[4]; *На востраві Амбрым выбухнаў вулькан* (*такая гара, с каторай выходзяць агонь, дым і выліваецца лава*)[5].

Асаблівасцю выкарыстання іншамоўных тэрмінаў з'яўляецца тое, што яны, як правіла, так ці інакш тлумачыліся. Гэтыя тлумачэнні, як сведчаць прыведзеныя прыклады, у адных выпадках нагадваюць сабой апісанне адпаведнай з'явы, у другіх – элементарную дэфініцыю. Аднак і пры апісанні і пры сэнсавым азначэнні той ці іншай з'явы або паняцця аўтары адштурхоўваліся ад жыццёвага вопыту шырокага чытача, якому адрасавалі свае допісы, дарожныя нататкі, асобныя артыкулы навуковага і навукова-папулярнага зместу. Яны арыентаваліся не столькі на тагачасны ўзровень навукі, колькі на адукацыйны ўзровень працоўнага чалавека, якому, як адзначалася ў «Лучынцы», імкнуліся «адкрываць па троху... вялікую і дзіўную кнігу сьвета прыроды, дзе ўсё мае свае прычыны і свае мудрые законы»[6].

На жыццёвую практыку чытача разлічвалася і такое выкарыстанне іншамоўных тэрмінаў, калі поруч з імі ў дужках прыводзіліся агульнавядомыя словы: *Каб ачысьціць які надзел с тайгі* (*пушчы*) *– трэба грошы і то многа грошы*[7]. Відавочна, што слова *пушча* ўжыта для таго, каб данесці да чытача змест тэрміну *тайга.* І хоць словы *тайга* і *пушча* не з'яўляюцца раўназнач-

[1] Наша ніва. – 1906. – № 4.
[2] Беларускі календар «Нашай нівы» на 1914 год. – Вільня, 1914. – С. 56.
[3] *Маліновскі.* Як багацеюць чэскіе селяне. – Вільня, 1912. – С. 28.
[4] Лучынка. – Кн. 1. – Мінск, 1914. – С. 13.
[5] Беларус. – 1913. – № 38.
[6] Лучынка. – Кн. 4. – Мінск, 1914. – С. 36.
[7] Наша ніва. – 1913. – № 23.

нымі ў сэнсавых адносінах, такі прыём апраўданы, таму што паняцце, абазначанае тэрмінам *тайга,* асацыіруецца ў свядомасці беларуса з пушчай.

Крыніцай запазычання і ўзбагачэння лексікі беларускай літаратурнай мовы тэрміналагічнымі адзінкамі з'яўлялася перш за ўсё руская мова. Пры гэтым запазычваліся не толькі тэрміны рускага паходжання, але і такія, што ў рускую мову прыйшлі з іншых моў, у тым ліку і так званыя інтэрнацыяналізмы. Працэс асваення запазычанай лексікі пры адсутнасці агульнапрынятых норм працякаў марудна, таму некаторыя словы захоўвалі на старонках беларускіх выданняў спецыфічныя фанетычныя і марфалагічныя рысы, уласцівыя рускай мове: *масштаб, отмел, сэлекція, эволюція.* Частка тэрмінаў была запазычана ў пачатку XX ст. і з польскай мовы: *выспа, капальня, мапа* і інш.

Увогуле, ядро прыродазнаўчай лексікі беларускай літаратурнай мовы пачатку XX ст. складалі агульнаўжывальныя словы. На іх аснове марфалагічным (*ашыек, залесак, камялёк, перакоп...*), семантычным (*дабро, ваколіца, жолаб, канава...*), лексіка-сінтаксічным (*вярхоўе рэкі, дзіравы верх, трасеньне зямлі, дарога водная...*) спосабамі і шляхам складання (*землеплод, цепламер...*) утвараліся тэрміналагічныя найменні, якія ў навуковых і навукова-папулярных тэкстах набывалі спецыяльную дэфініцыю. Не ўсе з іх замацаваліся ў лексіка-семантычнай сістэме беларускай літаратурнай мовы, аднак яны паказваюць, як фарміравалася беларуская нацыянальная тэрміналогія на пачатковым этапе яе развіцця.

# НЕКАТОРЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ВЫПРАЦОЎКІ І ЎДАСКАНАЛЕННЯ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ Ў САВЕЦКІ ЧАС*

Беларуская навуковая тэрміналогія пачала фарміравацца ў самым пачатку XX ст., калі ў выніку нацыянальна-вызваленчай барацьбы адрадзілася кнігадрукаванне і на беларускай мове з'явіліся газеты і часопісы, арыгінальныя і перакладныя кнігі і брашуры навуковага і навукова-папулярнага характару. Аднак гэты пласт лексікі ў беларускай літаратурнай мове дакастрычніцкага перыяду заставаўся колькасна нешматлікім і ў функцыянальных адносінах вызначаўся асаблівай стракатасцю і неўнармаванасцю. Яго фарміраванне і развіццё стрымлівалася тагачаснымі палітычнымі ўмовамі, якія абмяжоўвалі выкарыстанне беларускай літаратурнай мовы толькі стылямі мастацкай літаратуры і часткова публіцыстыкі.

Спрыяльныя магчымасці для развіцця беларускай літаратурнай мовы стварыліся пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, калі быў знішчаны сацыяльны і нацыянальны прыгнёт і беларускі народ атры-

* Першая публікацыя ў выданні: Веснік БДУ. – Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. – 1977. – № 2. – С. 28–32.

маў сваю дзяржаўнасць. У новых гістарычных умовах «перад беларускай літаратурнай мовай былі пастаўлены важныя, пачэсныя і адказныя задачы: абслугоўваць патрэбы новага, усебакова развітага сацыялістычнага грамадства ва ўсіх сферах яго дзейнасці»[1]. Каб забяспечыць гэтыя запатрабаванні, неабходна было найперш развіць і ўдасканаліць моўна-выяўленчыя сродкі, у тым ліку тэрміналагічную лексіку.

Для выпрацоўкі беларускай нацыянальнай тэрміналогіі Народны камісарыят асветы БССР стварыў Навукова-тэрміналагічную камісію, якая распачала сваю дзейнасць у лютым 1921 г. у складзе трох секцый (гуманітарных, прыродазнаўчых і матэматычных навук) і павінна была за некалькі месяцаў апрацаваць беларускую тэрміналогію па ўсіх галінах ведаў у аб'ёме курса сярэдняй школы. Было створана і прапанавана для ўжывання 2500 слоў-тэрмінаў (друкаваліся асобнымі выпускамі на старонках «Весніка Народнага камісарыята асветы ССРБ» у 1921–1922 гг.), а ў стане апрацоўкі знаходзіліся 4184 тэрміналагічныя найменні[2]. Аднак неўзабаве высветлілася, што такі аб'ём не адпавядае запатрабаванням моўнай практыкі і што неабходна прыступіць да апрацоўкі ўсёй тэрміналагічнай лексікі. У гэтым напрамку пашырала сваю працу Навукова-тэрміналагічная камісія, а затым – заснаваны на яе базе 30 студзеня 1922 г. Інстытут беларускай культуры. У выніку за перыяд з 1921 г. па 1930 г. было апублікавана больш 30 тэрміналагічных слоўнікаў (ці выпускаў). Стваральнікі беларускай тэрміналогіі ўсведамлялі яе «праектовы характар», звярталіся да шырокай грамадскасці выказваць свае заўвагі адносна таго ці іншага тэрміна, хоць і падкрэслівалі, што «для настаўнікаў і аўтараў падручнікаў гэтая тэрміналёгія зьяўляецца абавязковаю, па скольку ў ёй ня будзе зьмен, зробленых самой камісіей»[3]. Фарміраванне беларускай нацыянальнай тэрміналогіі адбывалася на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў пры наяўнасці розных тэндэнцый, розных пунктаў гледжання на крыніцы і шляхі яе стварэння, развіцця і ўдасканалення.

Галоўны прынцып сваёй дзейнасці Навукова-тэрміналагічная камісія сфармулявала так: «Што датыча самога характару тэрмінолёгіі, то ў аснову яе браліся словы, існуючыя ў жывой народнай мове...»[4] Арыентацыя на ўласныя рэсурсы ўвогуле правільная, бо, як слушна адзначаў акадэмік В. У. Вінаградаў, «усякая навука пачынае з вынікаў, здабытых мысленнем і мовай народа, і ў далейшым сваім развіцці не адрываецца ад народнай мовы»[5]. Кіруючыся вышэйназваным прынцыпам, стваральнікі тэрміналогіі прапанавалі ўвесці ў сфе-

---

[1] *Шакун Л. М.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 1963. – С. 269.

[2] Вестник Народного Комиссариата просвещения ССРБ. Беларускі аддзел. – 1922. – Вып. 5–6. – С. 14.

[3] Вестник Народного Комиссариата просвещения ССРБ. Беларускі аддзел. – 1921. – Вып. 2. – С. 13.

[4] Тамсама. С. 11.

[5] *Виноградов В. В.* Основные типы лексических значений слов // Вопросы языкознания. – 1953. – № 5. – С. 6.

ру спецыяльнай камунікацыі, надаўшы ім навуковую дэфініцыю, такія агульнаўжывальныя словы, як *боб, бялок, ланцуг, рух, сіла, струк, стрыжань, сцябло, хмызняк, ціск, цыбуліна, чаранок* і інш. У навуковых і навукова-папулярных выданнях падобныя лексічныя адзінкі страчвалі сваю бытавую выразнасць, набывалі строга акрэсленае спецыяльнае значэнне і дакладна арыентавалі на адпаведнае паняцце. Гэтыя тэрміны аказаліся даволі ўдалымі і адразу замацаваліся ў лексіка-семантычнай сістэме, хоць асобныя з іх і набылі ў працэсе моўнай практыкі катэгарыяльную мнагазначнасць.

Усё ж жывая народная мова не мела дастатковай колькасці слоў, неабходных для намінацыі і дэфініцыі шматлікіх паняццяў. У такіх выпадках Навукова-тэрміналагічная камісія «трымалася таго погляду, што лепш утвараць згодна з законамі беларускай мовы нэолёгізмы, чымся браць чужыя, саўсім незразумелыя словы...»[1]. Калі пры стварэнні неалагізмаў існаваўшыя ў мове словы глыбока і ўсебакова аналізаваліся ў плане структуры і зместу і калі пры гэтым выкарыстоўваліся прадуктыўныя слова- і формаўтваральныя сродкі, то новыя тэрміны адпавядалі ўнутранаму ладу беларускай мовы і хутка пашыраліся ў моўнай практыцы. Некаторыя з іх утвораны шляхам калькавання адпаведных тэрміналагічных адзінак рускай мовы (*азначэнне – определение, безасабовы* сказ – *безличное* предложенне, *вочка – глазок, сукведдзе – соцветие* і інш.), частка прадстаўляе сабой дэрываты, што адрозніваюцца ў беларускай і рускай мовах словаўтваральнымі асновамі, а ў некаторых выпадках і фармантамі, як лексічныя адзінкі з рознай матывіроўкай (*вязка – пучок, валаснікі – мочки, злучок – черточка, пабочны* сказ – *вводное* предложение і інш.).

Аднак імкненне як мага шырэй выкарыстаць толькі ўласныя моўныя рэсурсы прывяло да пурыстычнай тэндэнцыі, калі пачалі ствараацца неалагізмы без уліку пашырэння таго ці іншага слова ў мове, без належнага аналізу яго семантыкі і фонамарфалагічнага складу, каб толькі пазбавіцца ад «чужых слоў» і такім чынам «абеларусіць» беларускую мову. Таму замест іншамоўных (часта інтэрнацыянальных) тэрмінаў стваральнікі тэрміналогіі прапаноўвалі карыстацца штучнымі неалагізмамі тыпу *воднічак* (вакуоля), *двупастацёвасьць* (дымарфізм), *заплодня* (антэрыдый), *лістазелень* (хларафіл), *мяшанец* (гібрыд), *расьліны-мокралюбы* (гіграфіты), *спалкаваньне* (капуляцыя); *блізказначнік* (сінонім), *злосьмех* (сарказм), *краеабраз* (пейзаж), *маласлоўе* (лаканізм), *надпіс* (анаграма), *іншасказ* (алегорыя), *ступеняваньне* (градацыя), *сугучнасьць* (алітэрацыя); *вапень* (кальцый), *пырскаўка* (пульверызатар); *смутнаглядца* (песіміст), *сьветлагляднасьць* (аптымізм), *сьветлагляднік* (аптыміст), *вогнішча* (фокус), *двохчлен* (біном) і інш. Названая тэндэнцыя была даволі адчувальнай, і асобныя «чужыя словы» не рэкамендаваліся да выкарыстання толькі таму, што яны ўжываліся ў функцыі тэрмінаў у рускай мове. Так, напрыклад, Ю. Гаўрук, адзначаючы незвычайную блытаніну ва ўжыванні слоў *квас, кіслата, кісьліна* і прапаноўваючы

---

[1] Вестник Народного Комиссариата просвещения ССРБ. Беларускі аддзел. – 1921. – Вып. 2. – С. 12.

ў якасці нормы тэрмін *кісьліна,* пісаў наступнае: «Самы галоўны довад супраць слова *кіслата* ў сэнсе acidum – гэта яго запазычанасць з расійскай мовы»[1]. Гэтым тлумачыцца таксама стварэнне тэрмінаў *бушаваньне* (руск. брожение), *абалоніна* (клетчатка), *бізунок* (жгутик), *бульбіна* (клубень), *вязка* (пучок), *гак* (коса), *гніцьцё* (гниение), *грыбня* (грибница), *дрындушка* (частушка), *завітка* (завиток), *кошычак* (корзинка), *лішаі* (лишайники), *лускаўка* (стручок), *місачка* (чашечка), *плеўка* (пленка), *розьзяў* (зияние), *тычачка* (тычинка) і інш. Аднак стварэнне падобных тэрміналагічных намінацый не заўсёды было абгрунтаваным: словы, што лічыліся «чужымі», генетычна ўзыходзяць да ўсходнеславянскіх ці агульнаславянскіх каранёў, яны даволі шырока выкарыстоўваліся ці мелі аднакарэнныя лексічныя адзінкі ў беларускай мове, таму на іх аснове шляхам семантычнай ці марфалагічнай дэрывацыі лёгка маглі ўзнікнуць адпаведныя тэрміны. Тэндэнцыйны падыход заўважаецца і ў тых выпадках, калі замест «чужых тэрмінаў» прапаноўваліся не словаўтваральныя неалагізмы, а іншыя (але таксама «чужыя») тэрміны, напрыклад: *каморка* (польск. komorka) замест *клетка* (руск. клетка), *тлен* (tlen) замест *кіслард* (кислород), *кут* (укр. кут) замест *вугал* (угол) і інш. А між тым словы *вугал, кіслард* і *клетка* выкарыстоўваліся ўжо на старонках беларускіх дакастрычніцкіх выданняў пачатку XX ст.

Зразумела, стваральнікі беларускай нацыянальнай тэрміналогіі не маглі зусім пазбегнуць ужывання іншамоўных тэрмінаў, але «рабілася гэта толькі тады, калі 1) у народнай мове ня было адпаведнага беларускага тэрміну, 2) калі ўтвораныя нэолёгізмы былі надта штучныя й 3) калі гэтыя чужаземныя словы былі пашыраны ў мовах культурных народаў», пры гэтым заўважалася, што «з чужых слоў больш за ўсё бралася з найбольш блізкіх моваў – расейскай і польскай»[2]. Але адзінага погляду на выкарыстанне іншамоўных тэрмінаў і тэрмінаэлементаў не было. Так, М. Байкоў самымі дасканалымі лічыў тыя выпускі «Беларускай навуковай тэрміналогіі», у якіх іншамоўныя тэрміны перакладаліся на беларускую мову, і сцвярджаў, што «гэтая тэндэнцыя найбольш за ўсё адпавядае інтарэсам разьвіцьця нашай літаратурнай мовы»[3]. У той жа час, адказваючы на папрокі М. Байкова, Ю. Дрэйзін, адзін са стваральнікаў музычнай тэрміналогіі, пісаў: «...рабіць па яго рэцэпце аднясна ўтварэньня новых слоў, гэта значыць складаць такую тэрміналёгію, якая будзе зразумелая толькі для аўтара... Я не бачу, чым “звышок, зьніжок і проціножнікі” горай за славутыя “мокроступы”»[4].

[1] *Гаўрук Ю.* Тэрміны: квас, кіслата, кісьліна // Аршанскі маладняк. – 1928. – № 7. – С. 100.

[2] Вестник Народного Комиссариата просвещения ССРБ. Беларускі аддзел. – 1921. – Вып. 2. – С. 12.

[3] *Байкоў М.* Да пытання аб чужаземных словах у нашай мове // Полымя. – 1927. – № 4. – С. 155.

[4] *Дрэйзін Ю.* Шануйце мову // Узвышша. – 1928. – № 1 (7). – С. 179.

Акрамя таго, былі дапушчаны і такія недахопы:

а) некаторыя тэрміны, якія служылі для намінацыі і дэфініцыі паняццяў, што ў лагічнай схеме навукі адносяцца да аднаго і таго ж поля ці класіфікацыйнага рада, ствараліся пры дапамозе розных дэрывацыйных сродкаў, напрыклад: ліст *зарубчасты,* ліст *патройны,* ліст *пілаваты* (руск. лист *городчатый,* лист *тройчатый,* лист *пильчатый*); *сьценка,* бочная *сьцяна* (*грань,* боковая *грань*); расьліны-*жываросты,* расьліны-*мокралюбы* (грэч. *эпіфіты, гіграфіты*); *смутнаглядца, сьветлагляднік* (*песіміст, аптыміст*);

б) пры стварэнні асобных тэрмінаў, якія павінны былі выражаць розныя віды прадметна-лагічных адносін, выкарыстоўваліся аднолькавыя фарманты, у выніку чаго лексічныя дэрываты не вызначаліся адпаведнай дакладнасцю, напрыклад: *мучністае* семя, *судзінкава-валакняная* вязка, *цукраватая* матэрыя (руск. *мучнистое* семя, *сосудисто-волокнистый* пучок, *сахаристые* вещества);

в) частцы тэрмінаў не надавалася строга акрэсленай дэфініцыі, і таму ў слоўніках часам адзін і той жа тэрмін прыводзіўся ў якасці семантычнага эквівалента да розных тэрмінаў рускай мовы, напрыклад: *галінаваньне* – ветвление, *галінаваньне* – разветвление; *сустаўны* – сложный, *сустаўны* – составной;

г) у некаторых выпадках стваральнікі тэрміналогій па асобных галінах ведаў для выражэння аднаго і таго ж паняцця ці аднатыпных адносін выкарыстоўвалі розныя тэрміны і тэрмінаэлементы, напрыклад: *нібы-вось* (бат.), *нібы-плод* (бат.), *нібы-тапаз* (геал.) і *несапраўдны назоўны склон; прарадзіма* (гіст.) і *першамова* (прамова, мовазн.); *браджэньне* (бат.) і *брузаваньне* (хім.);

д) у некаторых выпадках для абазначэння аднаго і таго ж паняцця прапаноўваліся розныя па паходжанню ці ўтварэнню лексічныя дублеты і фонамарфалагічныя варыянты, хоць асобныя з іх не раўназначныя ў сэнсавых адносінах, напрыклад: *акцэнт – вымова – націск, вытворная* аснова – *выводная* аснова, *дыялект – гутарка, лексыкографія – словапісь; жагель – сьцяжок, жылкі – нервы, прычэпка – вусік; паўкуля – паўкульле, белагліньне – каолін, вадападзел – вададзел; перагонка – дыстыляцыя, рошчын – раствор; пераносьня – мэтафора, шасьцімер – шасьцістоп – гэксамэтр* і інш.

Такім чынам, створаная ў 1920-я гг. беларуская навуковая тэрміналогія мела шмат істотных недахопаў, таму ў многіх выпадках яна не магла аказаць адпаведнага рэгулюючага ўздзеяння на моўную практыку. Вось некалькі красамоўных фактаў. На старонках «Весніка Народнага камісарыята асветы ССРБ» (1921, № 2) была апублікавана граматычная тэрміналогія, у складзе якой засведчаны тэрміны *прыймя* (прыназоўнік), *гук, імя назоўнае,* а ў рэцэнзіі, змешчанай у гэтым жа нумары, выкарыстаны наступныя лексічныя дублеты і фонамарфалагічныя варыянты: *прыймя – прыйменьне – прыйменьнік, гук – зык, імя назоўнае – імя – іменьне*[1]. Больш таго, некаторыя з іх

[1] Вестник Народного Комиссариата просвещения ССРБ. Беларускі аддзел. – 1921. – Вып. 2. – С. 19.

выкарыстоўваліся ў розных значэннях. Параўн.: *...прыйменьні* каля, дзеля... і ...зьмена *з* на *с* у *прыйменьнях* перад глухімі зычнымі (разважаць – расказаць, зрабіць – схіліць)...[1] Сустракаюцца выпадкі зусім памылковага ўжывання тэрмінаў. Так, *прыслоўе* прыводзіцца ў складзе тэрміналогіі ў сучасным яго разуменні, але выкарыстоўваецца у «Весніку» недакладна: *«Прыслоўе* не, напрыклад, гэтак сама нязьменная часьціна мовы, а тым часам мы гаворым і пішам не і ня, у залежнасьці ад складу перад націскам»[2]. Цікава таксама адзначыць, што ў адным і тым жа значэнні ўжываюцца тэрміны *прыйменьне* і *прыстаўка,* хоць тэрмін *прыйменьне* не засведчаны ў складзе граматычнай тэрміналогіі, а тэрмін *прыстаўка* пададзены ў сучасным яго значэнні.

Усё гэта рабіла асабліва надзённай праблему ўпарадкавання тэрміналагічнай лексікі. У далейшым, калі ў працэсе моўнай практыкі і лексікаграфічнай дзейнасці «паралельна з папаўненнем слоўнага багацця ішоў няспынны працэс яго пераацэнкі і адбору»[3], выпрацоўваліся паступова і нормы выкарыстання тэрміналагічных адзінак.

Як ужо адзначалася, шмат якія тэрміны, створаныя шляхам семантычнай ці марфалагічнай дэрывацыі, шляхам калькавання і запазычання, адразу замацаваліся ў лексіка-семантычнай сістэме. Лёс іншых намінацый склаўся па-рознаму:

а) не пашырыліся ў моўнай практыцы штучныя неалагізмы, якія не адпавядалі тэндэнцыям развіцця беларускай літаратурнай мовы, у выніку чаго разбураліся дублетныя рады і ў якасці нормы прымаўся інтэрнацыянальны тэрмін: *вакуоля* (у слоўніку тэрмінаў *ваднічок* і *вакуоля*), *гібрыд* (*мяшанец* і *гібрыд*), *акумуляцыя* (*акумуляцыя* і *награмаджэньне*), *архаізм* (*архаізм* і *застарэласьць*) і інш.;

б) выйшлі з ужывання нематываваныя русізмы і паланізмы, што таксама выклікала разбурэнне адпаведных дублетных радоў і прывяло да замацавання тэрміна, створанага на беларускай лексічнай аснове, ці тэрміна інтэрнацыянальнага характару: *замова* (у слоўніку *загавор* і *замова*), *літара* (*літара* і *буква*), *апагей* (*пункт адземны* і *апогей*) і інш.;

в) некаторыя дублетныя пары распаліся ў выніку таго, што за кожным кампанентам у працэсе моўнай практыкі замацавалася акрэсленая спецыяльная дэфініцыя: *дыялект, гутарка* (у слоўніку *диалект – дыялект, гутарка*), *прыказка, прымаўка* (*поговорка – прыказка, прымаўка*) і інш.;

г) з асобных фонамарфалагічных варыянтаў функцыі тэрміна замацаваліся за тымі, якія вызначаліся ў лексічнай сістэме беларускай мовы большай

---

[1] Вестник Народного Комиссариата просвещения ССРБ. Беларускі аддзел. – 1922. – № 1 (3). – С. 6.

[2] Тамсама.

[3] *Германовіч І. К.* Назіранні над лексікай беларускай літаратурнай мовы 20–30-х гадоў XX ст. // Беларуская мова (Даследаванні па лексікалогіі). – Мінск, 1965. – С. 13.

рэгулярнасцю: *апісальны* (з *апісовы* і *апісальны*), *водападзел* (з *водападзел* і *водадзел*), *зваротак* (з *зварот* і *зваротак*) і інш.;

д) пад уплывам рускай мовы пашырыліся ва ўжыванні і сталі нормай тэрміны, узнікшыя на аснове ўсходнеславянскіх і агульнаславянскіх каранёў; яны выцеснілі са сферы спецыяльнай камунікацыі дублеты – неалагізмы штучнага ўтварэння ці нематываваныя запазычанні: *кісларод, клетка* (ужываліся паралельна з паланізмамі *тлен, каморка*), *жгуцік, раствор* (функцыянавалі поруч з адзінкамі штучнага ўтварэння *бізунок, рошчын*) і інш.;

е) асобныя тэрміны ўдакладнілі сваю структуру, набыўшы больш прадуктыўныя і больш рэгулярныя фарманты, што адпавядала асаблівасцям парадыгматычных адносін гэтай тэрміналагічнай адзінкі з іншымі ў лексічнай сістэме беларускай мовы: *акаркавенне, адзеравяненне, апыленне, аплadненне* (першапачатковыя *скаркавеньне, адзервяненьне, апылкаваньне, запладненьне*) і інш.;

ж) многія тэрміны наогул выйшлі з лексічнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы, а замест іх былі ўведзены розныя па свайму паходжанню і ўтварэнню неалагізмы, якія, аднак, не парушалі агульнага паступовага развіцця беларускай нацыянальнай тэрміналогіі, напрыклад: *гарэлка* (замест паланізма *пальнік*), *баршчэўнік* (замест вузкадыялектных *боршчаўка, бядрыца, баршч, вярлома*) і інш.

Увогуле тэрміналагічныя нормы ў беларускай літаратурнай мове выпрацоўваліся на працягу некалькіх стагоддзяў: адны тэрміны былі засведчаны ў якасці нормы ўжо «Беларуска-расійскім слоўнікам» (1925 г.) і «Расійска-беларускім слоўнікам» (1928 г.) М. Байкова і С. Некрашэвіча (*пальчаты ліст, раздражняльнасць*); другія – «Руска-беларускім слоўнікам» (1937 г.) пад рэд. А. Александровіча (*гербарый, гібрыд, грыбніца, жыўчык, пялёстак, семядоля, тычынка*); трэція – толькі «Руска-беларускім слоўнікам» (1953 г.) пад рэд. Я. Коласа, К. Крапівы і П. Глебкі (*аплadненне, апыленне, карэнішча, песцік, прылістак, пупышка*). Пры гэтым неабходна адзначыць, што асобныя тэрміны, нават калі яны фіксаваліся памянёнымі слоўнікамі, не адразу пашыраліся ў моўнай практыцы і станавіліся агульнапрынятымі. Не выпадкова назіраецца такая з’ява, калі «Беларуска-расійскі слоўнік» (1925 г.) фіксуе тэрміны *вадаросты, вяночак, пучок;* «Руска-беларускі слоўнік» (1937 г.) адпаведна – *водарасль, венчык, почка;* «Руска-беларускі слоўнік» (1953 г.) – *водарасць, вяночак, пупышка.* Гэта сведчыць, што стабілізацыя асобных звенняў тэрміналагічнай лексікі адбывалася яшчэ і ў 1950-я гг.

Беларуская літаратурная мова нашых дзён мае даволі развітую і адносна ўнармаваную тэрміналагічную лексіку. Аднак на старонках розных выданняў і сёння яшчэ сустракаюцца шматлікія фонамарфалагічныя варыянты (*удакладняльныя і ўдакладняючыя* (словы), *прамастойныя* і *простастаячыя* (сцяблы), *чарговае* і *чаргаванае* (лістаразмяшчэнне), *дзейная* і *дзеючая* (асоба), *адыманне* і *адніманне*), адзінкі, якія не адпавядаюць тэндэнцыі да рэгулярнасці (*аднанасенныя – шматнасенныя, аднаклетачныя – шматклетачныя* і да іх падобныя, але *многавугольная форма клетак*). Калі ўлічыць, што ў мо-

ве функцыянуюць асобныя нематываваныя лексічныя дублеты, апісальныя і метафарычныя тэрміны, то становіцца відавочнай актуальнасць далейшага ўдасканалення беларускай нацыянальнай тэрміналогіі, выдання тэрміналагічных слоўнікаў, якія б дакладна і строга рэгламентавалі выкарыстанне таго ці іншага тэрміна ў моўнай практыцы.

# ГЕНЕТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛАГІЧНАЙ ЛЕКСІКІ ПАЧАТКУ XX ст.*

Пачатак XX ст. – надзвычай важны этап у гісторыі новай беларускай літаратурнай мовы. Актывізацыя грамадскага жыцця і рост рэвалюцыйнага руху абудзілі нацыянальную самасвядомасць усіх народаў царскай Расіі, вывелі іх на арэну гістарычнай дзейнасці. Царызм вымушаны быў пайсці ў нацыянальным пытанні на некаторыя ўступкі, адной з якіх стаў так званы «закон аб свабодзе друку». Гэта выклікала адраджэнне ў Заходнім краі кнігадрукавання і з'яўленне на беларускай мове газет і часопісаў, арыгінальных і перакладных выданняў мастацкай, навуковай і навукова-папулярнай літаратуры.

Кнігі і брашуры, дапаможнікі для навучання грамаце, артыкулы, допісы і паведамленні, змешчаныя на старонках легальных беларускіх газет і часопісаў, неслі ў шырокія народныя масы праўду пра жыццё і нядолю працоўнага чалавека, будзілі яго самасвядомасць і нацыянальную годнасць, заклікалі да асветы і грамадска-культурнай працы. Частка выданняў адрасавалася моладзі і мела на мэце «адкрываць па троху перад сваімі чытачамі вялікую і дзіўную кнігу света прыроды», «пашыраць кругазор, тлумачыці усе зьявы прыроды, глаўные законы фізікі і хіміі, жыцця зямлі», «знаёміць з геаграфіяй і гісторыяй роднага краю»[1]. Пры гэтым аўтары свядома імкнуліся выкарыстаць выяўленчыя магчымасці беларускай мовы, бо, як сцвярджаў Янук Журба, «кожны народ розницца ад других сваею моваю, жыцьцем, звычаями и т. д., и ён мае права жыць, як асобная нация, разьвиваць сваю мову, сваю литэратуру, мае права пазнаваць навуки ў сваей роднай мови, разьвиваць сваю культуру»[2]. І неабходна адзначыць, што некаторыя публікацыі навуковага і навукова-папулярнага зместу раскрывалі маладасведчанаму чытачу на яго мове сутнасць тых ці іншых грамадска-палітычных і сацыяльна-эканамічных падзей, знаёмі-

---

* Першая публікацыя ў выданні: Веснік БДУ. Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. – 1980. – № 3. – С. 20–24.

[1] Лучынка. – 1914. – Кн. 4. – С. 36.

[2] Наша ніва. – 1908. – № 8.

лі з асобнымі з’явамі ў прыродзе, даводзілі да яго свядомасці і розуму звесткі з розных галін ведаў. Усё гэта патрабавала адпаведных сродкаў выражэння, асабліва тэрміналагічных найменняў.

Асноўнай крыніцай тэрміналагічнай лексікі стала жывая народная гаворка. І гэта заканамерна: далучыць народныя масы да асветы і культуры магчыма было толькі праз роднае слова, а роднае слова магло прабіць сабе дарогу і ўзняцца да ўзроўню літаратурнага пры ўмове шырокага яго выкарыстання ва ўсіх жанрах пісьменнасці.

У якасці тэрмінаў перш за ўсё выкарыстоўваліся розныя ў лексіка-семантычных і генетычных адносінах агульнаўжывальныя словы. Ужыванне падобных слоў аб’ектыўна абумоўлена тым, што «ўсякая навука пачынае з вынікаў, здабытых мысленнем і мовай (речью) народа, і ў далейшым сваім развіцці не адрываецца ад народнай мовы»[1].

Сярод гэтых слоў на генетычнай аснове вылучаецца група агульнаславянскіх лексем, якія вядомы беларускай літаратурнай і жывой гутарковай мове ва ўсіх яе дыялектных разнавіднасцях, напрыклад: *абарот, бура, вага, верх, вілы, віхор, від, вобраз, возера, волава, воспа, востраў, вось, выгада, вушы, гара, гаспадар, горла, даход, дзяржава, дух, жар, жолаб, жыла, жэрэла, задатак, заліў, заробак, збыт, кароста, карысць, квас, купец, лішай, луна, мора, месяц, мятла, павер, пар, плата, племя, плесень, почка, права, пыл, работа, род, рожа, рукаў, свабода, свет, слова, сонца, ствол, суд, торг, точка, урад, хвост, цана, чысло, ядро, ячмень, яшчур.*

Ужываліся таксама агульнанародныя словы ўсходнеславянскага (*балалайка, бялок, высыпка, жаўтуха, завязь, завязка, зараза, засуха, лячэбнік, калтун, кастаед, кушчэнне, малакроўе, мужык, праліў, прадажа, прастуда, пошліна, прыток, стаўбняк, сударага, язва*) і ўласнабеларускага (*адліга, вага, высадкі, гародніна, гук, жыўнасць, зык, маладзік, маланка, навальніца, надвор’е, паводка, пазыка, праменні, працаўнік, пухліна, сухоты, хвароба*) паходжання.

У аснове прадметнага значэння прыведзеных слоў, як правіла, адлюстраванне практычнага вопыту чалавека ў пазнанні прыроды, расліннага і жывёльнага свету, сацыяльна-эканамічнага і грамадска-палітычнага жыцця. Некаторыя з іх у сферы агульнага і ў сферы спецыяльнага ўжывання маюць адно і тое ж азначаемае (дэсігнат): *бура, возера, востраў, даход, жаўтуха, збыт, калтун, почка, прадажа, рака, сонца, суд, сухоты, цана* і інш. Гэта поліфункцыянальныя словы, якія ў адпаведных тэкстах выконваюць розную функцыю і нясуць розную інфармацыю. Характар значэння такіх слоў у адным выпадку – канкрэтна-бытавы, агульны, у другім – прадметна-лагічны, паняційны. Напрыклад, у сказах *І сонцэ зазіяло, і туман разьвеяўся*[2]; *Выглянуў чырвоны месяц і ўкруг яго танцавалі зоркі, пазіраючы на белую зямлю*[3] сло-

---

[1] *Виноградов В. В.* Основные типы лексических значений слов // Вопросы языкознания. – 1953. – № 5. – С. 6.

[2] Наша ніва. – 1910. – № 21.

[3] Наша ніва. – 1914. – № 10.

вы *сонца, месяц, зоркі* выкарыстоўваюцца ў канкрэтна-бытавым значэнні. А вось у сказах *Месяц атсьвечвае тыкеля тым сьветам, што яму дае сонцэ; Так сама и з другими зорками: иншые сваим сьвецяць, а иншые сьветам сонца; Першыя называюцца сонцами, а другие называюцца месяцами и зараницами и так далей*[1] значэнне слоў *месяц, зорка* і *сонца* мае выразную прадметна-лагічную, паняційную акрэсленасць.

Частка слоў у залежнасці ад сферы выкарыстання суадносіцца з рознымі азначаемымі: як агульнаўжывальныя яны абазначаюць бытавыя паняцці, а ў тэкстах навуковага і навукова-папулярнага зместу – спецыяльныя, навуковыя. Перанос назвы адбываўся, як правіла, на аснове метафары, калі адна з дыферэнцыяльных прымет семантыкі звычайнага слова дазваляла выконваць апошняму функцыю тэрміналагічнага наймення. Гэта дыферэнцыяльная прымета ў значэнні агульнаўжывальнага слова адлюстроўвала: а) істотныя ўласцівасці адпаведнага азначаемага, што служыла падставай для тэрміналагізацыі лексічных адзінак і паступовага фарміравання паняццяў на прадметна-лагічнай аснове (*горла* кратэра, *гукі* мовы, *завязка* мастацкага твора, *корань* слова, *рукаў* ракі, *склад* слова, *хвост* каметы і інш.); б) прыметы асацыятыўнага характару, якія не закраналі ўнутранай сутнасці азначаемага і таму не спрыялі тэрміналагізацыі яго назвы (*дармаеды* – г. зн. паразіты, *дух* – газ, *зык* – гук, *квас* – кіслата, *мятла* – камета і інш.). Бытавая выразнасць такіх найменняў настолькі адчувальная, што гэта перашкаджала развіццю іх семантыкі на прадметна-лагічнай аснове і не садзейнічала замацаванню падобных слоў у якасці тэрмінаў.

Нярэдка ў функцыі тэрмінаў на старонках беларускіх дарэвалюцыйных выданняў пачатку ХХ ст. выкарыстоўваліся пашыраныя ў розных гаворках словы. Яны арыентавалі на адно і тое ж паняцце і ўтваралі своеасаблівыя варыянтныя рады, у межах якіх адны найменні адрозніваліся паміж сабой толькі часткова, г. зн. асобнымі фонамарфалагічнымі ці словаўтваральнымі элементамі (*адліга – атлега, заліва – лівень – улева, маланьня – маланка, севалка – сеялка – сеяўка, суш – суша, шал – шаленства*), а другія – усімі сваімі структурнымі часткамі (*даход – зыск – навязка, скрып – хвошч*). Кожнае з гэтых слоў магло замацавацца ў якасці тэрміна, але перавага аддавалася таму, якое было вядома большасці носьбітаў мовы. Вось паказальны прыклад: *Хвошч* (*мейсцамі яго называюць скрыпам*) *расьліна многалетняя, разрастаецца с каранёў*[2]. Са сказа выразна вынікае, што словы *хвошч* і *скрып* семантычна эквівалентныя. Але відавочна і другое: больш пашыраным з'яўляецца першае з іх, а другое вядома толькі ў некаторых гаворках. Таму тэрміналагічнай нормай у беларускай літаратурнай мове стала лексема *хвошч,* а яе семантычны адпаведнік *скрып* не выйшаў за межы дыялектнага выкарыстання.

Некаторыя тэрміны маюць прастамоўны характар, што знаходзіць выражэнне ў самой лексічнай адзінцы (*атрута* – г. зн. яд, *кіла* – грыжа, *крываў-*

---

[1] Гутарки аб неби и зямли.– Пб., 1907. – С. 33.
[2] Саха. – 1912. – № 6. – С. 16.

*ка* – дызентэрыя, *ліхаманка* – гарачка, *пошэсць* – эпідэмія, *трасца* – малярыя, *хаўрус* – саюз) ці ў яе словаўтваральных элементах (параўн.: *зберэгалка* і *пазычкова-зберэгацельная каса, карболка* і *карболавая кіслата* ці *карболавы квас*). Калі падобныя словы функцыянавалі як адзіны сродак абазначэння адпаведнага паняцця, яны ў навуковых і навукова-папулярных тэкстах паступова страчвалі адценне прастамоўнасці і тэрміналагізаваліся (*страхоўка*). Аднак у большасці выпадкаў назіралася полінайменнасць, у выніку чаго ў мове ствараліся сінанімічныя рады намінатыўна-тэрміналагічных адзінак. Тады яскрава праяўлялася эмацыянальна-экспрэсіўная афарбоўка прастамоўных слоў, што не давала ім магчымасці пашырыцца ў якасці тэрмінаў. Яны выцясняліся са сферы пісьмовай мовы і зараз або зусім выйшлі з моўнага ўжытку, або выкарыстоўваюцца ў гутарковай мове.

Арыентацыя на жывую народную мову абумовіла ўтварэнне на базе наяўных лексічных сродкаў шматлікіх тэрмінаў-неалагізмаў: *адлічанае, адлічаньне, вадаспад, выпал, дзель, дзельнік, дзялімае, дрэвоціна, жывучкі, заразкі, злічво, зорнік, зямлітрасеньне, множаньне, множнік, множыва, трыўгольнік* і інш. Кожны з гэтых тэрмінаў суадносіцца з адпаведным спрадвечнабеларускім словам, разам з тым не выключана магчымасць, што на ўтварэнне і ўжыванне некаторых з іх маглі аказаць уплыў роднасныя руская, украінская ці польская мовы.

Аднак як бы ні імкнуліся аўтары выкарыстаць выяўленчыя і словаўтваральныя магчымасці беларускай літаратурнай і жывой народнай мовы, у многіх выпадках яны не маглі адшукаць сярод уласных моўных рэсурсаў неабходных сродкаў і звярталіся да запазычанняў. Таму значную частку навуковых тэрмінаў складаюць іншамоўныя словы: грэчаскія (*анэмія, арган, атляс, бактэрыі, гібнастыка, дызэнтэрыя, катар, сымфонія, сындыкат, трахома, цыклон, эфір*), лацінскія (*апэрація, вулкан, дзіскант, дыэта, кампазыція, капэля, натр, плантація, субсыдыя, фэррогыдрокарбонат, эволюція*), рускія (*абшчына, землеуглубіцель, знаменацель, веласапед, кустар, патрабіцель, прадседацель, рашчот, севаабарот, чысьліцель*), польскія (*банкруцтва, віітрыоль, выдатак, выспа, двутленэк вугля, затока, мосяж, тлен*), англійскія (*байкот, вельбот, кампост, катэр, локаут, трамвай, трэст*), французскія (*акомпанімэнт, аэроплан, баланс, басэйн, бюджэт, грым, дырыжор, изолятор, маскарад, рэжысэр, рэзервуар, рэпертуар, уверцюра*), нямецкія (*барка, вэксэль, гандаль, капэльмэйстэр, каса, кошт, матэрьял, турбіна, цэнтрыфуга*), італьянскія (*альт, бас, віолончэль, карыкатура, лава, малярыя, пьянісімо, солё, сопрано, сцэнарыуш, тэнор, фірма, фортэ, шкарлятына*), цюркскія (*барыш, нефть, тавар, чума*) і інш.

Адметнай асаблівасцю гэтых тэрмінаў было тое, што яны ўваходзілі ў беларускую нацыянальную тэрміналогію як гатовыя моўныя адзінкі разам з паняццямі, сродкамі выражэння якіх з'яўляліся: Вось тут і становіцца ў помач гэта *«сэлекція»* або *падбор лепшага сорту зерна* з ураджаю[1]; Калі-б паветра

[1] Беларускі календар «Нашай нівы» на 1914 год. – Вільня, 1914. – С. 56.

на ўсякай вышыні ад зямлі мела адну гэтак і ў версі, то тады-б *таўсьціня павятравага слою над зямлёй,* ці як кажуць, таўсьціня *атмасфэры,* мела-б 12 вёрст... [1] Праўда, для чытача з невысокім адукацыйным узроўнем паняційны змест шмат якіх іншамоўных тэрмінаў мог аказацца невядомым, незразумелым, таму іх ужыванне нярэдка суправаджалася глосамі, рознымі апісаннямі, тлумачэннямі. У якасці глосы звычайна выступалі словы, якія ў нейкай меры дапамагалі асэнсаваць паняційную сутнасць тэрміна, хоць і на аснове чыста практычнага пазнання з'яў рэальнай рэчаіснасці, напрыклад: Каб ачысьціць які надзел с тайгі (*пушчы*) – трэба грошы і то многа грошы[2]. Апісанні (тлумачэнні) асобных з'яў і паняццяў, што часта будаваліся з улікам істотных прымет і жыццёва канкрэтных уяўленняў, павінны былі, на думку аўтараў, таксама пэўным чынам раскрываць змест ужытага тэрміна: На сьвеці шмат ёсць *такіх высокіх гор, што часамі выкідаюць з сябе, з надтрэснутых бакоў, а яшчэ часьцёй з самага верху гарачую гразь разам з вялікімі аскабалкамі разарваных камнёў ад страшнай сілы узрыву.* Вось гэтые горы носяць названьне *вулканаў*[3]; Ёсць там горы – *так званые вулканы, каторые час-ад-часу бухаюць са сваіх дзіравых вярхоў агнём, і выкідаюць на колькі сотак сажнёў у гару распаленые каменьня і попял*[4]. Падобную стадыю сэнсавага асваення прайшлі ў беларускай літаратурнай мове многія іншамоўныя тэрміны.

Аднак часам словы, ужытыя ў якасці глосы, словазлучэнні апісальнага ці тлумачальнага характару недакладна перадавалі сутнасць паняцця, што не садзейнічала сэнсаваму асваенню тэрміна, напрыклад: *караблі да летаньня ў паветры* (аэростаты), *пеяньне* (солё) і да т. п. Больш таго, у некаторых выпадках іншамоўныя тэрміны выкарыстоўваліся ў такім значэнні, якое ім зусім не ўласціва: Разглядаюць расходы на сельскую *эканомію,* сельскую статыстыку і зямельнае палепшаньне[5]; Турцыя – багаты рынак для немецкіх прамыслоўцаў, а так сама натта прыгодны край для пярэсяленьня, або, як кажуць, для *калёнізацыі*[6]. Гэта вяло да памылковага асэнсавання і недакладнага ўжывання тэрміна.

Калі паходжанне іншамоўных тэрмінаў можна вызначыць амаль беспамылкова, то шляхі пранікнення іх у беларускую мову выявіць не заўсёды лёгка. Тым не менш, прымаючы пад увагу моўныя фактары, выкажам некаторыя меркаванні адносна асобных груп запазычанняў. Тэрміны, якія не з'яўляліся вузкаспецыяльнымі і сустракаюцца ў розным фанетычным афармленні, спачатку трапілі ў жывыя народныя гаворкі, а праз іх – у пісьмовую мову, напрыклад: аперацыя (фанетычныя варыянты *апэрацiя, апарацiя*), рэўматызм (*раматус, руматуз, руматыз, руматызм, рэвматызм, рэматыз, рэматызм, рэўматызм, рэўмятызм*), фельчар (*фэльчар, фэльчэр, фэйшар,*

---

[1] Лучынка. – 1914. – Кн. 4. – С. 22.
[2] Наша ніва. – 1913. – № 4.
[3] Лучынка. – 1914. – Кн. 1. – С. 13.
[4] Bielarus. – 1913. – № 14.
[5] Наша ніва. – 1909. – № 12.
[6] Вольная Беларусь. – 1917. – № 9.

*хвэйчар, хвэйчэр, хвэльчэр*) і да т. п. Вузкаспецыяльныя тэрміны, як правіла, пранікалі спачатку ў пісьмовую мову. На старонках дакастрычніцкіх выданняў яны таксама нярэдка маюць розны графічны воблік і марфалагічную форму, але гэта ўжо абумоўлена не столькі арыентацыяй аўтараў у сваёй моўнай практыцы на той ці іншы дыялект, колькі асаблівасцямі мовы-крыніцы (ці мовы-пасрэдніцы), з якой (або праз якую) запазычваліся іншамоўныя тэрміны, і складанасцю графічнага, фанетычнага і марфалагічнага асваення апошніх беларускай мовай (параўн.: *акцыза – акцыз; арэоплан – аэраплан – аэроплан – аэрaплян – аэроплян; віліончэль – віолончэль; вэксэль – вэксаль; манаполая – монополія; ферма – фэрма*).

Для шматлікіх тэрмінаў інтэрнацыяналізмаў мову-пасрэдніцу можна вызначыць па фанетычных і марфалагічных паказчыках. Відавочна, што праз рускую мову былі запазычаны тэрміны иррыгация (параўн. руск. *ирригация* і польск. *irygacja*), космополіцізм (*космополитизм* і *kostmopolityzm*), митинг (*митинг* і *mityng*), стыпендзія (*стипендия* і *stypendium*), труппа (*труппа* і *trupa*), радій (*радий* і *rad*) і інш., праз польскую – дырэктыва (*dyrektywa* і *директива*), рэжысэр (*rezyser* і *режиссёр*), сындыкат (*syndykat* і *синдикат*), фундуш (*fundusz* і *фонд*).

Некаторыя тэрміны запазычваліся адначасова з рускай і польскай мовы, што выяўляе неаднолькавыя погляды аўтараў на шляхі развіцця беларускай мовы (параўн.: *арганіст – арганісты, дырыжор – дырыгент, кризис– крызыс, локаўт – лёкаўт, чума – джума*). Аднак шляхі пранікнення значнай колькасці іншамоўных тэрмінаў вызначыць надзвычай складана, асабліва калі ў іх структуры адлюстроўваецца кантамінацыя (сэлекція – параўн. руск. *селекция* і польск. *selekcja;* рэзервуар – *резервуар* і *rezerwuar*), або калі іх фонамарфалагічны воблік супадаў у рускай і польскай мовах, пры пасрэдніцтве якіх часцей за ўсё адбывалася запазычанне (діафрагма – *диафрагма* і *diafragma,* элеватор – *элеватор* і *elewator*).

# РОЛЯ ЖЫВОЙ НАРОДНАЙ МОВЫ Ў ФАРМІРАВАННІ І РАЗВІЦЦІ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛАГІЧНАЙ ЛЕКСІКІ*

Новая беларуская літаратурная мова фарміравалася на аснове жывых народных гаворак і ніколі не адрывалася ад іх у далейшым сваім развіцці. Важным этапам у яе гісторыі з’яўляецца пачатак XX ст., калі беларускі народ адваяваў сабе права на легальны друк, на яго роднай мове выйшлі ў

* Першая публікацыя ў выданні: Рэгіянальныя традыцыі ва ўсходнеславянскіх мовах, літаратурах і фальклоры: Тэз. дакл. 2-й рэсп. навук. канф. – Гомель, 1980. – С. 64–65.

свет газеты і часопісы, навуковыя і навукова-папулярныя выданні. Іменна ў гэты час поруч з адносна развітым мастацка-белетрыстычным стылем і пад яго непасрэдным уплывам выпрацоўваліся своеасаблівыя прыёмы і формы навуковага выказвання і пачаў складвацца пласт тэрміналагічнай лексікі.

Аўтары шматлікіх нарысаў, артыкулаў, допісаў, нататкаў, паведамленняў у сваёй моватворчасці абапіраліся на жывыя народныя гаворкі, выкарыстоўваючы вядомыя ім словы для намінацыі і дэфініцыі навуковых паняццяў. Аднак у сувязі з тым, што лексічныя нормы ў беларускай літаратурнай мове яшчэ не выпрацаваліся, на старонкі тагачасных выданняў траплялі розныя ў генетычных, семантычных і функцыянальных адносінах словы.

Адны з іх з’яўляліся агульнанароднымі і бытавалі ва ўсіх беларускіх гаворках: *адліга, бура, бялок, возера, гара, гук, жаўтуха, кароста, мора, почка, праменьні, рожа, сонца* і інш. Большасць гэтых спрадвечнабеларускіх слоў агульнаславянскага, усходнеславянскага ці ўласнабеларускага паходжання ў жывой народнай мове і ў тэкстах навуковага і навукова-папулярнага зместу суадносілася з адным і тым жа азначаемым. Але ў першым выпадку яны выступалі са значэннем бытавога характару, а ў другім – прадметна-лагічнага, паняційнага, што паступова фарміравалася на аснове тых ці іншых дыферэнцыяльных прымет.

Некаторыя лексічныя адзінкі ў залежнасці ад сферы выкарыстання суадносіліся з рознымі азначаемымі. Калі ў тэкстах навукова-папулярнага ці навуковага зместу іх бытавая выразнасць адыходзіла на другі план і яскрава праяўлялася сувязь з навуковым паняццем, тады ў слове развівалася тэрміналагічнае значэнне (*рукаў* ракі, *горла* кратэра), у адваротным выпадку функцыі тэрміна за такімі бытавымі словамі не замацоўваліся (*мятла* – у значэнні «камета», *квас* – у значэнні «кіслата»).

Арыентацыя на жывую народную гаворку абумовіла ўжыванне ў якасці тэрмінаў асобных дыялектызмаў (*навязка, скрып*) і слоў размоўнага характару (*зберэгалка, ліхаманка*), выкарыстанне тых ці іншых лексічных адзінак для ўтварэння рознымі спосабамі шматлікіх тэрмінаў-неалагізмаў (*жывучкі, множыва*).

З жывой народнай мовы браліся таксама іншамоўныя тэрміны ў розным фонамарфалагічным афармленні (*фельчар – фельчэр – фэйшар – гвэйчэр – хвэльчэр, доктар – доктор – дохтар*), якія паступова засвойваліся беларускай літаратурнай мовай па меры выпрацоўкі яе норм.

У савецкі час роля жывой народнай мовы ў фарміраванні і развіцці нацыянальнай тэрміналогіі праяўлялася ў тых жа асноўных напрамках, толькі з рознай інтэнсіўнасцю, вынікамі, з улікам як агульных тэндэнцый, што вызначалі спецыфіку лексіка-семантычнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы, так і асаблівасцей слоў-тэрмінаў.

# ЛЕКСІКА-СЕМАНТЫЧНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛАГІЧНАЙ ЛЕКСІКІ ПАЧАТКУ XX ст.*

У сучасным мовазнаўстве агульнапрынятым з'яўляецца погляд, што глыбока і ўсебакова даследаваць моўныя з'явы можна толькі з улікам асаблівасцей той сістэмы, да якой яны належаць.

Для тэрміналагічнай лексікі падобнай сістэмай з'яўляецца лексіка мовы навукі, спецыфіка якой «вызначаецца асаблівасцямі навуковага функцыянальнага стылю, што імкнецца да абагульняльна-адцягненай манеры выкладу, да дакладнага азначэння паняццяў і з'яў рэчаіснасці, якое адлюстроўвае дакладнасць і аб'ектыўнасць навуковых ісцін, разважанняў і азначэнняў»[1]. Інакш кажучы, стылістычна маркіраваныя ўласцівасці сродкаў выражэння, у тым ліку і тэрміналагічнай лексікі, у мове навукі прадвызначаюцца сферай яе функцыяніравання.

Аналіз тэрмінаў павінен праводзіцца перш за ўсё ў межах той сістэмы, у якой яны «натуральна», самым непасрэдным чынам выконваюць сваю асноўную ролю сродкаў намінацыі і дэфініцыі навуковых паняццяў, г. зн. у лексіцы мовы навукі. Разам з тым тэрміналагічную лексіку як частку лексікі літаратурнай мовы неабходна разглядаць у параўнальна-супастаўляльным плане з іншымі часткамі лексічнай сістэмы, што дазваляе на іх фоне больш выразна акрэсліць функцыянальную і ўласна моўную спецыфіку тэрмінаў. Аднак такі аналіз магчымы толькі на той ступені развіцця літаратурнай мовы, калі ў ёй канчаткова сфарміраваліся розныя структурна-функцыянальныя стылі з уласцівымі ім сістэмамі сродкаў выражэння. Як падкрэсліваў Р. А. Будагаў, «у розных мовах у розныя эпохі іх існавання моўныя стылі маглі і дыферэнцыравацца і судакранацца паміж сабой па-рознаму»[2]. Але паколькі яны фарміруюцца і актыўна развіваюцца ў нетрах пісьмовай мовы, то характарызуюцца адзінствам агульнамоўнай асновы[3]. Гэта асабліва відавочна, калі ў пісьмовай практыцы яшчэ толькі пачынаюць акрэслівацца і паступова выпрацоўвацца прыёмы, формы і сродкі моўнага выражэння таго ці іншага стылю.

Навуковы стыль беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы сфарміраваўся ў савецкі час. На гэты перыяд прыпадае таксама станаўленне нацыянальнай тэрміналагічнай лексікі як сістэмы. Аднак ужо ў пачатку XX ст., калі адрадзілася і пашырылася спыненае больш чым на стагоддзе беларускае кнігадрукаванне, у стылістычнай сістэме беларускай літаратурнай мовы пачалі

---

* Першая публікацыя ў выданні: Беларуская мова. – 1981. – Вып. 9. – С. 20–28.

[1] *Сенкевич М. П.* Стилистика научной речи и литературное редактирование научных произведений. – М., 1976. – С. 53.

[2] *Будагов Р. А.* Введение в науку о языке. – М., 1965. – С. 465.

[3] *Шмелев Д. Н.* Русский язык в его функциональных разновидностях. – М., 1977. – С. 30.

складвацца своеасаблівыя прыёмы і формы навуковага выказвання, акрэслілася, хоць і ў нязначнай ступені, спецыфіка навуковага стылю[1].

Адметнай рысай стылістычнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы гэтага перыяду з'яўляецца тое, што яе фарміраванне адбывалася пры вызначальнай ролі стылю мастацкай літаратуры. Беларуская літаратура, якая ішла ад нізоў, адрасавалася нізам і генетычна была звязана з вуснапаэтычнай творчасцю, асноўнымі крыніцамі сваіх моўна-выяўленчых сродкаў мела жывую народную гаворку з яе агульнаўжывальнай лексікай і фразеалогіяй, што адлюстроўвала пераважна жыццё, побыт, культуру, светапогляд вясковага насельніцтва і паэтыку беларускага фальклору.

Характэрнай асаблівасцю навуковых і навукова-папулярных выданняў, шматлікіх допісаў, артыкулаў, нарысаў, паведамленняў, якія змяшчаліся на старонках беларускіх дарэвалюцыйных газет і часопісаў пачатку XX ст., было тое, што ўсе яны, як і творы мастацкай літаратуры, адрасаваліся перш за ўсё маладасведчанаму чытачу з нізоў. Таму хоць і акрэслівалася спецыфіка навуковага стылю на фоне адносна развітага ўжо стылю мастацкай літаратуры, паралельна з апошнім агульны «воблік» мовы навуковых і навукова-папулярных тэкстаў характарызуецца большай канвергенцыяй, чым дывергенцыяй. Гэтай акалічнасцю ў значнай ступені абумоўлены лексіка-семантычныя ўласцівасці тых слоў і словазлучэнняў, якія выкарыстоўваліся на старонках беларускіх дакастрычніцкіх выданняў для намінацыі і дэфініцыі навуковых паняццяў на пачатковым этапе фарміравання тэрміналагічнай лексікі беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы.

Самай істотнай асаблівасцю тэрміналагічнай лексікі пачатку XX ст. з'яўляецца шматлікая варыянтнасць у абазначэнні аднаго і таго ж паняцця. Вось некаторыя прыклады гэтай лексікі:

грамадска-палітычная: *агульналюдскі – абшчэсцвяны, грамадскі – грамадзянскі, грамадзянства – обчэства, гурток – кружок – абшчына – саюз – таварыства – хаўрус, дзяржава – государства, Дзяржаўная Рада – Гасударская Дума, дэпутаты – паслы – выборные людзі, лад – устрой – парадак, самаазначэньне – самапарадкаваньне – самаупраўленьне – аўтаномія – аутаномнае істненьне;*

сацыяльна-эканамічная: *абарот – зварот, арэнда – чынш – арэндная плата, бюджэт – росьпісь расходаў і даходаў – росьпісь – сьмета даходаў і выдаткаў – сьмета – росьпісь* (*рахунак*) *даходаў і расходаў – сьмета – рахункі*, *даход – выгада – вызвалка – дастатак – заработак – заробак – зыск – карысць – навязка – пажыва – польза – прыбытак – прыход – спор, зарплата – заработная плата – заработок – заробак – плата – цэна, расходы – выдаткі – затраты – вылажэные кошты, чысты даход – чысты заработок – чысты спор* (*прыбытак*) *– чыстыя*;

---

[1] *Шакун Л. М.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 1963. – С. 259.

с е л ь с к а г а с п а д а р ч а я : *аборываньне – матыкаваньне, абгорываць – абматыковываць – абсыпаць, араньне – арба – орка – успашка, ветэрынар – ветэрынарны доктор – скацінны доктор, гной фабрычны – штучны гной – парашкі – мінэральные парашкі – попелы – фабрычны навоз, землепах – земляроб – хлебароб, пладазьмен – севаабарот, трохпольле – трохпалёука, ураджайнасць – ураджай – урадлівасць;*

г р а м а д с к а - к у л ь т у р н а я : *буквар – лэмэнтар, вечар – вечарынка – ігрышчэ, вышэйшая школа – унівэрсітэт, граньне – ігра, гульня – скокі – танцы, журнал – часопісь, консэрваторыя – музыкальная школа, малюнак – малевідла – рысунак, пеяньне – солё, прыстаўленьне – прэдстаўленьне, скакаць – танцаваць;*

м о в а з н а ў ч а я : *абэцадла – альфабэт, аканьне – акаваньне, глагол – часоўнік, гук – гаманок – галасок – голас – згук – зык, канчатак – канчук – флексія, лік вялікі – многае чысло, мова – гаворка – гутарка – язык, морфолёгія – этымолёгія, акцэнт – націск – нагалосак – ударэньне, сінтаксіс – складня – склад мовы;*

л і т а р а т у р а з н а ў ч а я : *акт – абраз – дзея – з'ява – праява – сцэна, анекдота – жарт*, *байка – басня*, *замова – загавор*, *пісьменнік – пісацель – пісар*, *прымаўка – прымавіска – пагавор – пагаворка – памоўка – прыдумка – прыслоўе*, *песьня калысковая – напеўка – сьпеванка*, *рэалізм – праудзівашнасць*;

м е д ы ц ы н с к а я : *агонь – жарыня – тэмпература, бактэрьи – жывёлачкі – жывучкі – заразные мікробы, гарачка – брушны тыфус – гарачка* (*тифус*) *– тыфус* (*гарачка*) *– гарачка тыфусовая, джума – чума, зараза – пошэсць – эпідэмія, запаленьне – запаленьне лёгкіх – запаленьне у лёгкіх, малакроўе – бледная немач, фэльчар – фэльчэр – фэйшар – хфэйчар – хвэйчэр– хвэльчар;*

а р ы ф м е т ы ч н а я : *дроб – дробня, злічво – сума, лік – лік просты – складаньне, лік – лічэньне, лічба – чысло – цыфра, цэлая лічба – цэлае;*

а с т р а н а м і ч н а я : *абкручываццa – аблятаць – абходзіць – кружыцца – круціцца, Воз – Вялікая Мядзьведзіца, вось зямлі – полюс – канец зямлі, гвезда – зара – зорка – звязда, камэта – мятла, млечная дорога – млечны пояс – млечны шлях – Мински гасьцинец, небасхіл – небасклон – склон неба;*

г е а г р а ф і ч н а я *: васход – усход, верх ракі – вярхоўе ракі, востраў – выспа – остроў, заліў – затока, землетрасеньне – землятрасеньне – трасеньне зямлі – страсеньне зямлі – калыханьне зямлі, жыжка – лава, карта – мапа, палувостраў – палувыспа – поў-востраў – поўвыспа, ператок – прыток, уліваццa – упадаць;*

п р ы р о д а з н а ў ч а я *: бабовые – гарошкавые – матыльковые, бульбачкі – гузочкі – жывучкі – шышэчкі, жывёла – звер, камялёк – нитачка – стволик* (*плесьни*), *маланка – маланьня – бліскавіца, низшые – прасьцейшие, почкі – пучкі* (*дрэва*), *расьліна – расьценьне, ствол – стваліна, суша – суш* і інш.

Чым тлумачыцца такая багатая полінайменнасць? Перш за ўсё тым, што «асноўнай крыніцай узбагачэння новай беларускай літаратурнай мовы, фармі-

равання і далейшага развіцця спецыфічнай лексічнай сістэмы» заставалася ў пачатку XX ст., як і раней, «народна-размоўная гаворка ў яе дыялектных разнавіднасцях»[1]. У выніку, як сведчаць прыведзеныя прыклады, на старонкі тагачасных выданняў траплялі розныя фанетычныя варыянты аднаго і таго ж тэрміна, словаўтваральныя і марфалагічныя варыянты, тэрміны рознага паходжання і ўтварэння (у тым ліку і такія іншамоўныя словы, што праніклі спачатку ў жывую народную гаворку, актыўна выкарыстоўваліся ў ёй, а потым асвойваліся і літаратурнай мовай). У склад варыянтных радоў уваходзілі таксама семантычныя і словаўтваральныя неалагізмы, новыя запазычанні.

Развітая полінайменнасць паказвае, што беларуская тэрміналагічная лексіка пачатку XX ст. у функцыянальных адносінах амаль не адрознівалася ад агульнаўжывальнай лексікі, для якой варыянтнасць – заканамерная з'ява. Не выпадкова ў многіх кантэкстах выкарыстанне тэрміналагічных адзінак аналагічна выкарыстанню сінонімаў, напрыклад: *Такіе вялікіе даходы хаўруса тлумачацца тым, што гасударство належыло вялікіе падаткі на прывознае жалеза з заграніцы і ўся Аўстрыя асталася на ласцы хаўруса. Шмат дзе ўжо звярнулі ўвагу на гэткіе страшэнные заробкі хаўрусоў...*[2]; *У Япони на в о с т р а в е Сакурашыва выбухнау вулкан. Ад гэтаго згарэлі ўсе будынкі на гэнай в ы с п е*[3].

Аўтары свядома ўжывалі розныя тэрміны, каб пазбегнуць паўтарэння. Гэтым навуковыя і навукова-папулярныя тэксты не адрозніваліся ад мастацкіх і публіцыстычных твораў, для якіх падобнае выкарыстанне слоў прынцыпова характэрна, што знаходзіць сваё выражэнне у сінаніміі. Аднак агульнамоўныя словы-сінонімы адлюстроўваюць розныя ўласцівасці прадметаў і з'яў і таму характарызуюцца рознымі адценнямі значэння ці эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай. Яны абавязкова выяўляюцца ў адпаведным кантэксце, які, акрамя гэтага, падкрэслівае і агульную сэнсавую аснову слоў-сінонімаў. Калі ж параўнаць у плане зместу тэрміны *даходы* і *заробкі*, *востраў* і *выспа* ў прыведзеных прыкладах, то відавочна, што яны з'яўляюцца абсалютна раўназначнымі і іх вар'іраванне ў тэксце не парушае прадметна-лагічнага зместу выказвання. Значыць, у дадзеным выпадку кантэкст выяўляе толькі агульную паняційную аснову аднаго і другога тэрміна без якіх-небудзь сэнсавых ці стылістычных нюансаў, іменна тое, што складае іх сэнсавую сутнасць. У выніку гэтага розныя тэрміны арыентавалі на адно і тое ж паняцце і ў навуковай лексіцы з'яўляліся дублетамі. Нават тыя словы, што функцыяніравалі як родавыя і відавыя найменні, набывалі іншы раз адзнакі тэрмінаў-дублетаў, калі выступалі ў якасці сродкаў намінацыі і дэфініцыі аднаго навуковага паняцця, напрыклад: *гульня – танцы*, *знак – літара*, *мова – гаворка*.

---

[1] *Анічэнка У. В.* Гістарычная лексікалогія ўсходнеславянскіх моў. – Гомель, 1978. – С. 56.

[2] Наша ніва. – 1910. – № 39.

[3] Belarus. – 1914. – № 2.

Усё гэта дае падставу сцвярджаць, што ўжо ў пачатку XX ст. тэрміналагічная лексіка ў плане зместу вылучалася сярод іншых найменняў дэфінітыўнай функцыяй. І калі ў кантэксце навуковага выказвання тая ці іншая лексічная адзінка выяўляла адпаведныя сувязі з навуковым паняццем, арыентавала на яго, яна, такім чынам, набывала функцыі тэрміна. І ўсё ж у семантычных адносінах тагачасныя тэрміны не з’яўляліся аднароднымі, таму што ў іх паняційным змесце ў рознай ступені адлюстроўваліся прадметналагічныя ці асацыятыўныя сувязі. Шматлікія тэрміны вызначаліся дакладнасцю і ў кантэксце любога выказвання правільна арыентавалі на адпаведнае паняцце, што сведчыць аб высокай акрэсленасці іх семантыкі на прадметна-лагічнай аснове, напрыклад: *А мне атказываюць: вышлі у м о р э, дагэтуль былі ў затоцэ; забыўся, як гэта па-русску завецца*[1]; *Так сама рабочая сіла з разьвіцьцем капіталізма зрабілася таварам, каторы прыбывае туды, дзе больш плацяць за яго*[2]; *Вядомая рэч, што ўся палітыка немцоў заўсягды кіравалася да таго, каб за межамі сваей старонкі здабываць рынкі ў чужых краёх для збыту сваіх т а в а р о ў*[3]. Асабліва выразна гэта праяўлялася ў тых выпадках, калі ўжыванне тэрміна суправаджалася дэфініцыяй, пабудаванай на аснове істотных класіфікацыйных прыкмет таго ці іншага паняцця, або заўвагамі і тлумачэннямі, якія нагадвалі апошнюю: *...а ёсць метал надто дзиуный, бо хоць ён и блишчыць, як серабро, але не таки цвёрды як яно; мягки ён як воск и называецца натрий; ...а капни на натрий вады, так ён загарыцца, а часами крэпка стрэле, астанецца пасля яго нечто белое*[4]; *Вясйолка – гэта сьвет сонца, каторы адбиваецца на хмарах...*[5]; *Днепр з яго притоками* (*рэкамі, што ў яго уліваюцца*) *мае вялікае значэньне для беднаго беларускаго краю*[6].

Высокай ступенню дакладнасці вызначаліся і такія тэрміны, састаўной часткай семантычнага зместу якіх з’яўлялася так званая «ўнутраная матывацыя» – указанне на тую класіфікацыйную прыкмету, якая паслужыла асновай для адпаведнага наймення і ў яго гукавым складзе знайшла сваё непасрэднае адлюстраванне: *Паветрэ – гэта змешаные газы; адзін з іх ёсць азот, другі тлен* (*па-расейску кісларод*); *тлен так і называецца за тое, што ў ім усё тлее, паліцца*[7]; *Электрычэства можэ перэходзіць ад аднэй рэчы да другой. Жалеза, сталь легка прыймаюцъ электрычэства і разводзяць па сабе, – затым і кажуць, што жалеза праваднік электрычэства*[8]; *Другі способ – гэта той, калі трэба ад аднаго чысла, большаго, адняць другое, меншае. Ён*

---

[1] *Новіч А*. У дому лепей. – Пб., 1911. – С. 11.
[2] Наша ніва. – 1907. – № 27.
[3] Наша ніва. – 1911. – № 31–32.
[4] Наша доля. – 1906. – № 4.
[5] Гутарки аб неби и зямли. – Пб., 1907. – С. 22.
[6] Наша ніва. – 1909. – № 1.
[7] Наша ніва. – 1907. – № 27.
[8] Наша ніва. – 1909. – № 17.

*называецца: адлічаньне, бо-ж, папраўдзі, мы ад большаго числа, зменшанаго, адлічаем, адкідаем адну за аднэй адзінкі меншаго, адлічанаго*[1]. Семантычная дакладнасць падобных тэрмінаў абумоўлена тым, што яны не проста выражаюць тую ці іншую прыкмету паняцця, вылучаную на прадметна-лагічнай аснове, але і непасрэдна адлюстроўваюць яе (прыкмету) сваёй структурай, сваім фонамарфалагічным складам.

Паняційны змест шматлікіх тэрмінаў складалі, з аднаго боку, прыкметы прадметна-лагічнага характару (істотныя ці другарадныя), а з другога – асацыятыўнага, заснаванага нярэдка на бытавых, канкрэтна жыццёвых уяўленнях: *Як дзень памаленьку зменяецца ночью, так и у жыцьцю нашым у прыродзе усе зменяецца одно другим, зменяецца паволи, памаленьку и гэта павольнае змяненьне у навуцы называецца эволюцией*[2]*;... бактэрыямі завуць дробненькіе жывёлачкі, голым вокам іх і не дагледзець, а только убачыць можна праз такіе шклы, которые паказываюць усё вялікшым; бактэрыі гэтые вельмь хутка множацца...*[3]

Значэнне многіх тэрмінаў не выходзіць за межы асацыятыўнага, таму што яны ўжываліся ў такіх кантэкстах, якія не адлюстроўвалі прадметна-лагічнага зместу паняцця: *Каб ачысціць надзел з тайгі* (*пушчы*) *– трэба грошы і то многа грошы*[4]; *На помач рукам зрабіў ён* (чалавек.– ***В. К.***) *розные машыны, на помач нагам – чыгунку і самаходы, а на помач воку прыдумау шкло – мікроскоп*[5]. Відаць, для чытача з невысокім адукацыйным узроўнем былі незразумелымі тэрміны *тайга* і *мікраскоп*, таму поруч з імі выкарыстаны словы пушча і шкло, якія прыблізна раскрывалі сутнасць адпаведных паняццяў на аснове тых асацыяцый, што склаліся ў працэсе чыста бытавога пазнання з’яў рэальнай рэчаіснасці.

Аднак гэта часам прыводзіць да недакладнага, а іншы раз і да памылковага ўжывання тэрмінаў нават адным аўтарам, напрыклад: *Далей паехалі мы церэз казацкую зямлю: стэп усюды, ні лесу, ні травы, вады відаць мала, а вецер, не дай Божэ! Так вёрст двадцаць-трыдцаць і больш пустыняй ездзіш – ні лесу, ні травы, ні зьвярыны ніякай, пакуль прыедзіш на станцію*[6]. Відавочна, што тэрміны *стэп* і *пустыня* ў паняційным плане ў прыведзеных кантэкстах не адрозніваліся.

Недакладная семантычная акрэсленасць у некаторых выпадках была абумоўлена полінайменнасцю, таму што нярэдка адна і тая ж лексічная адзінка ў межах аднаго тэрміналагічнага поля ўваходзіла ў розныя лексічныя парадыгмы, напрыклад: *акцэнт*, *вымауленьне* і *акцэнт*, *націск*; *верш*, *паэма* і *верш*,

---

[1] *Юрэвіч Г.* Задачнік для пачатковай школы. Першы год навукі. – Вільня, 1916. – С. 3.

[2] Наша ніва. – 1906. – № 4.

[3] *Маліновскі.* Як багацеюць чэскіе селяне. – Вільня, 1912. – С. 28.

[4] Наша ніва. – 1913. – № 23.

[5] Лучынка. – 1914. – № 3.

[6] *Новіч А.* У дому лепей. – Пб., 1911. – С. 10, 13.

*проза*; *ветралёт*, *лётчик* і *ветралёт*, *дырыжабль*; *жывучкі*, *бактэрыі* і *жывучкі*, *бульбачкі*; *плата*, *разцэнка* і *плата*, *заработок*; *хаўрус*, *гурток*, *саюз* і *хаўрус*, *арцель*, *трэст*, *сындыкат* і да т. п. З гэтага вынікае, што сярод тэрмінаў пачатку XX ст. была пашырана мнагазначнасць і дакладны паняційны змест той ці іншай адзінкі можна было вызначыць толькі ў кантэксце.

Шматлікая варыянтнасць у абазначэнні аднаго і таго ж паняцця, семантычная недакладнасць параўнальна многіх тэрмінаў, розныя парадыгматычныя адносіны асобных тэрміналагічных найменняў сведчаць пра невысокую сістэмную арганізацыю беларускай тэрміналагічнай лексікі пачатку XX ст. Аднак і ў гэтым плане ўжо акрэслівалася яе спецыфіка, якая праяўлялася:

– у структурнай аднатыпнасці асобных тэрмінаў, што адлюстроўвала наяўнасць пэўных класіфікацый на той ці іншай прадметна-лагічнай аснове (параўн.: *аканьне*, *дзэканьне*; *адлічаньне*, *складаньне*, *дзяленьне*, *множэньне*; *дзельнік*, *множнік*; *жнівярка*, *касярка*, *сявалка*; *птушкі зернеядные*, *птушкі кузулькаядные* і інш.);

– у з'яўленні тэрмінаў-антонімаў, шырокая наяўнасць якіх у складзе тэрміналагічнай лексікі тлумачыцца тым, што ў лагічнай схеме навукі «паняцце ўнутранага адначасова нараджаецца з паняццем знешняга, паняцце святла з паняццем цемені, паняцце пакою з паняццем руху і г. д.»[1], напрыклад: *даходы – расходы*, *заразлівая – незаразлівая* (хвароба), *злучацца – раздзяляцца* (пра хімічныя рэчывы), *купля – продажа*, *множэньне – дзяленьне*, *мягкі – цьвьорды* (гаманок).

Аналіз паказвае, што беларуская тэрміналагічная лексіка пачатку XX ст. у семантычных адносінах не вызначалася аднатыпнасцю і змест таго ці іншага тэрміна нярэдка быў абумоўлены канкрэтнымі фактамі яго функцыянавання. Аднак ужо ў гэты час выразна акрэсліліся такія спецыфічныя асаблівасці тэрмінаў, як прадметна-лагічная, паняційная аснова іх семантыкі, тэндэнцыя да адназначнай адпаведнасці паміж тэрмінам і паняццем, імкненне да сістэмнай арганізацыі тэрмінаў у межах адпаведных тэрміналагічных палёў.

## ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ Ў САВЕЦКІ ЧАС*

Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў савецкі час – яскравае сведчанне ўсебаковага росквіту творчых магчымасцей беларускай нацыі, калі да актыўнага грамадскага жыцця і творчай дзейнасці далучыліся разняволеныя працоўныя масы.

---

[1] *Деборин А. М.* Заметки о происхождении и эволюции научных понятий и терминов // Вопросы языкознания. – 1957. – № 4. – С. 39.

* Першая публікацыя ў выданні: Веснік БДУ. Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. – 1982. – № 3. – С. 5–8.

Яшчэ ў дакастрычніцкія часы У. І. Ленін і заснаваная ім бальшавіцкая партыя, распрацоўваючы на марксісцкай аснове складаныя праблемы нацыянальна-моўнай палітыкі, абвясцілі права прыгнечаных царызмам нацый і іх моў на свабоднае развіццё. У працы «Рабочы клас і нацыянальнае пытанне» У. І. Ленін пісаў: «Ніводнай прывілеі ні для адной нацыі, ні для адной мовы! Ні малейшага прыцяснення, ні малейшай несправядлівасці да нацыянальнай меншасці – вось прынцыпы рабочай дэмакратыі»[1]. Рашуча абараняючы прынцып абсалютнай роўнасці ўсіх нацый і ўсіх моў, крытыкуючы буржуазных лібералаў, якія падтрымлівалі шавіністычную палітыку царскага ўраду, У. І. Ленін падкрэсліваў: «Нацыянальная праграма рабочай дэмакратыі: ніякіх, безумоўна, прывілей ніводнай нацыі, ніводнай мове...»[2]

З перамогай Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі марксісцка-ленінскія прынцыпы нацыянальна-моўнай палітыкі пачалі ажыццяўляцца на практыцы. «Дэкларацыя правоў народаў Расіі» 15 лістапада 1917 г. ўрачыста абвясціла роўнасць і суверэннасць народаў, раўнапраўе ўсіх нацый і нацыянальных моў, і беларускі народ, як і многія іншыя раней прыгнечаныя народы, упершыню ў сваёй гісторыі атрымаў права на свабоднае развіццё роднай мовы.

Беларуская мова пачала абслугоўваць моўныя запатрабаванні народа ў самых разнастайных сферах яго жыцця і дзейнасці, стала сродкам далучэння народных мас да актыўнага сацыялістычнага будаўніцтва, асветы, навукі і культуры. Аднак паспяхова выконваць гэтыя складаныя і пачэсныя задачы беларуская літаратурная мова магла, толькі развіўшы адпаведныя структурна-функцыянальныя стылі і значна папоўніўшы лексічныя сродкі словамі розных тэматычных пластоў.

Звычайна ў літаратурных мовах, развіццё і грамадскае функцыяніраванне якіх нічым не стрымліваецца і не абмяжоўваецца, такія структурна-функцыянальныя стылі, як мастацка-белетрыстычны, навуковы і афіцыйна-дзелавы, фарміруюцца ў гарманічным адзінстве, хоць вызначальная роля ў развіцці стылістычнай сістэмы належыць пераважна мове мастацкай літаратуры. Што да беларускай літаратурнай мовы, то яна да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі заставалася афіцыйна не прызнанай і ў «тагачасных неспрыяльных умовах не магла пашырыцца ў розныя грамадскія сферы, замацавацца ў літаратуры (не толькі ў мастацкай, публіцыстычнай, але і навуковай), у справаводстве і юрыспрудэнцыі»[3]. І хоць у пачатку XX ст. ў практыцы беларускага кнігадрукавання паступова акрэсліліся асноўныя характэрныя правапісныя і граматычныя рысы беларускай мовы, газеты і

---

[1] *Ленін У. І.* Творы. – Т. 19. – С. 72.

[2] Тамсама. С. 325.

[3] *Шакун Л. М.* Развіццё беларускай літаратурнай мовы ў сям'і моў братніх народаў Савецкага Саюза // Весці АН БССР. Серыя грамадскіх навук. – 1978. – № 6. – С. 129.

часопісы, літаратурна-мастацкія і публіцыстычныя творы, асобныя навукова-папулярныя і навучальна-педагагічныя выданні некалькі пашырылі сферу выкарыстання беларускай літаратурнай мовы, спрыялі яе ўзбагачэнню і ўдасканаленню, аднак у функцыянальных адносінах яна па-ранейшаму заставалася недастаткова развітай, а яе лексічная сістэма – тэматычна абмежаванай і неўнармаванай.

Пашырэнне беларускай мовы ў літаратуры і мастацтве, у навучальных і культурна-асветных установах, у сферы масавых сродкаў камунікацыі патрабавала сталай графікі, стабільных арфаграфічных, граматычных, арфаэпічных і лексічных норм, выпрацоўкі разнастайных спосабаў і прыёмаў моўнага выражэння. Таму ўжо ў першыя два паслякастрычніцкія дзесяцігоддзі была стандартызавана графіка, кадыфікаваны арфаграфічныя, граматычныя нормы, вызначаны правілы беларускага літаратурнага вымаўлення.

Развіццё стылістычнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы адбывалася, з аднаго боку, шляхам узбагачэння і ўдасканалення тых спосабаў і прыёмаў моўнага выражэння, якія склаліся ў дакастрычніцкі час у стылі мастацкай літаратуры і публіцыстыкі, а з другога – шляхам стварэння новых, што выпрацоўваліся ў навуковым і афіцыйна-дзелавым стылях.

Мастацка-белетрыстычны стыль, які ў дарэвалюцыйны час развіваўся пераважна ў жанрах паэзіі і часткова ў прозе і драматургіі, у пачатку XX ст. выпрацаваў у асноўным прыёмы дыферэнцыяцыі мовы аўтара і мовы персанажаў і ў пэўнай меры пазбавіўся моўнага натуралізму. Але паколькі паэты і пісьменнікі па-ранейшаму асвойвалі найперш тэматыку сялянскага жыцця, адлюстроўвалі быт і светапогляд вясковага насельніцтва і сродкі моўнага выражэння чэрпалі галоўным чынам з жывой гаворкі народа, стылістычная палітра гэтых сродкаў абмяжоўвалася, як правіла, размоўна-бытавой і дыялектнай лексікай. У савецкі час, калі ў беларускай літаратуры з’явіліся разнастайныя па сваёй тэматыцы і жанравых асаблівасцях эпічныя, лірычныя і драматычныя творы, у мове мастацкай літаратуры пачалі шырока выкарыстоўвацца таксама грамадска-палітычныя, навукова-тэхнічныя тэрміны, прафесіяналізмы, жарганізмы і г. д. Дзякуючы гэтаму беларуская савецкая літаратура дасягнула выразнай мастацка-вобразнай моўнай канкрэтызацыі (па тэрміналогіі М. М. Кожынай), многагалосся, дзе кожны голас (мова аўтара, мова персанажаў) з’яўляецца характарыстычным і выражае духоўны воблік героя, яго нацыянальныя рысы, сацыяльныя прыметы, погляды і рэчаіснасць, асаблівасці светапазнання, ацэнкі іншых персанажаў і характараў І г. д. Дзякуючы мастацка-эстэтычнаму асваенню слоў розных тэматычных разрадаў і лексіка-семантычных груп мастацка-белетрыстычны стыль значна развіў і ўдасканаліў стылістычныя рэсурсы беларускай літаратурнай мовы, узбагаціў яе новымі сродкамі моўнага выражэння.

У дакастрычніцкі час, калі з’явіліся першыя беларускія легальныя газеты і часопісы і на іх старонках пачалі друкавацца публіцыстычныя артыкулы, карэспандэнцыі, нататкі, нарысы, звароты і заклікі, вызначыліся такія

асаблівасці грамадска-публіцыстычнага стылю беларускай літаратурнай мовы, як высокая экспрэсіўнасць і наяўнасць слоў, надзеленых пэўным ідэйным зместам. Аднак паколькі названыя вышэй творы тагачаснай беларускай публіцыстыкі адрасаваліся пераважна вясковаму люду, то і аўтары ў сваёй моватворчасці шырока карысталіся жывым народным словам, надаючы яму своеасаблівае грамадска-палітычнае гучанне. У плане арганізацыі моўных сродкаў публіцыстыка таго часу мала чым адрознівалася ад мастацкай літаратуры і таму не магла аказаць значнага ўздзеяння на функцыянальнае развіццё беларускай літаратурнай мовы. Толькі ў савецкую эпоху, калі пачалі выходзіць масавым тыражом дзесяткі газет, часопісаў, публіцыстычных твораў розных жанраў, канчаткова склаўся грамадска-публіцыстычны стыль беларускай літаратурнай мовы і выпрацаваўся асноўны стылістычны прынцып арганізацыі моўных сродкаў, заснаваны на адзінстве дзвюх тэндэнцый – тэндэнцыі да экспрэсіўнасці і стандарту ў іх дыялектычным аб’яднанні[1]. Дзякуючы гэтаму на базе рознастылёвых элементаў, слоў розных тэматычных разрадаў і з рознай эмацыянальнай і стылістычнай афарбоўкай узніклі шматлікія словазлучэнні і звароты, якія, набыўшы ў публіцыстыцы своеасаблівыя семантычныя значэнні і адценні, узбагацілі выяўленчыя магчымасці беларускай літаратурнай мовы, напрыклад: *справа гонару, людзі добрай волі, камандзіры вытворчасці, баявы лісток, жоўтая прэса, вахта ўраджаю, вітаміны ўрадлівасці, зялёны канвеер* і інш.

У савецкі час сфарміраваўся навуковы стыль беларускай літаратурнай мовы з уласцівай яму сістэмай спосабаў і прыёмаў арганізацыі моўных сродкаў. Складанасць яго фарміравання заключалася ў тым, што для выражэння шматлікіх навуковых паняццяў у лексічнай сістэме беларускай мовы адсутнічалі адпаведныя тэрміналагічныя сродкі, а агульны «воблік» мовы навуковых і навукова-папулярных выданняў, што з’явіўся ў пачатку XX ст., мала чым адрозніваўся ад мовы мастацкіх твораў. Таму неабходна было адначасова стварыць сістэмы тэрмінаў розных галін ведаў і выпрацаваць тыповыя спосабы іх арганізацыі ў сферы спецыяльнай камунікацыі. Для выпрацоўкі тэрміналогіі Народным камісарыятам асветы БССР была створана Навукова-тэрміналагічная камісія, якая распачала сваю дзейнасць у 1921 г., а працягваў гэту справу Інстытут беларускай культуры, заснаваны на базе названай камісіі ў 1922 г. За перыяд з 1921 па 1930 г. было падрыхтавана і апублікавана больш 30 тэрміналагічных слоўнікаў. Гэта дало магчымасць выдаць на беларускай мове падручнікі і дапаможнікі для сярэдняй і вышэйшай школы, асобныя навуковыя і навукова-папулярныя працы, якія неслі веды ў шырокія народныя масы, спрыялі замацаванню тэрмінаў у моўнай практыцы, садзейнічалі ўдасканаленню асобных звенняў тэрміналагічных сістэм і выпрацоўцы своеасаблівых для сферы навуковага ўжывання споса-

---

[1] *Костомаров В. Г.* Русский язык на газетной полосе. – М., 1971. – С. 89.

баў і прыёмаў моўнага выражэння, пры якіх словы-тэрміны выяўляюць свае самыя характэрныя прыметы: сінтагматычную незалежнасць, адназначнасць, кананічнасць, адсутнасць экспрэсіўнасці, мадальнасці, вобразнасці і стылістычнай афарбоўкі.

Калі з перамогай Кастрычніка беларуская літаратурная мова набыла шырокія грамадскія функцыі, у яе стылістычнай сістэме паступова сфарміраваўся і афіцыйна-дзелавы стыль. Ён выпрацоўваўся па меры друкавання на беларускай мове розных дзяржаўных законаў, пастаноў і распараджэнняў. У працэсе моўнай практыкі ствараліся адпаведныя моўныя сродкі і акрэсліваліся характэрныя спосабы іх арганізацыі. Як вынік гэтага, ужо ў 1925 г. выйшаў з друку на рускай і поруч на беларускай мовах першы збор законаў БССР[1].

Такім чынам, усебаковае развіццё мастацка-белетрыстычнага стылю, фарміраванне і станаўленне за параўнальна кароткі час грамадска-публіцыстычнага, навуковага і афіцыйна-дзелавога стыляў было абумоўлена перш за ўсё тым, што беларуская літаратурная мова з першых дзён савецкай улады пачала свабодна функцыянаваць у розных сферах жыцця і дзейнасці беларускага народа. Аднак не ў меншай меры гэта залежала ад таго, наколькі жыватворнымі былі тыя крыніцы, адкуль чэрпаліся адпаведныя лексічныя сродкі, наколькі ўзбагачаліся і пашыраліся, разнастайна і прадуктыўна выкарыстоўваліся тыя моўныя элементы, з дапамогай якіх гэтыя сродкі ствараліся.

Розныя катэгорыі слоў, што выкарыстоўваліся ў тым ці іншым стылі, фарміраваліся найперш за кошт уласных моўных сродкаў – агульна-ўжывальных, дыялектных, гутарковых і нават прастамоўных лексічных адзінак. Асабліва выразна гэта праявілася ў 1920-х гг., калі беларуская літаратурная мова інтэнсіўна папаўняла свае выяўленчыя рэсурсы новымі адзінкамі, а вызначыць дакладна лексічныя нормы пакуль што было немагчыма з-за адсутнасці тлумачальных і дыялектных слоўнікаў. З другога боку, адсутнасць слоўнікаў нярэдка прыводзіла да выкарыстання нематываваных запазычанняў, калі аўтар, не знаходзячы адпаведнага наймення сярод вядомых яму слоў роднай мовы, звяртаўся да іншамоўных крыніц.

У далейшым побач з колькасным узбагачэннем лексікі, развіццём спосабаў і прыёмаў моўнага выражэння ў структурна-функцыянальных разнавіднасцях мовы і з выхадам беларуска-рускіх і руска-беларускіх слоўнікаў усё больш выразна акрэсліваліся асаблівасці тэкстаў адпаведных жанраў і стыляў і выпрацоўваліся лексічныя нормы. У працэсе выпрацоўкі лексічных норм беларуская літаратурная мова пазбаўлялася перш за ўсё вузкіх дыялектызмаў (*акладня, апойны, хірлявы*), штучных наватварэнняў (*аяскравіць, выведнік, песніць, пераносня, светаглядца*), нематываваных запазычанняў (*вэдлуг, гвязда, атрамант, тлен, рукаводзіць, сабранне, часць, гасударства*),

---

[1] *Шакун Л. М.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 1963. – С. 299.

г. зн. лексічных дублетаў, словаўтваральных і фонамарфалагічных варыянтаў, якія не адпавядалі тэндэнцыям развіцця лексіка-семантычнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы.

Гаворачы пра функцыянальнае развіццё беларускай літаратурнай мовы і яе лексічнага складу ў савецкую эпоху, неабходна падкрэсліць дабратворны ўплыў рускай літаратурнай мовы, адной з высокаразвітых і багацейшых моў свету. Стаўшы мовай міжнацыянальных зносін раўнапраўных народаў Краіны Саветаў, руская літаратурная мова не толькі шчодра ўзбагаціла мовы ўсіх нацый і народнасцей вялікай колькасцю лексічных адзінак, але і дала ўзоры, па якіх на аснове ўласных моўных рэсурсаў ствараліся шматлікія неалагізмы (так званыя калькі ці паўкалькі) тыпу: *бязважкасць, вызначальнік, выпраменьванне, Кастрычнік, спадарожнік* і інш. Акрамя таго, руская літаратурная мова, адыгрываючы выключную ролю ў аб'яднанні ў адзінай братняй сям'і рознамоўных народаў Савецкага Саюза, стала мовай-пасрэдніцай, праз якую ў беларускую літаратурную мову праніклі лексічныя адзінкі з моў іншых савецкіх нацый і народнасцей, напрыклад: *акын, аул, дойна, зумра, чум, яранга* і інш. Гэта садзейнічала фарміраванню ў лексічнай сістэме мовы беларускай сацыялістычнай нацыі агульнага лексічнага фонду моў народаў СССР.

Шырокае выкарыстанне беларускай літаратурнай мовы спрыяла таму, што за шэсць паслякастрычніцкіх дзесяцігоддзяў на ёй была створана багатая і разнастайная мастацкая, публіцыстычная і навуковая літаратура, выдадзены шматлікія дакументы дзяржаўнага значэння, апублікаваны законы, указы і пастановы. Яна ў поўны голас загучала са сцэны тэатраў, па радыё і тэлебачанню. Усё гэта з'яўляецца зарукай далейшага развіцця і ўдасканалення беларускай літаратурнай мовы на ўсіх яе ўзроўнях, узбагачэння яе выяўленчых сродкаў.

## З ПРАЦЫ ЯКУБА КОЛАСА НАД ПАЭМАЙ «НОВАЯ ЗЯМЛЯ»*

Ёсць творы настолькі мудрыя сваёй жыццёвай праўдай, настолькі значныя выяўленчай сутнасцю і дасканалыя мастацкай выразнасцю, што іх, як песню, бярэш з сабою ў дарогу на ўсё жыццё. Імі зачытваешся ў гады бесклапотнага дзяцінства, захапляешся ў гарачую пару юнацтва, перачытваеш на схіле мудрай восеньскай сталасці і кожны раз адкрываеш новыя таямніцы, бачыш новыя фарбы, хвалюешся, перажываеш, успамінаеш...

* Першая публікацыя ў выданні: Веснік БДУ. Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. – 1982. – № 1. – С. 18–22.

Адным з такіх класічных твораў у беларускай нацыянальнай літаратуры з'яўляецца велічная паэма слаўнага народнага песняра Якуба Коласа «Новая зямля». Пачынаецца яна незабыўнымі радкамі:

Мой родны кут, як ты мне мілы!..
Забыць цябе не маю сілы!

Сказана гранічна проста, але так шчыра і непасрэдна, што кранае да болю. Настрой паэта адразу перадаецца чытачу, авалодвае ўсёй яго істотай, мімаволі абуджае дарагія ўспаміны, бо, гаворачы словамі І. Мележа, «ёсць у кожнага свой, мілы сэрцу куток, які з бегам гадоў не толькі не цьмее ў памяці, а становіцца як бы яснейшым, даражэйшым. Багата можа быць у чалавека за жыццё іншых куткоў, і больш слаўных, і больш выдатных, але гэты куток, і не слаўны, і не выдатны, можа, нічым, не забываецца, не адступае ўдалеч, сярод іншых дарагіх, хвалюючых успамінаў – ён самы дарагі, самы шчымлівы! Куток гэты – тая хата, дзе мы вучыліся бегаць, дзе чулі цеплыню матчыных рук і цеплыню сэрца, куток нашага маленства»[1]. Яшчэ некалькі хвілін развагі, роздуму пра лёс, пра жыццё, яшчэ адзін уздых – і перад намі адкрываецца цудоўная карціна леснiковай пасады. Выпісана яна так жыва і пластычна, што ўспрымаецца і зрокам, і слыхам, і пачуццямі ва ўсёй сваёй прыгажосці і непаўторнасці. Чытаеш радок за радком, бачыш непамерную любоў паэта да роднага краю, да родных, мілых і блізкіх яму людзей, але душой адчуваеш яго смутак, яго боль, які часам не-не ды і прарвецца ў журботна-задуменнай інтанацыі. Усё гэта чаруе, захапляе, насцярожвае, інтрыгуе і ўжо не дае адступіцца ад твора, пакуль не будзе прачытана яго апошняя старонка.

Гаворачы пра творчую гісторыю паэмы, Якуб Колас на рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў зазначаў: «Калі я сядзеў у астрозе, перада мной вельмі ярка паўсталі малюнкі маленства, прыроды. Я не думаў тады яшчэ аб напісанні паэмы. Хацелася проста расказаць аб тым, што так маляўніча паўстала ў маёй памяці. Я апісаў леснікову пасаду. Затым з'явілася жаданне напісаць большае. Так паступова вырастала "Новая зямля"»[2]. Пра гэта сведчаць і асобныя раздзелы, што друкаваліся да 1921 г. на старонках перыядычных беларускіх выданняў у выглядзе вершаваных апавяданняў з падзагалоўкамі «Пачатак з расказа «Новая зямля», «З расказа «Новая зямля», «Урывак з расказа «Новая зямля».

З часу напісання першых радкоў твора ў краіне адбыліся падзеі сусветна-гістарычнага значэння: перамагла Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, упершыню ў сваёй гісторыі Беларусь атрымала дзяржаўнасць, беларускі народ пачаў будаваць светлую і шчаслівую яву. Асэнсоўваючы ўжо ў новых умовах гістарычны лёс сваёй краіны і народа, Якуб Колас паглыбіў ідэйную задуму твора, напісаў дзевятнаццаць новых раздзелаў, перапрацаваў

---

[1] *Мележ І. П.* Трохі згадак і думак // Пяцьдзесят чатыры дарогі. – Мінск, 1963. – С. 387.

[2] Літаратура і мастацтва. – 1947. – 2 жн.

апублікаваныя раней і ў студзені 1923 г. закончыў працу над паэмай. У пачатку гэтага ж года «Новая зямля» выйшла з друку асобным выданнем.

Найбольш перапрацаваны, з мэтай узмацніць сацыяльнае гучанне паэмы, больш выразна акрэсліць ідэю, стварыць рэальныя ў сваёй аснове вобразы і карціны, тыя раздзелы, якія былі напісаны ў 1911 г. («Леснікова пасада», «Раніца ў нядзельку», «За сталом», «Смерць ляснічага» і інш., асабліва вершаванае апавяданне «Як дзядзька ездзіў у Вільню і што ён там бачыў»).

Каб паказаць, наколькі істотнымі былі гэтыя аўтарскія праўкі для раскрыцця ідэйнага зместу твора, параўнаем некалькі ўрыўкаў з раздзела «Смерць ляснічага». Міхал і Ксавэры, «два служакі», ідуць на пахаванне ляснічага, хваляць, як вядзецца, нябожчыка і са страхам думаюць пра тое, што іх чакае ў будучым. Яны разумеюць, што гэты «ў лясніцтве кут парожны, куток пакрапны і багаты» моцна прыцягвае паноў і пасля смерці ляснічага нехта з панскай плоймы абавязкова прыйдзе сюды правіць, але баяцца, што:

Назна́чаць гэтакага ката, –
І да Цімоха скажаш – “тата”[1].

Відавочна, што гэта сюжэт звычайнага вершаванага апавядання. Калі ж паэт напісаў іншыя раздзелы, калі была вынашана тэма твора і канчаткова выспела яго ідэйная задума, Якуб Колас перапрацаваў раздзел, дапісаў некаторыя новыя радкі, з якіх асабліва вылучаюцца наступныя:

Назначаць гэтакага ката,
Тады запахне свая хата...
І тут у першы раз Міхала
Вось гэта думка напаткала:
Купіць зямлю, прыдбаць свой кут,
Каб з панскіх выпутацца пут,
І там зажыць сабе нанова:
Свая зямля – вось што аснова!

У агульнай сюжэтнай лініі паэмы апошнія шэсць радкоў з’яўляюцца па сутнасці цэнтральнымі, бо тэма пошукаў зямлі, якая гучала ў раздзелах, напісаных да рэвалюцыі, была пераасэнсавана і перарасла ў тэму пошукаў шляхоў да свабоды і волі. Невыпадкова Якуб Колас у прадмове да трэцяга выдання паэмы пісаў: «Куды ж мог падзецца Міхал і дзе шукаць збавення? Ён уяўляў сабе, што селянін, седзячы на сваёй зямлі і маючы кусок свайго хлеба, знаць не знае пана ляснічага і не ведае той залежнасці ад пана, у якой знаходзіўся Міхал. Ён уяўляў сабе, што пан ляснічы не можа прагнаць гаспадара селяніна з яго зямлі, не можа абярнуць яго ў свайго слугу і нявольніка»[2].

---

[1] Вольная Беларусь. – 1918. – № 19. – С. 150.
[2] *Колас Я.* Новая зямля. – Мінск, 1934. – С. 4.

Цалкам адпавядае жыццёвай праўдзе і тое, што думка «набыць зямлю» ўпершыню прыходзіць да Міхала тады, калі памёр стары ляснічы: у такія моманты чалавек часам думае не столькі пра таго, хто памёр, колькі пра сваё будучае. Менавіта так мог думаць Міхал, бо «сацыяльнае становішча яго – становішча нявольніка і бяспраўнага чалавека»[1], жыццёвы лёс якога поўнасцю залежаў ад капрызнай панскай волі.

Якуб Колас дапрацоўваў і перапрацоўваў не толькі карціны сюжэтнага апавядання, але і пейзажныя замалёўкі.

*Тым часам ужо і развіднялось, Як два мужчыны вышлі с хаткі. Крычалі качкі каля гаткі, І дзесьці гусі гергяталі, Цяцерукі ўжо такавалі...*[2].

Параўнаем:

*Міхал з Ксавэры вышлі з хаткі. Сьвітала ўжо. Дзесь каля гаткі У гэтым досьвітку маўклівым Крычалі гусі праразьліва, Нястройным хорам гергеталі, Ды качкі з шумам пралятали, І кнігаў нёсься плач з луккі. Ў глыбі лясоў цецярукі Ўжо зачыналі свае токі, Усход віталі агнявокі, Віталі шчыра і натхненна*[3].

У першапублікацыі прыведзеныя радкі выконвалі чыста інфармацыйную функцыю, не «працавалі» ні на сюжэт, ні на вобраз. Уключаючы раздзел у паэму, Якуб Колас істотна перапрацаваў першапачатковы тэкст, стварыў па сутнасці новую карціну і надаў радкам іншае сэнсавае гучанне. Новыя мазкі, свежыя фарбы (*досвітак маўклівы, крычалі праразліва, нястройным хорам гергеталі, качкі з шумам пралятали, плач кнігаў несся, цецерукі усход віталі агнявокі, віталі шчыра і натхненна*) ажывілі малюнак, радкі загучалі больш эмацыянальна і разам з тым неяк трывожна, напружана. Гармонія выяўлення якраз у тым і заключаецца, што паэт, перапрацаваўшы радкі першапублікацыі, дасягнуў такога адзінства сэнсу, тону і рытмікі, якое цалкам адпавядае настрою Міхала. Псіхалагічна глыбока абумоўлена тое, што дадзеная карціна выпісана Якубам Коласам з асаблівай выразнасцю. Смерць ляснічага так моцна ўскалыхнула Міхала, так яго ўразіла, што ў гэты момант ён усё да драбніц успрымаў і зрокам, і слыхам, і душой, і пачуццямі. Ён чуе ў маўклівай цішыні раніцы, з аднаго боку, прарэзлівы крык гусей, іх нястройнае гергетанне, шум качак, плач кнігаў, а з другога – натхнёнае такаванне цецерукоў. Прырода жыве, жыве сваім жыццём, складаным і супярэчлівым. Гэтая супярэчлівасць нібы перадаецца Міхалу. Трывога за сваю сям'ю, за свой лёс авалодвае яго істотаю, ён думае аб смерці і жыцці і вырашае набыць уласную зямлю.

Дэвізам пісьменніка Якуб Колас лічыў «імкненне шліфаваць мову, ясны, просты, выразны падбор кожнага слова і сказа, трапная характарыстыка

---

[1] *Колас Я*. Новая зямля. – Мінск, 1934. – С. 3.
[2] Вольная Беларусь. – 1918. – № 19. – С. 150.
[3] *Колас Я*. Новая зямля. – Мінск, 1923. – С. 62.

персанажаў»[1]. Вось чаму ён і пасля выхаду ў свет «Новай зямлі» асобным выданнем яшчэ і яшчэ звяртаўся да паэмы, перачытваў свой любімы твор і амаль кожны раз, калі паэма рыхтавалася да перавыдання, перапрацоўваў асобныя паэтычныя радкі або дапісваў новыя, уносіў шматлікія праўкі граматычнага, лексічнага і стылёвага характару, каб паглыбіць характарыстыку вобразаў, надаць вершу сэнсавую дакладнасць ці адпаведнае рытмічнае гучанне. Напрыклад, у першых трох выданнях «Новай зямлі» (раздзел «Смерць Міхала») ёсць такія радкі:

І засмуткуеш паняволі
Ад гэтых думак, цёмнай долі,
Калі набытак і скарб хатні
Ідуць на звод на той астатні.
Але ці ёсьць, ці ёсьць парука,
Што будзе сэнс мець гэта мука?

Як бачым, сумненне ў правільнасці таго шляху, які абраў Міхал, выказвалася, але з кантэксту не вынікала, каму іменна яно належыць. Пазней Якуб Колас палічыў гэта недахопам і ўнёс істотныя змены ў ранейшы тэкст, дапоўніўшы яго 18 новымі радкамі, з якіх асабліва вылучаюцца наступныя:

...Такія думкі, разважанні,
Як молат, білі ў сэрца Ганне: –
Тут справа не ў сваёй сядзібе,
А ў ладзе гэтым уся злыбедзь.

Новыя радкі, якія дапісаў паэт, надзвычай важныя для характарыстыкі галоўных вобразаў, у прыватнасці Ганны.

Якуб Колас вельмі тонка адчуваў унутраны змест слова і замяняў асобныя лексічныя адзінкі іншымі, дасягаючы сэнсавай дакладнасці. Параўнаем:

А ў небе ўдзень і вечарамі
Высока здольнымі шнурамі
Зьлятаўся вырай жураўліны...
(*1923, 1927 гг.*)

А ў небе ўдзень і вечарамі
Высока гэтымі шнурамі
Злятаўся вырай жураўліны...
(*1934 г.*)

А ў небе ўдзень і вечарамі
Высока роўнымі шнурамі
Злятаўся вырай жураўліны...
(*1946 г., канчатковая рэдакцыя*)

Словы *здольнымі*, *гэтымі* «ўпісваліся» толькі ў агульны рытмічны малюнак твора, сэнсава ж яны не адпавядалі моўнай сітуацыі. Аўтар гэта разумеў і шукаў тое адзінае слова, якое дапамагло б дакладна аформіць паэтычную думку. Такім аказалася звычайнае агульнаўжывальнае слова *роўнымі*.

[1] *Колас Я*. Збор твораў : у 12 т. – Т.11. – Мінск, 1964. – С. 364.

Яшчэ некалькі прыкладаў:

Ды ўраз-жа сьмех той адарвалі
(*1923, 1927 гг.*)

Ды ўраз-жа смех той абарвалі
(*1934 г.*)

Што ў нутрах цьмы агонь сьвідруе
(*1923*, *1927 гг.*)

Што ў нетрах цьмы агонь свідруе
(*1934 г.*)

Паэма «Новая зямля» выдавалася і перавыдавалася ў тыя часы, калі адбывалася станаўленне норм беларускай літаратурнай мовы. У іх выпрацоўцы і замацаванні вялікая роля належыць Якубу Коласу, таму ў яго творы знайшлі адлюстраванне ўсе тыя зрухі, якія адбываліся ў тагачаснай мове. Гэта выявілася не толькі ў праўках граматычнага характару, але і ў замене дыялектных слоў і іх форм агульнанароднымі. Напрыклад, у першавыданні паэмы сустракаюцца словы і формы тыпу *віёрка*, *дзесянціна*, *замеціць*, *картофля*, *кожды*, *мятушыцца*, *падштоўхваць*, *на дубок*, *у лясох* і г. д. Калі ж у працэсе станаўлення беларускай літаратурнай мовы выяўлялася, што падобныя словы і формы не набывалі статуса нормы, Якуб Колас уносіў адпаведныя праўкі: *вавёрка* (выданне 1946 г.), *дзесяціна*, *заўважыць*, *бульба*, *кожны*, *мітусіцца* (1927 г.), *падштурхваць*, *на дубах*, *у лясах* (1934 г.).

Аднак неабходна заўважыць, што такія праўкі праводзіліся паэтам толькі пры той умове, калі не парушаліся метрыка, рытм, рыфма верша, агульны інтанацыйны лад твора. У адваротных выпадках захоўваліся ранейшыя словы і формы, напрыклад:

1. Бруіліся ў цяньку іх хвалі...
   Аж покі ў Нёман не ўцякалі.

2. Стаяў хлявец якраз напроці
   І чуць ліпеў, як бы на плоце
   Гаршчок...

3. І вось што, братцы, дзіўна ў свеце,
   Вы толькі добра паглядзеце...

4. Гараць дрыготна, ззяюць зоркі,
   Як найдарожшыя пацёркі...

5. Чуць міска ткнулася сюды,
   Дык у яе, як па прыказу,
   Відэльцаў з восем лезе зразу.

6. Быў дзядзька ў пушчах, у барох
   І расчытаць іх голас мог.

Здавалася б, словы і формы *прыказ*, *пацёркі*, *покі*, *напроці*, *зразу*, *паглядзеце*, *у барох* будуць выразна ўспрымацца як ненарматыўныя і непажаданыя ў надзвычай паэтычным творы. Але гэтага не здарылася: паэма настолькі зачароўвае чытача сваім зместам, настолькі бярэ яго ў сваю ўладу ідэяй формы, што моўныя няправільнасці не толькі не заўважаюцца, а ператвараюцца ў цуд паэзіі і выяўляецца дзівосная краса жывога беларускага слова. Дарэчы, вершаваныя радкі, якія «выбіваліся» з агульнага рытміка-інтанацыйнага ладу, Якуб Колас правіў да таго часу, пакуль не дасягаў поўнай гармоніі. Напрыклад, у выданні паэмы 1923 г. чытаем:

Нясьліся зыкі песень здольных,
Ў лясох раз-по-раз адбівалісь;
Ім ўзгоркі ўсюды адклікалісь...

У трэцім радку дзеля захавання рытму паэт скараціў галосны гук у пасля зычнага (ім ўзгоркі). Аднак пры гэтым атрымалася такое спалучэнне гукаў (ім ўзгоркі) і іх паўтарэнне (ўзгоркі ўсюды), якія не надавалі натуральнага гучання вершу і выяўлялі парушэнне моўнага «этыкету». Аўтар гэта адчуваў і ў наступным выданні даў новую рэдакцыю памянёнага радка:

Нясьліся зыкі песень здольных,
Ў лясох раз-по-раз адбівалісь;
Ім узгоркі адклікалісь...

Але і гэта не задаволіла, паколькі атрымаўся радок іншага вершаванага памеру (харэй, а паэма напісана ямбам). Таму Якуб Колас пазней зноў звярнуўся да гэтага радка, ужыў на самым яго пачатку злучнік *і*, у выніку чаго верш адразу загучаў у патрэбным рытміка-інтанацыйным ключы:

Няслісяя зыкі песень здольных,
Ў лясах раз-пораз адбівалісь
І ім узгоркі адклікалісь...

Увогуле, Якуб Колас правіў асобныя радкі «Новай зямлі» да таго часу, пакуль не дасягаў такога гарманічнага адзінства формы і зместу гэтага рэдкага па сваёй мастацкай сіле твора, якое праяўляецца на ўсіх узроўнях: сэнсавым, гукавым, метрычным, інтанацыйным.

## ДА ПЫТАННЯ АБ ВЫВУЧЭННІ БЕЛАРУСКАЙ ТЭРМІНАЛАГІЧНАЙ ЛЕКСІКІ 1920-х гг.*

Своеасаблівымі і важнымі этапамі ў гісторыі развіцця новай беларускай літаратурнай мовы і яе лексікі з'яўляюцца перад- і паслякастрычніцкія дзесяцігоддзі. Пачатак XX ст., калі небывалага ўздыму дасягнула рэвалюцыйная і нацыянальна-вызваленчая барацьба народаў царскай Расіі, азнаменаваўся для беларускага народа абуджэннем яго нацыянальнай самасвядомасці, барацьбой за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, усведамленнем «права жыць, як свабодная нация, разьвиваць сваю мову, сваю литэратуру, ...пазнаваць навуки ў сваей роднай мови, разьвиваць сваю культуру»[1]. На працягу 1901–1917 гг. убачылі свет першыя легальныя газеты і часопісы на беларускай мове, выдадзена 81 кніга арыгінальнай мастацкай літаратуры

* Першая публікацыя ў выданні: Веснік БДУ. Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. – 1984. – № 3. – С. 13–17.

[1] Наша Ніва. – 1908. – № 8.

і 25 кніг перакладаў, 24 фальклорныя зборнікі, 14 календароў, 43 брашуры на навукова-папулярныя тэмы, 13 дапаможнікаў для навучання і інш., усяго 245 кніг[1]. Гэта садзейнічала фарміраванню новай беларускай літаратурнай мовы, развіццю яе слоўнікавага складу, што значна папоўніўся новымі лексіка-фразеалагічнымі сродкамі, сярод якіх пэўную частку складаюць адзінкі намінатыўна-тэрміналагічнага характару.

Перадкастрычніцкае дзесяцігоддзе стала, такім чынам, пачатковым этапам у фарміраванні тэрміналагічнай лексікі новай беларускай літаратурнай мовы. Праўда, у функцыянальных адносінах тэрміналагічная лексіка яшчэ амаль не адрознівалася ад агульнаўжывальнай, таму для яе характэрны былі полінайменнасць, фонамарфалагічная варыянтнасць, семантычная неакрэсленасць шматлікіх тэрмінаў, іх структурная і генетычная неаднароднасць і інш. Тым не менш ужо ў гэты час паступова акрэсліваліся паняційная аснова сэнсавага зместу тэрмінаў, тэндэнцыя да іх фармальна-лексічнай і семантычнай рэгулярнасці, ішлі пошукі той матэрыяльнай субстанцыі, якая павінна была стаць базай для новай беларускай літаратурнай мовы намінацыі. Аднак усё гэта не магло праявіцца належным чынам і прывесці да мэтанакіраванай тэрмінатворчасці, паколькі беларускі народ па-ранейшаму не меў сваёй дзяржаўнасці, а яго «літаратурная мова была сацыяльна і функцыянальна абмежаваная, а значыць і недастаткова развітая, каб абслугоўваць усе патрэбы грамадства. Гэта абмежаванасць найбольш яскрава выяўлялася ў галіне лексікі»[2].

Свядомая і мэтанакіраваная тэрмінатворчасць у беларускай літаратурнай мове распачалася пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, калі ў выніку ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі беларуская мова стала юрыдычна раўнапраўнай з мовамі ўсіх народаў Савецкага Саюза і за кароткі час павінна была ў такой меры папоўніць сваю лексіку і развіць усе структурна-функцыянальныя стылі, каб забяспечыць моўныя запатрабаванні беларускага народа ва ўсіх сферах сацыялістычнага будаўніцтва. Пры гэтым задача стварэння беларускай нацыянальнай тэрміналогіі стала адной з першачарговых, бо без развітай тэрміналогіі беларуская літаратурная мова не магла абслугоўваць такія важныя сферы, як асвета, навука і культура. У пачатку 1921 г. да ажыццяўлення названай задачы прыступіла Навукова-тэрміналагічная камісія, а ў пачатку 1922 г. заснаваны на яе базе Інстытут беларускай культуры. У выніку гэтага 1920-я гг. сталі гадамі настолькі значнай па маштабах і тэмпах тэрмінатворчасці, што іх неабходна лічыць асобным этапам у гісторыі фарміравання беларускай нацыянальнай тэрміналогіі.

Як вядома, свядомая і мэтанакіраваная тэрмінатворчасць непасрэдна звязана з рэгістрацыяй, выяўленнем і асэнсаваннем сістэмных сувязей паміж ты-

---

[1] *Александровіч С. Х.* Пуцявіны роднага слова. – Мінск, 1971. – С. 163.

[2] *Баханькоў А. Я.* Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд. – Мінск, 1982. – С. 19.

мі паняццямі, якія здабыты ў працэсе навуковага пазнання. Гэтыя паняцці аб'ядноўваюцца ў пэўныя класіфікацыйныя сістэмы, а затым кожнае з іх азначаецца ў адпаведнасці з лагічнай схемай навукі. У сваю чаргу на аснове навуковых азначэнняў паняццяў выпрацоўваецца сістэма дэфініцый, для якой характэрны іерархічныя адносіны паміж асобнымі яе часткамі і ўнутры іх. Пасля гэтага вядзецца пошук і адбор адпаведных тыпаў моўных сродкаў, мадэляў моўных знакаў для выражэння тых ці іншых тыпаў дэфініцый, каб стварыць такую сістэму тэрмінаў, кожны з якіх у плане зместу сіметрычна суадносіцца і проціпастаўляецца адзін аднаму па дакладна акрэсленых дыферэнцыяльных прыметах, а ў плане структуры характарызуецца рэгулярнасцю словаўтваральнай мадэлі і спецыялізацыяй словаўтваральнага афікса. Аднак неабходна мець на ўвазе, што перадумовай падобнай тэрмінатворчасці з'яўляецца: а) дастаткова высокая ступень развіцця лексіка-семантычнай сістэмы мовы як матэрыяльнай субстанцыі для ўсіх тэрміналогій на этапе натуральнага іх узнікнення і фарміравання; веданне гэтай лексіка-семантычнай сістэмы і сродкаў яе слова- і формаўтварэння; наяўнасць адпаведных тым ці іншым галінам ведаў сукупнасцей тэрміналагічных адзінак, што з'яўляліся ў мове ў выніку натуральнага яе развіцця; дакладнае ўяўленне аб асаблівасцях жывой моўнай тканіны тэрмінаў, усіх слова- і формаўтваральных сродках і іх патэнцыяльных дэрывацыйных магчымасцях як у межах асобных тэрміналогій, якія склаліся ў выніку натуральнага іх узнікнення і развіцця, так і ў складзе ўсёй тэрміналагічнай лексікі; пазнанне сутнасці тэрміналагічных значэнняў і іх узаемадзеяння з традыцыйнай семантычнай сістэмай мовы; б) даволі высокі ўзровень развіцця навуковай думкі; дастаткова выразная дыферэнцыяцыя навуковых ведаў пры захаванні пэўных сувязей паміж навуковымі дысцыплінамі; наяўнасць сістэматызаваных апісанняў розных галін ведаў на той ці іншай ступені іх развіцця і ў адпаведнасці з лагічнай схемай навукі.

Улік акрэсленых вышэй інтра- і экстралінгвістычных фактараў пры аналізе тэрміналагічнай лексікі дае магчымасць высветліць, у якой меры пры фарміраванні тэрміналогіі праяўляліся, з аднаго боку, тыя працэсы, што абумоўлены натуральным ходам развіцця лексікі, а з другога – працэсы, прадвызначаныя свядомай мэтанакіраванай тэрмінатворчасцю. Толькі на падставе такога даследавання можна выявіць ступень уздзеяння на фарміраванне тэрміналогіі дзвюх «рухаючых» сіл – стыхійнасці і кіруемасці. У дачыненні да беларускай тэрміналагічнай лексікі 1920-х гг. гэта цалкам апраўдана, паколькі «кардынальным момантам, які павінен у цэлым абумовіць і падыход, і метад аналізу тэрміналогіі, павінна быць абсалютна дакладнае бачанне таго, якім шляхам фарміруецца, складваецца тая ці іншая тэрміналагічная сфера, і перш за ўсё ці з'яўляецца яна вынікам свядомай, мэтанакіраванай моўнай дзейнасці ці прадстаўляе сабой вынік развіцця адзінак, якія фарміруюцца натуральна (естественно)»[1].

---

[1] *Миськевич Г. И.* К вопросу о становлении терминологии (на материале космической лексики) // Терминология и культура речи. – М., 1981. – С. 92.

Калі мець на ўвазе тыя арганізацыйныя мерапрыемствы, якія былі праведзены ў 1920-х гг. з мэтай стварэння беларускай нацыянальнай тэрміналогіі, публікацыю на старонках «Весніка Народнага Камісарыята асветы ССРБ» 8 тэрміналагічных слоўнікаў і выпуск асобнымі выданнямі 24 слоўнікаў тэрмінаў, падрыхтаваных Навукова-тэрміналагічнай камісіяй і Інстытутам беларускай культуры на працягу 1921–1930 гг., то лагічна было б дапусціць, што тэрміналагічная сфера ў беларускай літаратурнай мове гэтага часу фарміравалася пераважна ў выніку свядомай і мэтанакіраванай моўнай дзейнасці. Але такі вывад будзе паспешлівым, бо нават у мовах з высокаразвітай лексіка-семантычнай сістэмай і актыўнай нарматыўнай рэгламентацыяй працэсаў тэрмінатворчасці «патрэбнасці фіксацыі, перадачы і скарыстоўвання новых ведаў выклікаюць развіццё тэрміналогіі, вынікам чаго з’яўляецца ўзмацненне некантралюемых працэсаў тэрмінаўтварэння»[1]. Тым яскравей гэта праяўляецца ў перыяды масавага стварэння новых тэрмінаў і тэрмінасістэм, да якога ў беларускай літаратурнай мове якраз і адносяцца 1920-я гг. Акрамя таго, на выпрацоўку беларускай тэрміналагічнай лексікі аказалі ўплыў тэматычная абмежаванасць і неўнармаванасць слоўнікавага складу мовы, розныя погляды на крыніцы і шляхі яго ўзбагачэння і ўдасканалення, адсутнасць грунтоўных лексікаграфічных даведнікаў тагачаснай літаратурнай мовы і жывых народных гаворак, недастатковая вывучанасць наяўнага лексічнага фонду, слова- і формаўтваральных сродкаў мовы, малалікасць выданняў, зместам якіх з’яўлялася больш ці менш разгорнутая сістэма ведаў па розных галінах навукі і тэхнікі. Усё гэта таксама спрыяла стыхійнасці ў тэрмінатворчасці і стрымлівала праяўленне працэсаў упарадкавання (асабліва ў сферы функцыяніравання тэрмінаў і часткова ў сферы іх фіксацыі). Таму, хоць мы і маем справу пакуль што з недастаткова вывучанымі аб’ектамі – агульнаўжывальнай і тэрміналагічнай лексікай 1920-х гг., – ёсць падставы лічыць, што пры стварэнні тэрміналогіі на пачатку ў большай ступені праявілася стыхійнасць, чым кіруемасць.

Беларуская літаратурная мова, сутыкнуўшыся ў 1920-х гг. з надзённымі патрэбамі знайсці сродкі выражэння для вялікай колькасці новых паняццяў, што з’ўляліся ў выніку бурнага дзяржаўнага, грамадскага, эканамічнага, навуковага і культурнага развіцця рэспублікі ў новых гістарычных умовах, арыентавалася, як вядома, на ўласныя моўныя рэсурсы. Да гэтых рэсурсаў звярнуліся таксама і стваральнікі беларускай тэрміналогіі. Але, свядома акрэсліўшы ў якасці матэрыяльнай субстанцыі тагачасную лексіку літаратурнай мовы і жывых народных гаворак, яны не змаглі абмежаваць праяўленне тых структурна-марфалагічных і лексіка-семантычных уласцівасцей, якія характэрны для натуральнага ходу развіцця лексічнай сістэмы. Гэта заканамерна, бо, як зазначае Л. Л. Куціна, «мова дае матэрыял для тэрміналогій, але яна ж

[1] Проблемы разработки и упорядочения терминологии в Академиях наук союзных республик. – М., 1985. – С. 43.

навязвае ім прынцыпы сваёй арганізацыі»[1]. Значыць, у такім разе пры вывучэнні тэрміналогіі «павінны быць выяўлены і паказаны суадносіны паняццяў і знакаў у канкрэтнай моўнай сферы, раскрыты тыя аб'ектыўныя ўнутраныя заканамернасці, якія кіруюць станаўленнем данай тэрміналагічнай сферы»[2].

Аналіз суадносін паміж навуковымі паняццямі і сродкамі іх выражэння ў беларускай літаратурнай мове 1920-х гг. паказвае, што самай характэрнай рысай тэрміналагічнай лексікі таго часу з'яўляецца полінайменнасць, г. зн. выкарыстанне для намінацыі і дэфініцыі аднаго і таго ж паняцця некалькіх тэрмінаў, напрыклад: *аснова – заснаваньне – падстава, абразаваньне – адукацыя – асвета, настаўнік – вучыцель – педагог, працэнты – працэнтныя грошы, наросшы капітал – збуйнеўшы капітал, даўжнік – дэбітар, даход – карысць – прыбытак – прыход, заімадаўца – крэдытар, алькаліі – лугі* (*г. зн. шчолачы*), *атамная вага – атамны цяжар, гідраты – водзістыя сувязі, рэакцыя замены – рэакцыя зьмены, сачэўка – лупа, зьмяншанае чысло – зьмяншаны лік – зьмяншанік – зьменшыва, адыманае чысло – ад'емнік – аднімнік – адымнік – адыманае, арытмэтычныя адносіны – розьніцавыя адносіны, круг – кола, дзельнае чысло – дзельнае – дзеліва, кроніка – летапісь, матыў – тон, клас – стан, агульнаселішча – супольнажыцьце, лексыкон – слоўнік, дзейны стан – актыўны стан* і інш. Такая развітая полінайменнасць была натуральнай з'явай, таму што шырокая краязнаўчая дзейнасць, «мэтанакіраваны збор народнай лексікі для слоўніка жывой народнай мовы і выпрацоўкі тэрміналагічных сістэм, пашырэнне цэнтральнай і мясцовай прэсы, бурнае развіццё мастацкай літаратуры пры адсутнасці норм словаўжывання зрабілі магчымым пранікненне ў літаратурна-пісьмовыя тэксты, па сутнасці, любога слова – як агульнаўжывальнага, так і тэрытарыяльна абмежаванага і вузкадыялектнага»[3]. Не стала выключэннем у гэтым плане і тэрміналагічная сфера, таму што аўтары навуковых і навукова-папулярных прац, падручнікаў і дапаможнікаў для школы, а таксама стваральнікі беларускай навуковай тэрміналогіі, імкнучыся выкарыстаць перш за ўсё ўласныя моўныя рэсурсы, ужывалі ці прапаноўвалі ў якасці тэрмінаў не толькі ўжо існаваўшыя агульнаўжывальныя і дыялектныя словы, але і ўтвораныя на іх аснове шматлікія неалагізмы розных тыпаў і мадэляў. А калі ўлічыць, што з некаторымі з іх паралельна выкарыстоўваліся асобныя лексічныя запазычанні, то становіцца відавочным наступнае: хоць тэрміналагічная лексіка і ўсведамлялася як своеасаблівы разрад слоў у лексіка-семантычнай сістэме мовы, аднак у функцыянальных адносінах яна яшчэ не вылучалася выразна акрэсленай спецыфікай і яе фарміраванне адбывалася пад моцным уздзеян-

---

[1] Лингвистические проблемы научно-технической терминологии. – М., 1970. – С. 89.

[2] *Миськевич Г. И.* Цыт. праца. С. 93.

[3] *Баханькоў А. Я.* Цыт. праца. С. 52.

нем тых працэсаў, якія характэрны былі для развіцця і станаўлення агульнаўжывальнай лексікі. Да таго ж самі стваральнікі тэрміналогіі адзначалі «праектовы», «дыскусійны» характар падрыхтаваных імі тэрміналагічных слоўнікаў. Усё гэта прадвызначыла шырокае пранікненне на старонкі адных і тых жа ці розных выданняў пры намінацыі і дэфініцыі аднаго паняцця некалькіх тэрмінаў, сярод якіх: а) агульнаўжывальныя і дыялектныя словы: *зародак – плёнчык, правільная – праведная* (*дроб*)*, рожа – чырвонка*; б) дыялектныя словы рознага пашырэння: *глей – мул, клубні – бульбні*; в) беларускія і запазычаныя словы: *аднімнік – ад'емнік, барвіца – пігмэнт, адносіны – стасункі, канчатак – флексія*.

Свядомае выкарыстанне ў працэсе тэрмінатворчасці агульнаўжывальных і дыялектных слоў, розных іх варыянтаў і форм абумовіла наяўнасць сярод тэрмінаў – неалагізмаў: а) слоў з рознай утваральнай асновай (унутранай матывацыяй), аднатыпных ці разнатыпных у словаўтваральных адносінах, але раўназначных у плане зместу: *складаньне – дадаваньне – злучаньне – прылічаньне, расчына – мешаніна, атворыны – сіткі, гушчыня – плотнасць*; б) словаўтваральных варыянтаў: *складанка – складнік, павалока – павалочка, зьменшанік – зьменшыва, дроб – дробня – дробязь, абкругленьне – закругленьне, частка – часьціна – часьцінка*; в) фанетычных і фанетыка-акцэнталагічных варыянтаў: *абраз – вобраз, абразнасьць – вобразнасьць, супалка – суполка*. Акрамя таго, пад уплывам жывых народных гаворак і моў суседніх народаў ужываліся часам розныя варыянты як спрадвечна беларускіх, так і запазычаных слоў, напрыклад: *розьніца – ружніца, арытмэтыка – арыхмэтыка, аманьяк – аммоніяк, срочны – строчны* (*уклад*).

Уздзеяннем агульнаўжывальнай лексікі, якая сама перажывала перыяд колькаснага ўзбагачэння і станаўлення, абумоўлены таксама некаторыя семасіялагічныя і фармальна-структурныя асаблівасці тэрміналагічнай лексікі і перш за ўсё: а) неакрэсленасць семантычнага аб'ёму асобных тэрмінаў, якія ў тых ці іншых кантэкстах ужываліся як сінонімы і ўваходзілі ў розныя класіфікацыйныя рады, напрыклад: *мова – язык – гутарка, гаворка – гутарка, размова – гутарка*; б) словаўтваральная неаднароднасць тэрмінаў, што выражаюць аднатыпныя прадметна-лагічныя адносіны ці паняцці, параўн.: *павелічэньне* і *памяншаньне*, *травяністае* і *дрывотнае* (сьціблo).

Адзначаныя і іншыя асаблівасці тэрміналагічнай лексікі беларускай літаратурнай мовы 1920-х гг. сведчаць пра тое, што на пачатковым этапе фарміравання тэрміналагічнай сферы праяўляліся ўсе тыя ўласцівасці, якія характэрны для натуральнага, аб'ектыўнага развіцця лексіка-семантычнай сістэмы мовы. Гэтыя асаблівасці, абумоўленыя ўнутрымоўнымі заканамернасцямі, не дазвалялі ў поўнай меры праявіцца тым працэсам, што характэрны свядомай тэрмінатворчасці з пазіцый строгага патрабавання сістэмнасці, паняційна-лагічнай і структурнай абумоўленасці тэрміналагічных адзінак у залежнасці ад іх месца ў сістэме тэрміналогіі адпаведнай галіны ведаў і ад месца ў сістэме лагічнай схемы навукі выражаемых імі паняццяў. Але па-

колькі «ні адна новая з'ява ў мове не ўзнікае абсалютна стыхійна і ні адна не з'яўляецца прадуктам ні ад чаго не залежнай ініцыятывы», што «заўсёды ў той ці іншай меры прысутнічаюць абодва гэтыя кампаненты – і стыхійнасць і кіруемасць»[1], пры аналізе тэрміналагічнай лексікі 1920-х гг. неабходна перш за ўсё высветліць усе ўнутрымоўныя і пазамоўныя фактары і характар іх уплыву на выпрацоўку беларускай тэрміналогіі, ступень праяўлення ў тэрміналагічнай сферы стыхійнасці і кіруемасці і на гэтай аснове даследаваць паняційны змест і структуру тэрмінаў той ці іншай галіны ведаў.

# ПОШУКІ ПРЫНЦЫПАЎ І ШЛЯХОЎ ВЫПРАЦОЎКІ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ Ў 1920-х гг.*

Пытанні тэрміналогіі для сучаснага беларускага мовазнаўства з'яўляюцца асабліва актуальнымі па некалькіх прычынах. Па-першае, тэрміналагічныя сістэмы ў новай беларускай літаратурнай мове сфарміраваліся толькі ў савецкі перыяд, калі мова беларускага народа за параўнальна кароткі час павінна была папоўніць сваю лексіка-семантычную сістэму словамі розных тэматычных пластоў і выпрацаваць адпаведныя структурна-функцыянальныя стылі. Пры такім паскораным развіцці лексіка-семантычнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы для дзейнасці стваральнікаў тэрміналогіі, якая ажыццяўлялася не толькі пры адсутнасці адпаведных тэарэтычных даследаванняў, але і якіх-небудзь сталых традыцый у тэрмінатворчасці, уласцівы былі ў той ці іншай меры эмпірычнасць і інтуітыўнасць. Па-другое, беларуская літаратурная мова і ў нашы дні павінна інтэнсіўна, пры гэтым свядома і мэтанакіравана, папаўняць свае тэрміналагічныя сістэмы і адначасова іх удасканальваць. Па-трэцяе, узрасла ўвага да тэрміналогіі як да састаўной часткі культуры беларускай мовы, што патрабуе ведання не толькі лагічных заканамернасцей узнікнення паняццяў і іх класіфікацыйных асаблівасцей, але і тэндэнцый развіцця мовы наогул ва ўмовах навукова-тэхнічнага прагрэсу.

Праца па ўдасканаленню тэрміналагічных сістэм праводзіцца звычайна на аснове іх сінхроннага вывучэння. Аднак надзвычай важным з'яўляецца і дыяхронны аналіз тэрмінаў, таму што распрацоўка тэорыі тэрміназнаўства і яе практычнае выкарыстанне павінны грунтавацца як на вопыце мінулага, так і на дасягненнях сучаснага ў галіне тэрмінатворчасці.

Перадумовай паспяховага вырашэння праблем, звязаных са спецыфікай фарміравання і развіцця тэрміналагічнай лексікі ў беларускай літаратурнай

---

[1] *Аврорин В. А.* Проблемы изучения функциональной стороны языка. – М., 1975. – С. 163.

* Першая публікацыя ў выданні: Беларуская мова. – 1985. – Вып. 13. – С. 31–41.

мове, з'яўляецца вывучэнне шэрагу пытанняў, сярод якіх: крыніцы фарміравання тэрміналогіі, абумоўленасць лексіка-семантычных і функцыянальных уласцівасцей тэрміна суадносінамі і сувязямі тэрміналагічнай лексікі з лексікай нетэрміналагічнай, тэрміны як вынік натуральнага развіцця лексікі і як плён свядомай, мэтанакіраванай дзейнасці стваральнікаў тэрміналогіі, тэрміны ў сферы фіксацыі і ў сферы функцыяніравання, асаблівасці сістэмнай арганізацыі тэрмінаў і іх праяўленне ў залежнасці ад лінгвістычных і экстралінгвістычных фактараў на розных этапах фарміравання і станаўлення тэрміналогіі і інш. Пры ўсім тым неабходна падкрэсліць, што ў дачыненні да новай беларускай літаратурнай мовы, якая ў дакастрычніцкі час не мела спрыяльных магчымасцей для свайго развіцця, асабліва важна ўлічваць існаванне і функцыяніраванне тэрміналогіі ў часе, яе ўключанасць у гістарычны працэс, яе суадносіны і сувязі з нетэрміналагічнай лексікай на кожным канкрэтным гістарычным этапе, таму што гэтым у значнай меры былі абумоўлены пошукі прынцыпаў і шляхоў выпрацоўкі нацыянальнай тэрміналогіі.

Тэрміналогія любой нацыянальнай і літаратурнай мовы – перш за ўсё «дзецішча» самой мовы, вынік яе функцыянальнага развіцця. А паколькі функцыянальнае развіццё літаратурнай мовы абумоўлена не столькі ўнутрымоўнымі, колькі сацыяльнымі фактарамі, то і фарміраванне тэрміналагічнай лексікі павінна разглядацца як вынік натуральнага ходу развіцця ўсёй лексічнай сістэмы і свядомай тэрмінатворчасці. Разам з тым неабходна мець на ўвазе, што гэтыя дзве рухаючыя сілы ў фарміраванні і развіцці тэрміналагічнай лексікі своеасабліва праяўляліся і праяўляюцца ў розных мовах у залежнасці ад асаблівасцей іх гістарычнага развіцця.

Тэрміналагічная лексіка беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы пачала фарміравацца ў пачатку XX ст., калі ў выніку рэвалюцыйнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы царызм вымушаны быў абвясціць так званы «закон аб свабодзе друку» і на беларускай мове з'явіліся першыя легальныя газеты і часопісы, асобныя навучальныя і навукова-папулярныя выданні. На старонках газет «Наша доля», «Наша ніва», «Гоман», «Дзянніца», «Светач», «Беларус», часопісаў «Лучынка», «Раніца», «Маладая Беларусь», «Саха» пачалі змяшчацца артыкулы на сацыяльна-эканамічныя, грамадска-палітычныя, грамадска-культурныя і навуковыя тэмы, у сувязі з чым выкарыстоўваліся лексічныя адзінкі намінатыўна-тэрміналагічнага характару. Падобныя лексічныя адзінкі сустракаюцца таксама ў такіх выданнях, як «Беларускі лемэнтар, або Першая навука чытання» (1906 г.), «Гутарки аб неби и зямли» (1907 г.), «Пчаліна – жывёлка малая, а карысьці дае многа» (1911 г.), «Задачнік для пачатковых школ» (1916 г.) і інш. Так, у пачатку XX ст. беларуская літаратурная мова некалькі пашырыла сферы свайго выкарыстання і ў сістэме яе моўна-выяўленчых сродкаў пачала фарміравацца тэрміналагічная лексіка.

Фарміраванне і развіццё тэрміналагічнай лексікі звязаны з узроўнем ведаў чалавецтва аб прыродзе і грамадстве. Гэты ўзровень ведаў адлюстроўваецца ў мове і знаходзіць сваё непасрэднае выражэнне ў тэрміналогіі.

Не выпадкова акад. В. У. Вінаградаў, выступаючы на Ўсесаюзнай тэрміналагічнай нарадзе ў 1959 г., зазначыў: «Гісторыя тэрміналогіі той ці іншай сферы навукі, культуры, вытворчай дзейнасці – гэта разам з тым аповесць аб заканамернасцях развіцця ведаў аб прыродзе і грамадстве»[1]. І калі мова таго ці іншага народа развіваецца свабодна і нічым не абмяжоўваюцца сферы яе выкарыстання, то ў такой мове ступень развіцця навуковых ведаў абавязкова знаходзіць сваё выражэнне і прадвызначае ступень развіцця тэрміналогіі.

У лексічнай сістэме беларускай літаратурнай мовы дакастрычніцкага часу, функцыянальнае развіццё якой ва ўмовах сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту стрымлівалася царскімі ўладамі ўсімі магчымымі сродкамі і яна не дапускалася ў такія важныя сферы, як асвета і навука, адлюстравалася звычайнае веданне прыроды і грамадства, што вынікала з чыста практычнага пазнання чалавекам рэчаіснасці. Навукова-папулярныя выданні і публікацыі на старонках беларускіх дакастрычніцкіх газет і часопісаў пачатку XX ст. знаёмілі чытача з навуковым асэнсаваннем тых ці іншых з'яў у прыродзе і грамадстве і давалі, такім чынам, беларускаму народу асобныя фрагменты навуковых ведаў на яго роднай мове. Але паколькі гэтыя фрагменты не складалі яшчэ цэласнай сістэмы, хоць бы і самай элементарнай, а моўныя прыёмы іх выкладу ў навуковых і навукова-папулярных тэкстах у плане стылістыкі мала чым адрозніваліся ад мовы мастацкай літаратуры і публіцыстыкі, то і лексічныя адзінкі намінатыўна-тэрміналагічнага характару, якія выкарыстоўваліся пры асвятленні сутнасці асобных паняццяў, у функцыянальных адносінах істотна не адрозніваліся ад агульнаўжывальных слоў. Па гэтай прычыне, а таксама з-за тэматычнай абмежаванасці і неўнармаванасці лексіка-семантычнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы пачатку XX ст. увогуле, семантычныя і структурныя сувязі паміж тэрміналагічнымі адзінкамі таксама часта не ўсведамляліся і на адносіны паміж імі пашырыліся тыя адносіны, якія былі характэрны для агульнаўжывальнай лексікі. Усё гэта ў значнай меры абумовіла стыхійны характар фарміравання тэрміналагічнай лексікі ў беларускай літаратурнай мове пачатку XX ст. і такія яе асаблівасці, як генетычная «стракатасць», семантычная неакрэсленасць многіх тэрмінаў, наяўнасць вялікай колькасці тэрміналагічных дублетаў і іх фонамарфалагічных варыянтаў, неадназначнасць сувязей паміж шматлікімі навуковымі паняццямі і сродкамі іх моўнага выражэння. Але стыхійнасць фарміравання тэрміналогіі азначае толькі тое, што ў дакастрычніцкі час не вялося свядомай, мэтанакіраванай тэрмінатворчасці, і што лексічныя адзінкі намінатыўна-тэрміналагічнага характару з'яўляліся ў мове падобна агульнаўжывальным словам, якія ўзнікаюць у выніку натуральнага ходу развіцця лексіка-семантычнай сістэмы мовы. І ўсё ж ужо ў дакастрычніцкі час, калі сутнасць тэрміна як адзінкі іншай семіятычнай прыроды яшчэ нярэдка не ўсведамлялася і не асэнсоўвалася, у моўнай практыцы акрэсліваліся такія ўласцівасці тэрмінаў, як прадметна-лагічная, паняційная

[1] *Виноградов В. В.* Вступительное слово // Вопр. терминологии. – М., 1961. – С. 6–7.

аснова іх семантыкі і сістэмнасць тэрміна на структурным узроўні. Хоць праяўляліся названыя ўласцівасці непаслядоўна і не ў аднолькавай ступені ў розных выданнях і тэкстах, гэта дае падставу сказаць, што «ні адна новая з’ява ў мове не ўзнікае абсалютна стыхійна і ні адна не з’яўляецца прадуктам ні ад чаго не залежнай ініцыятывы. Заўсёды ў той ці іншай меры прысутнічаюць абодва гэтыя кампаненты – і стыхійнасць і кіруемасць»[1]. Кіруемасць у адносінах да лексікі беларускай літаратурнай мовы пачатку XX ст., у тым ліку і тэрміналагічнай, праявілася ў арыентацыі на ўласныя моўныя рэсурсы і асэнсаванне неабходнасці выбару з шэрагу лексічных адзінак найбольш пашыранага слова.

Тэндэнцыя адносна выкарыстання ўласных моўных рэсурсаў знайшла сваё ажыццяўленне ў нашаніўскі перыяд, калі на старонках тагачасных беларускіх выданняў пачалі шырока ўжывацца словы розных народных гаворак і шматлікія неалагізмы, у тым ліку калькі і паўкалькі. Гэта прывяло да яшчэ большай полінайменнасці, таму што пры слабай вывучанасці народна-дыялектнай лексікі, адсутнасці нарматыўных слоўнікаў і малалікасці лінгвістычных кадраў працэс бурнага папаўнення і развіцця лексіка-семантычнай сістэмы аказаўся амаль некантралюемым. Такім чынам, розныя лінгвістычныя і экстралінгвістычныя фактары, якія абумовілі асаблівасці развіцця беларускай літаратурнай мовы ў пачатку XX ст., калі яна ўступіла ў перыяд свайго станаўлення, прадвызначылі стыхійны характар фарміравання беларускай тэрміналагічнай лексікі ў дакастрычніцкі час пры нязначным праяўленні свядомых пошукаў у вызначэнні крыніц яе папаўнення і некаторых крытэрыяў адбору тых слоў, якім павінна аддавацца перавага ў моўнай практыцы. Гэта былі толькі першыя крокі на шляху да свядомай дзейнасці ў галіне тэрмінатворчасці, якая ва ўсёй паўнаце праявілася і ажыццявілася ў савецкі час.

Пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, якая карэнным чынам змяніла лёс беларускага народа, беларуская мова атрымала права на свабоднае развіццё і набыла шырокія грамадскія функцыі. Каб задаволіць моўныя запатрабаванні беларускага народа ў розных сферах яго жыцця і дзейнасці, яна павінна была значна папоўніць свой слоўнік і выпрацаваць тэрміналогію. У сувязі з гэтым задача стварэння беларускай тэрміналогіі была аб’яўлена адной з першачарговых, і ў 1921 г. Народны камісарыят асветы ўтварыў Навукова-тэрміналагічную камісію. Камісія, згодна з палажэннем ад 10 лютага 1921 г., павінна была на працягу трох месяцаў стварыць тэрміналогію па розных галінах ведаў у аб’ёме курса сярэдняй школы. Заданне было настолькі важным, што члены камісіі на час працы над тэрміналогіяй вызваляліся ад іншых сваіх абавязкаў[2].

З гэтага часу ў беларускай літаратурнай мове распачалася свядомая, мэтанакіраваная тэрмінатворчасць.

---

[1] *Гарэцкі М*. Развагі і думкі // Вялікодная пісанка. – Вільня, 1914. – С. 56–57.
[2] Школа и культура Сов. Белоруссии. – Мінск, 1921. – № 1–2. – С. 103.

Асноўны метадалагічны прынцып сваёй дзейнасці Навукова-тэрміналагічная камісія акрэсліла наступным чынам: «Што датыча самога характару тэрмінолёгіі, то ў аснову яе браліся словы, існуючыя ў жывой народнай мове... »[1] Аднак члены камісіі ўсведамлялі, што жывая народная мова бедная на тэрміны і таму абавязкова паўстане пытанне аб тым, як дзейнічаць у выпадках, калі ў народнай мове не знойдзецца адпаведнага слова: ствараць тэрміны на аснове спрадвечна беларускай лексікі ці запазычваць іх з іншых моў. Прэзідыум камісіі ў сувязі з гэтым зазначыў: «Камісія, па прыкладу чэхаў, трымалася таго пагляду, што лепш утвараць згодна з законам беларускай мовы нэолёгізмы, чымся браць чужыя, саўсім незразумелыя словы...» і разам з тым падкрэсліў: «Само сабой зразумела, што камісія павінна была браць і чужыя словы. Але гэта рабілася толькі тады, калі 1) у народнай мове ня было адпаведнага беларускага тэрміну, 2) калі ўтвораныя нэолёгізмы былі натта штучныя й 3) калі гэтыя чужаземныя словы былі пашыраны ў мовах культурных народаў»[2]. З гэтага з усёй відавочнасцю вынікае, што на самым пачатку свядомай тэрмінатворчасці ў беларускай літаратурнай мове вызначальным стаў прынцып максімальнага выкарыстання ўласных моўных рэсурсаў пры мінімальным праяўленні прынцыпа арыентацыі на іншамоўныя тэрміны інтэрнацыянальнага характару. У такім напрамку працавалі члены Навукова-тэрміналагічнай камісіі і супрацоўнікі створанага на яе аснове ў 1922 г. Інстытута беларускай культуры, аўтары падручнікаў па розных галінах ведаў, дзеячы навукі і культуры. Так, адзін са стваральнікаў матэматычнай тэрміналогіі сцвярджаў: «Падходзячы да разгляду й вытварэньня асноў беларускае матэматычнае тэрмінолёгіі, трэба заўважыць, што асноўныя матэматычныя разуменьні знаходзяцца ў народнай мове й толькі трэба пастарацца іх адтуль узяць; што-ж тычыцца больш складаных матэматычных разуменьняў, то тэрміны для іх павінны быць створаны на аснове народнай мовы й толькі ў крайнім выпадку можна карыстацца клясычнымі або чужаземнымі»[3]. Задача, такім чынам, зводзілася да таго, якімі шляхамі ажыццявіць названыя прынцыпы на практыцы.

Прынцып арыентацыі на ўнутрымоўныя структурна-семантычныя магчымасці беларускай мовы знайшоў сваю рэалізацыю ў тым, што тэрміналагічная лексіка фарміравалася:

1) шляхам увядзення ў склад той ці іншай тэрміналогіі агульнаўжывальных слоў, «сутнасць якога зводзіцца да выкарыстання адной з дыферэнцыяльных прымет, заключаных у лексічным значэнні, якая затым выкарыстоўваецца ў якасці «агульнай *ідэі*» для слова-тэрміна. У тэрміне гэта агульная ідэя канкрэтызуецца, удакладняецца ў адпаведнасці са зместам навуковага

---

[1] Вести Народного Комиссариата Просвещения ССРБ: Беларускі аддзел. – Мінск, 1921. – № 2. – С. 11.

[2] Вести Народного Комиссариата Просвещения ССРБ: Беларускі аддзел. – Мінск, 1921. – № 2. – С. 11–12.

[3] *Більдзюкевіч Л.* Асновы беларускае матэматычнае тэрміналёгіі // Школа и культура Сов. Белоруссии: Беларускі аддзел. – № 1–2. – С. 23.

паняцця»[1]. Такі шлях тэрміналагізацыі характэрны быў для слоў *лад*, *стан* у мовазнаўчай тэрміналогіі; *довод*, *спроба* – у лагічнай; *астача, велічыня* – у арыфметычнай; *аснова*, *заданне* – у алгебраічнай; *кант*, *круг* – у геаметрычнай; *похва*, *струк* – у батанічнай і г. д.;

2) шляхам утварэння шматлікіх неалагізмаў, сярод якіх розныя ў структурных адносінах простыя, складаныя і састаўныя тэрміны, напрыклад: *выклічча* (выклічнік), *двукоссе*, *пабочны сказ; сказоўнік* (прэдыкат), *ступеняванне* (узвядзенне ў ступень), *безыменны лік* (адцягнены лік), *зменшыва* (памяншаемае), *роўналежны* (паралельны), *роўніца* (плоскасць) і інш.;

3) шляхам выкарыстання дыялектных слоў, што ўводзіліся ў склад тэрміналагічнай лексікі як гатовыя моўныя адзінкі або служылі асновай для ўтварэння неалагізмаў, напрыклад: *аблуда* (памылковая думка), *аслабаненне, верасняк* (верас), *жыжкі* (вадкасці), *змесціва* (змест), *кісля* (кіслата), *сачэўка* (лупа), *скіпінар* і да т. п.

Прынцып арыентацыі на іншамоўную тэрміналагічную лексіку, як адзначалася вышэй, лічыўся другарадным і да яго меркавалася звяртацца толькі пры адсутнасці ўласнабеларускіх слоў або пры выразна ўсведамляемай штучнасці неалагізмаў. Пры гэтым стваральнікі тэрміналогіі імкнуліся перш за ўсё выкарыстаць магчымасці калькавання, сутнасць якога заключалася ў тым, што ў адных выпадках новыя тэрміны ўтвараліся на базе ўласнабеларускіх моўных элементаў, але па ўзору іншамоўных слоў (словаўтваральныя калькі і паўкалькі), а ў другіх – уласнабеларускія словы набывалі такое новае тэрміналагічнае значэнне, якое было ўласціва іх лексічным адпаведнікам у іншых мовах (семантычныя калькі), напрыклад: а) *вытворны*, *дапасаванне*, *істнасць*, *лічбенны прыклад* (параўн. рус: *производный, согласование, сущность, численный пример), паземны* (польск. *pozioty* – гарызантальны), *прыслоўе* (укр. *прислівник,* польск. *przysłowek), іншародны* (грэч. *heteros* – другі + *genos* – род, гетэрагенны), *тоеслоўе* (грэч. *tauto* – тое самае + *logos* – слова, таўталогія), *мімасяроднік* (лац. *ex* – з, па-за + *centrum* – цэнтр, эксцэнтрысітэт); б) *акалічнасць*, *дзеянне*, *гушчыня*, *зачыненне ў дужкі*, *прамень*, *сценка*, *якасць* (параўн. рус: *обстоятельство, действие, плотность, заключение в скобки, луч, грань, качество*).

Пры немагчымасці па тых ці іншых прычынах утварыць тэрмін шляхам калькавання ў склад беларускай тэрміналагічнай лексікі ўводзіліся тэрміны з рускай і польскай моў і тэрміны інтэрнацыянальнага характару («пашыраныя ў мовах усіх культурных народаў»), напрыклад: *рэзультат*, *сячэнне*, *упрошчанне; зельнік*, *мяшанец*, *рэчавістасць*, *стасунак; аргумент*, *квадрат*, *мантыса*, *прагрэсія*, *сілагізм* і да т. п.

Увогуле, метадалагічныя прынцыпы стварэння беларускай нацыянальнай тэрміналогіі былі вызначаны правільна, таму што і ў наш час «у сувязі з асаблівасцямі савецкай многанацыянальнай моўнай сітуацыі мэты і задачы

---

[1] *Даниленко В. П.* Русская терминология: Опыт лингв. описания. – М., 1977. – С. 25.

уніфікацыі тэрміналогіі коратка могуць быць сфармуляваны так: тэрміналогія павінна быць уніфікаванай па зместу і нацыянальнай па форме, г. зн. па мове»[1]. І трэба сказаць, што многія тэрміны, створаныя на ўласным лексічным матэрыяле ці запазычаныя з іншых моў, вытрымалі выпрабаванне часам і замацаваліся ў беларускай мове як сродкі намінацыі і дэфініцыі адпаведных паняццяў, напрыклад: *абвяржэнне*, *адначлен*, *бялок*, *вяночак*, *дзеяслоў*, *залежнасць*, *здабытак*, *лічнік дробу*, *супярэчнасць*, *умоўны лад*; *азімут*, *аксіёма*, *лагарыфм*, *модуль*, *планктон*, *сілагізм*, *суфікс* і інш. Аднак агульны поспех справы залежаў ад таго, наколькі мэтазгодна ў працэсе тэрмінатворчасці спалучаліся ўнутрыструктурныя магчымасці беларускай мовы з аптымальным выкарыстаннем інтэрнацыянальнага тэрміналагічнага фонду, дасягненняў іншых моў у галіне тэрміназнаўства.

На практыцы аказалася, што прынцып арыентацыі на ўласныя моўныя рэсурсы нярэдка перарастаў у прынцып выключнага выкарыстання гэтых рэсурсаў, у выніку чаго:

- у склад тэрміналогіі ўводзіліся вузкадыялектныя словы (*выдма* – г. зн. бархан, *глыза* – глыба, *дзяркач* – драч);
- стваралiся штучныя неалагізмы (*развязанне* – г. зн. рашэнне, *рознапнёвыя* – двухдольныя, *чужаслоўны сказ – пабочны сказ*);
- прапаноўваліся няўдалыя пераклады тэрмінаў інтэрнацыянальнага характару і ім аддавалася перавага (*галота* – паўперызм, *здань* – галюцынацыя, *трыкутнікаванне* – трыангуляцыя);
- замяняліся асобныя тэрміны, калі іх выкарыстанне тлумачылася ўплывам рускай мовы (*кісьліна* замест *кіслата, адцінак* замест *адрэзак, выпрастаны кут* замест *разгорнуты вугал*).

Падобная практыка прывяла ў 1920-х гг. да праяўлення пурыстычнай тэндэнцыі ў тэрмінатворчасці[2]. Аднак неабходна адзначыць, што і ў той час дзеячы навукі і культуры горача абмяркоўвалі ў друку пытанні развіцця беларускай нацыянальнай тэрміналогіі і пры гэтым выказвалі розныя меркаванні адносна прынцыпаў і шляхоў яе выпрацоўкі, звярталі ўвагу на недахопы. Так, адзін з выпускаў тэрміналогіі (Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Вып. 1. Элемэнтарная матэматыка.– Мн.: Інбелкульт, 1922) ацэньваўся наступным чынам: «У васнову тэрмінолёгіі трэ было палажыць ня «словы, існуючыя ў жывой народнай мове», а тэрміны, што ўстанавіліся ў навуцы; тэрміны гэтыя ў пераважнай большасці чужаземнага паходжання (грэц., лац.,

---

[1] *Степанов Г. В.* Современная научно-техническая терминология на языках народов СССР и за рубежом // Пробл. разработки и упорядочения терминологии в Академиях наук союзных республик. – М., 1983. – С. 15.

[2] *Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 1968. – Т. 2. – С. 220; *Анічэнка У. В.* Гістарычная лексікалогія ўсходнеславянскіх моў. – Гомель, 1978. – С. 64; *Баханькоў А. Я.* Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд. – Мінск, 1982. – С. 28, 49 і інш.

франц.) «прынялі ўжо інтэрнацыянальную ахварбоўку», а дзеля таго і няма ніякае патрэбы перакладаць на родную мову, бо пры такім перакладзе, па-першае, не ўдаецца дакладна выразіць тое паняцьце, што заключаецца ў тэрміне, які перакладаецца, а па-другое, у пераважнай большасці вытвараюцца «нэолёгізмы вельмі штучныя...»[1] А другі рэцэнзент пісаў: «Тварцы матэматычнай тэрмінолёгіі хутчэй недасалілі, чымся перасалілі пры перакладзе чужаземных тэрмінаў у нашу мову, хаця трэба прызнацца, што для перакладаў у пераважнай большасці ўзяты не народныя, а штучныя словы,новатворы, сярод якіх ёсць вельмі нязграбныя тэрміны, напр.: «простакутная», «праціпростакутная» і інш.»[2]

У другой палавіне 1920-х гг. у працэсе моўнай практыкі і ў тэрмінатворчасці паступова пачала выяўляцца нежыццёвасць шмат якіх тэрмінаў, створаных на вузкадыялектнай аснове, штучных неалагізмаў, няўдалых перакладаў, што спрыяла больш шырокаму выкарыстанню тэрмінаў рускай мовы, і асабліва тэрмінаў інтэрнацыянальнага характару. На гэты працэс аказалі ўплыў і агульныя тэндэнцыі развіцця беларускай літаратурнай мовы, шляхі папаўнення яе лексіка-семантычнай сістэмы. Так, у працэсе бурнага развіцця і станаўлення беларускай літаратурнай мовы ў 1920-х гг. ішлі пошукі найбольш рацыянальных прынцыпаў і шляхоў стварэння беларускай нацыянальнай тэрміналогіі.

# НЕКАТОРЫЯ ПРАБЛЕМЫ СУЧАСНАГА БЕЛАРУСКАГА ТЭРМІНАЗНАЎСТВА І ТЭРМІНАГРАФІІ*

Беларуская літаратурная мова, якая набыла статус дзяржаўнай і ступіла на шлях адраджэння, сапраўднага развіцця і ўзвышэння можа дасягнуць толькі пры ўмове паскоранай распрацоўкі навуковай і тэхнічнай тэрміналогіі па ўсіх галінах навукі і тэхнікі, што дасць ёй магчымасць паспяхова абслугоўваць моўныя запатрабаванні беларускага народа ва ўсіх сферах яго жыцця і дзейнасці.

Поспех на шляху практычнага выкарыстання беларускай мовы ў дзяржаўных органах, на прадпрыемствах, установах адукацыі, навукі і культуры, у вайсковай справе, грамадскіх арганізацыях у значнай ступені залежыць ад на-

[1] Полымя. – 1926. – № 1. – С. 142.

[2] *Байкоў М.* Да пытаньня аб чужаземных словах у нашай мове. – Полымя. – 1927. – № 4. – С. 152.

* Першая публікацыя ў выданні: Праблемы методыкі выкладання беларускай мовы ў нефілалагічных ВНУ: матэрыялы навук.-метад. канф. (Горкі, 17–18 чэрв. 1993 г.) – Горкі, 1994. – С. 40–42.

яўнасці беларускамоўных даведнікаў, падручнікаў, слоўнікаў, г. зн. даведачнай, вучэбнай і вучэбна-метадычнай літаратуры. Стварэнню такой літаратуры павінна папярэднічасць распрацоўка адпаведнай тэрміналогіі.

За вырашэнне гэтай складанай і пачэснай задачы ўзяліся перш за ўсё энтузіясты – ініцыятыўныя групы, часовыя творчыя калектывы выкладчыкаў ВНУ філалагічнага і нефілалагічнага профіляў. У асобных ВНУ імі падрыхтаваны і выдадзены ратапрынтным спосабам невялікія галіновыя тэрміналагічныя слоўнікі для выкарыстання ў вучэбным працэсе і на курсах рознага тыпу.

Актыўна ўключылася ў тэрмінатворчую дзейнасць Тэрміналагічная камісія ТБМ імя Ф. Скарыны, Тэрміналагічная камісія АН Беларусі. На старонках «Тэрміналагічных зборнікаў» з’явіліся падборкі слоўнікавых матэрыялаў, выйшлі з друку асобныя тэрміналагічныя слоўнікі рознага аб’ёму і прызначэння. Але пры адсутнасці належнай каардынацыі тэрмінатворчай і тэрмінаграфічнай дзейнасці ў межах усёй рэспублікі гэтая дзейнасць не набыла характару планамернай паўсядзённай навуковай працы. А калі ўлічыць, што пераважная большасць спецыялістаў займаецца толькі тэрміналагічнымі праблемамі сваёй навуковай галіны і не мае адпаведнай філалагічнай падрыхтоўкі, то гэта непазбежна адаб’ецца на якасці галіновых тэрміналагічных слоўнікаў.

Дзеля змяншэння негатыўных вынікаў тэрмінатворчай дзейнасці неабходна, на наш погляд, стварыць Нацыянальны тэрміналагічны цэнтр, які за максімальна кароткі тэрмін здолеў бы акрэсліць актуальныя праблемы беларускага тэрміназнаўства і выпрацаваць практычныя рэкамендацыі для стваральнікаў галіновых тэрміналогій і складальнікаў слоўнікаў. Пры адсутнасці такога цэнтра і з улікам таго, што яшчэ не склалася беларуская школа тэрміназнаўства, а тэрмінатворчая дзейнасць набывае ўсё больш шырокі размах, першачарговымі для мовазнаўцаў-тэрмінолагаў з’яўляюцца наступныя праблемы:

1) азнаямленне спецыялістаў нефілалагічнага профілю з асноўнымі лексіка-семантычнымі і структурна-марфалагічнымі асаблівасцямі тэрмінаў як спецыфічных моўных знакаў, гісторыяй развіцця беларускай тэрміналогіі, метадалагічнымі прынцыпамі тэрмінатворчай дзейнасці, агульнымі заканамернасцямі стварэння тэрмінасістэм, іх упарадкавання і стандартызацыі;

2) распрацоўка ўзораў канструявання тэрмінаў для розных галін навукі і тэхнікі з улікам асаблівасцей беларускай мовы і тэндэнцый яе развіцця;

3) распрацоўка і азнаямленне складальнікаў тэрміналагічных слоўнікаў з прынцыпамі адбору тэрмінаў у залежнасці ад тыпу слоўніка (аднамоўнага, двухмоўнага, шматмоўнага; энцыклапедычнага, тлумачальнага, без тлумачэнняў; галіновага, вузкагаліновага, міжгаліновага; поўнага, сярэдняга, кароткага); разуменне складальнікамі слоўніка паняцця «тэрмін», а значыць, і межаў тэрміналагічнай лексікі; асэнсавання межаў слова-тэрміна і слова-нятэрміна, тэрміна-словазлучэння і свабоднага спалучэння тэрмінаў; практычнай рэалізацыі прынцыпа ўзаемнай адназначнай адпаведнасці паміж тэрмінам і паняццем;

4) выпрацоўка прынцыпаў фіксацыі і схемы тлумачэння сэнсавага зместу тэрмінаў розных тыпаў у энцыклапедычных і тлумачальных тэрміналагічных слоўніках.

Усё гэта ў значнай меры засцеражэ спецыялістаў рознага профілю ад пралікаў у тэрмінатворчай дзейнасці і стварэнні галіновых тэрміналагічных слоўнікаў, таму што ў працэсе лексікаграфічнай апрацоўкі тэрміналагічнай лексікі адначасова будзе праводзіцца папярэдняе яе ўпарадкаванне, хоць і абмежаванае пэўнай галіной.

Далейшую апрацоўку і стандартызацыю тэрміналогіі можна ажыццявіць пасля таго, калі з максімальна магчымай паўнатой будзе сабраны і ўсебакова сістэмна асэнсаваны ўвесь тэрміналагічны матэрыял (не толькі навукова абгрунтаваныя тэрміны, але і ўсе іх варыянты, сінонімы, дублеты, амонімы, недасканалыя і рэдка ўжывальныя, устарэлыя, запазычаныя і інш.).

# НЕКАТОРЫЯ АСАБЛІВАСЦІ БЕЛАРУСКАЙ НАВУКОВАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ НАШАНІЎСКАГА ПЕРЫЯДУ І 1920-х гг.*

Тэрміналагічная лексіка беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы пачала фарміравацца ў пачатку ХХ ст., калі на беларускай мове з'явіліся першыя легальныя газеты і часопісы, асобныя навучальныя і навукова-папулярныя выданні. На іх старонках асвятляліся падзеі грамадска-палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага жыцця, апісваліся розныя з'явы ў прыродзе, прыводзіліся фрагменты навуковых звестак з асобных галін ведаў, у сувязі з чым выкарыстоўваліся адпаведныя лексічныя адзінкі намінатыўна-тэрміналагічнага характару. Паколькі адметнай асаблівасцю і асобных выданняў, і шматлікіх допісаў, артыкулаў, нарысаў, паведамленняў было тое, што ўсе яны адрасаваліся маладасведчанаму, з невысокім адукацыйным узроўнем чытачу, іх мова ў структурна-функцыянальным плане яшчэ мала чым адрознівалася ад мовы мастацкіх і публіцыстычных твораў. З гэтага вынікае, што стылістычна маркіраваныя ўласцівасці сродкаў моўнага выражэння, у тым ліку і тэрміналагічнай лексікі, яшчэ не вызначаліся. Таму ў функцыянальным і ў лексіка-семантычным плане для слоў, што выкарыстоўваліся ў якасці тэрмінаў, характэрны былі наступныя асаблівасці:

а) полінайменнасць: *гурток – кружок – абшчына – саюз – таварыства – хаўрус; даход – выгада – вызвалка – заработак – зыск – карысць – навязка – пажыва – польза – прыбытак – прыход – спор; гной фабрычны – штучны гной – парашкі – мінеральныя парашкі – попелы – фабрычны навоз; гульня –*

---

* Першая публікацыя ў выданні: Веснік БДУ. Сер. 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. – 1994. – № 2. – С. 30–35.

*скокі – танцы; гук – гаманок – галасок – зык; акт – абраз – дзея – з'ява – сцэна; зараза – пошэсць – эпідэмія; злічво – сума;*

б) наяўнасць фанетычных, словаўтваральных і марфалагічных варыянтаў, што яшчэ больш пашырала рады найменняў аднаго і таго ж паняцця: *заплата – плата – заробак – заработак, араньне – арба – орка, граньне – ігра, прыстаўленьне – прадстаўленьне, аканьне – акаваньне, гук – згук, прымаўка – прымавіска – памоўка, дроб – дробня, землетрасеньне – зямлітрасеньне – землятрасеньне, суша – суш, аэроплан – аэроплян;*

в) мнагазначнасць (нярэдка нават у межах аднаго тэрміналагічнага поля), параўн.: *акцэнт* (вымаўленне) і *акцэнт* (націск), *плата* (расцэнка) і *плата* (заработак), *ветралёт* (лётчык) і *ветралёт* (дырыжабль), *хаўрус* (гурток) і *хаўрус* (арцель) і да т. п.

Матэрыяльнай субстанцыяй для тэрміналогіі ў нашаніўскі перыяд, як сведчаць прыведзеныя прыклады, служыла агульнаўжывальная лексіка. Словы, што існавалі ў народных гаворках, або выкарыстоўваліся як гатовыя моўныя адзінкі, набываючы ў выніку другаснай намінацыі тэрміналагічнае значэнне, або служылі базай для ўтварэння новых лексічных адзінак намінатыўна-тэрміналагічнага характару. А паколькі тэрміны яшчэ не асэнсоўваліся ў якасці спецыфічных моўных адзінак, а з'явы і паняцці той ці іншай галіны ведаў, як правіла, не разглядаліся сістэмна, то, па-першае, агульнаўжывальная лексіка задавала тэрміналагічнай лексіцы свае «правілы» арганізацыі і функцыянавання, а па-другое, аўтары, абапіраючыся на сэнсавы аб'ём агульнаўжывальных слоў, не выходзілі пры стварэнні тэрмінаў за межы існуючых моўных формаў і моўных сродкаў выражэння сэнсавага зместу.

Зварот да ўласных моўных сродкаў – з'ява заканамерная, бо, як пісаў Янук Журба, «кожны народ розницца ад других сваёю моваю, жыццём, звычаями и т. д., и ён мае права жыць, як асобная нация, разьвиваць сваю мову, сваю литэратуру, мае права пазнаваць навуки ў сваёй роднай мови, разьвиваць сваю культуру»[1]. Але калі Янук Журба гаварыў аб праве пазнаваць навукі ў сваёй роднай мове, то Максім Гарэцкі свядома заклікаў арыентавацца ў пошуках тэрмінаў на народную мову. Такі падыход ажыццяўляўся на практыцы, і таму для тэрміналагічнай лексікі нашаніўскага перыяду былі ўласцівы тыя моўныя адносіны і сувязі, што праяўляліся і ў складзе агульнаўжывальнай лексікі, у выніку чаго на старонках розных выданняў пачатку XX ст. функцыянавалі тэрміны-сінонімы, тэрміны-дублеты, фанетычныя, словаўтваральныя і марфалагічныя варыянты, мнагазначныя тэрміналагічныя найменні.

Новыя адносіны паміж словамі-тэрмінамі, што вынікаюць са спецыфікі адносін паміж паняццямі, яшчэ не акрэсліліся. Не акрэсліліся таму, што за словамі спецыяльнага прызначэння, кожнае з якіх, як правіла, у сваіх сувязях і апазіцыях характарызавалася самастойнасцю, не было яшчэ сістэмы паняццяў, а сувязі паміж асобнымі паняццямі слаба адлюстроўваліся ў структуры і паняційным змесце тэрмінаў, г. зн. практычна не аказвалі ўплыву на фарміра-

[1] Наша ніва. – 1908. – № 8.

ванне новых сістэмных адносін паміж тэрмінамі. Не выпадкова для абазначэння аднаго і таго ж паняцця розныя аўтары нярэдка выкарыстоўвалі словы з рознай унутранай формай, напрыклад: *пладазьмен – севазварот, абарот – зварот, ураджайнасць – урадлівасць, бабовыя – матыльковыя, бульбачкі – гузочкі – жывучкі – шышэчкі, самаход – самакат* і да т. п. Новыя адносіны толькі-толькі пачалі прымячацца, заўважацца, калі адным аўтарам асвятляліся з'явы і паняцці аднаго класіфікацыйнага раду (групы). У такіх выпадках іншы раз выкарыстоўваліся структурна аднародныя тэрміны (параўн.: *адлічаньне, складаньне, множаньне, дзяленьне; жнівярка, касярка, сявалка; птушкі зернеядныя, птушкі кузулькаядныя).* Гэта першыя прыметы сутыкнення дзвюх тэндэнцый у фарміраванні тэрміналагічнай лексікі беларускай літаратурнай мовы ў нашаніўскі перыяд: агульнамоўных лексічных сувязей, даўніх і звычайных для слоў, якія ўводзіліся ў сферу спецыяльнай камунікацыі, і новых адносін, абумоўленых сувязямі паміж тымі паняццямі, для намінацыі і дэфініцыі якіх гэтыя словы выкарыстоўваліся. Другая тэндэнцыя ў неспрыяльных умовах функцыянавання беларускай мовы не магла як след праявіцца, таму тэрміналагічная лексіка таго часу заставалася колькасна небагатай, тэматычна абмежаванай, лексічна неўнармаванай, стракатай у генетычных адносінах.

Свядомая і мэтанакіраваная тэрмінатворчасць распачалася ў паслякастрычніцкі час, калі беларуская мова набыла статус дзяржаўнай і пачала выкарыстоўвацца ва ўсіх сферах жыцця і дзейнасці грамадства. Паспяхова выканаць такія складаныя і пачэсныя функцыі яна магла толькі пры ўмове значнага папаўнення лексічных сродкаў самымі разнастайнымі тэматычнымі пластамі слоў (асабліва тэрмінаў) і ўсебаковага развіцця стылістычнай сістэмы. Што да тэрміналогіі, то яе стварэнне было аб'яўлена адной з першачарговых задач, паколькі нават у пачатковай школе немагчыма было ажыццявіць навучанне на роднай мове з-за адсутнасці адпаведных падручнікаў. Для іх падрыхтоўкі патрэбна было распрацаваць нацыянальную тэрміналогію. З гэтай мэтай 10 лютага 1921 г. Народны камісарыят асветы стварыў Навукова-тэрміналагічную камісію, якой даручалася за тры месяцы распрацаваць тэрміналогію па розных галінах ведаў у такім аб'ёме, які б даў магчымасць падрыхтаваць падручнікі на беларускай мове для навучання ў сярэдняй школе.

Асноўны метадалагічны прынцып сваёй дзейнасці Навукова-тэрміналагічная камісія акрэсліла наступным чынам: «Што датыча самога характару тэрмінолёгіі, то ў аснову яе браліся словы, існуючыя ў жывой народнай мове...» Пры адсутнасці адпаведных лексічных адзінак у жывой народнай мове «камісія, па прыкладу чэхаў, трымалася таго погляду, што лепш утварыць згодна з законамі беларускай мовы нэолёгізмы, чымся браць чужыя, саўсім незразумелыя словы...» і разам з тым «павінна была браць і чужыя словы. Але гэта рабілася толькі тады, кали 1) у народнай мове ня было адпаведнага беларускага тэрміну, 2) калі ўтвораныя нэолёгізмы былі натта штучныя й 3) калі гэтыя чужаземныя словы былі пашыраны ў мовах культурных народаў»[1].

---

[1] Вестник Народного Комиссариата Просвещения ССРБ: Беларускі аддзел. – Мінск, 1921. – № 2. – С. 11–12.

Арыентацыя на ўласныя лексічныя і словаўтваральныя рэсурсы была апраўданай, таму што гэта давала магчымасць стваральнікам тэрміналогіі пранікнуць у крыніцы сваёй мовы, актывізаваць яе патэнцыяльныя рэсурсы для рэалізацыі ў новай сферы функцыянавання. Навукова-тэрміналагічная камісія за два з паловай месяцы апрацавала і прыняла 2270 і падрыхтавала для зацвярджэння звыш 5000 тэрмінаў. Пры гэтым «больш за ўсё камісіяй было ўтворана нэолёгізмаў на аснове існуючых у народнай мове слоў». У тым жа напрамку працавалі галіновыя і Галоўная тэрміналагічныя камісіі Інстытута беларускай культуры, заснаванага на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі ў пачатку 1922 г. Так, член-супрацоўнік Інбелкульта М. Байкоў даводзіў, што «пры ўтварэнні беларускай навуковай мовы жадана і, прымаючы пад увагу, што у сучасных школах клясычныя мовы не выкладаюцца і нават студэнты вышэйшай школы часта ня могуць разабрацца ў значэнні лацінскіх ці грэцкіх тэрмінаў, проста неабходна выкарыстаць для навуковага ўжывання беларускія словы, ужо існуючыя, ці ўтварыць новыя з беларускіх карэньняў»[1]. А С. Някрашэвіч сцвярджаў наступнае: «Чужаземныя словы ў нашай літаратурнай мове ня роўнапраўныя члены моўнай сям'і, а выпадковыя госьці, якія сягоння ёсьць, а заўтра могуць зьнікнуць. Апрача таго, прымаючы пад увагу нашу агульную тэндэнцыю да высяленьня з нашай мовы чужаземнай стыхіі, да замены, такім чынам, чужаземных слоў сваімі, беларускімі, гэты прынцып можа мець моцную падставу ў нашай цяперашняй практыцы, задаваляючы ў той-жа час жаданьням большасці беларускага грамадзянства»[2]. У гэтым жа русле разважаў адзін са стваральнікаў матэматычнай тэрміналогіі: «Падходзячы да разгляду й вытварэньня асноў беларускае матэматычнае тэрміналёгіі, трэба заўважыць, што асноўныя матэматычныя разуменьні знаходзяцца ў народнай мове й толькі трэба пастарацца іх адтуль узяць; што-ж тычыцца больш складаных матэматычных разуменьняў, то тэрміны для іх павінны быць створаны на аснове народнай мовы й толькі ў крайнім выпадку можна карыстацца клясычнымі або чужаземнымі»[3]. Аргументы, як бачым, розныя, а сутнасць адна – максімальна выкарыстаць уласныя моўныя рэсурсы. Задача, такім чынам, зводзілася да таго, якімі шляхамі гэта ажыццявіць.

Складанасць яе рэалізацыі заключалася не толькі ў недастатковай ступені развіцця лексіка-семантычнай сістэмы мовы як матэрыяльнай субстанцыі для ўсіх тэрміналогій, але і ў недастатковым веданні гэтай сістэмы, яе слова- і формаўтваральных сродкаў, невыразным асэнсаванні сутнасці тэрміналагічных значэнняў і іх узаемадзеяння з традыцыйнай семантычнай сістэ-

---

[1] Аглядальнік. Некаторыя ўвагі на беларускую літаратурную тэрмінолёгію // Полымя. – 1923. – № 7–8. – С. 80.

[2] *Некрашэвіч С.* Да пытаньня аб укладаньні слоўніка жывой беларускай мовы // Полымя. – 1925. – № 5. – С. 176.

[3] *Більдзюкевіч Л.* Асновы беларускае матэматычнае тэрміналёгіі // Школа и культура Советской Белоруссии: Беларускі аддзел. – 1921. – № 1–2. – С. 23.

май мовы, у адсутнасці грунтоўных лексікаграфічных даведнікаў па лексіцы тагачаснай літаратурнай мовы і жывых народных гаворак. Выкарыстанне ў функцыі тэрмінаў агульнаўжывальных і дыялектных слоў, шматлікіх неалагізмаў розных тыпаў і мадэляў, лексічных запазычанняў (часта без належнага аналізу суадносін паміж навуковымі паняццямі і сродкамі іх выражэння ў беларускай мове) стрымлівала праяўленне працэсаў упарадкавання, асабліва ў сферы функцыянавання і часткова ў сферы фіксацыі. Усё гэта ў 1920-х гг., калі патрэбнасці фіксацыі, перадачы і скарыстоўвання новых ведаў выклікалі масавае стварэнне новых тэрмінаў і тэрмінасістэм, не садзейнічала ўзмацненню кантралюемых працэсаў тэрмінаўтварэння і абмежаванню тых структурна-марфалагічных і лексіка-семантычных уласцівасцей, якія характэрны для натуральнага ходу развіцця лексічнай сістэмы.

Нельга сказаць, што стваральнікі тэрміналогіі не імкнуліся пэўным чынам улічваць і ў структуры тэрмінаў адлюстроўваць спецыфіку адпаведных паняццяў. Так, члены Навукова-тэрміналагічнай камісіі адзначалі: «Пры ўтварэнні новых слоў камісія заўсёды лічылася з тым, каб надаць гэтым словам адпаведны і ў поўнай меры дакладны сэнс, дзеля чаго падбіраліся такія канчаткі (суфіксы), якія дакладна перадавалі сутнасць разуменьня: напр., суфікс *-ік* для азначэньня дзейніка: множнік (множитель), лічнік (числитель), -альн-ы ў тым значэньні: апісальны (описательный), азначальны (означающий) і г. д.»[1]. Аднак калі ўлічыць вышэйакрэсленыя фактары і надзвычай сціслы тэрмін, за які неабходна было стварыць тэрміналогію, то становіцца відавочным, чаму ў 1920-я гг. такі падыход не мог быць ажыццёўлены ў поўным аб'ёме. Тыя адносіны, якія існавалі паміж словамі нетэрміналагічнай лексікі, накладваліся і на тэрміналагічную лексіку, што не спрыяла ўсталяванню ізамарфізму сістэмы тэрмінаў і сістэмы паняццяў.

Для агульнаўжывальнай лексікі гэтага часу былі характэрны:

а) шматлікія сінанімічныя пары і рады слоў, у склад якіх уваходзілі словы featured рознага паходжання і ўжывання, напрыклад: *адвал – акладня – паліца, адзенне – вопратка, астача – рэшта, бульба – картопля, век – сталецьце, вёска – дзярэўня, вынік – рэзультат, жывёла – скаціна – худоба – быдла, жыхарства – насельніцтва, засек – аруд, нарастаньне – павелічэньне, настольнік – скацерць, сарочка – кашуля – рубашка* і да т. п.;

б) двух- і шматкампанентныя рады словаўтваральных варыянтаў: *адзежа – адзеньне, беларускі – беларусінскі, водлуг – паводлуг – паводле – водле, жнейка – жняярка, развой – развітак, развязваць – развязываць, рамачны – рамовы, часьціна – частка – часць* і інш.;

в) фанетычныя варыянты: *агарод – гарод, агароднік – гароднік, адлежнасьць – адлегласьць, водлуг – подлуг, габінэт – кабінэт, гэтакі – гэткі, існаваньне – істнуваньне, картопля – картофля, наагул – наогул, начай – іначай, паводлуг – павэдлуг, процілеглы – проціўлеглы, поруч – поўруч, розны – рожны, сустрэкаць – сустрэчаць* і г. д.

[1] Вестник Народного Комиссариата Просвещения ССРБ. С. 12.

З прыкладаў выразна відаць, што падобная варыянтнасць – вынік паралельнага функцыянавання агульнанародных і дыялектных, спрадвечна беларускіх і запазычаных слоў, неўпарадкаванасці лексічнай і словаўтваральнай сістэм, неўсталяваных фанетычных, арфаэпічных і арфаграфічных нормаў.

Гэтыя з'явы, як у люстэрку, знайшлі адлюстраванне і ў тэрміналагічнай лексіцы беларускай мовы 1920-х гг., асабліва ў сферы функцыянавання, г. зн. на старонках падручнікаў і дапаможнікаў, навуковых і навукова-папулярных выданняў, параўн.:

а) тэрміны-дублеты, тэрміны-сінонімы: *абернутыя – адваротныя* (адносіны), *адніманьне – адлічваньне, адносіны – стасункі, адрожнік – дыскрымінант, адрэзак – адцінак, азбука – абэцэда – альфабэт, ассоцыацыя – звязак – залежнасць, бесканечнасьць – бяскрайнасьць, бесканцовы – бязкрайны – бязмежны* (дроб), *бок – грань – сьценка – старонка* (квадрата), *валец – цыліндр, вогнішча – фокус* (эліпса), *вызначнік – дэтэрмінант, выказьнік – сказьнік – прысуд, галёіды – солероды, гутарка – гаворка – дыялект, дзельнік – чыньнік, дужкі – скобкі, дыаганаль – ускосіна, кантаслуп – прызма, конус – стажок, ковы – мэталі, мерыдыян – палудзённік, мова – язык, настаўнік – вучыцель – пэдагог, прамень – радыус, рэзультат – сума, складаньне – прылічваньне – прыкладваньне – дадаваньне, сябра – таварыш – член* (сельсавета) і да т. п.;

б) словаўтваральныя варыянты тэрмінаў: *адніманьне – адыманьне, акругленьне – абкругленьне – закругленьне* (лікаў), *аманьяк – аммоніяк, асьвета – прасьвета, ацьвярдзеўшы – зацьвярдзелы, біном – двусклад – двучлен, вымова – вымаўленьне, выраз – выражэньне, дасьлед – дасьледзіны – дасьледаваньне – высьлед, дзеяньне – дзейнасьць – дзейства, дзесятковы – дзесяцёрны, драбленьне – раздрабленьне, дроб – дробезь – дробня, жнейка – жняярка, лічба – лічбіна, паказчык – паказальнік* (кораня), *правільная – праведная – праўдзівая* (дробезь), *развязак – развязка – развязваньне, расклад – раскладаньне* (многачлену), *раўнаньне – раўнаваньне* і г. д.;

в) фанетычныя варыянты тэрмінаў: *ад'емнік – аднімнік – адымнік, арытмэтыка – арыхмэтыка, дасьлед – досьлед, двучлен – двухчлен, дробезь – дробязь, карэнь – корань, мэталі – мэталы, перыадычны – пэрыодычны, розніца – рожніца* і г. д.;

г) асобныя марфалагічныя варыянты тэрмінаў: *аналіз – аналіза, эліпс – эліпса.*

Прыведзеныя прыклады сведчаць, што такая багатая варыянтнасць – вынік перш за ўсё паралельнага выкарыстання ўласных і запазычаных тэрмінаў, а таксама тэрмінаў-неалагізмаў, матываваных рознымі прыметамі (у тым ліку і неістотнымі прыметамі, прыметамі асацыятыўнага характару) адпаведных паняццяў ці ўтвораных з дапамогай розных словаўтваральных сродкаў. Акрамя таго, варыянтнасць тлумачыцца неакрэсленасцю прынцыпаў асваення іншамоўных тэрмінаў, няўстойлівасцю нормаў беларускай мовы.

Што да сферы фіксацыі, то ў ёй варыянтнасць абмяжоўвалася, хоць «у некаторых выпадках камісія прымала па два беларускіх тэрміны. Рабілася

гэта дзеля таго, што такія словы часта існуюць у жывой народнай мове (напрыклад, кветка і краска), а з другога боку, як кампраміс пры асабліва спрэчных тэрмінах, па якіх нельга было атрымаць поўнай згоднасьці ўсіх членаў камісіі»[1]. Пра характар варыянтнасці тэрмінаў розных галін ведаў, што засведчаны ў Весніку Народнага Камісарыята Асветы, можна меркаваць па наступнай табліцы:

| Тэрміналогія | Колькасць | | З іх | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | паняццяў | тэрмінаў | тэрміны-дублеты, тэрміны-сінонімы | словаўтваральныя варыянты | фанетычныя варыянты |
| Граматычная | 307 | 336 | 23 | 5 | 1 |
| Лагічная | 384 | 444 | 56 | 4 | – |
| Арыфметычная | 229 | 257 | 22 | 5 | 1 |
| Алгебры | 140 | 158 | 18 | – | – |
| Геаметрычная | 377 | 417 | 40 | – | – |
| Аналітычнай геаметрыі | 44 | 53 | 9 | – | – |
| Трыганаметрыі | 53 | 59 | 6 | – | – |
| Батанічная | 452 | 488 | 36 | – | – |

Як бачна з прыведзенай табліцы, Навукова-тэрміналагічная камісія не пазбегла дублетнасці і сінаніміі. На гэтым этапе (пачатак 1920-х гг.) дублетныя пары ўтваралі, як правіла, уласнабеларускія і запазычаныя тэрміны, а сінанімічныя – уласнабеларускія з рознай унутранай формай. Аднак сярод 210 дублетных і сінанімічных радоў тэрмінаў толькі адзін рад трохкампанентны (атрыбут – уласьцівасьць – прыналежнасьць). Значыць, у сферы фіксацыі вызначылася тэндэнцыя да адназначнай адпаведнасці паміж тэрмінам і паняццем. Але гэтая тэндэнцыя не аднолькава выяўлялася стваральнікамі асобных тэрміналагічных слоўнікаў. Так, у «Слоўніку граматычна-лінгвістычнай тэрміналогіі» (1927) да 124 тэрмінаў рускай мовы (з 1592) у 122 выпадках прапануецца ў беларускай мове па два, а ў двух выпадках – па тры адпаведнікі. Акрамя таго, да 16 тэрмінаў прыводзіцца па два словаўтваральныя варыянты. А вось у «Слоўніку матэматычнай тэрміналогіі» (1927) толькі да 23 матэматычных тэрмінаў рускай мовы (з 3550) ў 13 выпадках прапануецца па два дублетныя ці сінанімічныя адпаведнікі, а ў 10 выпадках – па два словаўтваральныя варыянты. Словаўтваральныя і фанетычныя варыянты для сферы фіксацыі амаль не характэрны (у адрозненне ад сферы функцыянавання, дзе яны ў той час былі вельмі пашыраны, як і сярод нетэрміналагічнай лексікі). Гэта дае падставы сцвярджаць, што тэрміналагічныя якасці ў пэўнай меры ўсведамляліся стваральнікамі беларускай тэрміналогіі, але рэалізавацца належным чынам яшчэ не маглі. Тлумачыцца гэта, на нашу думку, найперш тым, што пры ства-

[1] Вестник Народного Комиссариата Просвещения ССРБ. С. 12.

рэнні галіновых тэрмінасістэм і члены Навукова-тэрміналагічнай камісіі, і супрацоўнікі Інбелкульта ішлі не ад сістэмы паняццяў той ці іншай галіны ведаў, а вялі пошукі адпаведнікаў да спіса тэрмінаў рускай мовы. А пры такім падыходзе істотную ролю адыгрывалі суб'ектыўныя фактары, у выніку чаго беларускія адпаведнікі не заўсёды вызначаліся выразнымі тэрміналагічнымі якасцямі як у плане семантыкі, так і ў плане структуры.

## БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ: НЕКАТОРЫЯ ПЫТАННІ ФАРМІРАВАННЯ І СУЧАСНАГА СТАНУ*

Тэрміналагічная лексіка беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы пачала фарміравацца ў пачатку XX ст., калі на беларускай мове з'явіліся першыя легальныя газеты і часопісы, асобныя навуковыя і навукова-папулярныя выданні. На іх старонках асвятляліся самыя разнастайныя падзеі грамадска-палітычнага, сацыяльна-эканамічнага і культурнага жыцця, апісваліся розныя з'явы ў прыродзе, прыводзіліся фрагменты навуковых звестак з асобных галін ведаў, у сувязі з чым выкарыстоўваліся адпаведныя лексічныя адзінкі намінатыўна-тэрміналагічнага характару тыпу *аўтаномія, саюз, арэнда, бюджэт, лемантар, кансерваторыя, аканне, гук, лірыка, прымаўка, запаленне, малакроўе, дроб, дзяленне, востраў, землетрасенне, вітрыоль, серная кіслата, аэраплан, ветралет, дырыжабль, самаход* і г. д. Аднак з-за функцыянальнай абмежаванасці беларускай літаратурнай мовы гэты пласт лексікі быў колькасна нешматлікім, тэматычна абмежаваным, лексічна неўнармаваным, стракатым ў генетычных адносінах. Тым не менш ужо ў гэты час вызначылася асноўная тэндэнцыя ў яго развіцці, якую выразна выказаў М. Гарэцкі.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі беларуская мова атрымала магчымасць для пашырэння ў розных сферах жыцця і дзейнасці грамадства. Але выканаць такія складаныя і пачэсныя функцыі яна магла толькі пры ўмове значнага папаўнення лексічных сродкаў самымі разнастайнымі тэматычнымі пластамі (асабліва тэрміналогіяй) і ўсебаковага развіцця стылістычнай сістэмы.

Таму стварэнне нацыянальнай тэрміналогіі было аб'яўлена адной з першапачатковых задач, паколькі нават у пачатковай школе немагчыма было ажыццявіць навучанне на роднай мове з-за адсутнасці адпаведных тэрмінаў.

У 1919 г. Тэрміналагічная камісія з мінскіх настаўнікаў распрацавала асноўныя тэрміны для пачатковай школы. Для распрацоўкі тэрміналогіі ў аб'ёме курса сярэдняй школы ў 1921 г. была створана Навукова-тэрміналагічная камі-

* Першая публікацыя ў выданні: Беларусістыка. Беларусь: гістарычны лёс народа і культуры : матэрыялы навук. сесіі 16–17 лістап. 1994 г. аддзялення гуманіт. навук. – Мінск, 1995. – С. 289–292.

сія (НТК). Асноўны метадалагічны прынцып сваёй дзейнасці НТК акрэсліла наступным чынам: «Што датычыцца самога характару тэрміналёгіі, то ў аснову яе браліся словы, існуючыя ў жывой народнай мове...», а пры адсутнасці адпаведных лексічных адзінак «камісія, па прыкладу чэхаў, трымалася таго погляду, што лепш утварыць згодна з законамі беларускай мовы нэолёгізмы, чымся браць чужыя, саўсім незразумелыя словы» (Вестник Народного Комиссариата Просвещения: Беларускі аддзел. 1921. № 2. С. 11). Арыентацыя на ўласныя лексічныя і словаўтваральныя рэсурсы была цалкам апраўданай, бо, гаворачы словамі акад. В. У. Вінаградава, «усякая навука пачынае з вынікаў, здабытых мысленнем і мовай народа, і ў далейшым сваім развіцці не адрываецца ад народнай мовы» (Основные типы лексических значений слов // ВЯ. 1953. С. 6).

Названым вышэй прынцыпам кіраваўся таксама Інбелкульт, які ў 1920-х гг. падрыхтаваў 24 выпускі беларускай навуковай тэрміналогіі. Прынцып арыентацыі на ўласныя моўныя рэсурсы знайшоў сваю рэалізацыю: а) у тэрміналагізацыі агульнаўжывальных слоў тыпу *довад, астача, велічыня, кант, круг, похва, бялок, рух, сіла*; б) у наданні функцый тэрміна дыялектным словам накшталт *аблуда* (памылковая думка), *жыжкі* (вадкасці); в) ва ўтварэнні шматлікіх неалагізмаў рознай структуры: *выклічча* (выклічнік), *сказоўнік* (прэдыкат), *роўналежны* (паралельны), *пабочны сказ* і да т. п.; г) ва ўтварэнні на базе ўласнабеларускіх элементаў, але па ўзору іншамоўных тэрмінаў словаўтваральных калек і паўкалек, а таксама семантычных калек, параўн.: *дапасаваннне* і руск. *согласование*, *існасць* і руск. *сущность, паземны* і польск. *poziomy, тоеслоўе* і грэч. *tauto, тое самае – logos, слова*; *акалічнасць* і рус. *обстоятельство*, *сценка* і рус. *грань* і да т. п.

Відавочна, што шляхі рэалізацыі галоўнага метадалагічнага прынцыпу стварэння беларускай нацыянальнай тэрміналогіі былі акрэслены правільна. Іншая справа, што ў працэсе іх практычнага ажыццяўлення стваральнікі тэрміналогіі не змаглі пазбегнуць памылак, у выніку чаго ў склад тэрміналогіі ўводзіліся вузкадыялектныя словы тыпу *глыза* (глыба), *дзяркач* (драч), *свербіга* (свірэпіца), *апушок* (лятучка); ствараліся няўдалыя неалагізмы накшталт *роззяў* (зіянне), *рознапнёвы* (двухдольны), *чужаслоўны* (пабочны) *сказ*; прапаноўваліся няўдалыя адпаведнікі інтэрнацыянальных тэрмінаў: *маласлоўе* (лаканізм), *здань* (галюцынацыя), *краеабраз* (пейзаж) і інш. На наш погляд, не трэба бачыць у гэтым нацдэмаўскую тэндэнцыю. Тут мы маем справу з празмернай арыентацыяй на ўласныя моўныя рэсурсы. У тагачасных умовах падобная з’ява была непазбежнай, бо, як пісаў У. І. Пічэта, «ачышчэнне мовы ад іншамоўных элементаў дае магчымасць пранікнуць у крыніцы сваёй мовы і ў іх знайсці матэрыял для тэрміналагічный творчасці» (Белорусский язык, как фактор национально-культурный. 1924). Гэта хвароба росту, вынік паскоранага стварэння тэрмінасістэм без адэкватнай распрацоўкі праблем тэрміназнаўства, неўнармаванасці лексіка-семантычнай сістэмы беларускай мовы – той матэрыяльнай субстанцыі, на якой грунтавалася тэрмінатворчасць.

У далейшым у працэсе моўнай практыкі паралельна з папаўненнем тэрміналагічнай лексікі ішоў няспынны працэс пераацэнкі многіх тэрмінаў, іх адбору і сістэматызацыі. Аднак у гэтым працэсе разам з пазітыўнымі яго вынікамі паступова акрэслівалася тэндэнцыя арыентацыі на рускую мову, якая асабліва ўзмацнілася ў пасляваенныя дзесяцігоддзі. Па меры таго, як у 1950–1980-я гг. руская мова пашыралася ва ўжытку, а сфера выкарыстання беларускай мовы катастрафічна звужалася, беларускае тэрміназнаўства пачало адыходзіць ад прынцыпаў, выпрацаваных НТК і Інбелкультам. Ва ўмовах, калі ўжо не ствараліся нават для сярэдняй школы арыгінальныя падручнікі па матэматыцы, фізіцы, хіміі, батаніцы, біялогіі, геаграфіі і інш., а перакладаліся з рускай мовы, у тэрміналагічнай практыцы празмернае пашырэнне набыло марфалагічнае калькаванне, і беларуская нацыянальная тэрміналогія пачала русіфікавацца. Яе запаланілі тэрміны з суфіксамі -уч-, -юч-, -ірав-, -ырав-, -цель тыпу *хуткарэжучы, бавоўнасеючы, лічыльна-рашаючы, удакладняючы, алгебраізіраваць, квадрыраваць, аднавіцель, выключацель* і г. д. На старонках перыядычных выданняў 1990-х гг. ужо з’явіліся такія «шэдэўры» тэрмінатворчасці, як, напрыклад, *параўнальная ступень прыметнікаў*, *складана-падпарадкаваны сказ* (параўн. у рускай мове: сравнительная степень прилагательных, сложноподчиненное предложенне). Таму на сучасным гістарычным этапе нацыяльнальна-культурнага адраджэння задачы далейшага развіцця, удасканалення, сістэматызацыі і стандартызацыі галіновых тэрміналогій патрабуюць неадкладнага вырашэння. Беларуская мова мае дастаткова развітую лексічную і словаўтваральную базу, каб стварыць дасканалую нацыянальную навуковую і тэхнічную тэрміналогію.

## АБ СІНОНІМАХ, ДУБЛЕТАХ І ВАРЫЯНТАХ У ТЭРМІНАЛОГІІ*

У наш час, калі асаблівую актуальнасць набылі пытанні распрацоўкі і ўдасканалення беларускай нацыянальнай тэрміналогіі, увагу многіх даследчыкаў прыцягваюць праблемы тэрміназнаўства і тэрмінаграфіі. Аднак пакуль што гэтая ўвага засяроджваецца пераважна на даследаванні лексіка-семантычных, структурна-марфалагічных, генетычных асаблівасцей асобных галіновых тэрміналагічных сістэм і падсістэм і на падрыхтоўцы тэрміналагічных слоўнікаў. Пры гэтым закранаюцца пытанні станаўлення спецыяльных значэнняў, тэрміналагізацыі, дэтэрміналагізацыі і рэтэрміналагізацыі, нарматыўнасці і ненарматыўнасці, сістэмы і структуры, складу, аб’ёму і межаў спецыяльнай лексікі і інш. Аналізуючы семантычныя сувязі тых ці

* Першая публікацыя ў выданні: Веснік БДУ. Серыя 4. Філалогія. Журналістыка. Педагогіка. Псіхалогія. – 1995. – № 1. – С. 25–27.

іншых тэрмінаў у межах асобных сістэм і падсістэм, даследчыкі закранаюць такія асноўныя лексіка-семантычныя працэсы, як полісемія, аманімія, сінанімія, антанімія, але нярэдка па-рознаму тлумачацца з'явы аднаго парадку. Таму звернемся да такіх складаных пытанняў, як полінайменнасць і варыянтнасць, і выкажам наша разуменне сінонімаў, дублетаў і варыянтаў у межах тэрміналагічнай лексікі.

Для ідэальнай тэрмінасістэмы характэрна ўзаемааднназначная адпаведнасць паміж тэрмінам і паняццем (адзін тэрмін ↔ адно паняцце). Гэта пазбаўляе тэрміналогію магчымасці развіваць полінайменнасць. Аднак у рэальных тэрмінасістэмах з'явы полінайменнасці і варыянтнасці, калі для намінацыі і дэфініцыі навуковага і тэхнічнага паняцця існуе некалькі тэрміналагічных адзінак і іх варыянтаў, не такія ўжо і рэдкія.

Пад полінайменнасцю мы разумеем такую з'яву, калі для абазначэння аднаго і таго ж паняцця выкарыстоўваецца некалькі тэрмінаў, напрыклад: *вытворнасць – матываванасць, канчатак – флексія, трыванне – від, мацыёла – ляўканія, медуніца – шчамяліца, прыпеўка – частушка, свабодны верш – верлібр, альдастэрон – электракарцін, маланка – бліскавіца, віхор – ротар, падвышэнне да ступені – ступеняванне, выпукласць – пукатасць, запіс адваротны – запіс інверсны – запіс польскі, адміністратар даных – менеджэр даных* і да т. п. Пры разглядзе членаў падобных полінайменных радоў у навуковай літаратуры выкарыстоўваюцца тэрміны-сінонімы, сінанімічныя тэрміны, сінанімічныя формы тэрмінаў, блізказначныя тэрміны, дублеты, эквіваленты, лексічныя варыянты. Відавочна, што ў такім разе не назіраецца адзінства ў разуменні сутнасці ўзаемаадносін паміж членамі полінайменных радоў і таму існуе такая стракатасць у іх абазначэнні.

Члены полінайменных радоў функцыянальна тоесныя ў тым плане, што арыентуюць на адзін і той жа рэферэнт, а з гэтага вынікае, што паміж імі існуюць семантычна блізкія ці раўназначныя адносіны, г. зн. адносіны сінанімічнасці або дублетнасці.

Паміж сінонімамі з улікам наяўнасці ці адсутнасці адрозненняў паміж імі ў агульналітаратурнай мове існуюць наступныя віды ўзаемаадносін, заснаваных: а) на сэнсавых адценнях лексічнага значэння слоў – ідэаграфічная, ці сэнсавая сінанімія; б) на стылістычных адценнях пры блізкасці, тоеснасці лексічнага значэння слоў – стылістычная сінанімія; в) на сэнсавых і стылістычных адценнях – сэнсава-стылістычная сінанімія; г) на адсутнасці якіх-небудзь адценняў у лексічным значэнні слоў – абсалютная, ці дублетная сінанімія; д) на адрозненнях у спалучальнасці слоў – дыстрыбутыўная сінанімія. У мове навукі адносіны паміж асобнымі намінатыўна-тэрміналагічнымі адзінкамі могуць характарызавацца: а) сэнсавымі адценнямі іх паняційнага зместу – ідэаграфічная сінанімія; б) адсутнасцю якіх-небудзь адценняў у іх паняційным змесце – дублетная сінанімія. Іншыя віды адносін у межах тэрміналогіі не праяўляюцца, паколькі стылістычныя адценні для тэрмінаў нерэлевантныя, а іх спалучальныя магчымасці аднолькавыя. Значыць, на аснове наяўнасці ці

адсутнасці адрозненняў у паняційным змесце суадносныя з адным і тым жа паняццем тэрміны могуць кваліфікавацца як сінонімы або дублеты.

Тэрміны-сінонімы характарызуюцца тым, што сваім унутраным зместам яны адлюстроўваюць розныя кваліфікацыйныя прыметы паняцця. Напрыклад, гукі [б], [б’], [п], [п’] называюцца змычнымі, або выбухнымі, або імгненнымі. Кожны з гэтых тэрмінаў мае выразную матывацыю: змычнымі гукі называюцца таму, што пры вымаўленні ў першай фазе актыўныя і пасіўныя органы мовы поўнасцю змыкаюцца, утвараючы перашкоду (змычку); выбухнымі – таму, што ў другой фазе паветраны струмень узрывае змычку і ўзнікае шум, які нагадвае кароткі выбух; імгненнымі – таму, што гэтыя гукі нельга вымавіць працяжна. Унутраны змест кожнага тэрміна адлюстроўвае адпаведную істотную кваліфікацыйную прымету аднаго і таго ж паняцця. Значыць, тэрміны змычныя, выбухныя, імгненныя (гукі) адрозніваюцца паміж сабой сэнсавымі адценнямі і, такім чынам, з’яўляюцца тэрмінамі-сінонімамі. Падобныя адносіны назіраюцца і ў такіх полінайменных радах, як змычна-прахадныя – плаўныя (гукі), шчылінныя – фрыкатыўныя – працяжныя (гукі), агністы – полымны (фатометр), грань – сценка, паказ – адлюстраванне – апісанне, зыход – вынік, уводзіны – уступ і да т. п. Прыведзеныя полінайменныя рады ўтвараюць рознакаранёвыя тэрміны (тэрмінаэлементы), што адрозніваюцца паміж сабой такімі сэнсавымі адценнямі паняційнага зместу, якія вынікаюць з унутранай формы, унутранай матывіроўкі гэтых тэрмінаў (тэрмінаэлементаў). Паколькі гэта адносіны на ўзроўні семантыкі, то такія тэрміны (тэрмінаэлементы) з’яўляюцца сінанімічнымі.

Тэрміны-дублеты ў сваім паняційным змесце не маюць ніякіх сэнсавых адрозненняў. Напрыклад, тэрміны *біном – двухсклад, аксіяльны – восевы, асіміляцыя – прыпадабненне, прэфікс – прыстаўка* і да т. п. характарызуюцца тым, што суадносяцца з адным і тым жа навуковым паняццем, а ва ўзаемаадносінах паміж сабой не выражаюць ніякіх сэнсавых адценняў, г. зн. вызначаюцца гранічнай семантычнай раўназначнасцю. Абумоўлена гэта тым, што ў такіх полінайменных радах уласны і запазычаны тэрміны маюць аднолькавую ўнутраную матывіроўку. Дублетныя адносіны ўласцівы і членам такіх полінайменных радоў, як *вугал – кут, бок – старана, падвышэнне да ступені – ступеняванне, тытульны ліст – тытул,* таму што «паміж сабою яны ніяк не суаднесены, кожны з іх адносіцца непасрэдна да абазначанага і можа адрозніваца ад другога этымалагічна ці структурна»[1].

Акрамя сінонімаў і дублетаў (розных слоў, што служаць для намінацыі і дэфініцыі аднаго і таго ж паняцця), у тэрміналогіі, пераважна ў сферы функцыянавання, сустракаюцца варыянты аднаго і таго самага тэрміна: фанетычныя (*адыманне – адніманне, арыфметыка – арытметыка, кмен – кмін, сім-*

---

[1] *Толикина Е. Н.* Лингвистические проблемы научно-технической терминологии. – М., 1970. – С. 61. Гл. таксама: *Ахманова О. С.* Словарь лингвистических терминов. – М., 1966. – С. 13–14.

*вал – сымболь, фразаўтварэнне – фразеўтварэнне – фразеаўтварэнне, аксюмаран – аксімаран*), арфаграфічныя (*кансэнсус – кансенсус*)*,* марфалагічныя (*жэлацін – жэлаціна, назва – назоў, перыфраз – перыфраза, разлог – разлога*) і асабліва словаўтваральныя (*акружнасць – акружына, апраменьванне – апрамяненне – абпрамяненне, выпрамляльнік – выпрамнік, запазненне – спазненне, кірыліца – кірылка, лацініца – лацінка, многаборства – мнагабор'е, узброенае – збройнае* (змаганне), *утваральная – утвараючая* (аснова), *часцінка – частачка – часціца*).

Калі фанетычныя, арфаграфічныя і марфалагічныя варыянты не выклікаюць асаблівых цяжкасцей у іх вызначэнні, то словаўтваральныя варыянты слова нярэдка называюцца аднакаранёвымі сінонімамі, г. зн. markрознымі словамі. У агульналітаратурнай мове сапраўды цяжка размежаваць варыянты слова і аднакаранёвыя словы-сінонімы. Напрыклад, словы *адзенне – адзетак, сталовая – сталоўка, ліса – лісіца, вушаты – вушасты, рыбачы – рыбацкі* ў агульналітаратурнай мове ўтвараюць сінанімічныя рады аднакаранёвых слоў, якія аб'ядноўваюцца паміж сабой агульным значэннем, але адрозніваюцца стылістычнай афарбоўкай *(адзетак* і *сталоўка* – словы вусна-размоўнага стылю), эмацыянальнай афарбоўкай (слова *лісіца* больш эмацыянальнае), адценнем лексічнага значэння і спалучальнасцю з іншымі словамі (*вушаты* першакласнік, *вушасты* кажан; *рыбачая* вопратка, *рыбацкі* пасёлак). Ва ўсіх гэтых выпадках не захоўваецца тоеснасць слова, таму падобныя аднакаранёвыя лексічныя адзінкі з'яўляюцца аднакаранёвымі сінонімамі, а не словаўтваральнымі варыянтамі аднаго слова.

У межах тэрміналагічнай лексікі таксама існуюць аднакаранёвыя намінатыўна-тэрміналагічныя адзінкі, якія адрозніваюцца паміж сабой асобнымі гукамі, арфаграмамі, прыстаўкамі, суфіксамі, сродкамі выражэння граматычных значэнняў, але не маюць ніякіх семантычных адрозненняў, стылістычных, эмацыянальна-экспрэсіўных адценняў значэння, характарызуюцца аднолькавай спалучальнасцю з іншымі словамі, г. зн. поўнасцю супадаюць сваім значэннем. Такім чынам, аднакаранёвыя тэрміналагічныя адзінкі не парушаюць тоеснасці слова. Яны з'яўляюцца рознымі мадыфікацыямі аднаго і таго ж тэрміна, г. зн. фанетычнымі, арфаграфічнымі, словаўтваральнымі, марфалагічнымі яго варыянтамі.

Пад варыянтнасцю мы разумеем такую з'яву, калі для абазначэння аднаго і таго ж паняцця выкарыстоўваюцца розныя варыянты аднаго і таго ж тэрміна. Варыянтамі з'яўляюцца разнавіднасці таго самага тэрміна, якія адрозніваюцца паміж сабой фанетычнымі і словаўтваральнымі элементамі ці сродкамі выражэння граматычных значэнняў, але не маюць ніякіх семантычных адценняў і поўнасцю супадаюць сваім значэннем.

Тэрміналагічныя сінонімы, дублеты, варыянты – з'явы, непажаданыя ў мове навукі, і большасцю даследчыкаў яны характарызуюцца як празмернасць (избыточность). Значыць, у працэсе уніфікацыі і рацыяналізацыі тэр-

міналогіі неабходна пазбаўляцца ад варыянтаў і ў пэўнай меры абмяжоўваць сінанімію і дублетнасць. Шлях стварэння рацыянальнай тэрміналогіі – гэта «ўлік, выверка, уніфікацыя ўсяго наяўнага запасу з ліквідацыяй дэфектаў, развядзеннем амонімаў, уніфікацыяй сінонімаў і прывядзеннем у сістэму адабранага і рэгламентаванага»[1]. Пры вырашэнні гэтых задач патрэбна выразна акрэсліць тыя крытэрыі, якім павінен адпавядаць стандартны тэрмін на данай стадыі развіцця беларускай літаратурнай мовы.

## ТЭРМІН ЯК МАСТАЦКАЕ СЛОВА*

Тэрмін як лексічная адзінка навуковай мовы характарызуецца такімі сутнаснымі прыметамі, як дакладная семантычная акрэсленасць, адназначнасць, эмацыянальна-ацэначная нейтральнасць. Тэрміну ўласцівы толькі адзін тып лексічнага значэння – прамое, або намінатыўнае. Пры гэтым значэнне тэрміна ў адрозненне ад агульнаўжывальнага слова не мае ўнутранай патэнцыі развіцця. Пазбаўлены тэрмін і ўласна моўных формаў развіцця: яму не ўласцівы граматычныя формы памяншальнасці, павелічальнасці і інш.

Здавалася б, на першы погляд, што ўсё гэта ў значнай ступені абмяжоўвае выкарыстанне тэрмінаў у мове мастацкай літаратуры, паколькі яна адрозніваецца ад іншых разнавіднасцей літаратурнай мовы тым, што ў ёй на першы план выступае эстэтычная функцыя. У мастацкай літаратуры слова выкарыстоўваецца не столькі як сродак выражэння думкі, як яе нейтральны знак, колькі як сродак мастацкага адлюстравання рэчаіснасці праз вобразы і карціны. Аднак паколькі эстэтычная функцыя мовы мастацкай літаратуры абумоўлена такой арганізацыяй тэксту, якая ў той ці іншай меры абнаўляе, перайначвае звычайнае словаўжыванне, а пытанне аб «правільнасці» мовы ў мастацкім творы звязана непасрэдна з эстэтычнай матываванасцю, то для пісьменніка не існуе праблемы ў выбары слоў і іх формаў. Любое слова, у тым ліку і тэрмін, у мастацкім творы можа выконваць эстэтычна значымую мастацка-выяўленчую функцыю, калі яго ўжыванне абумоўлена мастацкай мэтазгоднасцю. Значыць, шлях тэрміна з мовы навукі ў мову мастацкай літаратуры ляжыць праз яго эстэтызацыю.

Эстэтызацыю тэрмін набывае праз спалучэнне з іншымі словамі, якія парушаюць аўтаматызм навуковага маўлення, «уцягваюць» тэрмін у матэрыю мастацкага твора, дзе ён набывае экспрэсіўнае, эмацыянальнае адценне, напрыклад:

---

[1] *Реформатский А. А.* Современные проблемы русской терминологии. – М., 1986. – С. 186.

* Першая публікацыя ў выданні: Пісьменнік – мова – стыль: тэз. дакл. і паведамл. міжнар. навук. канф., прысвеч. 70-годдзю з дня нараджэння праф. Л. М. Шакуна (Мінск, 17–19 верас. 1996 г.). – Мінск, 1996. – С. 64–66.

Душа паэта – то ж рэактар вечны,
Што выпраменьвае часціцы болю
І сотні тысяч сэрцаў чалавечых
Бамбардзіруе імі без адбою,
Каб шляхам ядзернага расшчаплення
Прывесці ў рух энергію сумлення.
(*Н. Гілевіч*)

Такое нечаканае спалучэнне тэрмінаў і агульнаўжывальных слоў надае адным і другім адметную эстэтычную выразнасць. Пры падобнай мастацкай арганізацыі тэксту тэрміны метафарызуюцца, «загараюцца» эстэтычна, што надзвычай абвастрае ідэйна-вобразнае ўспрыняцце твора.

У мастацкіх творах эстэтызацыю тэрміны могуць набываць з дапамогай метафарычных эпітэтаў:

Вось і прымусіў
Раскуты,
Раз'юшаны атам
На развітанне расстайнае
Кланяцца пуням і хатам,
Кланяцца студням,
Дрывотням,
Тынам,
Азяродам,
Зазелянелым садам
І засеяным агародам.
(*Г. Бураўкін*)

У гэтым кантэксце тэрмін *атам* набывае вобразнае значэнне праз спалучэнне з метафарычным эпітэтам *раз'юшаны.* І дзякуючы рытму, рыфме, інтанацыі гэтыя рознастылёвыя словы на фоне нейтральных агульнаўжывальных слоў вельмі дакладна, да болю адчувальна перадаюць трагедыю чарнобыльскіх перасяленцаў.

Нярэдка эстэтызацыя тэрміна ў мове мастацкай літаратуры дасягаецца з дапамогай параўнання, напрыклад:

Радыяцыя – нябачны акупант.
Зведаўшы вайны былой законы,
Дзед Нупрэй стаіць, як эмігрант,
На мяжы стаіць Закрытай зоны.
(*А. Грачанікаў*)

Тэрмін *радыяцыя* ў прыведзеных радках захоўвае сваё прамое значэнне. Але параўнанне *нябачны акупант* персаніфікуе тую з'яву, што названа тэрмінам, і надае мове незвычайную асацыятыўную вобразнасць.

Увогуле тэрміны ў моўнай тканіне твораў на фоне іншых слоў вылучаюцца сваёй адметнай мастацка-выяўленчай вобразнасцю. Дасягаецца яна рознымі прыёмамі, у тым ліку з дапамогай эпітэтаў і параўнанняў, шляхам метафарызацыі і персаніфікацыі.

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎЧЫЯ ТЭРМІНЫ НА СТАРОНКАХ «НАШАЙ НІВЫ»*

У працах беларускіх даследчыкаў неаднаразова падкрэслівалася і падкрэсліваецца першаступеннае значэнне навуковай распрацоўкі праблем тэрміналогіі ў сувязі з папаўненнем і ўдасканаленнем лексічных сродкаў нацыянальнай літаратурнай мовы.

Прыкметнае папаўненне літаратуразнаўчай тэрміналогіі адбылося ў пачатку XX ст. У гэтым працэсе асаблівую ролю адыграла газета «Наша ніва». Яе выдаўцы арыентаваліся на літаратурна-эстэтычныя традыцыі народнасці і дэмакратызму. Важнай задачай яны лічылі ўсебаковае развіццё духоўнай культуры беларускага народа, стварэнне адметнага нацыянальнага стылю ў паэзіі і прозе на аснове творчага асэнсавання і засваення здабыткаў фальклору і лепшых дасягненняў сусветнай літаратуры. На старонках газеты за гады яе існавання ўбачылі свет многія творы Янкі Купалы (паэмы «Курган», «Бандароўна», 170 вершаў і каля 30 артыкулаў), Якуба Коласа, М. Багдановіча, Цёткі, З. Бядулі, Ц. Гартнага, М. Гарэцкага, К. Каганца, К. Буйла, Г. Леўчыка, А. Паўловіча, Ф. Чарнышэвіча і іншых. Друкаваліся літаратуразнаўчыя артыкулы М. Багдановіча, М. Гарэцкага, С. Палуяна, Л. Гмырака, А. Бульбы, У. Самойлы, рэцэнзіі на зборнікі вершаў і апавяданняў Янкі Купалы, Якуба Коласа, М. Гарэцкага, З. Бядулі, Ц. Гартнага, агляды беларускай літаратуры па асобных гадах, вяліся літаратурныя дыскусіі па пытаннях сацыяльна-эстэтычнай арыентацыі, творчага метаду, кірунку развіцця і стылю літаратуры.

Асэнсаванне літаратурнага працэсу ва ўсёй яго складанасці і супярэчлівасці патрабавала адпаведных сродкаў намінатыўна-тэрміналагічнага характару. Каб паказаць выключнае значэнне газеты «Наша ніва» ў станаўленні беларускага літаратуразнаўства і выпрацоўцы беларускай літаратуразнаўчай тэрміналогіі, прывядзём асобнымі тэматычнымі блокамі тыя адзінкі намінатыўна-тэрміналагічнага характару, якія выкарыстоўвалі аўтары артыкулаў, аглядаў, рэцэнзій, рэкамендацый і г. д. На старонках «Нашай нівы» засведчаны тэрміналагічныя адзінкі, што суадносяцца:

1) з агульнымі літаратуразнаўчымі паняццямі і паняццямі літаратурнай творчасці: *літаратура, красная літаратура, лубочная літаратура, літаратура папулярная* (*даступная для ўсіх*), *белетрыстыка, пісьменнасць, пісьменніцтва, пісьменства, пісьменства штучнае, пісьменства прыгожае, гісторыя літэратуры, крытыка, крытыкаваць, крытык, крытык-публіцыст, стылістыка* (*теория словесности, teorja poezyi i prozy*), *бібліяграфія, аўтор* (*пісар кнігі*), *літэратар* (*пісар*), *пісар, артыста, артыст-маляр, пісар-артыста, пісацель, пісьменнік, пісьменнік-містык, публіцыст, публіцыст-пісар, бэ-*

---

* Першая публікацыя ў выданні: Янка Купала і «Наша ніва» : міжнар. навук. канф. (Мінск, 7–8 кастр. 1996 г.). – Мінск, 1997. – С. 78–83.

*летрыст, навеліст, павесьцяр, баечнік, драматург, сатырык, лірык, паэт, паэт-лірык, паэт-маляр, паэта, песьняр, песьняр-паэт, песьняр-лірык, песьняр-печальнік, класік, романтык, модэрніст, кірунак літэратурны, кірунак беларускі, школа, рэалізм, романтызм, классыцызм, сэнтымэнталізм, модэрнізм, сымволізм, дэкадэншчына, народнасць, творчасць, творчэства, уплыў*;

2) з родамі, відамі, жанрамі літаратуры: *лірыка, проза, паэзія, твор літэратурны, твор, пісаньне, рэч, вытвар, штука, твор сцэнічны, твор поэтычны, твор штучны, штучны літэратурны твор, твор свецкі, твор богаслужэбны, твор спорны, твор арыгінальны, летапіс, паўчэньне, казаньне, апокрыф, паэма, паэмка, паэмат-трагедзія, раманс, аповесьць, повесьць, повесць гістарычная, апавяданьне, апавяданьне-перэсказ, апавяданько, апавяданьне бытавое, апавяданьне рыцарскае, апавяданьне сьмешнае, апавяданьне артыстычнае, уцешнае апавяданьне, гутарка-апавяданьне, гутарка, гутарка-верш, расказ, сонэт, трыолет, верш, вершык, верш сьмешны, верш-песьня, песьня, сціх, сціх грэцка-царкоўны, паэзія прозай, сатыра, породія, твор на сцэну, сцэнічная рэч, пьеса, тэатральная пьеса, тэатральная рэч, камедія, камэдыйка, драма, драматычны абразок*, *школьная драма*, *школьная камедыя*, *абраз*, *абразок*, *жарт*, *жарцік*;

3) з паняццямі літаратуразнаўчага аналізу мастацкіх твораў: *ідэя, ідэя-думка, думка, ідэёвы, аснова твора, зьмест, абразнасьць зьместу, сэнс, вобраз, абраз, образ, вобразнасьць, мысль, глаўная мысль, фантазія, выдумка, праўда артыстычная* (*художественная*), *стыль, стыльнасьць, склад, склад твора, герой, тып, тыповы, тыпічны, талент, лірычны талент, лірызм, форма, літэратурная форма, схема, завязка, завязь, прадмова, пэрэдмова, акт, дзея, зьява, праява, сцэна, малюнак, сымвол, зычнасьць, адназычнасьць, гумар, сатыра, зварот мовы, афарызм, русіцызм, апісаньне, монолёг, характэрыстыка*;

4) з паняццямі вершаскладання: *тэорыя складаньня вершоў, законы віршоў, навука пісаньня виршэй, рыфма, счэпліваньне рыфм, рытм, такт, страфа, штрофка, рондо, актава, тэрцына, зваротка, верша, канцоўка, цэзура, сылябічны верш, тонічэскі верш, вязанка вершоў, нанізка вершоў, цыкль вершоў, зборка вершоў, тон, аднатоннасьць*;

5) з паняццямі вуснапаэтычнай творчасці: *літаратура народная* (*устная*), *творчасьць народная, паэзія народная, фольклёрны матэрьял, твор народны* (*вусны і пісаны*), *песьня, народная песьня, песьня вясельная, песьня хрэсьбінная, песьня жніўная, песьня купальская, весьнянка, песьня калысковая, лірычная песьня, песьня любашчаў, песьня калядная, песьня шчэдроўская, песьня фабрычная, песьня гарадская, песьня гістарычная, песьня салдацкая, сьпеванка, загавор, загадка, прыказка, пагаворка, памоўка, казка, легенда, быліна, прыпеўка, частушка, шчэдроўка, батлейка, анэгдота*.

Чым жа вызначаліся з боку семантыкі і функцыянавання нашаніўскія літаратуразнаўчыя тэрміны?

У большасці яны даволі дакладна арыентавалі на тыя паняцці, для выражэння якіх уводзіліся ў сферу сацыяльнай камунікацыі, напрыклад: *байка,*

*легенда, гімн, гісторыя літэратуры, камэдыя, жарт, загадка, завязь, развязка, лірыка, верш, паэма, страфа, рыфма, цэзура, рэалізм, сэнтымэнталізм* і інш. Характэрны у гэтым плане найменні аўтараў літаратурна-мастацкіх твораў адпаведных жанраў (*новэліст, павесьцяр, баечнік, драматург*), найменні паводле асаблівасцей творчай манеры, творчага метаду (*лірык, сатырык, модэрніст, рамантык, класік, артыста, пісар-артыста, артыст-маляр, пісьменнік-містык, пясьняр-паэт, паэт-лірык, паэт-маляр, песьняр-лірык, песьняр-печальнік*). Падобныя тэрміны – сведчанне, з аднаго боку, жанравай і стылёвай размытасці беларускай мастацкай літаратуры пачатку XX ст., а з другога – гэта пошук як мага больш дакладнага наймення аўтара мастацкіх твораў з улікам адметных асаблівасцей яго таленту. Гэта надзвычай выразна праяўляецца ў складаных найменнях, адзін з кампанентаў якіх абазначае аўтара паводле жанру яго твораў, а другі – паводле асаблівасцей творчай індывідуальнасці, напрыклад:

«Беларускі народ, прыдушэны векавым уциском, ... не меў нават песьняроў-печальникоў и заступникоў сваих, што у песьнях магли бы разсказаць пра яго горэ и радасьци, пра яго надзеи, жаданьня лепшаго жыцьця» (1908, № 17). «Гэтакія паўтарэньня (фраз, вобразаў. – ***В. К.***) ешчэ болей павялічываюць аднатоннасьць вершоў і без таго ня блішчучых ані красой формы, ані якасьцю мовы, ані абразнасьцю зместу. Асабліва даецца усё гэта ў знакі ў апісаньнях (на наш погляд, – самай слабой часьці зборніка), бо як артыст-маляр Колас не стаіць вельмі высока» (1911, № 4). «Якуб Колас, паэт-лірык, родам з Міншчыны» (1914, № 37). «М. Гарэцкі – пісьменьнік-містык» (1914, № 37). «Што да Богдановіча, то ў ім не прыкметна шпаркаго развіцьця, хоць асобнасьці яго таленту выступаюць ужо даволі ясна. Гэта – паэт-маляр. Слабы як лірык, ён усю сваю ўвагу зьвяртае на абразнасьць зьместу» (1911, № 4). «Марцінкевіч вёў дружбу з вялікім песьняром-лірыкам, каторага, хоць і пісаў па-польску, таксама ўзгадавала Беларусь, – Владыславам Сыракомлям» (1910, № 37).

Разам з тым для сферы функцыянавання тэрмінаў уласціва была такая рыса, як полінайменнасьць, калі для намінацыі і дэфініцыі аднаго паняцця на старонках «Нашай нівы» выкарыстоўваліся розныя адзінкі намінатыўна-тэрміналагічнага зместу, напрыклад: *памоўка – пагаворка, міньятура – абразок, акт – зьява – дзея – праява – сцэна, апаведаньне – расказ, пісьменнік – пісацель – пісар, байка – басьня, анэгдота – жарт, прыпеўка – частушка, мараль – паўчэньне, выдумка – фантазія, думка – мысль, зьмест – сэнс* і інш. Вось некалькі ілюстрацый:

«Якіе самі, такіе і сані», – кажэ расейская памоўка» (1911, № 13). «Што па адзежы прымаюць, а па розуму адпраўляюць, дык гэта мы ўсе добра ведаем, але часта на гэту праўдзівую пагаворку забываюцца» (1913, № 34). «Першай літэратурнай працай Марцінкевіча была «Селянка», опэра у двох актах (зьявах, дзеях)» (1910, № 48). «Безвыходнасьць, безнадзейнасьць – вось што чуваць у ваўсей паэмі («Адвечнай песні» – ***В. К.***), што цяжкім каменем кладзецца на душу чытача пасьля кожнай праявы» (1911, № 3).

«З’еднаньне людзей у Чалавеку вельмі хораша прэдстаўлено ў апошняй сцэне «Адвечнай песьні» – «На могілках» (1910, № 38).

Як сведчаць прыклады, полінайменнасць абумоўлена тым, што ў якасці тэрмінаў выкарыстоўваліся словы рознага паходжання. Гэта тыповая з’ява на этапе фарміравання тэрміналагічнай лексікі.

Тыповай з’яўляецца таксама і тэкставая сінанімія, напрыклад: «Сягодня, 28 серпня, ўся Расея спраўляе вяликае ўсенароднае сьвята: роўна 80 гадоў таму назад у гэты самы дзень нарадзіўся на сьвет Божы адзін з найслаўнейшых писацелёў расейскіх – Лев Талстой. Дый не адна Расея сьвяткуе гэты дзень: усе культурные нации, каторые знаюць и цэняць вяликие творы и думки рускаго писара, выказваюць яму сягодня свой шчыры шацунак и паважаньне. Мы цэним Талстога, як вяликаго писара-артысту. И ня дзіва: як праўдзивы артыста, Талстой у творах сваих даваў вельми харошые образы таго жыцьця, на каторае глядзеў, и тых людзей, с каторыми жыў, каторых знаў» (1908, № 18).

Відавочна, што найменні «писацель», «писар», «писар-артыста», «артыста» – тэкставыя сінонімы, якія адрозніваюцца паміж сабой сэнсавымі ці ацэначнымі адценнямі значэння. Таму іх ужыванне тлумачыцца не толькі імкненнем пазбегнуць паўтарэння аднаго і таго слова-наймення, але і тым, каб дакладней, з розных бакоў ахарактарызаваць творцу, даючы яму не толькі сэнсава-лагічныя, але і сэнсава-вобразныя найменні.

Уласціва для нашаніўскай літаратуразнаўчай тэрміналогіі такая асаблівасць, як выкарыстанне памяншальных найменняў тыпу *вершык, жарцік, камэдыйка, паэмка* поруч з нейтральнымі *верш, жарт, камэдыя, паэма*, напрыклад:

«У «Жалейцы» многа вершыкоў, гдзе рысуюцца образы жыцьця мужыцкаго, роднай старонки» (1908, № 17); «Добра, што вы стараецеся писаць беларуские вершы» (1908, № 13); «Зыгралі і камэдыйку «Модны шляхцюк» Каганца» (1911, № 8); «Глаўныя творы Гоголя: «Мёртвые Душы», камэдыя «Рэвізор» (1909, № 12).

Сустракаюцца памяншальныя варыянты ў раздзеле «З Беларусі і Літвы» і ў раздзеле «Пачтовая скрынка», дзе друкаваліся адказы і парады аўтарам, што дасылалі свае творы ў рэдакцыю «Нашай нівы».

Даволі пашыранай сярод літаратуразнаўчых тэрмінаў была варыянтнасць на фанетычным, словаўтваральным, марфалагічным узроўнях і на ўзроўні асобных кампанентаў састаўных найменняў, напрыклад: *абраз – образ – вобраз, камэдыя – камэдия – комэдія, бэлетрыстыка – бэльлетрыстыка, твор – вытвар, пісьменнасьць – пісьменства – пісьменніцтва, творчасць – творчэства, тыповы – тыпічны, паэт – паэта, твор на сцэну – сцэнічная рэч – тэатральная рэч, пісьменства штучнае – пісьменства прыгожае, форма вершаваная – форма паэтычная* і да т. п. У адных выпадках гэта вынік неўнармаванасці тагачаснай беларускай літаратурнай мовы, у другіх – уплыў рускай ці польскай моў на ўзроўні арфаграфіі ці лексікі, у іншых – вынік пошуку ў роднай мове адпаведнага наймення ці стварэння такога наймення на ўласнай моўнай аснове.

Некаторыя тэрміны не набылі яшчэ семантычнай акрэсленасці, таму іншы раз адзін і той жа мастацкі твор называўся па-рознаму: «Апроч таго:

прыслаў д-р 2 камэдии, ператлумачэные па беларуску «Сватаньне» А. Чэхова, и «Пашылися ў дурни» М. Крапиўницкаго» (1908, № 9). «Жарцік «Пашыліся ў дурні», што ставілі на сцэне, прайшоў вясёла, бойка, жыва і цікава» (1912, № 7).

Або: «Іон напісаў немала беларускіх вершоў, поэму «Гапон», опэру «Селянка» (1909, № 4); «у 1855 гаду выходзіць ужо першая чыста-беларуская кніжка Марцінкевіча – аповесьць с праўдзіваго здарэньня «Гапон» (1910, № 48).

Асобныя тэрміны ў межах аднаго тэрміналагічнага поля з'яўляліся полісемічнымі:

«У некаторых вершах Коласа спатыкаем вялікі ўплыў расейскіх паэтаў...» (1910, № 40); «Верш – гэта музыка з слоў, гэта ўменьне падабраць і саставіць так словы, каб яны зазвінелі, як сярэбраны званок, каб верш меў такт добрай музыкі» (1910, № 35); «Пішыце не толькі вершы, а і прозу» (1908, № 2); «Верш, паправіўшы і выкінуўшы вострые месцы, можна-б было надрукаваць. Але усё-ж ткі, пачаўшы спачатку пісаць вершам, нельга заканчываць у канцы прозай» (1912, № 4).

У першых двух прыкладах і ў першым сказе чацвёртага прыкладу тэрмін «верш» ужыты ў значэнні «мастацкі твор, напісаны рытмізаванай мовай»; у трэцім прыкладзе – у абагульненым значэнні «творы, напісаныя вершам»; у другім сказе чацвёртага прыкладу – у значэнні «рытмізаваная мова».

Адзначаныя асаблівасці літаратуразнаўчых тэрмінаў адлюстроўваюць натуральны працэс фарміравання тэрміналагічнай лексікі беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы. На гэтым этапе, калі выразна яшчэ не акрэслілася спецыфіка навуковага стылю, для тэрмінаў у значнай ступені былі ўласцівы тыя самыя сістэмныя адносіны, што і для агульнаўжывальнай лексікі.

Увогуле, на старонках «Нашай нівы» была засведчана даволі значная колькасць літаратуразнаўчых тэрмінаў, што пераканаўча гаворыць пра станаўленне беларускага літаратуразнаўства ў пачатку XX ст. і ролю ў гэтым працэсе памянёнай газеты. Гэтыя тэрміны паслужылі добрым падмуркам для далейшай распрацоўкі беларускай нацыянальнай літаратуразнаўчай тэрміналогіі.

## ПОШУКІ ПРЫНЦЫПАЎ І ШЛЯХОЎ РАСПРАЦОЎКІ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ НА ПАЧАТКУ XX ст.*

Перадумовай паспяховага вырашэння праблем, звязаных са спецыфікай фарміравання, развіцця і ўпарадкавання тэрміналагічнай лексікі беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы, з'яўляецца вырашэнне шэрагу пытанняў, сярод якіх: крыніцы фарміравання нацыянальнай тэрміналогіі, абу-

* Першая публікацыя ў выданні: Тэрміналагічны бюлетэнь. – Мінск, 1997. – Вып. 1. – С. 8–15.

моўленасць лексіка-семантычных і функцыянальных уласцівасцей тэрміна суадносінамі і сувязямі тэрміналагічнай лексікі з лексікай нетэрміналагічнай, станаўленне тэрміналагічных значэнняў, тэрміны як вынік натуральнага развіцця лексікі і як плён свядомай, мэтанакіраванай дзейнасці творцаў тэрміналогіі, нарматыўнасць і ненарматыўнасць тэрміналагічнай лексікі, асаблівасці сістэмнай арганізацыі тэрмінаў і іх праяўленне ў залежнасці ад лінгвістычных і экстралінгвістычных фактараў на розных этапах фарміравання тэрміналогіі і інш. Пры ўсім гэтым неабходна падкрэсліць, што ў дачыненні да беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы, якая не мела дастаткова спрыяльных магчымасцей для свайго развіцця, асабліва важна ўлічваць існаванне і функцыянаванне тэрміналогіі ў часе, яе ўключанасць у гістарычны працэс, яе суадносіны і сувязі з нетэрміналагічнай лексікай на кожным канкрэтным гістарычным этапе, таму што гэтым у значнай меры былі абумоўлены пошукі прынцыпаў і шляхоў распрацоўкі нацыянальнай тэрміналогіі.

Тэрміналогія любой нацыянальнай мовы – перш за ўсё спараджэнне самой гэтай мовы, вынік яе функцыянальнага развіцця. А ў сувязі з тым, што функцыянальнае развіццё беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы было абумоўлена не столькі ўнутрымоўнымі, колькі сацыяльнымі фактарамі, то і фарміраванне тэрміналагічнай лексікі адбывалася як у выніку натуральнага ходу развіцця ўсёй лексічнай сістэмы, так і свядомай тэрмінатворчасці. Аднак дзве гэтыя дзейныя сілы – стыхійнасць і кіруемасць – своеасабліва праяўляліся і праяўляюцца ў залежнасці ад гістарычных умоў.

Тэрміналагічная лексіка беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы пачала прыкметна папаўняцца ў нашаніўскі перыяд, калі ў выніку нацыянальна-вызваленчай барацьбы царызм вымушаны быў абвясціць так званы «Закон аб свабодзе друку», што паспрыяла адраджэнню ў Заходнім Краі кнігадрукавання, і на беларускай мове з'явіліся легальныя газеты і часопісы, арыгінальныя і перакладныя кнігі і брашуры навуковага, навукова-папулярнага і навучальнага характару. Так, у пачатку XX ст. беларуская літаратурная мова пашырыла сферу свайго выкарыстання і сістэма сродкаў моўнага выказвання ўзбагачалася лексічнымі адзінкамі намінатыўна-тэрміналагічнага характару. Адметнай асаблівасцю кніг і брашур, навучальных дапаможнікаў, допісаў і паведамленняў, артыкулаў і нарысаў, змешчаных на старонках газет і часопісаў, было тое, што ўсе яны адрасаваліся маладасведчанаму чытачу, таму асноўнай крыніцай моўных сродкаў, у тым ліку слоў, якія выкарыстоўваліся ў функцыі тэрмінаў, была жывая народная мова. І гэта заканамерна, бо развіццё навукі заўсёды пачынаецца з таго, што ўжо здабыта мысленнем народа ў працэсе практычнага пазнання свету, асэнсавана і адлюстравана ў мове. Не выпадкова тагачасныя беларускія грамадска-палітычныя і культурныя дзеячы змагаліся за неад'емнае права беларускага народа мець школу на роднай мове, заклікалі рупліва збіраць словы ў розных рэгіёнах Беларусі і на гэтай аснове ствараць беларускую літаратурную

мову[1]. Аб’ектыўна яно так і адбывалася, у выніку чаго для абазначэння адных і тых жа спецыяльных, навуковых паняццяў выкарыстоўваліся словы featureрознага паходжання, з рознай унутранай формай, фанетычныя, словаўтваральныя і марфалагічныя варыянты, сінанімічныя і дублетныя найменні. Параўн.: *даход – выгада – вызвалка – дастатак – заработак – заробак – зыск – карысць – навязка – пажыва – польза – прыбытак – прыход – спор, лад – парадак – устрой, араньне – арба – орка – успашка, канчатак – канчук – флексія, акцэнт – націск – нагалосак – ударэньне, акт – абраз – дзея – з’ява – праява – сцэна, джума – чума, землетрасеньне – землятрасеньне – зямлітрасеньне – трасеньне зямлі – страсеньне зямлі – калыханьне зямлі, суша – суш, вітрыоль – вітрыволь – серная кіслата – серны квас, аэроплан – арэоплан – аэростат, аўтамабіль – аўтомобіль* (*самаход*) – *самаход – самокат* (*аўтомобіль*) – *машына* і да т. п. Такая полінайменнасць сведчыць, што намінатыўна тэрміналагічная лексіка ў беларускай мове пачатку XX ст. у функцыянальных адносінах амаль не адрознівалася ад агульнаўжывальнай лексікі, для якой варыянтнасць натуральная з’ява. Не выпадкова выкарыстанне намінатыўна-тэрміналагічных адзінак нярэдка нічым не адрознівалася ад выкарыстання агульнамоўных сінонімаў, напрыклад: *такіе вялікіе <u>даходы</u> хаўруса тлумачацца тым, што гасударство наложыло вялікіе падаткі на прывознае жалеза з заграніцы і ўся Аўстрыя асталася на ласцы хаўруса. Шмат дзе ўжо звярнулі ўвагу на гэткіе страшэнные <u>заробкі</u> хаўрусаў*[2]*; у Японіі на <u>востраве</u> Сакурашыва выбухнуў вулкан. Ад гэтага згарэлі ўсе будынкі на гэтай <u>выспе</u>*[3].

З прыкладаў вынікае таксама і тое, што хоць спецыфіка навуковага стылю паступова ўжо акрэслівалася на фоне адносна развітага стылю мастацкай літаратуры, аднак параўнальна з апошнім агульны «воблік» мовы спецыяльных, навуковых і навукова-папулярных тэкстаў характарызаваўся большай канвергенцыяй, чым дывергенцыяй. Гэта значыць, што стылістычна маркіраваныя ўласцівасці тэрміналагічнай лексікі яшчэ не вызначыліся. З’явы і паняцці той ці іншай галіны ведаў не разглядаліся сістэмна, таму, па-першае, агульнаўжывальная лексіка, якая выкарыстоўвалася ў якасці матэрыяльнай субстанцыі для тэрміналогіі нашаніўскага перыяду, задавала намінатыўна-тэрміналагічнай лексіцы свае «правілы» арганізацыі і функцыянавання, а па-другое, аўтары пры стварэнні тэрмінаў абапіраліся, як правіла, на сэнсавы аб’ём агульнаўжывальных слоў і не выходзілі пры стварэнні тэрмінаў за межы існуючых моўных формаў і моўных сродкаў выражэння сэнсавага зместу. Усё гэта ў значнай ступені абумовіла стыхійны характар фарміравання намінатыўна-тэрміналагічнай лексікі ў беларускай літаратурнай мове пачатку XX ст.

---

[1] Гл., напрыклад: Наша ніва. – 1908. – № 2; Лучынка. – 1914. – № 4. – С. 36.
[2] Наша ніва. – 1910. – № 39.
[3] Bielarus. – 1914. – № 2.

І ўсё-такі ўжо ў той час, калі сутнасць тэрміна як адзінкі своеасаблівай семіятычнай прыроды яшчэ нярэдка не ўсведамлялася і не асэнсоўвалася, у моўнай практыцы акрэсліваліся, хоць яшчэ і не вельмі выразна, такія істотныя ўласцівасці тэрмінаў, як прадметна-лагічная, паняццевая аснова іх семантычнага зместу і сістэмнасць, параўн.: *складаньне, адлічаньне, множаньне, дзяленьне; дробня, дробня правільная, дробня няправільная; птушкі, птушкі зернеядныя, птушкі кузулькаядныя; жніваярка, касярка, сявалка* і да т. п. Значыць, у пачатку XX ст. у працэс тэрмінатворчасці ўступала і другая дзейная сіла – кіруемасць. Гэта дае падставу гаварыць, што «Ні адна новая з'ява ў мове не ўзнікае абсалютна стыхійна і ні адна не з'яўляецца прадуктам ні ад чаго не залежнай ініцыятывы. Заўсёды ў той ці іншай меры прысутнічаюць абодва гэтыя кампаненты – і стыхійнасць і кіруемасць»[1].

Кіруемасць у адносінах да лексікі беларускай літаратурнай мовы, у тым ліку намінатыўна-тэрміналагічнай, праяўлялася найперш у арыентацыі на ўласныя моўныя рэсурсы і на неабходнасць выбару з шэрагу лексічных адзінак найбольш пашыранага наймення, пра што сведчыць вядомае выказванне М. Гарэцкага.

Такім чынам, асноўны прынцып фарміравання беларускай нацыянальнай тэрміналогіі вызначыўся ў нашаніўскі перыяд і ў пэўнай меры ажыццяўляўся шляхам увядзення ў сферу спецыяльнай камунікацыі агульнаўжывальных (*бялок, возера, воспа, гук, даход, жаўтуха, жолаб, завязка, квас, корань, месяц, плесень, почка*), дыялектных (*атлега, заліва, маланьня, шал*) і прастамоўных (*атрута, кіла, ліхаманка, пошэсьць, трасца*) слоў; шляхам дэрывацыі (*адлічаньне, злічво, зорнік, множаньне*); шляхам марфалагічнага (*абвестка – obwieszczenie, аднаўладзтва – единовластие*) і семантычнага (*дух – газ, жар – тэмпература*) калькавання; шляхам стварэння апісальных найменняў (*выбарныя людзі, скацінны доктар, песьня калысковая*). І хоць далёка не ўсе намінатыўна-тэрміналагічныя адзінкі нашаніўскага перыяду аказаліся ўдалымі, менавіта ў той час былі зроблены першыя крокі на шляху свядомай дзейнасці ў галіне нацыянальнай тэрмінатворчасці.

Актыўная свядомая і мэтанакіраваная тэрмінатворчасць разгарнулася ў 20-х гадах XX ст., калі ў 1921 г. распачала сваю дзейнасць Навукова-тэрміналагічная камісія. Асноўны метадалагічны прынцып сваёй дзейнасці камісія акрэсліла наступным чынам: «Што датыча самога характару тэрмінолёгіі, то ў аснову яе браліся словы, існуючыя ў народнай мове...»[2] Разам з тым прэзідыум камісіі падкрэсліваў: «Само сабой зразумела, што камісія павінна была браць і чужыя словы. Але гэта рабілася тады, калі 1) у народнай мове ня было адпаведнага беларускага тэрміну, 2) калі ўтвораныя нэолёгізмы былі натта

---

[1] *Аврорин В. А.* Проблемы изучения функциональной стороны языка. – М., 1975. – С. 163.

[2] Вестник Народного Комиссариата просвещения ССРБ : Беларускі аддзел. – Мінск, 1921. – № 2. – С. 11.

штучныя й 3) калі гэтыя чужаземныя словы былі пашыраны ў мовах культурных народаў»[1]. З гэтага вынікае, што на самым пачатку свядомай тэрмінатворчасці вызначальным у беларускай нацыянальнай літаратурнай мове стаў прынцып максімальнага выкарыстання ўласных лексічных і словаўтваральных рэсурсаў пры мінімальным праяўленні прынцыпа арыентацыі на іншамоўныя тэрміны інтэрнацыянальнага характару. Не выпадкова адзін са стваральнікаў матэматычнай тэрміналогіі сцвярджаў: «Падходзячы да разгляду й вытварэньня асноў беларускае матэматычнае тэрміналёгіі, трэба заўважыць, што асноўныя матэматычныя разуменьні знаходзяцца ў народнай мове і толькі трэба пастарацца іх адтуль узяць; што-ж тычыцца больш складаных матэматычных разуменьняў, то тэрміны для іх павінны быць створаны на аснове народнай мовы й толькі ў крайнім выпадку можна карыстацца клясычнымі або чужаземнымі»[2]. У такім напрамку і працавалі члены Навукова-тэрміналагічнай камісіі, якія падрыхтавалі і апублікавалі 8 тэрміналагічных слоўнікаў па граматыцы, логіцы, арыфметыцы, алгебры, батаніцы, геаметрыі, аналітычнай геаметрыі, трыганаметрыі[3], а затым – супрацоўнікі створанага ў 1922 г. на базе памянёнай камісіі Інстытута беларускай культуры, што распрацавалі тэрміналогію па розных галінах ведаў і выдалі ў 24 выпусках у серыі «Беларуская навуковая тэрміналогія» (1922–1930).

Прынцып арыентацыі на ўнутрымоўныя структурна-семантычныя магчымасці ажыццяўляўся:

1) шляхам увядзення ў склад той ці іншай тэрмінасістэмы агульнаўжывальных слоў тыпу: *лад, стан* – у мовазнаўчай тэрміналогіі; *довад, спроба* – у лагічнай; *астача, велічыня* – у арыфметычнай; *аснова, заданне, корань* – у алгебраічнай; *бок, кант, круг, стажок* – у геаметрычнай і г. д. Сутнасць тэрміналагізацыі падобных слоў зводзіцца да выкарыстання заключанай у іх лексічным значэнні адной з дыферэнцыяльных прымет, якая служыць у якасці «агульнай ідэі» для фарміравання тэрміналагічнага значэння з больш канкрэтнымі і дакладнымі параметрамі зместу адпаведнага паняцця;

2) шляхам выкарыстання тэрытарыяльна абмежаваных слоў, напрыклад: *дзяркач* (*драч*)*, грыбня* (*грыбніца*)*, жыжкі* (*вадкасці*)*, сявярня* (*сеялка*)*, цягліца* (*мышца*) і інш. Тэрміналагічнае значэнне ў іх фарміравалася, як і ў агульнаўжывальных словах;

3) шляхам стварэння шматлікіх неалагізмаў, сярод якіх розныя ў структурных адносінах простыя, складаныя і састаўныя тэрміны, напрыклад: *выклічча* (*выклічнік*)*, двукоссе, пабочны сказ, сказоўнік* (*прэдыкат*)*, ступеня-*

---

[1] Вестник Народного Комиссариата просвещения ССРБ : Беларускі аддзел. – Мінск, 1921. – № 2. – С. 11–12.

[2] *Більдзюкевіч Л.* Асновы беларускае матэматычнае тэрмінолёгіі // Школа и культура Советской Белоруссии: Беларускі аддзел. – Мінск, 1921. – № 1–2. – С. 23.

[3] Вестник Народного Комиссариата просвещения ССРБ : Беларускі аддзел. – Мінск, 1921. – № 1/13, 2; 1922. – № 2/4, 3–4, 5–6, 9–10, 11–12.

*ваньне, назоўнік дробу, абшарнікі* (*аграрыі*)*, упраўнік* (*адміністратар*)*, супраціўніцтва* (*антаганізм*)*, знадворная бясьпека* (*знешняя бяспека*) і інш.;

4) шляхам калькавання, сутнасць якога заключаецца ў тым, што ў адных выпадках новыя тэрміны ствараліся на базе ўласнабеларускіх моўных сродкаў, але на ўзор іншамоўных слоў (словаўтваральныя калькі і паўкалькі), а ў іншых уласнабеларускія словы набывалі такое новае тэрміналагічнае значэнне, якое было ўласціва адпаведным словам у іншых мовах (семантычныя калькі), напрыклад: а) *вытворны* – производный, *дапасаванне* – согласование, *пералюдненьне* – перенаселение, *дзеяслоў* – дієслово, *наземны* – польск. poziomy, *мімасяроднік* – лац. ex – з, па-за – centrum – цэнтр = эксцэнтрысітэт; б) *акалічнасць* – обстоятельство, *прамень* – луч, *крыніца* – источник і да т. п.

Пра імкненне як мага шырэй выкарыстаць уласныя моўныя рэсурсы сведчыць і тое, што нярэдка ў беларускамоўнай частцы слоўнікаў прыводзіліся ўласнабеларускі неалагізм і іншамоўны тэрмін. Такі кампраміс дапускаўся ў асабліва спрэчных выпадках, напрыклад: *учалавечваньне, антрапоморфізм; прыпадабленьне, асыміляцыя; бязбожжа, атэізм; ваднічок, вакуоля; двупастацёвасьць, дыморфізм; аксіома, пэўнік; біном, двохчлен; ускосіна, дыяганаль; прамер, дыяметр* і г. д. Не выключана, што пры гэтым функцыя іншамоўнага тэрміна зводзілася да таго, каб ён садзейнічаў замацаванню за беларускім тэрмінам-неалагізмам адпаведнага тэрміналагічнага значэння. На такую думку наводзіць выказванне С. Некрашэвіча, які сцвярджаў наступнае: «Чужаземныя словы ў нашай літаратурнай мове ня роўнапраўныя члены моўнай сям'і, а выпадковыя госьці, якія сягодня ёсьць, а заўтра могуць зьнікнуць. Апрача таго, прымаючы пад увагу нашу агульную тэндэнцыю да высяленьня з нашай мовы чужаземнай стыхіі, да замены, такім чынам, чужаземных слоў сваімі, беларускімі, гэты прынцып можа мець моцную падставу ў нашай цяперашняй практыцы, задаваляючы ў той-жа час жаданьням большасьці беларускага грамадзянства»[1].

Увогуле, арыентацыя на ўласныя лексічныя і словаўтваральныя сродкі была цалкам апраўданай. І хоць колькасць слоў з жывой народнай мовы, а таксама неалагізмаў, створаных на іх аснове, у розных галіновых тэрміналогіях была неаднолькавай, галоўны метадалагічны прынцып у асноўным вытрымліваўся паслядоўна. Гэта давала творцам нацыянальнай тэрміналогіі магчымасць актывізаваць патэнцыяльныя рэсурсы роднай мовы для поўнамаштабнай іх рэалізацыі ў новай функцыянальнай сферы. Аднак празмернае імкненне пазбегнуць іншамоўных тэрмінаў (а гэта былі, як правіла, тэрміны інтэрнацыянальнага характару) нярэдка перарастала ў прынцып выключнага выкарыстання ўласных рэсурсаў. Звяртаючы на гэта ўвагу, У. І. Пічэта пісаў: «Безумоўна, гэта рух сільны і часткова здаровы, паколькі ачышчэнне мовы ад іншамоўных элементаў дае магчымасць пранікнуць у крыніцы сваёй мовы і ў

[1] *Некрашэвіч С.* Да пытання аб укладанні слоўніка жывой беларускай мовы // Полымя. – 1925. – № 5. – С. 176.

іх знайсці матэрыял для тэрміналагічнай творчасці», – і пры гэтым падкрэсліваў: «Зразумела, і гэтаму зусім законнаму і мэтазгоднаму захапленню ёсць свае межы, пераходзіць якія было б наіўна і смешна»[1].

Выхад за межы мэтазгоднага праявіўся ў тым, што:

1) функцыі тэрміна надаваліся часам вузкадыялектным і прастамоўным словам з невыразнай унутранай формай: *галота* (паўперызм), *каманішнік* (сівец), *пушачка* (каробачка);

2) ствараліся невыразныя сваім паняційным зместам неалагізмы: *ліськцень* (семядоля), *паросьля* (слаявішча), *вызыск* (эксплуатацыя);

3) тэрміны-інтэрнацыяналізмы замяняліся невыразнымі ў сэнсавых адносінах перакладамі: *самарух* (аўтаматызм), *рознагалоссе* (дысананс), *сусьветнік* (касмапаліт), *здань* (галюцынацыя), *заскарбаваньне* (канфіскацыя), *умяшальнасьць* (інтэрвенцыя);

4) ствараліся няўдалыя калькі, якія не выражалі сутнасці паняцця: *семяложак* – семяносец, *стачкалом* – ням. Streik – стачка і brechen – ламаць.

Калі ж разглядаць тэрміны з пазіцый тэрміназнаўчай тэорыі, то можна адзначыць такія недахопы:

1) тэрміны, што суадносіліся з паняццямі розных класіфікацыйных радоў, іншы раз ствараліся пры дапамозе аднаго і таго ж дэрывацыйнага сродку, параўн.: *венчиковидный, воронкообразный, дугонервный, зубчатый, кожистый, перистый, язычковый і – вяночкаваты, лейкаваты, дугажылкаваты, зубкаваты, скураваты, перкаваты, язычкаваты*;

2) не заўсёды вытрымліваўся прынцып сістэмнасці пры ўтварэнні суадносных у паняццевым плане тэрмінаў, напрыклад: *столбик – шыйка,* але *столбчатая ткань – слупкаватая тканка.* Дарэчы, гэты недахоп адзначаў М. Байкоў, а ў якасці прыкладаў прыводзіў і параўноўваў тэрміны *оптимизм – сьветлагляднасьць, оптимист – сьветлаглядца* і суадносныя з імі антанімічныя тэрміны *пессимизм – смутнагляд, пессимист – смутнаглядпік; ассонанс – сугалосьсе* і *диссонанс – рознагучнасьць.* Падобную з’яву вучоны разглядаў як «адсутнасьць здавальняючай пасьлядоўнасьці»[2];

3) у некаторых выпадках творцы розных галіновых тэрміналогій для выражэння адных і тых жа паняццяў ці аднатыпных адносін выкарыстоўвалі розныя структурныя варыянты тэрмінаў, параўн.: *прарадзіма* (гіст.) і *першамова* (мовазн.); *тожсамы, тожсамасьць* (мат.) і *тоесамы, тоесамасьць* (літ.); *прыпадабленьне* (грамадазн.) і *прыпадабненьне* (мовазн.) і да т. п. На гэта таксама звярнуў увагу М. Байкоў, адзначыўшы «нязгоднасьць» паміж матэматычнай і літаратурнай тэрміналогіямі[3];

---

[1] *Пичета В. И.* Белорусский язык как фактор национально-культурный. – Минск, 1924. – С. 11.

[2] Аглядальнік. Некаторыя ўвагі на беларускую літаратурную тэрмінолёгію // Полымя. – 1923. – № 7–8. – С. 82–83.

[3] Аглядальнік. Некаторыя ўвагі на беларускую літаратурную тэрмінолёгію // Полымя. – 1923. – № 7–8. – С. 84.

4) не заўсёды вытрымлівалася патрабаванне кананічнасці тэрмінаў (адзін тэрмін – адно паняцце), таму іншы раз для абазначэння аднаго паняцця прапаноўваліся розныя тэрміны ці іх варыянты (*гарбок і гарбінка, жыўчык і зароднік, паростак і гучок, адростак і атожылак*) або адзін тэрмін – для абазначэння розных паняццяў (*вольнапялёсткавы вяночак – раздельнолепестный і свободнолепестный; злучальны – соединительный, соединяющий і сочетательный; вобраз – изображение і образ*).

Адзначаныя недахопы ў распрацоўцы беларускай нацыянальнай тэрміналогіі ў 1920-я гг. былі абумоўлены як аб'ектыўнымі, так і суб'ектыўнымі фактарамі.

Свядома арыентуючыся на лексіку тагачаснай пісьмовай і жывой народнай мовы, немагчыма было ва ўмовах паскоранай тэрмінатворчасці беспамылкова вырашыць на практыцы праблему распрацоўкі нацыянальнай тэрміналогіі. Складанасць яе вырашэння заключалася, з аднаго боку, у недастатковай ступені развіцця лексіка-семантычнай сістэмы мовы, а з другога – у недастатковым веданні гэтай сістэмы, яе слова- і формаўтваральных сродкаў (адсутнічалі грунтоўныя лексікаграфічныя даведнікі па лексіцы як літаратурнай мовы, так і жывых народных гаворак).

Ва ўмовах паскоранай распрацоўкі тэрміналагічнай лексікі не заўсёды належным чынам асэнсоўваліся сутнасць тэрміналагічных значэнняў і асаблівасці іх узаемадзеяння з традыцыйнай семантычнай сістэмай мовы.

Сфера функцыянавання не вызначалася строгай паслядоўнасцю ва ўжыванні тэрмінаў і таму не магла аказаць істотнага ўплыву на ўпарадкаванне тэрміналагічнай сістэмы.

Пры распрацоўцы галіновых тэрміналогій яе творцы ішлі не ад сістэмы паняццяў, а ад спісу тэрмінаў рускай мовы, таму асобныя неалагізмы ствараліся без папярэдняга аналізу суадносін паміж паняццямі і найбольш адэкватнымі сродкамі іх выражэння ў беларускай мове.

Адзначаныя фактары аб'ектыўна стрымлівалі працэс упарадкавання беларускай тэрміналагічнай лексікі ў 1920-х гг. Гэта не садзейнічала ўзмацненню кантралюемых працэсаў тэрмінаўтварэння і абмежаванню тых структурна-марфалагічных і лексіка-семантычных уласцівасцей, якія характэрны для натуральнага ходу развіцця лексічнай сістэмы.

Разглядаючы з пазіцый сучаснага тэрміназнаўства набыткі тэрмінатворчай дзейнасці Навукова-тэрміналагічнай камісіі і Інстытута беларускай культуры, неабходна адзначыць, што шматлікія тэрміны, створаныя на ўласнай лексічнай аснове ці запазычаныя з іншых моў, вытрымалі выпрабаванне часам і замацаваліся ў беларускай мове як сродкі намінацыі і дэфініцыі адпаведных навуковых паняццяў: *абвяржэнне, адначлен, бялок, вяночак, дзеяслоў, залежнасць, здабытак, лічнік дробу, супярэчнасць, умоўны лад; азімут, аксіёма, лагарыфм, модуль, планктон, сілагізм, суфікс* і г. д. Акрамя таго, многія намінатыўна-тэрміналагічныя адзінкі, створаныя у 1920-х гг., удакладнілі ў працэсе развіцця мовы сваю структуру і сэнсавы змест: *апылка-*

*ванне – апыленне, запладненне – апладненне, лінія перасеку – лінія перасячэння, васьмісьценьнік – васьміграннік* і да т. п.

Вядома, шмат якія тэрміны, прапанаваныя аўтарамі тэрміналагічных праектаў, аказаліся нежыццяздольнымі. Аднак сёння заганы і хібы мы павінны разглядаць не як злосную наццдэмаўшчыну, а як аб’ектыўны вынік імклівага развіцця, што перажывала беларуская мова ў перыяд беларусізацыі. З поўным правам на зыходзе XX ст. мы можам сказаць, што ў 1920-х гг. былі правільна акрэслены мэты, задачы, прынцыпы і шляхі распрацоўкі тэрміналогіі, якія могуць быць сфармуляваны наступным чынам: тэрміналогія павінна быць упарадкаванай па змесце і нацыянальнай па сваёй форме, г. зн. па мове.

# НАВУКОВЫ СТЫЛЬ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ*

Асноўныя функцыі мовы навуковых тэкстаў – гэта функцыі аб’ектывацыі і перадачы навуковых ведаў. Таму асноўнымі жанрамі навуковага стылю з’яўляюцца манаграфіі, навуковыя артыкулы (для некаторых галін ведаў у беларускай навуковай літаратуры гэта асноўны жанр), падручнікі і дапаможнікі, дысертацыі, рэцэнзіі, рэфераты, агляды. Кагнітыўная і камунікатыўная функцыі абумоўліваюць адбор адпаведных моўных сродкаў, спецыфіку мовы навуковых тэкстаў. Значыць, у мове гэтых тэкстаў выкарыстоўваюцца такія сродкі, якія адпавядаюць універсальным стылярысам навуковага стылю, самымі істотнымі з якіх з’яўляюцца аб’ектыўнасць, дакладнасць, лагічнасць, абагульненасць.

Дакладнасцю і аб’ектыўнасцю абумоўлена тэрміналагічнасць і кніжнасць лексікі навуковага стылю. У аналізуемых намі фрагментах тэкстаў 1940–1990-х гг. даволі шырока выкарыстоўваюцца навуковыя тэрміны як знакі спецыяльнай семіятычнай сістэмы, з якімі працуе вучоны і якія з’яўляюцца элементамі яго навуковай праблематыкі (параўн.: *гібрыд, палігібрыд, пераапылкаванне, зімаўстойлівасць, хуткаспеласць* – у мове вучонага-аграрыя; *быццё сацыяльнае, ідэалогія, рабочы клас, рэвалюцыйны клас, марксізм, сацыяльна-палітычная тэорыя, дагматызм, крэатыўная філасофія* – у мове філосафа, сацыёлага, гісторыка; *нябесная сфера, сузор’е, задыяк, зорка звышновая, нябеснае свяціла* – астранома; *пігмент, пластыда, флюарысцэнцыя, хларапласт, ліпоід, дзеянне імунамадулярнае, біялагічная актыўнасць* – біёлага; *радыеактыўны распад, выпраменьванне, іанізацыя, хуткія электроны* – радыёлага; *вытворчыя адносіны, сродкі вытворчасці, заработная плата, затраты працы, банкрут* – палітэканома; *малекула, дыпольны момант, рэнтгенаструктурны аналіз, газавая фа-*

* Першая публікацыя ў выданні: Беларуская мова ў другой палове XX ст. : матэрыялы міжнар. навук. канф. (Мінск, 22–24 кастр. 1997 г.). – Мінск, 1998. – С. 16–19.

*за* – хіміка; *аксіёма, вектарная алгебра, мнагасклад, мноства аднаэлементнае*– матэматыка і г. д.). Значны ў навуковым стылі пласт так званых кніжных слоў, што складаюць лексічныя адзінкі намінатыўна-тэрміналагічнага характару, якія непасрэдна не з'яўляюцца элементамі навуковай праблематыкі вучонага, але без якіх таксама нельга стварыць навуковы тэкст. Гэта словы тыпу *аб'ект, аналіз, дослед, прыбор, вывад, будова, састаў, гіпотэза, задача, працэс, схема, сістэма, форма, тэорыя, уплыў, кампанент, падтып, тып, этап, група, від, род, прадукт, матэрыял, напрамак, даследаванне* і да т. п. Пры гэтым, як сведчаць прыведзеныя прыклады, вялікую ўдзельную вагу сярод тэрмінаў і кніжных слоў складаюць інтэрнацыяналізмы.

Імкненнем да аб'ектыўнасці і дакладнасці тлумачыцца спецыялізацыя агульнаўжывальных слоў у навуковым кантэксце. Сутнаць гэтага працэсу заключаецца ў тым, што ў навуковым стылі значэнне агульнаўжывальнага слова абмяжоўваецца, звужаецца яго семантычны аб'ём, у нейкай меры нейтралізуецца ўнутраная форма, у выніку чаго слова набывае спецыяльнае значэнне і як бы адасабляецца ад слоў агульналітаратурнай мовы, напрыклад: корань (у батаніцы – «падземная частка расліны», у матэматыцы – «матэматычная велічыня, якая пры ўзвядзенні яе ў пэўную ступень дае даны лік»), клетка (у прыродазнаўстве – «элементарная адзінка будовы арганізма, якая складаецца з ядра, пратаплазмы і абалонкі») і пад. Такія словы складаюць у навуковым стылі хоць і нязначны, але своеасаблівы аўтаномны пласт. У навуковым кантэксце іх звычайны агульнавядомы сэнс як бы адыходзіць на перыферыю семантычнай структуры, а па-за навуковым тэкстам ажывае іх бытавая выразнасць.

Адметны пласт слоў складаюць дзеясловы агульнай семантыкі, якія ў навуковым стылі дэсемантызуюцца поўнасцю ці часткова і выступаюць у ролі звязкавых элементаў, напрыклад: *Адным з момантаў, які садзейнічае запушчэнню, незвяртанню ўвагі на паяўленне ракавай пухліны, з'яўляецца адсутнасць боляў. Гэты комплекс прадстаўляе сабой няўстойлівае злучэнне пігментаў, бялкоў і ліпоідаў вельмі рознага характару...* Відавочна, што выдзеленыя дзеясловы значэння дзеяння не выражаюць, яно ў прыведзеных кантэкстах дэсемантызавалася, аб чым сведчыць магчымасць іх замены фармальнай звязкай ёсць. Падобную функцыю выконваюць таксама словы *выражаць, вынікаць, дазваляць, існаваць, мець, прымяняць, складаць, служыць, уяўляць сабой* і інш.

Што ж датычыць змен, якія адбыліся ў навуковым стылі за апошнія 50 гадоў на ўзроўні лексікі, то найбольш прыкметнымі з'яўляюцца наступныя. Па меры фарміравання і развіцця навуковага стылю расла ўдзельная вага тэрміналагічнай і кніжнай лексікі. Так, у аналізуемых фрагментах тэкстаў 1940-х гг. каэфіцыент тэрміналагічнасці (адносіны колькасці ўжыванняў знамянальных слоў) у залежнасці ад функцыянальных варыянтаў стылю вагаўся ад 0,14 (прыродазнаўчая тэматыка) да 0,28 (спецыяльная медыцынская літаратура), а ў сярэднім ён аказаўся роўны 0,19. У фрагментах тэкстаў

1970-х гг. гэтыя паказчыкі адпаведна роўныя 0,17 (фізіка): 0,31 (палітэканомія): 0,26, а ў фрагментах тэкстаў 1990-х гг. адпаведна 0,26 (філасофія і сацыялогія): 0,46 (матэматыка): 0,29. Гэта значыць, што насычанасць навуковых тэкстаў тэрміналагічнай лексікай у другой палавіне XX ст. павялічылася ў 1,5.

Доля кніжнай лексікі таксама павялічылася. Калі ў тэкстах 1940-х гг. агульналітаратурныя знамянальныя словы па ўжывальнасці пераважалі (1,45:1), то ўжо ў тэкстах 1970-х гг. суадносіны змяніліся на карысць кніжных слоў (1: 1,25), а ў тэкстах 1990-х гг. гэтыя суадносіны яшчэ больш узраслі (1 : 2,5). Такім чынам, доля кніжных слоў у лексічным складзе навуковага стылю ўзрасла ўтрая.

Характэрны для развіцця навуковага стылю таксама рост выкарыстання запазычанай лексікі. Праўда, у тэкстах 1940-х і 1970-х гг. сярод тэрмінаў і кніжных слоў у генетычных адносінах нязначную перавагу ва ўжыванні мелі спрадвечна- і ўласнабеларускія лексемы, да якіх мы аднеслі таксама словы, утвораныя на аснове запазычанняў, але з дапамогай уласных словаўтваральных сродкаў (1,3: 1), а ў 1990-х гг. ужо часцей ужываліся іншамоўныя словы (1,25:1). Сярод запазычанняў даволі значная колькасць слоў-інтэрнацыяналізмаў: 1940-я гг. – 55 %, 1970-я – 57 %, 1990-я – 65 %.

Ужыванне вялікай колькасці тэрмінаў і кніжных слоў міжнароднага тэрміналагічнага фонду, рост у іх саставе інтэрнацыяналізмаў сведчыць аб набліжэнні навуковага стылю беларускай літаратурнай мовы да міжнародных стандартаў і разам з тым аб яго адасабленні, адчужэнні ад агульнаўжывальных сродкаў моўнага выражэння.

Сустракаюцца ў навуковых тэкстах сінонімы (у тым ліку тэкставыя), дублеты, словаўтваральныя варыянты тыпу: *перанос – метастаза, эрозіі – з'язванні, ракавая пухліна – злаякасная пухліна – пухліна, вешчаство – элемент, Луна – Месяц, шлях – круг, мінеральныя солі – солі, частка – частачка, часціца – часцінка*. Але ад гэтых з'яў навуковы стыль паступова пазбаўляўся. Калі на матэрыяле 1940-х гг. каэфіцыент сінанімічнасці, дублетнасці і варыянтнасці быў роўны 0,19, то ў далейшым ён паступова панізіўся да 0,1 (1970-я гг.) і 0,04 (1990-я гг.).

Адсутнасцю сінонімаў, у сваю чаргу, а таксама патрабаваннем дакладнасці тлумачыцца высокая частотнасць у тэкстах навуковага стылю ключавых тэрмінаў і кніжных слоў. Напрыклад, у фрагментах тэкстаў на адпаведную тэматыку тэрмін *зорка* ўжыты 29 разоў, *планета* – 12, *эрытрацыты* – 21, *рак* – 16, *амінакіслоты* – 16, *элемент* – 22, *малекула* – 15, *лік* – 18, *вектар* – 14, *вытворчасць* – 11 і г. д.

Адметная асаблівасць мовы навукі – яе намінатыўнасць (субстантыўнасць, іменны характар), таму істотнай асаблівасцю навуковага стылю з'яўляецца перавага ва ўжыванні назоўнікаў і прыметнікаў над дзеясловамі. Назоўнікі ў фрагментах тэкстаў 1940-х гг. складаюць 34,8 % словаўжыванняў, а па частотнасці ўжывання яны пераўзыходзяць дзеясловы амаль у чатыры

разы (3,84). Па меры развіцця навуковага стылю доля словаўжываннняў назоўнікаў павялічылася да 39,3 % (1970-я гг.) і 42,1 % (1990-я гг.), а суадносіны назоўнікаў і дзеясловаў склалі адпаведна 4,5 : 1 і 3,9 : 1. Суадносіны прыметнікаў да дзеясловаў выражаюцца лічбамі 1,6 : 1. Падобная перавага назоўнікаў і прыметнікаў над дзеясловамі абумоўлена тым, што галоўная мэта навуковага стылю – дакладна назваць і апісаць з'яву. Пры гэтым характэрна, што ў складзе імёнаў павялічылася доля слоў з тэрміналагічным значэннем: для назоўнікаў дынаміку змен па храналагічных зрэзах адлюстроўваюць такія сярэднія паказчыкі ў працэнтах: 49,6 – 52,9 – 62,9; а для прыметнікаў: 52,8 – 58,1 – 60,3.

Змены ва ўжыванні знамянальных і службовых слоў характарызуюцца наступнымі суадносінамі: 4,3:1, 4,7:1 і 4,6:1.

Лагічнасць і дакладнасць вызначаюць характэрныя для навуковага стылю сінтаксічныя асаблівасці: апісальны лад выкладу, выкарыстанне пераважна поўных апавядальных сказаў, ужыванне пасіўных канструкцый, перавага злучнікавай сувязі над бяззлучнікавай, разнастайнасць сродкаў ускладнення структуры сказа, прыкметная доля складаназалежных сказаў з даданымі часткамі дапаўняльнымі, азначальнымі, мэты і ўмовы, строгая лагічная паслядоўнасць і цесная сувязь асобных сказаў і частак тэксту, яго лінейны, ланцужковы від, аб'ектыўны парадак слоў.

Змены, што адбыліся ў навуковым стылі за апошнія 50 гадоў на ўзроўні сінтаксісу праявіліся найперш у суадносінах простых і складаных сказаў і ў скарачэнні лінейнай працягласці сказаў. У фрагментах тэкстаў 1940-х гг. суадносіны простых і складаных сказаў выражаюцца ў сярэднім такімі лічбамі: 0,95: 1 (мінімальная перавага складаных сказаў). У далейшым гэтыя суадносіны пачалі пастуова змяняцца на карысць простых сказаў: 1970-я гг. – 1,15 : 1; 1990-я гг. – 1,76 : 1 (толькі ў адным фрагменце мінімальная перавага складаных сказаў – 0,93 :1).

Сярэдні памер цэльных сказаў (ад кропкі да кропкі), г. зн. сярэдняя колькасць слоў у простых (ПС) і складаных (СС) сказах па вызначаных параметрах спачатку некалькі павялічыўся, а пасля скараціўся. Падобная з'ява назіраецца і ў змяненні сярэдняга памеру прэдыкатыўных частак (ПЧ) складаных сказаў; простых сказаў і прэдыкатыўных частак складаных сказаў, узятых разам, г. зн. элементарных сказаў (ЭС).

Важнымі паказчыкамі дынамікі змянення памераў і складанасці сказа з'яўляюцца: сярэдняя складанасць (адносіны прэдыкатыўных частак складаных сказаў да колькасці складаных сказаў), каэфіцыент складанасці (адносіны элементарных сказаў да колькасці цэльных сказаў), каэфіцыент складаназалежнасці (адносіны залежных частак складаных сказаў да элементарных сказаў)[1].

Колькаснае выражэнне вышэйназваных характарыстык ілюструецца наступнымі стылестатыстычнымі паказчыкамі:

---

[1] *Адмони В. Г.* Развитие структуры предложения в период формирования немецкого национального языка. – Л., 1966.

| Храналогія | Сярэдні памер | | | | Сярэдняя складанасць | Каэфіцыент складанасці | Каэфіцыент складаназалежнасці |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ЭС | ПС | СС | ПЧ | | | |
| 1940-я гг. | 12,0 | 13,6 | 25,4 | 10,5 | 2,3 | 1,5 | 0,32 |
| 1970-я гг. | 14,5 | 16,9 | 28,5 | 12,1 | 2,4 | 1,8 | 0,34 |
| 1990-я гг. | 12,2 | 14,3 | 21,5 | 10,2 | 2,2 | 1,4 | 0,25 |

Усе паказчыкі сведчаць пра тое, што ў 1970-я гг. у параўнанні з 1940-мі павялічылася сярэдняя лінейная працягласць сказаў, складанасць сінтаксічнага ладу мовы навукі. На працягу наступных дваццаці гадоў выявілася тэндэнцыя да спрашчэння сінтаксісу навуковага стылю. Гэта праявілася таксама ў змяненні інтэрвалаў паміж мінімальнымі і максімальнымі памерамі як простых (ПС), так і складаных сказаў (СС), параўн.:

| Храналогія | Сярэдні інтэрвал | |
|---|---|---|
| | ПС | СС |
| 1940-я гг. | 28,6 | 21,3 |
| 1970-я гг. | 28,0 | 35,5 |
| 1990-я гг. | 21,9 | 30,5 |

Чым растлумачыць падобную дынаміку? На наш погляд, гэта звязана з працэсам станаўлення спосабаў і прыёмаў моўнага выражэння ў навуковай сферы. З аднаго боку, у 1940–1970-х гг. у беларускай мове яшчэ не сфарміраваўся ўстойлівы аўтаматызм сувязі «думка – яе моўнае ўвасабленне», а з другога – нераўнамерным развіццём розных функцыянальных варыянтаў мовы навукі. З’ява кампрэсіі, якая праявілася ў 1990-я гг. – вынік рэалізацыі тэндэнцыі да лагічнасці і дакладнасці ў выражэнні думкі, што сведчыць пра якаснае развіццё навуковага стылю беларускай літаратурнай мовы ў другой палавіне XX ст.

# ФУНКЦЫЯНАЛЬНА-СТЫЛЯВАЯ ДЫФЕРЭНЦЫЯЦЫЯ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ*

## ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ

Адной з галоўных тыпалагічных прымет, якія характарызуюць літаратурную мову як вышэйшую, узорную форму агульнанароднай мовы, з’яўляецца яе стылістычная дыферэнцыяцыя (функцыянальна-стылістычная ва-

* Першая публікацыя ў выданні: Najnowsze dzieje jezykow slowianskich. Беларуская мова. – Opole, 1998. – С. 223–260.

рыятыўнасць, стылістычнае размежаванне, стылістычнае расслаенне). Гэтай прыкметай абумоўлены асаблівасці функцыянавання сродкаў літаратурнай мовы ў залежнасці ад розных камунікатыўных сфер моўных зносін. У моўнай практыцы выпрацоўваюцца найбольш мэтазгодныя спосабы і прыёмы адбору і выкарыстання моўных сродкаў для выражэння ўсяго таго, што важна, што істотна, што неабходна ў адпаведнасці з задачамі камунікатыўных зносін у межах той ці іншай сферы жыцця і дзейнасці грамадства. Так паступова са з'яўленнем тэкстаў розных жанраў акрэсліваюцца і фарміруюцца функцыянальныя разнавіднасці літаратурнай мовы – стылі.

Як адзначаюць даследчыкі, «для фарміравання таго ці іншага стылю недастаткова выдання адной-дзвюх кніг, якія адносяцца, скажам, да навукова-тэхнічнай літаратуры, або ажыццяўлення справаводства, перапіскі і судаводства на працягу некалькіх месяцаў ад выпадку да выпадку. Фарміраванне функцыянальных стыляў залежыць, напрыклад, ад аб'ёму і жанравай своеасаблівасці сістэматычна на працягу доўгага часу выдаваемай літаратуры; ад частотнасці сістэматычнага масавага выкарыстання гэтай літаратуры на працягу доўгага часу; ад тэмпаў і межаў развіцця звязаных з адпаведнай літаратурай і яе прымяненнем грамадскіх функцый мовы. Толькі пры гэтых умовах могуць фарміравацца неабходныя для лінгвістычнай стылістыкі ўстойлівыя стылістычныя апазіцыі...»[1].

Што да беларускай літаратурнай мовы, то яна, развіваючыся ў неспрыяльных сацыяльна-палітычных умовах на працягу XIX – пачатку XX стст., мела надзвычай абмежаваную камунікатыўнасць. Абмежаваным было кола яе носьбітаў, абмежаванымі былі і яе функцыі: беларуская літаратурная мова «выкарыстоўвалася пераважна ў мастацкай літаратуры (галоўным чынам у паэзіі). Стылі публіцыстыкі і навуковай літаратуры ў такіх умовах не маглі атрымаць належнага развіцця. Зусім не вялося на беларускай мове справаводства, не выдаваліся афіцыйныя дакументы»[2].

Пасля працяглага перыяду русіфікатарскай палітыкі царызму ў 20-х гг. XX ст. наступіў час «адраджэння беларускай мовы ва ўсіх сферах зносін як мовы дзяржаўнай»[3]. Беларуская літаратурная мова паўнапраўнай гаспадыняй уваходзіла ў агульнаадукацыйныя школы, сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы, у сферу навукі, і на ёй пачалі з'яўляцца падручнікі, навукова-папулярныя і навуковыя працы. У часы беларусізацыі беларуская мова была аб'яўлена пераважнай у зносінах паміж дзяржаўнымі, прафесіянальнымі і грамадс-

---

[1] *Азимов П., Виноградов В. В., Дешериев Ю. Д., Протченко И. Ф.* Проблемы стилистики в современном языкознании и некоторые вопросы развития стилистических систем литературных языков народов СССР // Развитие стилистических систем литературных языков народов СССР. – Ашхабад, 1968. – С. 38; *Дешериев Д.* Теоретические аспекты изучения социальной обусловленности языка // Влияние социальных факторов на функционирование и развитие языка. – М., 1988. – С. 39.

[2] *Шакун Л. М.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 1984. – С. 282.

[3] Асновы культуры маўлення і стылістыкі. – Мінск, 1992. – С. 25.

кімі арганізацыямі і ўстановамі. На беларускай мове пачалі друкавацца законы, пастановы, указы, загады, акты, даверанасці, рэзалюцыі, пратаколы, справаздачы і г. д. Новымі тэмамі і жанрамі ўзбагачалася мастацкая літаратура, расло майстэрства яе аўтараў. Са з'яўленнем у сталіцы і на перыферыі шматлікіх беларускамоўных газет і часопісаў развіваецца і становіцца больш разнастайнай па тэматыцы і шматграннай па жанравай палітры публіцыстыка. Усё гэта садзейнічала паглыбленню семантычнай і стылістычнай дыферэнцыяцыі моўных сродкаў, у выніку чаго паскорылася фарміраванне ўнутранай функцыянальна-стылістычнай структуры беларускай літаратурнай мовы.

На жаль, перыяд сапраўднага беларускага Рэнесансу аказаўся вельмі кароткім. Жорсткія рэпрэсіі супраць беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі ў 1930-я гг. спынілі працэс вяртання беларускаму народу яго мовы. Аднак вынікі беларусізацыі «сталі фактам сацыякультурнага жыцця, іх ужо нельга было выкрасліць з гісторыі. Вёска, дзе жыла ў 1930–1950-я гг. большасць насельніцтва рэспублікі, вясковая агульнаадукацыйная школа, педтэхнікумы і настаўніцкія інстытуты ў значнай ступені заставаліся беларускамоўнымі. Далучэнне ў верасні 1939 г. Заходняй Беларусі да БССР таксама паўплывала на адносную стабільнасць беларускай мовы і культуры ў краіне»[1]. Ва ўмовах такой адноснай стабільнасці ў асноўным выпрацаваліся ў адпаведных камунікатыўных сферах асобныя функцыянальныя стылі беларускай літаратурнай мовы.

У беларускім мовазнаўстве вылучэнне функцыянальных стыляў літаратурнай мовы з апорай на камунікатыўныя сферы моўных зносін – найбольш пашыраны і навукова абгрунтаваны прынцып[2]. У сферы пісьмова-кніжнага выкарыстання беларускай літаратурнай мовы адрозніваюць, як правіла, навуковы, публіцыстычны, афіцыйна-дзелавы (афіцыйна-справавы) і мастацкі стылі. Такім чынам, пры вылучэнні і класіфікацыі функцыянальных стыляў зыходным крытэрыем з'яўляецца карэляцыя «камунікатыўная сфера – функцыянальны стыль», г. зн. існуе пэўная адпаведнасць паміж сферай навукі, асветы і навуковым стылем, сферай грамадска-палітычнага жыцця і публіцыстычным стылем, сферай справаводства, заканадаўства і афіцыйна-дзелавым стылем, сферай літаратурна-мастацкай творчасці і мастацкім стылем.

Функцыянальныя стылі – гэта найбольш агульныя структурныя і асноўныя сацыяльна значымыя разнавіднасці літаратурнай мовы. У сваю чаргу ў межах кожнага стылю вылучаюцца свае падстылі, для якіх уласцівы пэўныя прыёмы і формы адбору і арганізацыі моўных сродкаў, што адпавядаюць таму ці іншаму тыпу тэкстаў. Так, у сферы навукі і асветы ствараюцца навуко-

---

[1] *Конан У. М.* Беларусізацыя // Беларуская мова : энцыкл. – Мінск, 1994. – С. 80.

[2] *Цікоцкі М. Я.* Стылістыка публіцыстычных жанраў. – Мінск, 1971. – С. 18. Яго ж: Стылістыка беларускай мовы. – Мінск, 1976. – С. 35 (2-е выд. 1995. – С. 246). *Шакун Л. М.* Да характарыстыкі функцыянальных стыляў беларускай мовы // Культура мовы журналіста. – Мінск, 1982. – Вып. 1. – С. 5. Асновы культуры маўлення і стылістыкі. – С. 30.

выя, навукова-папулярныя і вучэбныя тэксты, што дае падставы вылучаць асобныя падстылі: уласна навуковы, навукова-папулярны і навукова-вучэбны, кожны з якіх можна падраздзяляць на асобныя функцыянальныя варыянты па суадносінах з адпаведнай галіной навукі – фізікай, хіміяй, матэматыкай, мовазнаўствам і г. д. Па даных спецыяльнай літаратуры, у наш час налічваецца каля 500 галін навукі, кожная з якіх прадстаўляе спецыфічную сферу чалавечай дзейнасці. Значыць, функцыянальныя разнавіднасці мовы, суадносныя з той ці іншай сферай дзейнасці, мэтамі і задачамі моўных зносін, маюць іерархічную структуру. Аднак што датычыць унутрыстылявой арганізацыі беларускай літаратурнай мовы «ў межах пералічаных вышэй разнавіднасцей, іерархіі і ўзаемадзеяння тых і другіх, набору спецыфічных для кожнага стылю з яго падстылямі моўных сродкаў, магчымасцей пранікнення гэтых сродкаў у "чужыя" стылі і падстылі і г. д., то ўсё гэта пакуль што даволі слаба вывучана ў беларускім мовазнаўстве»[1].

Увогуле ў беларусістыцы даследаванні ў галіне лінгвастылістыкі скіраваны пераважна на пытанні культуры мовы ў аспекце нарматыўных патрабаванняў і на распрацоўку пытанняў дыферэнцыяцыі стыляў, выяўленне і апісанне іх асноўных рэлевантных прымет (стылярыс). Вынікі гэтых даследаванняў, заснаваныя на назіраннях над выбранымі тэкстамі і ў значнай ступені на інтуіцыі, з'яўляюцца пакуль што сціплымі і зводзяцца да характарыстыкі стыляў, іх асноўных моўна-структурных адзнак, што і асвятляецца ў падручніках і дапаможніках па стылістыцы і культуры мовы, а таксама ў асобных тэматычных зборніках[2]. Як сцвярджае М. Г. Булахаў, «да нашага часу ў беларускім мовазнаўстве застаюцца маладаследаванымі не толькі пытанні выбару моўных сродкаў у навуковым, дзелавым, публіцыстычным стылях, але і пытанні вобразнасці беларускай мастацкай літаратуры»[3]. Працэсы ж фарміравання і развіцця стылістычнай сістэмы беларускай літаратурнай мовы, эвалюцыі таго ці іншага стылю ў падручніках і дапаможніках па стылістыцы і культуры мовы не закранаюцца зусім, ды і ў асобных навуковых працах не знайшлі яшчэ належнага асэнсавання і асвятлення. У самым агуль-

---

[1] *Шакун Л. М.* Да характарыстыкі функцыянальных стыляў беларускай мовы. – С. 4.

[2] *Цікоцкі М. Я.* Некаторыя выпадкі стылістычнага выкарыстання сінтаксічных сродкаў беларускай мовы. – Мінск, 1958. Яго ж: Практычная стылістыка беларускай мовы. – Мінск, 1962. – Ч. 1. – 1965. – Ч. 2; Стылістыка беларускай мовы. – Мінск, 1976. – (2-е выд. 1995); Стылістыка публіцыстычных жанраў. – Мінск, 1971; Сугучнасць слоў жывых... Нататкі па стылістыцы мастацкай літаратуры. – Мінск, 1981; *Каурус А. А.* Стылістыка беларускай мовы. – Мінск, 1980. – (2-е выд. 1987); *Юрэвіч А. К.* Стылістыка беларускай мовы. – Мінск, 1983. – (2-е выд. 1992); Асновы культуры маўлення і стылістыкі. – Мінск, 1992; Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 1994.

[3] *Булахов М. Г.* Основные вопросы сопоставительной стилистики русского и белорусского языков. – Минск, 1979. – С. 4.

ным плане пра змены ў стылістычнай сістэме згадваецца ў некаторых працах даследчыкаў гісторыі беларускай літаратурнай мовы[1].

Прасачыць за зменамі, якія адбываюцца ў межах таго ці іншага стылю, даволі складана. Як зазначае В. Ю. Міхальнічэнка, «у сваёй асноўнай масе набор моўных сродкаў, што характарызуюць той ці іншы стыль, на працягу параўнальна кароткага гістарычнага перыяду змяняецца ў нязначнай ступені, таму назіраць эвалюцыю стылю ў межах мікрагісторыі вельмі цяжка, паколькі пераемнасць і традыцыі на гэтым моўным узроўні вельмі ўстойлівыя»[2]. Гэтыя задачы яшчэ больш ускладняюцца ў дачыненні да беларускай літаратурнай мовы, якой давялося развівацца ў вельмі складаных умовах, калі ў «1945–1953 гг. у нацыянальна-моўнай палітыцы пераважала скіраванае на уніфікацыю русіфікатарства», а «пасля смерці Сталіна яно прыняло нерэпрэсіўны, але яшчэ больш шырокі характар»[3]. Таму мы засяродзім нашу ўвагу на некаторых асаблівасцях развіцця функцыянальных стыляў сучаснай беларускай літаратурнай мовы ў другой палове XX ст. Вядома, нашы назіранні, якія грунтуюцца на аналізе асобных фрагментаў пісьмовых тэкстаў таго ці іншага стылю, не могуць даць усебаковага і поўнага ўяўлення аб зменах у стылістычнай сістэме за апошнія пяцьдзесят гадоў, тым не менш яны дазваляюць вызначыць некаторыя тэндэнцыі ў развіцці паасобных стылістычных разнавіднасцей мовы. Пры гэтым для назірання браліся найбольш тыповыя тэксты, якія дазваляюць выявіць асаблівасці адпаведнага стылю як найбольш агульнай катэгорыі стылістыкі. У даным выпадку мы зыходзім з таго, што тыя асаблівасці мовы, якімі адрозніваюцца асобныя падстылі, часцей за ўсё носяць чыста колькасны характар і не парушаюць адзінства стылю, не разбураюць агульнага разумення стылю. Зрэшты, як падкрэслівае Р. А. Будагаў, «падобныя разыходжанні павінны быць аднесены не да стыляў мовы, а да стыляў маўлення (стылі, якія залежаць ад сітуацыі ці ад самога «матэрыялу» выкладу) з іх больш хісткімі градацыямі»[4]. Што да сутнасці развіцця стылю, то пад ім мы разумеем працэс яго паступовага эвалюцыйнага пераходу з аднаго стану ў другі, больш дасканалы. Разам з тым мы маем на ўвазе і такія «змены, якія ствараюць тупіковыя хады эвалюцыі ці нават накіраваныя ў бок рэгрэсу»[5].

---

[1] *Шакун Л. М.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 1963. – (2-е выд. 1984); *Крамко І. І.*, *Юрэвіч А. К.*, *Яновіч А. І.* Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 1968. – Т. 2.

[2] *Михальниченко В. Ю.* Социальные факторы и функционально-стилистическая дифференциация языка // Влияние социальных факторов на функционирование и развитие языка. – М., 1988. – С. 151.

[3] *Мечковская Н. Б.* Языковая ситуация в Беларуси: Этические коллизии двуязычия // «Russian Linquistics» 18. 299–322. – 1994. – С. 303.

[4] *Будагов Р. А.* Литературные языки и языковые стили. – М., 1967. – С. 220.

[5] Философский энциклопедический словарь. – М., 1983. – С. 561.

## НАВУКОВЫ СТЫЛЬ

Фарміраванне навуковага стылю ў сістэме функцыянальных стыляў літаратурнай мовы пачынаецца толькі тады, «калі сацыялема данай мовы авалодае сферай навуковай дзейнасці ў той ці іншай галіне навуковых ведаў і з'явіцца дастатковы аб'ём навуковых тэкстаў на данай мове»[1]. Беларускамоўныя тэксты на навуковую тэматыку рэгулярна пачалі з'яўляцца ў 1920-я гг., але ў адборы моўных сродкаў яшчэ не вызначаліся адноснай аднароднасцю, прыкметным «адхіленнем» ад агульнаўжывальнага лексічнага фонду, ствараліся як бы на аснове вопыту мастацкай літаратуры. Вось некалькі фрагментаў беларускай навуковай прозы тых часоў.

1. *Курс арытмэтыкі павінен зьяўляць адну цэласьць, плянова пабудаваную, згодна з законамі разьвіцьця дзіцячага інтэлекту іістотнасьцяй зьлічэньня. А сутнасьць сыстэмы ў працы, пярэрвы, пераскокі, нявыразнасьці, непасільнасьці навучальнага матар'ялу згубна адбіваюцца на разьвіцьці і адукацыі дзіцяці й касуюць усе мэты, якія ставяцца навучаньню арытмэтыцы.*

*Маючы на ўвазе, што школьнае навучаньне падгатаўляе дзіцё да жыцьця, на лекцыях арытмэтыкі трэба выкладаць такі матар'ял, які, здавальняючы запатрабаваньні псыхолёгіі й сучаснай культуры, дае фармальнае разьвіцьцё, забяспечванае вымогамі й рэальнымі выгодамі жыцьця.*

Або: *Колькі будзе, калі 30 разьдзяліць на 2? Большасьць дзяцей адразу сьцямяць, што калі дадзены лік цяжка разьдзяліць на 2, дык справа палягчаецца разьбіўкай гэтага ліку на 2 такія лікі, з якіх кожны легка дзеліцца на 2* (Лукашэвіч А., Валаскевіч С. Мэтодыка арытмэтыкі. – Мінск, 1922. – С. 43).

2. *Рэформа правапісу, калі мае быць праведзена, мусіць быць праведзена ў цэласьці ды ў сувязі з рэформай пісьма і пераглядам граматычных формаў* (*морфолёгія*).

*Адпаведныя праекты павінны быць апрацаваны паасобнымі адзінкамі, але прайсьці праз публічнае сіта грамадзкай і навуковай крытыкі перш, чым маюць быць уведзенымі ў жыцьцё аўтарытэтам культурных устаноў. Бо тутака пасьпех, запраўды, можа быць людзём на сьмех.*

*Горш за тое: непавязаныя, паасобныя зьмены «на лепшае» могуць заграмазьдзіць і загарадзіць дарогу да запраўды добрай рэформы* (Тарашкевіч Б. Беларуская граматыка для школ. – Вільня, 1929. – С. 4).

У гэтых фрагментах можна адзначыць асобныя лексічныя адзінкі, суадносныя з адпаведнымі галінамі ведаў (*курс арытмэтыкі, зьлічэньне, навучальны матар'ял, разьдзяліць; правапіс, пісьмо, граматычныя формы, морфолёгія*), з'явы семантычнай спецыялізацыі некаторых слоў агульналітаратур-

---

[1] *Журавлев В. К.* Социолингвистический аспект истории литературных языков // Влияние социальных факторов на функционирование и развитие языка. – М., 1988. – С. 106.

най лексікі (*разьвіцьцё, навучаньне, лік, выкладаць*), кніжныя словы (*адукацыя, лекцыя, псыхолёгія, культура, рэформа, аўтарытэт, праект, крытыка, публічны, фармальны*). Разам з тым выразна адчуваецца сувязь са стылістыкай мастацкай літаратуры, што выяўляецца ў недастатковай сэнсавай акрэсленасці слоў з шырокім семантычным аб'ёмам (*вымогі й выгоды жыцьця, нявыразнасьць, цэласьць*), наяўнасць слоў з неўласцівым для навуковага стылю эмацыянальным тонусам (*пярэрвы, пераскокі, касавацъ, цяміць, заграмазьдзіць*), метафарычных выразаў (*пасьпех людзём на сьмех, заграмазьдзіць і загарадзіць дарогу, прайсьці праз сіта крытыкі*), няўстойлівасці матэрыяльнай субстанцыі (*зьяўляць цэласьць, падгатаўляць*).

Па меры таго, як выпрацоўваліся і замацоўваліся ў моўнай практыцы нормы беларускай літаратурнай мовы, паскоранымі тэмпамі стваралася і ўводзілася ў сферу спецыяльнай камунікацыі нацыянальная тэрміналогія як адзін з асноўных стылеўтваральных фактараў, набывала адпаведны стылістычны воблік мова навуковых твораў.

Калі фарміраванне стыляў залежыць ад аб'ёму і жанравай разнастайнасці адпаведнай літаратуры, ад частотнасці яе выкарыстання, ад тэмпаў і межаў развіцця грамадскіх функцый мовы, то гэта тым больш істотна для іх развіцця і ўдасканалення. Вызначальнымі для развіцця і ўдасканалення навуковага стылю сучаснай беларускай літаратурнай мовы з'яўляюцца дзве сферы функцыянавання мовы – навука і адукацыя.

Выкарыстанне беларускай літаратурнай мовы ў сферы навукі ў другой палове XX ст. было даволі абмежаваным. У галіне філасофіі, палітычнай эканоміі, сацыялогіі, электронікі, аўтаматыкі, тэлемеханікі, кібернетыкі, семіётыкі, інфарматыкі, матэматычных, біялагічных і хімічных навук на працягу дзесяцігоддзяў кнігі на беларускай мове не выдавалася. Зразумела, што такое становішча не спрыяла развіццю і ўдасканаленню навуковага стылю. Па сутнасці, у 1960-я – першай палове 1980-х гг. адбывалася выцясненне беларускай мовы са сферы навукі. «Паступова наметціўся спад і ў функцыянальным развіцці беларускай літаратурнай мовы. Яе грамадска-культурныя сферы ўжывання за апошнія гады звузіліся. Асабліва гэта датычыцца школы, кнігадрукавання, вусных зносін, не гаворачы ўжо пра іншыя сферы, дзе беларуская мова і да гэтага функцыяніравала абмежавана. Усё гэта абвастрыла пытанне не толькі аб сучасным функцыяніраванні беларускай літаратурнай мовы, але і аб яе далейшым лёсе»[1]. Пасля абвяшчэння *Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі* (1990), прыняцця Вярхоўным Саветам 12-га склікання Закона *Аб мовах у Беларускай ССР* (1990), а Саветам Міністраў – Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і ін-

[1] *Шакун Л. М.* Савецкая эпоха – найважнейшы этап у гісторыі беларускай літаратурнай мовы // Веснік БДУ. – Серыя 4. – 1988. – № 3. – С. 23.

шых нацыянальных моў у Беларускай ССР (1990) выданне навуковых кніг на беларускай мове некалькі актывізавалася. Але пасля рэферэндуму 1996 г., па выніках якога рускай мове быў нададзены статус другой дзяржаўнай мовы ў Беларусі, беларуская мова ў навуковай сферы зноў стала пачувацца «падчарыцай». Некаторыя навукоўцы нават сцвярджаюць, што няма неабходнасці пашыраць беларускую мову ў навуковую сферу. Яны аргументуюць гэта наступным чынам: калі б кожны вучоны (а іх у свеце больш за 5 млн.) друкаваў свае навуковыя працы на сваёй роднай мове, то кантакты паміж імі былі б вельмі складанымі, і гэта не спрыяла б развіццю нацыянальнай навукі. Другі аргумент апалагетаў выкарыстання толькі рускай мовы ў сферы навукі зводзіцца да наступнага: беларуская мова не мае дастаткова развітай навуковай тэрміналогіі, яна не паспявае ў сваім развіцці за сучасным навукова-тэхнічным прагрэсам і таму не здольная абслугоўваць вышэйназваную сферу. На наш погляд, адзін і другі аргумент не вытрымліваюць крытыкі. Па-першае, як адзначаў акад. В. У. Вінаградаў, «усякая навука пачынае з вынікаў, здабытых мысленнем і мовай народа, і ў далейшым сваім развіцці не адрываецца ад народнай мовы»[1]. Па-другое, з развіццём навукі развіваецца мова і ўзбагачаецца лексічнымі адзінкамі намінатыўна-тэрміналагічнага характару рознага паходжання. Вядома, кантакты паміж вучонымі, якія ў сваёй навуковай дзейнасці карыстаюцца сваімі роднымі мовамі, у нейкай меры ўскладняюцца. Аднак гэтае ўскладненне пры абмене навуковай інфармацыяй праяўляецца нават у меншай ступені, чым у размове на бытавыя тэмы. Тлумачыцца гэта тым, што ў лексічным складзе мовы навукі значную па аб’ёму частку складаюць тэрміны інтэрнацыянальнага характару, якія не патрабуюць перакладу. Па-трэцяе, у беларускім мовазнаўстве на пачатку 1990-х гг. былі створаны тэрміналагічныя слоўнікі па розных галінах ведаў, таму спасылкі на адсутнасць распрацаванай нацыянальнай беларускай тэрміналогіі беспадстаўныя. Іншая справа, што яе неабходна асэнсаваць, засвоіць і выкарыстоўваць у моўнай практыцы. На жаль, многія не даюць сабе такога клопату.

Самым цесным чынам звязаны паміж сабой мова і школа. Іменна школа з’явілася галоўным стымулам падрыхтоўкі і выдання граматык і слоўнікаў беларускай мовы, сістэмнага аналізу і апісання моўных фактаў на ўсіх узроўнях, нармалізацыі і кадыфікацыі. Падрыхтоўка і выданне падручнікаў і дапаможнікаў садзейнічала і садзейнічае развіццю і ўдасканаленню навуковага стылю, усёй стылістычнай сістэмы мовы. Толькі школа фарміруе, захоўвае і павялічвае аб’ём сваёй сацыялемы і тым самым захоўвае і падтрымлівае функцыянаванне сваёй лінгвемы. «Захоўваючы лінгвему, якой карыс-

---

[1] *Виноградов В. В.* Основные типы лексических значений слов // Вопросы языкознания. – 1953. – № 5. – С. 6.

таліся папярэднія пакаленні, школа забяспечвае з дапамогай кніжнай мовы неперарыўнасць кумуляцыі ведаў, перадачу інфармацыі, назапашанай папярэднімі пакаленнямі, сучаснаму і будучаму пакаленням»[1]. І не будзе перабольшаннем сказаць, што літаратурная мова будзе існаваць да таго часу, пакуль існуе школа. «Літаратурная мова, – зазначае У. К. Жураўлёў, – становіцца мёртвай, калі спыніцца яе выкладанне ў школе, тэксты, створаныя на ей, стануць недаступнымі для новых пакаленняў»[2]. Не выпадкова А. А. Шахматаў у свой час даў такое азначэнне: «Гісторыя рускай літаратурнай мовы – гісторыя паступальнага развіцця рускай асветы»[3]. Гэта ў поўнай меры адносіцца і да беларускай мовы, якой лёс наканаваў жорсткую барацьбу за «паступленне» ў школу. Вялі і вядуць гэтую барацьбу пэўныя палітычныя, грамадскія і дзяржаўныя сілы. І жорсткая яна таму, «што барацьба за месца нацыянальнай мовы ў школе ёсць працэс пераразмеркавання функцый паміж нацыянальнай мовай і мовай міжнацыянальных зносін»[4]. Гэта яркае сведчанне таго, што само фарміраванне сферы адукацыі і функцыянаванне ў ёй беларускай мовы абумоўлена сацыяльнымі фактарамі.

Як жа пачувала і пачувае сябе беларускамоўная школа ў другой палове XX ст.? У пасляваенны час, калі пачала праводзіцца палітыка дэнацыяналізацыі, рэзка скарачалася колькасць беларускамоўных школ. Так, у Мінску ў 1945/1946 навучальным г. з 28 школ 14 былі беларускамоўнымі, а ўжо ў 1952/1953 навучальным г. з 46 школ беларускамоўных налічвалася толькі 9. У Брэсце з 14 школ толькі адна з'яўлялася беларускамоўнай. Гэтая тэндэнцыя пашыралася і на сельскую школу: у тым жа навучальным годзе ў 29 раённых цэнтрах Заходняй Беларусі не было беларускамоўных школ. У 1951 г. Міністэрства асветы БССР выдала загад, якім адмяніла пераводныя экзамены і экзамены на атэстат сталасці па беларускай мове ў рускамоўных школах[5]. Паступова ва ўмовах унітарнай сістэмы адукацыі і дэнацыяналізацыі беларускай мове ў школе была адведзена другарадная роля. У 1970 г. ў рэспубліцы 33 % школьнікаў былі вызвалены ад вывучэння беларускай мовы, а ў горадзе Мінску такіх вучняў было 90 %. Выцясненню беларускай мовы са школы паспрыяла Канстытуцыя БССР 1978 года, якая абмежавалася толькі дэкларатыўнай абстрактнай «магчымасцю навучання на роднай мове». Вось красамоўныя даныя пра сетку школ з мовамі навучання, пра кантынгенты вучняў у іх і колькасць вучняў па мовах навучання:

---

[1] *Журавлев В. К.* Внешние и внутренние факторы языковой эволюции. – М., 1982. – С. 120.

[2] *Журавлев В. К.* Социолингвистический аспект истории литературных языков. – С. 107.

[3] *Шахматов А. А.* Очерк современного русского языка. – М., 1941. – С. 236.

[4] *Журавлев В. К.* Внешние и внутренние факторы языковой эволюции. – С. 114.

[5] Нарысы гісторыі Беларусі. – Мінск, 1995. – Ч. 2. – С. 362.

| Навучальны год | Колькасць школ | | | Кантынгент вучняў у школах і класах | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Беларуска-моўных | Рускамоўных | З дзвюма мовамі навучання | Беларуска-моўных | Рускамоўных |
| 1953/54 | 11 010<br>95,4 % | 536<br>4,6 % | – | 1 062 456<br>82,6 % | 224 151<br>17,4 % |
| 1961/62 | 10572<br>91,3 % | 805<br>7,0 % | 197<br>1,7 % | 924 640<br>67,5 % | 446 028<br>32,5 % |
| 1970/71 | 8881<br>83,5 % | 1580<br>14,9 % | 168<br>1,6 % | 875 967<br>51,07 % | 839 345<br>48,93 % |
| 1980/81 | 4909<br>74,8 % | 1607<br>24,5 % | 43<br>0,66 % | 488 288<br>35,0 % | 906 377<br>65,0 % |
| 1990/91 | 3421<br>65,8 % | 1287<br>24,8 % | 489<br>9,4 % | 302 866<br>20,8 % | 1 154 989<br>79,2 % |
| 1991/92 | 3278<br>64,7 % | 911<br>18,0 % | 878<br>17,3 % | 336 698<br>23,0 % | 1 130 323<br>77,0 % |
| 1992/93 | 3141<br>63,4 % | 397<br>8,0 % | 1415<br>29,6 % | 1 418 292<br>28,2 % | 1 064 881<br>71,8 % |
| 1993/94 | 3138<br>63,7 % | 257<br>5,2 % | 1529<br>31,1 % | 510918<br>34,1 % | 987 889<br>65,9 % |
| 1994/95 | 3137<br>64,6 % | 239<br>4,9 % | 1482<br>30,5 % | 614020<br>40,5 % | 900 796<br>59,5 % |
| 1995/96 | 3029<br>63,0 % | 594<br>12,4 % | 1184<br>24,6 % | 535 270<br>34,8 % | 1 002 236<br>65,2 % |
| 1996/97 | 2957<br>62,1 % | 799<br>16,8 % | 1006<br>21,1 % | 509 148<br>33,0 % | 1 037 506<br>67,0 % |

Як сведчаць статыстычныя даныя, у 1990 г. толькі пятая частка вучняў атрымлівала адукацыю на беларускай мове.

У вышэйшых навучальных установах пасля вайны выкладанне было пераведзена на рускую мову. А калі ў 1951 г. міністр асветы БССР П. В. Саевіч выказаўся за вывучэнне беларускай мовы ў ВНУ, то яго адразу ж знялі з пасады, абвінавацілі ў нацыяналізме, выключылі з партыі. Нейкі час яшчэ вялося навучанне на беларускай мове ў педагагічных тэхнікумах і інстытутах. Але ўжо ў 1970 г. ўсе вышэйшыя, сярэднія спецыяльныя і прафесійна-тэхнічныя ўстановы працавалі на рускай мове. Праўда, у рускамоўных школах беларуская мова вывучалася, але толькі як асобны другарадны прадмет школьнай праграмы. Руская мова ў сферы адукацыі атрымала максімум функцый, аб'ём рускамоўнай сацыялемы на Беларусі пад уплывам сістэмы адукацыі значна павялічыўся, у той час як беларускамоўная сацыялема скарачалася, а беларуская мова падыходзіла да крытычнай мяжы. Кіруючыя структуры Беларусі (і ў першую чаргу КПБ) заставаліся абыякавымі да лёсу беларускай мовы, нацыянальны нігілізм у значнай ступені ахапіў усе пласты беларускага грамадства. Тады на абарону беларускай мовы выступілі прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі, па ініцыятыве пісьменнікаў было створана Таварыства бела-

рускай мовы імя Ф. Скарыны (1989), якое ўзначаліў народны паэт Ніл Гілевіч, разгарнулася актыўная праца па прапагандзе нацыянальна-моўнага адраджэння, асветніцкая работа аб ролі роднай мовы ў жыцці нацыі, наданні беларускай мове статуса дзяржаўнай, вяртанні яе ва ўсе сферы жыцця грамадства. З распадам СССР і аб'яўленнем статуса Беларусі як нейтральнай суверэннай дзяржавы ў часы так званай перабудовы з'явілася надзея на новае адраджэнне беларускай мовы. На пачатку 1990-х гг. у сувязі з прыняццем Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» і яго паступовым практычным ажыццяўленнем узрос прэстыж беларускай мовы ў асяроддзі інтэлігенцыі, часткова – сярод рабочых, сярэдніх і вышэйшых чыноўнікаў; беларуская мова пачала вяртацца ў дашкольныя ўстановы, школы, прафесіянальна-тэхнічныя вучылішчы, сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы. Але ўжо з другой паловы 1994 г., калі нацыянальна-культурная палітыка дзяржавы зноў была скіравана на шлях дэнацыяналізацыі, прэстыж беларускай мовы стаў падаць і яе пазіцыі ў фарміраванні сацыялемы, а значыць і захаванні сваёй літаратурна апрацаванай лінгвемы аказаліся хісткімі. Вось які выгляд мае ў гэты час дынаміка змяненняў удзельнай колькасці вучняў, якія навучаліся на беларускай мове ў першым класе да і пасля 1994 г.:

| Навучальны год | 1991/92 | 1992/93 | 1993/94 | 1994/95 | 1995/96 | 1996/97 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасць вучняў | 69 815 | 110 180 | 122 106 | 120 533 | 59 910 | 48 925 |
| % | 43 | 68,5 | 76,0 | 75,3 | 37,9 | 32 |

Калі не пераадолець такую неспрыяльную тэндэнцыю, то яна зноў прывядзе нацыянальную школу да заняпаду.

Такім чынам, у выніку абмежаванага функцыянавання беларускай мовы ў сферы навукі і асветы ў канцы XX ст. і традыцыйныя і новыя галіны ведаў у непараўнальна большых маштабах абслугоўваюцца рускай мовай, чым беларускай. Дык ці можна гаварыць пра развіццё навуковага стылю, калі кнігі па многіх галінах ведаў з'яўляюцца на беларускай літаратурнай мове ад выпадку да выпадку? Адкажам сцвярджальна, таму што ўсё-такі штогод выдаюцца працы па гуманітарных навуках (найперш па гісторыі, мовазнаўству і літаратуразнаўству), падручнікі і дапаможнікі, друкуюцца артыкулы ў спецыяльных навуковых часопісах.

Для канкрэтнага аналізу з мэтай выяўлення некаторых змен, якія адбываліся ў працэсе развіцця навуковага стылю беларускай літаратурнай мовы ў другой палове XX ст., намі выкарыстаны 7 асобных фрагментаў навуковых тэкстаў з кніг і артыкулаў па медыцыне, энергетыцы, астраноміі, біялогіі, філасофіі, фізіцы, сельскай гаспадарцы (канец 1940-х гг.), 4 фрагменты з прац па грамадазнаўству, фізіцы, біялогіі і палітычнай эканоміі (сярэдзіна 1970-х гг.) і 7 фрагментаў з прац па радыебіялогіі, эканоміцы, філасофіі і сацыялогіі, біялогіі, матэматыцы, хіміі (сярэдзіна 1990-х гг.).

Асноўныя функцыі навуковых тэкстаў – гэта функцыі аб'ектывацыі і перадачы навуковых ведаў. Таму асноўнымі жанрамі навуковага стылю з'яўляюцца манаграфіі, навуковыя артыкулы (для некаторых галін ведаў у беларускай навуковай літаратуры гэта асноўны жанр), падручнікі і дапаможнікі, дысертацыі, рэцэнзіі, рэфераты, агляды. Кагнітыўныя і камунікатыўныя функцыі абумоўліваюць адбор адпаведных моўныў сродкаў, спецыфіку мовы навуковых тэкстаў. Значыць, у мове гэтых тэкстаў выкарыстоўваюцца такія сродкі, якія адпавядаюць універсальным рысам навуковага стылю і асноўнымі з якіх з'яўляюцца: аб'ектыўнасць, лагічнасць, абагульненасць, дакладнасць.

Дакладнасцю і аб'ектыўнасцю абумоўлена тэрміналагічнасць і кніжнасць лексікі навуковага стылю. У аналізуемых фрагментах тэкстаў даволі шырока выкарыстоўваюцца навуковыя тэрміны як знакі спецыяльнай семіятычнай сістэмы, з якімі працуе вучоны і якія з'яўляюцца элементамі яго навуковай праблематыкі (параўн.: *гібрыд, полігібрыд, пераапылкаванне, зімаўстойлівасць, хуткаспеласць* – у мове вучонага-аграрыя; *быццё сацыяльнае, ідэалогія, рабочы клас, рэвалюцыйны клас, марксізм, сацыяльна-палітычная тэорыя, крэатыўная філасофія, догматизм* – у мове філосафа, сацыёлага, гісторыка; *нябесная сфера, сузор'е, задыяк, зорка звышновая, нябеснае свяціла* – астранома; *пігмент, пластыда, флюарэсцэнцыя, хлоропласт, ліпоід, дзеянне імунамадулярнае, біялагічная актыўнасць, меткабялковазвязаная* – біёлага; *радыеактыўны распад, выпраменьванне, іанізацыя, элементарная часціца, хуткі электрон, пранікальная здольнасць* – радыёлага; *вытворчыя адносіны, сродкі вытворчасці, заработная плата, затраты працы, банкрут, удзельнік вытворчасці* – палітэканома; *молекула, дыпольны момант, рэнтгенаструктурны аналіз, газовая фаза, парападобны стан* – хіміка; *аксіёма, векторная алгебра, множанне, мнагасклад, лік рэчаісны, мноства одноэлементное* – матэматыка і г. д.). Значны ў навуковым стылі пласт кніжных слоў, што складаюць лексічныя адзінкі намінатыўна-тэрміналагічнага характару, якія непасрэдна не з'яўляюцца элементамі навуковай праблематыкі вучонага, але без якіх таксама нельга стварыць навуковы тэкст. Гэта словы тыпу *аб'ект, аналіз, дослед, прыбор, вывад, будова, састаў, задача, гіпотэза, працэс, схема, эфект, сістэма, форма, тэорыя, уплыў, компонент, тып, падтып, этап, група, від, род, прадукт, матэрыял, напрамак, доследование* і да т. п. Пры гэтым, як сведчаць прыведзеныя прыклады, вялікую ўдзельную вагу сярод тэрмінаў і кніжных слоў складаюць інтэрнацыяналізмы.

Імкненнем да аб'ектыўнасці і дакладнасці тлумачыцца спецыялізацыя агульнаўжывальных слоў у навуковым кантэксце. Сутнасць гэтага працэсу заключаецца ў тым, што ў навуковым стылі значэнне агульнаўжывальнага слова абмяжоўваецца, звужаецца яго семантычны аб'ём, у нейкай меры нейтралізуецца ўнутраная форма, у выніку чаго слова набывае спецыяльнае значэннне і як бы адасабляецца ад слоў агульналітаратурнай мовы, напрыклад: *корань* (у батаніцы – «падземная частка расліны», у матэматыцы – «матэматычная велічыня, якая пры ўвядзенні яе ў пэўную ступень дае даны лік»);

*клетка* (у прыродазнаўстве – «элементарная адзінка будовы арганізма, якая складаецца з ядра, працаплазмы і абалонкі»); *маса* (у астраноміі – «колькасць матэрыі, якая складае цела», у фізіцы – «адна з велічынь механікі») і пад. Такія словы складаюць у навуковым стылі хоць і нязначны, але своеасаблівы аўтаномны пласт. У навуковым кантэксце іх звычайны агульнавядомы сэнс як бы адыходзіць на перыферыю семантычнага аб'ёму.

Адметны пласт слоў складаюць дзеясловы агульнай семантыкі, якія ў навуковым стылі дэсемантызуюцца поўнасцю ці часткова, семантычна «апустошваюцца» і выступаюць у ролі звязкавых элементаў, напрыклад:

*Адным з момантаў, які садзейнічае запушчэнню, незвяртанню ўвагі на паяўленне ракавай пухліны, з'яўляецца адсутнасць боляў. Гэты комплекс прадстаўляе сабой няўстойлівае злучэнне пігментаў, бялкоў і ліпоідаў вельмі рознага характару і якія часткова змяняюць свае ўласцівасці ў працэсе росту пластыд.*

Відавочна, што выдзеленыя дзеясловы значэння дзеяння не выражаюць: яны ў гэтых кантэкстах дэсемантызаваліся, аб чым сведчыць магчымасць іх замены фармальнай звязкай *ёсць*. Падобную функцыю выконваюць таксама словы *называцца, вынікаць, выражаць, дазваляць, існаваць, мець, служыць, суадносіцца, складаць, назірацца, прымяняць, уяўляць сабой* і да т. п.

Што ж датычыцца змен, якія адбываліся ў навуковым стылі за апошнія 50 гадоў на ўзроўні лексікі, то найбольш прыкметнымі з'яўляюцца наступныя. Па меры развіцця навуковага стылю расла ўдзельная вага тэрміналагічнай і кніжнай лексікі. Так, у аналізуемых фрагментах тэкстаў 1940-х гг. каэфіцыент тэрміналагічнасці (адносіны колькасці ўжыванняў тэрмінаў да агульнай колькасці ўжыванняў усіх знамянальных слоў) у залежнасці ад функцыянальных варыянтаў вагаўся ад 0,14 (прыродазнаўчая тэматыка) да 0,28 (спецыяльная медыцынская літаратура), а ў сярэднім ён аказаўся роўным 0,19. У фрагментах тэкстаў 1970-х гг. гэтыя паказчыкі адпаведна роўныя 0,17 (фізіка): 0,31 (палітэканомія): 0,26, а ў фрагментах тэкстаў 1990-х гг. адпаведна 0,26 (філасофія і сацыялогія): 0,46 (матэматыка): 0,29. Гэта значыць, што насычанасць навуковых тэкстаў тэрмінамі і кніжнымі словамі абумоўлена найперш такімі характэрнымі стылярысамі, як дакладнасць і лагічнасць.

Доля кніжнай лексікі таксама павялічылася. Калі ў тэкстах 1940-х гг. агульналітаратурныя знамянальныя словы па ўжывальнасці пераважалі (1,45 : 1), то ўжо ў тэкстах 1970-х суадносіны змяніліся на карысць кніжных слоў (1 : 1,25), а ў тэкстах 1990-х гэтыя суадносіны яшчэ больш узраслі (1 : 2,59). Такім чынам, доля кніжных слоў у лексічным складзе навуковага стылю ўзрасла ўтрая.

Характэрны для развіцця навуковага стылю таксама рост выкарыстання запазычанай лексікі. Праўда, у тэкстах 1940-х і 1970-х гг. сярод тэрмінаў і кніжных слоў у генетычных адносінах нязначная перавага ва ўжыванні была на баку спрадвечна- і ўласнабеларускіх лексем (1,3 : 1), а ў 1990-х гг. ужо часцей ужываліся запазычанні (1,25 : 1). Сярод запазычанняў даволі значная коль-

касць слоў-інтэрнацыяналізмаў: 1940-я гг. – 55 %, 1970-я – 57 %, 1990-я – 65 %. Ужыванне вялікай колькасці тэрмінаў і кніжных слоў міжнароднага тэрміналагічнага фонду, рост у іх саставе інтэрнацыяналізмаў сведчыць аб набліжэнні навуковага стылю беларускай літаратурнай мовы да міжнародных стандартаў і разам з тым аб яго адасабленні, адчужэнні ад агульнаўжывальных сродкаў моўнага выражэння.

Сустракаюцца ў навуковых тэкстах сінонімы (у тым ліку тэкставыя), дублеты, а таксама выпадкі словаўтваральнай варыянтнасці тыпу: *перанос – метастаза, з'язванні – эрозіі, ракавая пухліна – злаякасная пухліна – пухліна, будова – састаў, вешчаство – элемент, нябесная сфера – сфера, Луна – Месяц, шлях – круг, задыяк – звярыны круг, зямля – зямны шар, мінеральныя солі – солі, рабочы клас – рэвалюцыйны клас, народныя масы – працоўныя масы – працоўныя, пункт кантактны – точка кантактная, дзейнасць эканамічная – дзейнасць гаспадарчая, выгада – прыбытак – даход, частачка – частка, часціца – часцінка.* Большасць даследчыкаў лічыць сінанімію тэрмінаў недахопам, таму што гэта пярэчыць дакладнасці. Сінонімы, валодаючы рознай унутранай формай, падкрэсліваюць розныя прыкметы паняцця, што можа весці да рознага разумення яго сутнасці. Таму па меры развіцця навуковага стылю і выпрацоўкі лексічных (тэрміналагічных) норм, некаторыя сінанімічныя (і дублетныя) рады разбураліся (асабліва тыя, дзе ў якасці аднаго з кампанентаў выкарыстоўвалася слова рускай мовы), а з некалькіх варыянтаў статус нормы набываў той, які больш адпавядаў словаўтваральным мадэлям беларускай мовы, тэндэнцыям яе развіцця. Таму, калі на матэрыяле 1940-х гг. каэфіцыент сінанімічнасці, дублетнасці і варыянтнасці (адносіны колькасці тэрмінаў, якія ўступаюць у сінанімічныя, дублетныя ці варыянтныя рады, да ўсіх тэрмінаў) быў роўны 0,19, то ў далейшым ён паступова панізіўся да 0,1 (1970-я гг.) і 0,04 (1990-я гг.). На нашу думку, гэта аптымальны паказчык, таму што звесці яго да нуля немагчыма, паколькі працэс пазнання і з'яўлення новых паняццяў бясконцы, а пры іх іменаванні адзначаныя вышэй лексіка-семантычныя з'явы непазбежныя, ды і ў навуковых творах тэкставыя сінонімы – рэч натуральная.

Адсутнасцю сінонімаў, у сваю чаргу, а таксама патрабаваннем дакладнасці тлумачыцца высокая частотнасць у тэкстах навуковага стылю ключавых тэрмінаў і кніжных слоў. Так, напрыклад, у фрагментах тэкстаў на адпаведную тэматыку тэрмін *зорка* ўжыты 29 разоў, *планета* – 12, *эрытрацыты* – 21, *рак* – 16, *сістэма адлюстравання інфармацыі* – 16, *спосаб вытворчасці* – 12, *працоўныя* – 9, *вытворчасць* – 11, *цана* – 7, *эканамічны закон* – 5, *асноўны эканамічны закон* – 5, *амінакіслоты* – 16, *кіслата* – 14, *кантакт* – 8, *ленінізм* – 8, *расліна* – 15, *чырвоная канюшына* – 13, *ліст* – 11, *малекула* – 15, *элемент* – 22, *лік* – 18, *вектар* – 14 і г. д.

Калі адбор лексічных сродкаў у навуковым стылі абумоўлены найперш дакладнасцю і аб'ектыўнасцю, то адбор марфалагічных катэгорый і форм у многім прадвызначаецца імкненнем да абстрактнасці і абагульнення.

Адметная асаблівасць мовы навукі – яе намінатыўнасць (субстантыўнасць, іменны характар), таму істотнай прыметай навуковага стылю з'яўляецца перавага ва ўжыванні назоўнікаў і прыметнікаў над дзеясловамі. Назоўнікі ў фрагментах тэкстаў 1940-х гг. складаюць 34,8 % словаўжыванняў, а па частотнасці ўжывання назоўнікі пераўзыходзяць дзеясловы амаль у чатыры разы (3,84). Па меры развіцця навуковага стылю доля словаўжыванняў назоўнікаў павялічылася да 39,3 % (1970-я гг.) і 42,1 % (1990-я гг.), а суадносіны назоўнікаў і дзеясловаў складалі адпаведна 4,5 : 1 і 3,9 : 1. Суадносіны прыметнікаў да дзеясловаў выражаюцца лічбамі 1,6 : 1. Падобная перавага назоўнікаў і прыметнікаў над дзеясловамі абумоўлена тым, што галоўная мэта навуковага тэксту – дакладна назваць і апісаць з'яву. Пры гэтым характэрна, што ў складзе імёнаў павялічвалася доля слоў з тэрміналагічным значэннем: для назоўнікаў дынаміку змен у працэнтах адлюстроўваюць такія сярэднія паказчыкі па храналагічных зрэзах – 49,6 (канец 1940-х гг.) – 52,9 (сярэдзіна 1970-х гг.) – 62,9 (сярэдзіна 1990-х гг.); а для прыметнікаў адпаведна: 52,8 – 58,1 – 60,3.

Высокая доля ў навуковым стылі абстрактных назоўнікаў, колькасць якіх паступова ўзрастала. Значную частку складаюць словы ніякага роду адзіночнага ліку на *-нн-е, -енн-е* (*-энн-е*). Так, у фрагменце аднаго з тэкстаў па біялогіі (1990-я гг.) выкарыстаны наступныя назоўнікі: *аб'яднанне, адшчапленне, апрамяненне, асаджэнне, атрыманне, выкарыстанне, дабаўленне, даследаванне, дзеянне, звязванне, злушчванне, змяненне, змяншэнне, зніжэнне, з'яўленне, меркаванне, паглынанне, парушэнне, правядзенне, развядзенне, радыеёдаванне, спыненне, узаемадзеянне, утрыманне.* Гэта вынік інтэлектуалізацыі навукі.

Увогуле тэксты навуковага стылю характарызуюцца высокай насычанасцю знамянальнымі словамі. Змены ва ўжыванні знамянальных і службовых слоў па вызначаных намі параметрах нязначныя і выражаюцца наступнымі суадносінамі: 4,3 : 1, 4,7 : 1, 4,6 : 1.

Лагічнасць і дакладнасць вызначаюць характэрныя для навуковага стылю сінтаксічныя асаблівасці: апісальны лад выкладу, выкарыстанне пераважна поўных апавядальных сказаў, ужыванне пасіўных канструкцый, перавага злучнікавай сувязі над бяззлучнікавай, падпарадкавання над злучальнасцю, прыкметная доля складаназалежных сказаў з даданымі часткамі дапаўняльнымі, азначальнымі, мэты і ўмовы, разнастайнасць сродкаў ускладнення структуры сказа (аднародныя члены, дзеепрыметныя і дзеепрыслоўныя звароты, пабочныя і ўстаўныя словы, словазлучэнні і сказы); строгая лагічная паслядоўнасць і цесная сувязь асобных сказаў і частак тэксту, яго лінейны, ланцужковы від; аб'ектыўны парадак слоў.

Змены, што адбыліся ў навуковым стылі за апошнія 50 гадоў на ўзроўні сінтаксісу, праявіліся найперш у суадносінах простых і складаных сказаў і ў скарачэнні лінейнай працягласці сказаў. У фрагментах тэкстаў 1940-х гг. суадносіны простых і складаных сказаў выражаюцца у сярэднім такімі лічбамі: 0,95 : 1 (мінімальная перавага складаных сказаў). У далейшым гэтыя су-

адносіны паступова змяняюцца на карысць простых сказаў: 1970-я гг. – 1,15 : 1; 1990-я гг. – 1,76 : 1 (толькі ў адным фрагменце мінімальная перавага складаных сказаў: 0,93 : 1).

Сярэдні памер цэльных сказаў (ад кропкі да кропкі), г. зн. сярэдняя колькасць слоў у простых (ПС) і складаных (СС) сказах па вызначаных храналагічных зрэзах спачатку некалькі павялічыўся, а пасля скараціўся. Падобная з'ява назіраецца і ў змяненні сярэдняга памеру прэдыкатыўных частак (ПЧ) складаных сказаў; простых сказаў і прэдыкатыўных частак складаных сказаў, узятых разам, г. зн. элементарных сказаў (ЭС).

Важнымі паказчыкамі дынамікі змянення памераў і складанасці сказа з'яўляюцца: сярэдняя складанасць (адносіны прэдыкатыўных частак складаных сказаў да колькасці складаных сказаў), каэфіцыент складанасці (адносіны элементарных сказаў да колькасці цэльных сказаў), каэфіцыент складаназалежнасці (адносіны залежных частак складаных сказаў да элементарных сказаў). Колькаснае выражэнне вышэйназваных характарыстык ілюструецца наступнымі статыстычнымі паказчыкамі табліцы:

| Храналогія | Сярэдні памер | | | | Сярэдняя складанасць | Каэфіцыент складанасці | Каэфіцыент складаназалежнасці |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | ЭС | ПС | СС | ПЧ | | | |
| 1940-я гг. | 12,0 | 13,6 | 25,4 | 10,5 | 2,3 | 1,5 | 0,32 |
| 1970-я гг. | 14,5 | 16,9 | 28,5 | 12,1 | 2,4 | 1,8 | 0,34 |
| 1990-я гг. | 12,2 | 14,3 | 21,5 | 10,2 | 2,2 | 1,4 | 0,25 |

Усе паказчыкі сведчаць пра тое, што ў 1970-я гг. ў параўнанні з 1940-мі павялічвалася сярэдняя лінейная працягласць сказаў, складанасць сінтаксічнага ладу мовы навукі. На працягу наступных дваццаці гадоў выявілася тэндэнцыя да спрашчэння сінтаксісу навуковага стылю. Гэта заўважаецца ў змяненні інтэрвалаў паміж максімальнымі і мінімальнымі памерамі як простых, так і складаных сказаў:

| Храналогія | | 1940-я гг. | 1970-я гг. | 1990-я гг. |
|---|---|---|---|---|
| Сярэдні інтэрвал у памерах | Простых сказаў | 28,6 | 28,0 | 21,9 |
| | Складаных сказаў | 21,3 | 35,5 | 30,5 |

Чым растлумачыць падобную дынаміку? На наш погляд, гэта звязана з працэсам станаўлення спосабаў і прыёмаў моўнага выражэння ў навуковай сферы. З аднаго боку, у 1940–1970-я гады ў беларускай мове яшчэ не сфарміраваўся ўстойлівы аўтаматызм сувязі «думка – яе моўнае ўвасабленне», а з другога – нераўнамерным развіццём розных функцыянальных варыянтаў мовы навукі. З'ява кампрэсіі, якая праявілася ў 1990-я гады, – вынік рэалізацыі тэндэнцыі да лагічнасці і дакладнасці ў выражэнні думкі, што сведчыць пра якаснае высокае развіццё і дасканаласць навуковага стылю беларускай літаратурнай мовы ў другой палове XX ст.

# ПУБЛІЦЫСТЫЧНЫ СТЫЛЬ

У сістэме стыляў сучаснай беларускай літаратурнай мовы публіцыстычны стыль прадстаўляе сабой такую функцыянальную разнавіднасць, якая самым непасрэдным чынам звязана з жыццём грамадства, дэтэрмінавана сацыяльным прызначэннем сродкаў масавай камунікацыі. У пачатку XX ст., калі з'явіліся першыя беларускія легальныя газеты і часопісы і на іх старонках пачалі друкавацца разнастайнага зместу артыкулы, карэспандэнцыі, нататкі, нарысы, звароты, заклікі, вызначыліся такія асаблівасці мовы публіцыстыкі, як высокая экспрэсіўнасць і наяўнасць слоў, надзеленых пэўным ідэйным зместам. Паколькі названыя вышэй жанры публіцыстыкі адрасаваліся пераважна вясковаму люду, то аўтары ў сваёй моватворчасці шырока карысталіся жывым народным словам, надаючы яму своеасаблівае сацыяльнае гучанне. І ў плане арганізацыі моўных сродкаў публіцыстыка таго часу мала чым адрознівалася ад мастацкай літаратуры. Гэтым характарызуецца таксама публіцыстыка 1920-х гг. Вось тыповы прыклад:

*Усё доўгавяковае жыцьцё беларускага народа злыгана з непамернымі пакутамі, горам і заняпадам. Як бы далёка не сягаў зірк у глыб вякоў беларускай гісторыі і колькі ня стараўся бы адшукаць родныя хвіліны яго цёку – дарэмна. Пільнаму воку на працягу ўсёй гісторыі малююцца адны шэрыя, нудныя, бязтварныя страніцы ня то жыцьця, ня то завяданьня, сапраўдней – завяданьня. Усё палітычнае жыцьцё ўвесь час вітала дзесьці далека ад зямлі, ад дасягаемасьці беларускага працоўнага народу, не маючага ніякага голасу ў пакіраваньні сваім лёсам. Сырым сродкам у руках розных захопнікаў служылі беларускія масы...*

*Гвалты, абіраньні дашчэнту, для свайго абагачэньня – вось чым замянялася школа, газэты й іншыя дары чалавечай культуры й поступу...*

*Цяпер жа складзены сплёт здарэньняў жыцьця выводзіць Беларусь і яе народ на новую сьцежку будаўнічага дзяржаўнага жыцьця.* (Жылуновіч З. К новому жыццю // Школа и культура Советской Белоруссии: Беларускі аддзел. – 1921. – № 1–2. – С. 1).

Гэты тэкст – маналог тыпу разважання пра мінулае і сучаснае жыццё беларускага народа. Надзённая, надзвычай актуальная тэма раскрываецца праз жывое народнае слова, эмацыянальна афарбаванае (*непамерныя, шэрыя, нудныя, бязтварныя, родныя, захопнікі, злыгана*), напоўненае сацыяльным зместам (*пакуты, гора, заняпад, гвалты, абіранні*). Жывасць і непасрэднасць выказванню надаюць словы чыста народнага складу *зірк, цёк, сплёт.* Разам з тым выкарыстоўваюцца спецыфічныя для публіцыстычнага стылю словы і выразы (*беларуская гісторыя, дары чалавечай культуры й поступу, будаўнічае дзяржаўнае жыццё, пакіраванне, лес, голас*). Тэкст таксама вызначаецца агульнай публіцыстычна завостранай танальнасцю, якая ўзрастае па меры яго разгортвання.

Публіцыстычны стыль прадстаўлены на старонках газет і часопісаў, кніг і брашур, у матэрыялах радыё і тэлебачання. Тэксты гэтага стылю характарызуюцца разнастайнасцю жанраў, тэматыкі і моўнага выражэння. «Аднак усе жанры публіцыстыкі, усе тэксты маюць многа агульных рыс, якія дазваляюць аб'ядноўваць іх у адно складанае адзінства і разглядаць як праяўленне аднаго стылю»[1].

Каб прасачыць некаторыя змены, што адбыліся ў названым стылі беларускай літаратурнай мовы ў другой палове XX ст., звернемся да тых тэкстаў на старонках газет, у якіх пераважаюць элементы разбору, абмеркавання, ацэнкі, аналізу і абагульнення фактаў з мэтай арганізацыі грамадскай думкі і мабілізацыі чытачоў на пэўную лінію паводзін. Менавіта на старонках газет публіцыстычны стыль беларускай мовы прадстаўлены найбольш поўна і шырока. З усёй разнастайнасці жанраў мы звернемся найперш да артыкулаў, аглядаў, інтэрв'ю, у якіх выразна выяўляюцца асаблівасці публіцыстыкі як аператыўнага і масавага сродку агітацыі і прапаганды, уздзеяння на думкі і пачуцці чытача. На жаль, у беларускім мовазнаўстве вельмі мала прац, прысвечаных развіццю публіцыстычнага стылю. Як адзначае М. Я. Цікоцкі, «галоўная цяжкасць якраз і заключаецца ў тым, што ў нас яшчэ вельмі мала зроблена нават такой першапачатковай работы, як назапашванне фактычнага матэрыялу, аналіз канкрэтных узораў лепшых публіцыстычных твораў мінулага і сучаснасці»[2]. Таму і нашы назіранні не прэтэндуюць на ўсебаковы ахоп тых змен, што адбыліся ў стылі публіцыстыкі.

Паколькі публіцыстычны стыль характарызуецца ярка і непасрэдна выражанай агітацыйна-прапагандысцкай функцыяй уздзеяння, то аўтары публіцыстычных тэкстаў з партыйных пазіцый асвятлялі падзеі, што адбываліся ў сферы грамадскіх адносін: палітыка-ідэалагічных, сацыяльна-эканамічных, культурных і г. д. Значыць, асноўныя стылярысы публіцыстыкі былі абумоўлены прынцыпам партыйнасці. Па меры развіцця публіцыстычнага стылю функцыя ўздзеяння, або экспрэсіўная, набывала ўсё больш яркае і адкрытае выражэнне, усё больш выразна праяўлялася адзінства экспрэсіі і стандарту. Гэтае адзінства ў газетнай публіцыстыцы канца 1940-х – пачатку 1950-х гг. стала асноўным стылістычным прынцыпам арганізацыі выказвання. Не выпадкова В. Р. Кастамараў зазначаў: «Зыходзячы з ленінскага разумення друку, савецкая журналістыка распрацоўвае праблему суадносін "навін" і "думак" з пазіцый партыйна-класавага выкарыстання сродкаў масавай інфармацыі ў мэтах камуністычнага будаўніцтва»[3]. Вось некалькі ілюстрацый з артыкулаў газеты «Звязда»:

1. *Разам з усімі народамі Савецкага Саюза беларускі народ перажывае знамянальныя дні – дні выдатнага творчага ўздыму. Па ўсёй нашай рэспуб-*

---

[1] Стилистика русского языка. – М., 1989. – С. 176.
[2] *Цікоцкі М. Я.* Стылістыка публіцыстычных жанраў. – С. 10.
[3] *Костомаров В. Г.* Русский язык на газетной полосе. – М., 1971. – С. 41.

*ліцы маланкай разнеслася гэтымі днямі радасная вестка аб узнагароджанні таварыша Сталіна другім ордэнам "Победа", аб прысваенні нашаму правадыру звання Герой Совецкага Саюза і вышэйшага воінскага звання Генералісімус Совецкага Саюза* (Старанна рыхтавацца да ўборкі ўраджаю. 1945, 4 ліп.).

2. *Зірнем на дошку гонару. Там адзначаюцца перадавікі социялістычнага спаборніцтва. Магутная хваля якога ўзнялася ў гонар дзвюх гадавін – Кастрычніцкай рэвалюцыі і ўз'яднання нашага народа. 18 заводаў, прамысловых камбінатаў, торфапрадпрыемстваў, калгасаў і соўгасаў сталі за адзін гэты дзень у шэрагі перадавікоў. Усе яны перавыканалі свае гадавыя планы, а некаторыя перавысілі выпуск прадукцыі так, што перайшлі адразу ў другую палавіну наступнага года* (На шляху да комунізма. 1949, 6 лістап.).

3. *Сталінская эпоха – гэта эпоха вялікіх социялістычных пераўтварэнняў, грандыёзных здзяйсненняў, эпоха гіганцкай творчасці мільёнаў людзей Совецкай краіны. Сталінская эпоха прынесла небывалы росквіт социялістычнай экономікі і социялістычнай культуры ўсім народам Совецкага Саюза. Згуртаваныя і натхнёныя большэвіцкай партыяй, народы нашай неабсяжнай Радзімы няўхільна ідуць наперад, заваёўваючы адну перамогу за другой. Горды ўсведамленнем вялікіх перамог, атрыманых пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, натхнёны геніем Сталіна, совецкі народ пабеданосна будуе комунізм* (Да новых перамог комунізма! 1952, 1 студз.)

Прыведзеныя фрагменты тэкстаў выразна сведчаць, што сацыяльная ацэначнасць моўных сродкаў з'яўляецца галоўнай асаблівасцю публіцыстычнага стылю. Абумоўлена гэта, як адзначалася вышэй, прынцыпам партыйнасці, які прадвызначаў змест публіцыстычных твораў і іх важнейшыя моўныя асаблівасці, мабілізоўваў для актыўнага ўздзеяння на розум і пачуцці людзей усе рэсурсы мовы. З іх важнейшым з'яўляецца лексіка, бо, як лічыць Р. Я. Салганік, «іменна лексіка мае найбольшае стылеўтваральнае значэнне, паколькі ў многім вызначае стыль тэксту»[1].

Агітацыйна-прапагандысцкай функцыяй публіцыстыкі першага пасляваеннага дзесяцігоддзя тлумачыцца шырокае выкарыстанне слоў і спалучэнняў, звязаных з камуністычнай ідэалогіяй: *сацыялізм, камунізм, марксізм, ленінізм, сацыялістычныя пераўтварэнні, сацыялістычная эканоміка, сацыялістычная культура, сацыялістычная дзяржава, сацыялістычнае спаборніцтва, сацыялістычная індустрыя, сацыялістычная дэмакратыя, сацыялістычны дэмакратызм, сацыялістычнае будаўніцтва, сацыялістычная сельская гаспадарка, сацыялістычнае жыццё, савет, савецкі лад, савецкая ўлада, савецкі патрыятызм, савецкі дзяржаўны апарат, савецкая дэмакратыя, савецкае грамадства, савецкая арганізацыя, партыя, большэвіцкая партыя, пралетарская партыя* і многія іншыя. Удзельная вага і частотнасць ужывання падобных слоў і спалучэнняў надзвычай высокая, таму што ас-

[1] *Солганик Г. Я.* Лексика газеты. – М., 1981. – С. 4.

ноўнымі тэмамі публіцыстычных тэкстаў былі падзеі грамадскага жыцця. Такія моўныя адзінкі з выразным светапоглядна-філасофскім сэнсам можна назваць канцэптуальнымі. Разам з тым у іх семантычную структуру ўваходзіць дадатковае адценне сацыяльна-класавай ацэнкі названых з'яў і паняццяў. Пры гэтым сацыяльна-класавая ацэнка залежыць ад таго, з якіх класава-ідэалагічных пазіцый адлюстроўваецца рэчаіснасць. Канцэптуальныя словы, напоўненыя паняційна-лагічным зместам, разлічаны таксама на эмацыянальную рэакцыю, на эмацыянальныя адносіны да з'яў і падзей. У выніку праяўлення сацыяльна-класавай ацэначнай дыхатаміі адны словы набывалі ў публіцыстыцы станоўчую (*сацыялізм, камунізм, навуковы камунізм, марксізм-ленінізм, савет, савецкі, сацыялістычны, бальшавіцкая партыя* і да т. п.), а другія – адмоўную (*імперыялізм, капіталізм, рэакцыя, дыктатура, манархія, эксплуатацыя* і г. д.) эмацыянальна-ацэначную афарбоўку і адпаведным чынам уздзейнічалі на розум і пачуцці адрасата.

Як падкрэсліваў Д. Болінджэр, «зараджанае» слова падобнае да зараджанай стрэльбы: іншы раз яно страляе па волі таго, хто ім карыстаецца, але амаль гэтак жа часта – выпадкова. І калі нават вы цалкам свядома хочаце пусціць яго ў ход, то яно ўсё роўна для пачатку павінна быць у вашым распараджэнні»[1]. Такімі ідэалагічна «зараджанымі» словамі былі насычаны публіцыстычныя творы першага пасляваеннага дзесяцігоддзя. Напрыклад, у перадавым артыкуле газеты «Звязда» (1952, 1 студз.) выкарыстаны наступныя словы і спалучэнні з выразным сацыяльна-класавым паняційным зместам і ідэалагічнай афарбоўкай: а) станоўчай – *сацыялізм, лагер сацыялізма і дэмакратыі, асновы сацыялізма, сталінская эпоха, сталінскія будоўлі камунізма, палітыка міру, несакрушальны аплот міру, гіганцкія будоўлі міру, справа абароны міру, справа міру і дружбы паміж народамі, таржаство справы міру, свабодалюбівыя народы, народныя масы, прагрэсіўныя сілы, авангард барацьбы за мір, краіны народной дэмакратыі, камуністычнае грамадства, мудры сталінскі план пераўтварэння прыроды, велічная сталінская эпоха, сацыялістычная эканоміка, сацыялістычная культура, большэвіцкая партыя, партыя Леніна-Сталіна, савецкая краіна, Савецкі Саюз, працоўны гераізм, стаханаўская праца;* б) адмоўнай – *імперыялістычная палітыка агрэсіі і вайны, авантурыстычная палітыка, грабежніцкая вайна, заакіянскія разбойнікі, шалёная гонка ўзбраення, агрэсіўны англа-амерыканскі блок, прыгнёт, мілітарызацыя, кучка магнатаў капітала, разгул паліцэйшчыны, ярмо акупацыі, пакуты беспрацоўя, беззямелле, малазямелле, рэжым галечы, падпальшчыкі вайны, чалавеканенавісніцкія планы, галеча, жабрацтва, эксплуатацыя.* Як бачым, тэкст насычаны грамадска-палітычнай лексікай, якая завастрае ўвагу чытача над паняційнай «выпукласцю» маналога, вытрыманага ў традыцыях партыйна-класавай ідэалогіі. Пры гэтым сацыяльна-філасофскі змест ключавых канцэп-

---

[1] *Болинджер Д.* Истина – проблема лингвистическая // Язык и моделирование социального взаимодействия. – М., 1987. – С. 28.

туальных слоў пазітыўнага ідэалагічнага сэнсу падкрэсліваецца прыметнікамі тыпу *мудры, велічны, слаўны, выдатны, грандыёзны, гіганцкі* са значэннем высокай (найвышэйшай) ступені якасці, а канцэптуальныя словы негатыўнага ідэалагічнага сэнсу спалучаюцца з адноснымі прыметнікамі тыпу *імперыялістычны, авантурыстычны, агрэсіўны, грабежніцкі, чалавеканенавісніцкі,* якія набываюць у тэксце значэнне якаснай ацэнкі і інтэнсіўнасці высокай ступені і яшчэ больш падкрэсліваюць негатыўны сэнс канцэптуальных слоў, а таксама з такімі назоўнікамі размоўнага характару з ярка выражанай адмоўнай эмацыянальна-экспрэсіўна-ацэначнай афарбоўкай, як *разгул, ярмо* і да т. п. Канцэптуальныя словы і словы-інтэнсівы завастраюць увагу чытача на ідэалагічна зададзенай інтэрпрэтацыяй падзей, не даючы яму ніякай прасторы і магчымасці для самастойнага, асабістага роздуму ці хоць бы сумеснага з аўтарам разважання. А зарад экспрэсіі па меры разгортвання ўсё ўзрастае, узмацняецца эмацыянальна-ацэначная танальнасць, і яны так уздзейнічаюць на свядомасць, розум і пачуцці адрасата, што ён, не задумваючыся, успрымае ўсё сказанае як аб’ектыўную рэальнасць.

Увогуле ключавымі ў беларускай публіцыстыцы першага пасляваеннага дзесяцігоддзя былі канцэптуальныя словы і спалучэнні са станоўчай з пазіцый партыйнасці ідэалагічнай афарбоўкай: *сацыялізм, камунізм, марксізм, ленінізм, марксізм-ленінізм, марксісцка-ленінскае вучэнне, лагер сацыялізма, партыя, партыя Леніна-Сталіна, пяцігодка, спаборніцтва, савет, савецкі, сацыялістычны, ідэйны, прагрэсіўны, перадавы* і адмоўнай – *капіталізм, імперыялізм, лагер капіталізма, падпальшчыкі вайны, сілы рэакцыі, эксплуатацыя, рабства, дыктатура, антысавецкі, агрэсіўны, буржуазны, імперыялістычны, рэакцыйны.*

Падобная дыферэнцыяцыя лексікі светапоглядна-філасофскага зместу характэрна і для публіцыстычнага стылю канца 1950-х – 1980-х гг. Паколькі і ў гэтыя часы важнейшай задачай публіцыстыкі заставалася прапаганда класавых ідэй, асвятленне з пазіцый тэорыі навуковага камунізму грамадска-палітычнага, сацыяльна-эканамічнага, культурнага жыцця рэспублікі і важнейшых падзей, што адбываліся ў Савецкім Саюзе і ва ўсім свеце, то паранейшаму высокай частотнасцю вылучаліся вышэйназваныя словы і спалучэнні, што ўтрымлівалі адпаведны пазітыўны ці негатыўны сацыяльна-класавы, ідэалагічны элемент у сваёй семантычнай структуры. Па сутнасці, яны, як і раней, былі ключавымі словамі публіцыстычнага стылю, за выключэннем слоў *партыя Леніна-Сталіна, сталінскі* (апошняе пасля асуджэння культу асобы Сталіна выкарыстоўваецца з негатыўнай эмацыянальна-ацэначнай афарбоўкай).

Прынцыпам сацыяльнай ацэначнасці моўных сродкаў публіцыстычнага стылю абумоўлена шырокае выкарыстанне:

1) пазітыўнаацэначнай лексікі: а) назоўнікаў рознай ступені выражэння станоўчай экспрэсіўнай ацэнкі, што з’яўляецца, па сутнасці, ядром семантычнага аб’ёму лексемы: авангард (*камуністы – авангард рабочага класа Бе-*

*ларусі, у авангардзе барацьбы за мір*), вахта (*на вахце міру, працоўная вахта*), доблесць (*працоўная доблесць*), трыумф (*трыумф ленінскіх ідэй, трыумф ленінскай нацыянальнай палітыкі*), пульс (*пульс мірнай стваральнай працы*), фронт (*фронт мірнай стваральнай працы, фронт барацьбы за мір*), рытм (*працоўны рытм, рытм пяцігодкі*); б) прыметнікаў-інтэнсіваў, якія характарызуюцца агульнай станоўчай публіцыстычнай афарбоўкай (ад высокай да ўрачыста-пафаснай) на фоне пазітыўнага кантэксту: правафланговы (*правафланговы сацыялістычнага спаборніцтва, правафланговыя пасяўной кампаніі*), ударны (*ударная праца, ударная брыгада*), слаўны (*слаўны сын партыі, слаўныя справы*), велічны (*велічная мэта, велічны гімн*), несакрушальны (*СССР – несакрушальная цвярдыня сацыялізма*), нябачны (*нябачнае маральна-палітычнае адзінства народа*), бліскучы, шчасны (*бліскучыя і шчасныя вышыні камунізма*);

2) негатыўнаацэначнай лексікі: а) назоўнікаў рознай ступені выражэння адмоўнай экспрэсіўнай ацэнкі, што з'яўляецца сутнасцю ідэалагічнага значэння слова: альянс (*англа-амерыканскі альянс, заходнееўрапейскі альянс*), кліка (*рэакцыйная кліка, кліка фінансавых дзялкоў*), разгул (*разгул рэакцыі і фашызму, разгул паліцэйшчыны*), рэжым (*рэжым галечы і беспрацоўя, ваенны рэжым*), хунта (*военная хунта, правячая хунта*), падпальшчык (*падпальшчыкі новай сусветная вайны, амерыканскія падпальшчыкі вайны*); б) прыметнікаў-інтэнсіваў з адмоўнай (ад слаба выражанай да максімальнай) публіцыстычнай афарбоўкай, што з'яўляецца саставной часткай паняційнага зместу слова: брудны (*брудная вайна, брудная роля*), блізарукі (*блізарукая палітыка*), захопніцкі (*захопніцкая палітыка, захопніцкія планы*), непрыстойны (*непрыстойная роля*), чорны (*чорныя палкоўнікі, чорныя справы*), крывавы (*крывавы разбой, крывавы тэрор*), драпежніцкі (*драпежніцкая палітыка імперыялістаў*), адыёзны (*адыёзны рэжым, адыёзныя намеры*);

3) мадальнаацэначных слоў, якія самі па сабе не выражаюць ацэнкі, аднак ускосна здольны яе выражаць у залежнасці ад станоўчай ці адмоўнай накіраванасці тэксту, напрыклад: бар'ер (*бар'ер паміж дзяржаўным апаратам і працоўнымі, ведамасныя бар'еры*), мабілізацыя (*мабілізацыя міралюбівых сіл, мабілізацыя працоўных рэзерваў*), трагедыя (*разыгралася жудасная трагедыя, трагедыя народа Палесціны*), вайна (*холодная вайна, эканамічная вайна*), рэзананс (*грамадскі рэзананс*).

Выразны грамадска-палітычны сэнс і публіцыстычную афарбоўку набылі ў пачатку 1960-х словы *мір, права, свабода, роўнасць, брацтва* і сталі рэгулярна выкарыстоўвацца ў пазітыўных кантэкстах. Падобную спецыялізацыю мелі ў 1950–1980-х гг. таксама словы сыны і дочкі (звычайна ў форме множнага ліку; *сыны і дочкі Радзімы, лепшыя сыны і дочкі савецкага народа*), старэйшы брат (як правіла, у форме адзіночнага ліку: *аб любві да старэйшага брата – вялікага рускага народа...*), брацкі (*брацкая дружба народаў Савецкага Саюза, брацкая салідарнасць з барацьбітамі за сацыяльнае раскняволенне*).

Навукова-тэхнічны прагрэс, практычная рэалізацыя дасягненняў якога ў спалучэнні з сацыялістычнай сістэмай гаспадарання разглядалася як адна з важнейшых умоў паспяховага вырашэння задач камуністычнага будаўніцтва, выклікаў рэгулярнае з'яўленне на старонках газет артыкулаў на навуковую тэматыку. Прапаганда дасягненняў савецкай навукі і яе ролі ў стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізму ў 1960–1980-х гг. абумовіла шырокае выкарыстанне ў публіцыстычных тэкстах тэрміналагічнай лексікі, напрыклад: *астрабіялогія, аэраход, веласамалёт, вібравакуумpraванне, галаграфія, гідрапоніка, дыгітацін, інсектыцыды, люмінафоры, рызатарфін, касмафізіка, касмічнае прыродазнаўства, неўрапсіхалогія, спадарожнікавая метэаралогія, сейсмічнае раяніраванне, лазерны лакатар, інвертаза, іаніты, генетычная інжэнерыя, інжынерная энзімалогія, электрамабіль, венераход, нанатэхналогія, авіядэтэктар* і г. д. Шырокі лексічны дыяпазон тэрміналагічнай лексікі тлумачыцца неабмежаванасцю тэматыкі газетнай публіцыстыкі. З павелічэннем у публіцыстычных тэкстах удзельнай вагі тэрміналагічнай лексікі пашырылася магчымасць уключэння ў працэс метафарызацыі тэрмінаў розных тэрміналагічных палёў, што ўзбагачала эмацыянальна-экспрэсіўна-ацэначныя сродкі выразнасці, ажыўляла мову, напрыклад: *алгарытм навучання, духоўныя гены, крызіс даверу, бацылы расізму, вірусы раўнадушнасці, эрозія сумлення, эканамічны барометр, на сельскіх мерыдыянах, амплітуда смеласці, арбіта супрацоўніцтва, біржавая арытмія, эскалацыя вайны, эскалацыя злачыннасці, інфармацыйны вакуум* і да т. п.

Публіцыстычны тэкст любой тэматыкі накіраваны да адрасата з розным жыццёвым вопытам, прафесійнымі, інтэлектуальнымі і духоўнымі запатрабаваннямі, таму ён хоць і не патрабуе дэталёвага азнаямлення з той галіной дзейнасці, пра якую гаворыцца ў тэксце, аднак у ім выкарыстоўваюцца тыповыя для гэтай галіны словы і спалучэнні. Паколькі ўжыванне такіх слоў і спалучэнняў абумоўлена тэмай, назавём іх тэматычнымі. І калі ў канцы 1980-х гг. публіцыстыка стала адлюстроўваць працэсы, звязаныя з дэмакратызацыяй грамадства, правядзеннем палітычных і эканамічных рэформ, шматпартыйнасцю, нацыянальным адраджэннем, суверэнізацыяй, лексіка публіцыстычнага стылю папоўнілася шматлікімі тэматычнымі словамі і спалучэннямі самай разнастайнай семантыкі, якія адлюстроўвалі тыя змены, што адбываліся ва ўсіх грамадскіх сферах жыцця і дзейнасці, напрыклад: *перабудова, галоснасць, палітыка абнаўлення, адраджэнне, нацыянальнае адраджэнне, духоўнае адраджэнне, рэферэндум, суверэнітэт, гуманізацыя, палітызацыя, дэпалітызацыя, дэманапалізацыя, дэцэнтралізацыя, прыватызацыя, раздзяржаўленне, свабодная эканамічная зона, рынкавая эканомія, чорны рынак, ценявая эканоміка, сацыяльна арыентаваная эканоміка, бартэр, шоковая тэрапія, фірма, канцэрн, біржа, біржавы курс, інфляцыя, індэксацыя, менеджэр, маркетынг, аўкцыён, пражытачны мінімум, спажывецкая карзіна, служба занятасці, беспрацоўныя, арэнда, арэнднае прадпрыемства, фермер, акцыя, акцыянер, акцыянернае прадпрыемства, камерцыя,*

*бізнес, ліцэй, каледж, нітраты, нітрыты, пестыцыды, радыенукліды, радыяцыйная зона, чыстая зона, чыстыя прадукты, канверсія, новая ваенная дактрына, дэпутацкі корпус, парламент, прэзідэнт, рэалізм палітыкі, новае палітычнае мысленне, гарантыя правоў і свабод, функцыянер, партакрат, карупцыя, карумпіраваныя элементы, мафія, мафіёзныя групоўкі, адчужэнне, рассяляньванне* і інш.[1]

Калейдаскапічнасць тэматыкі (унутраная і знешняя палітыка, грамадскія аб'яднанні і рухі, эканоміка, сельская гаспадарка, навука, тэхніка, культура, мараль, права, прырода, медыцына, гандаль, спорт, турызм, быт і г. д.) абумовілі шырокае выкарыстанне лексічных адзінак розных тэматычных і стылістычных разрадаў. А паколькі змены ў развіцці соцыума адлюстроўваюцца найперш у публіцыстыцы, то публіцыстыка засведчыла і адпаведныя змены ў лексіцы. Так, адны словы дэідэалагізаваліся, г. зн. страцілі раней уласцівую ім партыйна-класавую афарбоўку, абумоўленую ўспрыняццем дэнатата праз прызму камуністычнай ідэалогіі (*рынкавая эканоміка, канцэрн, кансорцыум, беспрацоўе, беспрацоўны, біржа, камерцыя, бізнес* і да т. п.). Другія – дэархаізаваліся, ці адрадзіліся і з пасіўнага складу лексікі перайшлі ў актыўны (*арэнда, фірма, аўкцыён, акцыя, спонсар, фундатар, ліцэй, мэр* і т. д.), трэція – уступілі ў новыя спалучальныя сувязі, набылі новыя значэнні і сталі сродкамі абазначэння новых рэалій (*чыстая зона, забруджаная зона, чыстыя прадукты, зона жорсткага радыяцыйнага кантролю, ліквідатар, гарачыя кропкі, гарачы тэлефон, зялёныя, зялёны аўтамабіль* і да т. п.), чацвёртыя – вярнулі свой агульначалавечы сэнс (*міласэрнасць, дабрачыннасць, айцец, малітва, абедня* і да т. п.), пятыя – у сувязі з палітызацыяй грамадства набылі грамадска-палітычнае адценне, «палітызаваліся» ў працэсе іх выкарыстання ў адпаведных кантэкстах (*застой, перабудова, дэмантаж, дыялог* (перагаворы, мірнае ўрэгуляванне канфліктаў), *кантакты* (супрацоўніцтва).

Тэматыка, змест, асэнсаванне з'яў і падзей грамадскага жыцця, светапоглядная арыентацыя публіцыстычных твораў у 1990-х гг. у новых сацыяльна-палітычных умовах настолькі змяніліся, што многія канцэптуальныя словы і інтэнсівы публіцыстыкі савецкага перыяду выйшлі з актыўнага ўжывання і гучаць як рэцыдывы мінулага, напрыклад: *свабода, роўнасць, раўнапраўе, класавы падыход, класавыя інтарэсы, маналітнае адзінства, адзінадушнае* (*гарачае, усенароднае*) *адабрэнне, светлае* (*радаснае, шчаслівае*) *будучае, непарушная дружба народаў, трыумф савецкай дэмакратыі* і да т. п.

Змены ў палітычным курсе абумовілі змены ва ўжыванні сацыяльна-ацэначнай лексікі. Адны з іх, захаваўшы негатыўную сацыяльную ацэнку, пачалі выкарыстоўвацца ў дачыненні да грамадска-палітычнага ладу, палітычных падзей савецкага перыяду (*аўтарытарызм, таталітарызм, таталітарны рэжым, казарменны сацыялізм, імперыя зла* і да т. п.), другія – дэактуаліза-

---

[1] *Наркевіч А. І.* Слова і час // Культура мовы журналіста. – Мінск, 1992. – Вып. 6. – С. 12–46.

валіся, сталі непапулярнымі з-за іх ранейшага прапагандысцкага сэнсу (*малодшы брат, старэйшы брат, малы народ, вялікі народ, перадавы рабочы клас, інтэлігенцкая праслойка* і інш.), трэція – ва ўмовах палярызацыі грамадскіх рухаў, шматвектарнасці думак і пазіцый прадстаўнікоў розных партый выкарыстоўваюцца ў адных выпадках з пазітыўнай, а ў другіх – з негатыўнай эмацыянальна-ацэначнай афарбоўкай. Не выпадкова адзін са стваральнікаў грамадскага руху «Наш дом – Беларусь» У. Падгол заўважыў: «Недавер да палітыкаў стаў часткаю менталітэту беларусаў, у вуснах большасці з якіх словы “партыя” ці “партыйны” гучаць амаль як лаянка. А сэнс слоў “незалежнасць”, “суверэнітэт”, “рынкавая эканоміка”, “правы асобы”, “грамадзянская супольнасць” незразумелы большасці нашых людзей. Выхаваныя савецкай сістэмай, яны надаюць гэтым словам цалкам іншае, адмоўнае значэнне» (Наша слова. – 1997. – 22–29 студз.). Нярэдка на старонках розных выданняў для абазначэння адной і той жа рэаліі выкарыстоўваюцца моўныя адзінкі з супрацьлеглай сацыяльнай ацэнкай ці адно і тое ж слова, якое ў розных тэкстах набывае розную ідэалагічную афарбоўку, параўн.: Цяпер ужо нават сляпому зразумела, што апагеем катастрофы ХХ стагоддзя з’явіўся падрыхтаваны і мэтанакіраваны *распад самай вялікай і магутнай дзяржавы свету СССР* (Беларуская думка. – 1996. – № 6. – С. 8), сумніцельныя гульні ў *суверэнітэт* (там жа, с. 10) і наогул, назваць выпадковым *развал* апошняй *імперыі – Савецкага Саюза,* мабыць, будзе неправамерна: усе імперыі былі асуджаны на свой скон... (ЛІМ. – 1995. – 15 чэрв.), Пасля *развалу савецкай імперыі* яны, дзеючы несвядома, зрабілі ўсё, каб надаць сваей краіне ўсе рысы той, у якой яны прызвычаіліся жыць (Наша слова. – 1997. – 22–29 студз.), Я – прыхільнік беларускай мовы, культуры, звычаяў, таму што стаю за *суверэнітэт* і незалежнасць Беларусі як краіны, а беларусаў як нацыі (Голас Радзімы. – 1966. – 11 крас.).

Увогуле, ключавымі словамі публіцыстыкі канца 1980–1990-х гг. сталі словы *перабудова, дэмакратыя, дэмакратызацыя, незалежнасць, суверэнітэт, нацыянальная ідэя, рынкавая эканоміка, інтэграцыя, прыватызацыя, прадпрымальніцтва, раздзяржаўленне, правы асобы, свабода, грамадскае абнаўленне, адраджэнне, нацыянальнае адраджэнне, камерцыя, бізнес, беспрацоўны, крызіс, парламент, вертыкаль, рэферэндум, Садружнасць незалежных дзяржаў, міласэрнасць, закон, Канстытуцыя, карупцыя, таталітарызм, аўтарытарызм, дыктатарскі рэжым, рэпрэсіўны рэжым, аўтарытарны рэжым, сталінізм, інфляцыя, дэвальвацыя, індэксацыя.* Пры гэтым ва ўмовах палітызацыі і палярызацыі грамадства на старонках розных выданняў (дзяржаўных і недзяржаўных, афіцыйных і незалежных) на паняційны змест некаторых з гэтых слоў, як адзначалася вышэй, накладваецца станоўчая ці адмоўная ідэалагічная афарбоўка.

Што да марфалагічных сродкаў публіцыстычнага стылю, то яны даволі разнастайныя, але толькі некаторыя з іх набываюць адметнасць у гэтай функцыянальнай сферы мовы. Так, у публіцыстычных творах савецкага перыяду

экспрэсіўную функцыю выконвалі назоўнікі адзіночнага ліку, што ў кантэксце набывалі значэнне зборнасці, якое, у сваю чаргу, яшчэ падкрэслівалася азначальнымі займеннікамі і прыслоўямі, а таксама словы *тысячы, мільёны,* напрыклад: *усюды народ* славіць таварыша Сталіна; *тысячы* прамоўцаў ад імя *ўсяго народа* гаварылі аб сваёй вернасці Камуністычнай партыі і савецкай уладзе; *мільёны* савецкіх людзей сталі на працоўную вахту ў гонар Першамая; *кожны савецкі чалавек* славіць сваю Радзіму; здабытае і дасягнутае *адным перадавіком* сёння-заўтра стане здабыткам *мільёнаў, кожная справа* адбываецца ў нашай краіне пад знакам міру; *кожны з нас, савецкіх людзей,* дасканала ўзброіцца ідэйнай зброяй, якую дае нам наша Камуністычная партыя; беларускі *народ* перажывае знамянальныя дні і да т. п.

Высокая ступень ацэнкі выражалася формамі вышэйшай і найвышэйшай ступені ў элятыўным значэнні, напрыклад: *справядлівейшы* грамадскі лад, *самая вышэйшая* справядлівасць, *знатнейшыя* людзі рэспублікі, *магутнейшыя* ўраджаі, *самая вышэйшая* і *дасканалая* ступень грамадскага развіцця, *найвялікшая* сацыялістычная дзяржава, *найвялікшыя* перамогі, *найвялікшае* заваяванне і г. д. Гэта штампы-маналіты, якія ў палітычным дыскурсе выкарыстоўваліся экстэнсіўна, бясконца паўтараліся і множыліся і ў напышлівай красамоўнасці якіх заключаліся выразныя ідэалагічныя ацэнкі, што не дапускалі аніякіх сумненняў.

Функцыі ўздзеяння, пераканання, агітацыйнасці, дырэктыўнасці знаходзяць выяўленне ў высокай частотнасці мадальных слоў тыпу *павінен, патрэбна, трэба, неабходна, нельга.* Так, у перадавым артыкуле «Палітычная агітацыя на ўборцы ўраджаю» (Звязда. – 1945. – 7 ліп.) сустракаем такія выразы: *трэба памятаць, трэба дабіцца, трэба закончыць, трэба выкарыстаць, трэба растлумачыць, трэба арганізаваць, неабходна расставіць, агітацыя павінна быць дзейснай, павінна ўплываць, павінна быць аператыўнай, партарганізацыі павінны дапамагаць агітатарам, нацэльваць, накіроўваць, вучыць;* у артыкуле «Комплексна весці ўсе работы!» (Звязда. – 1960. – 3 ліп.) – *неабходна выкарыстаць, неабходна ўзмацніць, неабходна прыняць меры, неабходна закончыць, трэба рэзка ўзмацніць, трэба прыняць усе меры, павінна быць звернута ўвага, нельга аслабляць увагі, неадкладна ліквідаваць, недапушчальна.* Высокую частотнасць гэтых слоў у 1960–1970-я гг. пацвярджае і «Частотны слоўнік беларускай мовы: Публіцыстыка»[1]. Такімі формамі публіцыстыка зблізкаецца з афіцыйна-дзелавым стылем, тэкст, нібы дырэктыва, інструкцыя, патрабуе ад безаблічнага адрасата выканання прадпісаных мерапрыемстваў, не даючы яму магчымасці разважаць і прымаць рашэнне самастойна. Такая «мадальна-прымусовая» форма маўлення выкоўвалася дзесяцігоддзямі і была тыповай для публіцыстыкі аж да канца 1980-х гг.

Характэрная рыса публіцыстычнага стылю – зварот да адрасата ад імя ўсіх, што выражаецца ў высокай частотнасці займенніка *мы,* які ў многіх

---

[1] Частотны слоўнік беларускай мовы: Публіцыстыка. – Мінск, 1979. – С. 11.

выпадках маніфестуе безаблічнага адрасанта, напрыклад: У нашай краіне асабістае неаддзельнае ад грамадскага. *Мы* параіліся і рашылі справу аб паводзінах Анатоля Шарсцюка перадаць у таварысцкі суд (Звязда. – 1960. – 2 ліп.); *Мы* падтрымліваем і заахвочваем тых спецыялістаў, якія безупынна працуюць над павышэннем сваей кваліфікацыі (Звязда. – 1960. – 20 ліп.); *Мы* прывучылі людзей, каб яны думалі новымі маштабамі, здзяйснялі такія справы, якія ўчора здаваліся ім не па плячы (Звязда. – 1960. – 8 ліп.); З кожным годам растуць патрабаванні да механізатарскага «корпуса». Навука ж, прагрэс не стаяць на месцы. Вось чаму па ініцыятыве партыйцаў значную ўвагу *мы* ўдзяляем прафесіянальнай вучобе (Звязда. – 1986. – 18 крас.).

Лозунгавасць, агітацыйнасць публіцыстычных тэкстаў, іх клішыраванасць выяўляліся ў шырокім выкарыстанні імператыву, прадстаўленага рознымі формамі газетных загалоўкаў: *Пад сцягам партыі Леніна-Сталіна – уперад да новых перамог комунізма! Пад сцягам Леніна, пад вадзіцельствам Сталіна – уперад да новых поспехаў соцыялістычнага будаўніцтва! Няхай жыве і квітнее наша соцыялістычная Радзіма! Хлебаробы рэспублікі! Рашуча ўзмоцнім тэмпы ўборкі ўраджаю! Будзем жа чуйна і цвёрда стаяць на варце міру! Кожны дзень – ураджаю!*

Пабуджальнасць, дырэктыўнасць выразна праяўляліся ў шматлікіх загалоўках, якія структурна афармляліся як інфінітыўныя сказы і розныя тыпы эліптычных канструкцый, напрыклад: *Выкарыстаць вопыт перадавікоў. Па-баявому выканаць сацыялістычныя абавязацельствы. Своечасова правесці копку і нарыхтоўку бульбы. Не сярпам, а машынам гаспадарыць на жніве! Удасканальваць работу апарату. Утаймаваць амерыканскую ваеншчыну. Шырыць сацыялістычнае спаборніцтва за ўраджай! Рашуча палепшыць работу лёгкай прамысловасці. З зямлянак – у новыя дамы. Сямігодку – за пяць год! Высокі ўраджай – у руках клапатлівых. Вясне – баявую гатоўнасць! Сяўбе – баявую гатоўнасць!*

З сярэдзіны 1960-х гг. значна скарачаецца колькасць гучных загалоўкаў-заклікаў, паступова змяншаецца ўдзельная вага крыклівых загалоўкаў з рознымі формамі імператыву як знакаў пампезнасці і параднасці. Паралельна з гэтым павялічваўся каэфіцыент выкарыстання наміналізаваных загалоўкаў розных відаў, што ўяляюць сабой няпоўную рэалізацыю структурнай схемы простага сказа: *Маніфестацыя братэрства двух вялікіх народаў. "Лёгкія" горада. Квітненне жыцця. Заклік майстроў беларускага шоўку. Запявалы прагрэсу. Актыўныя праваднікі палітыкі партыі. Новы год у новых дамах. Трактарыстка з Прыбужжа. Мае творчыя планы. Савецкім жанчынам. Ад сэрца да сэрца.* Падобныя загалоўкі выконвалі намінатыўна-інфармацыйную функцыю і, як правіла, выражалі мадальныя адносіны, маніфеставалі маналагічнасць маўлення.

Пад уплывам вуснай мовы часцей пачалі з'яўляцца загалоўкі рознага тыпу сегментаваных канструкцый, напрыклад: *Эканоміць, але за кошт чаго? Права контролю. Як яго ажыццяўляць? Дзіўна, але факт...* Такія загалоўкі ін-

трыгуюць, прымушаюць чытача звярнуць увагу на публікацыю, нібы запрашаюць да дыялогу, аднак стыль выкладу пераважна маналагічны, падзеі, з'явы, факты падаюцца не на роздум чытачу, а на іх успрыманне ў аўтарскай інтэрпрэтацыі, што выражае афіцыйную думку адпаведна «заказу» часу.

Увогуле маналагічнасць маўлення – тыповая стылярыса савецкай публіцыстыкі. Нават інтэрв'ю ў многіх выпадках мелі форму адказаў-маналогаў на зададзенае пытанне. Класічны прыклад – «Тры інтэрв'ю», што далі дырэктар Мінскага трактарнага завода Б. Сівак, кіраўнік брыгады камуністычнай працы Л. Трапянок і слесар Л. Свістун з нагоды таго, што ўжо цэлы год завод працуе па графіку сямігадзіннага рабочага дня (Звязда. – 1960. – 2 ліп.):

***Па новаму рэжыму***

*Калектыў нашага завода адзін з першых сярод прадпрыемстваў саўнаргаса перайшоў на скарочаны рабочы дзень. І вось мінуў пасля гэтага год. Якія ж адбыліся за названы перыяд змены на прадпрыемстве?*

*Перш за ўсё трэба падкрэсліць, што мы правялі вельмі сур'ёзную падрыхтоўку ва ўсіх звеннях вытворчасці да ажыццяўлення такога важнага мерапрыемства, як пераход на сямігадзінны рабочы дзень. Асаблівая ўвага была звернута на механізацыю і аўтаматызацыю працаёмкіх працэсаў, аснашчэнне ўчасткаў новай тэхнікай – аўтаматамі і паўаўтаматамі, паточнымі і канвеернымі лініямі.*

*У кавальскім цэху тэрмітны ўчастак пераведзен на няспынную работу, што намнога павысіла загартоўкі дэталей. У прэсавым зманціравана шнекава-мыечная машына...*

*Вялікі працоўны ўздым наглядаецца цяпер у цэхах у сувязі з падрыхтоўкай да ліпеньскага пленума ЦК КПСС. Мы ўзялі на сябе павышаныя абавязацельствы: да дня адкрыцця пленума сабраць чатыры ўзоры новай мадэлі трактара "МТЗ-50" і 7 рухавікоў "Д-50"...*

*На працоўную вахту ў гонар Пленума ЦК КПСС сталі сотні сталевараў, фармоўшчыкаў, штампоўшчыкаў. Штодзень яны радуюць калектыў новымі вытворчымі паказчыкамі...*

***Радавы рабочай гвардыі***

*Стваралася наша брыгада з 18 чалавек. Цяпер жа, калі нам прысвоілі званне калектыву камуністычнай працы і мы перайшлі на сямігадзінны рабочы дзень, з тым жа аб'ёмам работы спраўляецца 11 рабочых. Зразумела, што прадукцыйнасць працы пры гэтым узрасла.*

***Вельмі дарэчы***

*Вось ужо год, як рабочы дзень у нас заканчваецца а палове чацвёртай. На цэлую гадзіну раней. Да гэтага прывыклі ўжо. Нават не прыкмячаем. Але вельмі многае дала нам свабодная гадзіна. Ёсць у мяне любімая справа – рацыяналізацыя. Ёй я і аддаю вольны час.*

*Кожны сумленны працаўнік запаўняе свой дзённік пяцігодкі добрымі справамі. Сталявар запісвае тоны звышпланавага металу, гарнякі – выдадзены*

*нагара вугаль. Я таксама імкнуся ўнесці свой уклад у паспяховае выкананне сямігодкі. За апошнія гады ўнёс 60 рацыяналізатарскіх прапаноў, у тым ліку сёлета – 16.*

*Так, вялікі выйгрыш атрымалі рабочыя ад пераходу на сямігадзінны рабочы дзень...*

Па сутнасці, гэта тры маналогі-справаздачы ў апрацоўцы карэспандэнта. Не выпадкова нават тое, што кожнае інтэрв'ю мае асобны загаловак.

У 1960–1980-я гг. асноўным тыпам вышэйназванага жанру таксама з'яўляецца інтэрв'ю-расказ. Аднак сустракаюцца ўжо рубрыкі «Гутаркі з цікавым субяседнікам», «У нас у гасцях», «Па вашых просьбах» і інш. Пашыраюцца тэмы і кола тых, у каго бяруць інтэрв'ю, але па-ранейшаму тэксты звычайна будуюцца па прынцыпу «пытанне – адказ». Праўда, поруч з інтэрв‘ю-расказам з'яўляюцца інтэрв'ю-інфармацыя, інтэрв'ю-разважанне. І ўсё ж нават у дыялогах маналагічнасць маўлення відавочная. Вось урывак з публікацыі «Дыялогі аб партыйнасці» (Звязда. – 1980. – 1 ліп.), што перадае размову сакратара Мінскага абкома КПБ Р. П. Платонава і прапагандыста галоўнага інжынера Мінскага падшыпнікавага завода У. В. Радкевіча пра камуністычную ідэйнасць, фарміраванне ідэйнай перакананасці, трываласць перакананняў:

Платонаў. *Несумненна, перакананым можа быць усякі чалавек. Што такое ідэйная перакананасць? Адданасць, вернасць тым або іншым ідэям, якімі чалавек кіруецца ў сваім жыцці... Само сабой зразумела, што ідэйная перакананасць – з'ява сацыяльна-класавая. Кожны клас выпрацоўвае сваю ідэалогію, а, значыць, і сваю ідэйную перакананасць. Ці ёсць перакананне, скажам, у сучаснага буржуа? Несумненна. Але яго перакананні абмежаваны прагай асабістай нажывы, узбагачэння, дасягнення іншых эгаістычных, карыслівых мэт. Перакананні рабочага класа дыяметральна процілеглыя перакананням фабрыкантаў, памешчыкаў, буйных фермераў. Камуністычная ідэйная перакананасць таму і з'яўляецца вышэйшай ступенню ў развіцці чалавецтва, што яна адлюстроўвае карэнныя інтарэсы рабочага класа, усіх працоўных, паслядоўна адстойвае і абараняе іх.*

Як бачым, гэтае разважанне пабудавана ў форме пытанняў і адказаў. Здавалася б, паколькі дыялог вядзецца паміж двума ўдзельнікамі, то пытанні адрасуюцца суразмоўцу. Аднак на пытанні адказвае той, хто і задае гэтыя пытанні. Прычым адказы маюць звыкла-стандартны класава-партыйны сэнс, што адпавядала ідэалагічным патрэбам дня. Гэта, па сутнасці, маналог, канструктыўная мадэль якога – адзінства экспрэсіі (пытальныя сказы) і стандарту (запраграмаваныя адназначныя сентэнцыі).

На рубяжы 1980–1990-х гг. ва ўмовах дэмакратызацыі, галоснасці, шматвектарнасці поглядаў, плюралізму думак маналагічнае маўленне ў многім саступае месца дыялагічнаму. Гэта знаходзіць адкрытае выражэнне не толькі ў жанрах інтэрв'ю, дыскусіі, прэс-канферэнцыі, круглага стала, але і артыкула. Спашлёмся на артыкул Ніла Гілевіча «Да чаго і дзеля чаго вяртацца?» (Народная воля. – 1997). З самага пачатку гэты артыкул заклікае чытача да

супрацоўніцтва. Аўтар разважае над становішчам у Літве, на Украіне, дае адрасату на роздум думкі літоўскага і ўкраінскага народаў, а потым з горыччу пытае:

*«А што ж тым часам адбываецца ў нас, у Беларусі? Што гучыць, і грыміць, і свеціцца ў яе сродках масавай інфармацыі? – і сам адказвае:*

*А ўсё тое, што наадварот, што ідзе насуперак развіццю і ўмацаванню дзяржаўнай незалежнасці краіны, адраджэнню яе ўласных пачаткаў і традыцый. Дзяржаўны статус беларускай мовы ва ударным тэмпе ліквідуецца. Запіс у Канстытуцыі – пустая фармальнасць: практычна ён амаль нічога не значыць. Пра ўласную грашовую адзінку ніхто і не заікаецца. Яшчэ чаго не хапала – беларускі талер увесці! Не пра гэта думаеце, нацыяналісты! Паслухайце, што «гаворыць» народ, чаго народ патрабуе!»*

Выказаныя з іроніяй празрыстыя цытатныя рэмаркі зноў жа разлічаны на тое, каб адрасат думаў, суперажываў. Па ходу разгортвання тэмы аўтар разважае (*хацеў бы сказаць, хочацца спытаць, цяжка гаварыць*...), уводзіць у працэс асэнсавання падзей адрасата (*Дык што, шаноўныя грамадзяне, будзем вяртацца..., задумаемся на хвілінку*...), з іроніяй звяртаецца да тых, з кім палемізуе (*Вы што, панове, ужо ведаеце..., А што ж вы, шаноўны дабрадзею..., Вы пішаце, шаноўны..., А у «новые библиотеки» вы заходзілі?* і да т. п.). Пры гэтым тэкст насычаецца шматлікімі зваротамі, рытарычнымі фігурамі, эмацыянальна-ацэначнымі словамі, што актывізуюць думку чытача, не пакідаюць яго абыякавым да актуальных праблем існавання беларускага народа на сённяшнім крутым перавале яго гісторыі.

Увогуле традыцыйныя жанры публіцыстыкі (артыкулы, агляды, інтэрв'ю, нарысы, рэпартажы, інфармацыі) сталі не такімі шаблоннымі, узмацніўся творчы пачатак, у журналістаў з'явілася магчымасць свабодна выказваць свае думкі, ідэі, у тым ліку і процілеглыя. Знікла лозунгавасць, адназначнасць інтэрпрэтацыі, стандартнасць фармулёвак. Сыходзяць са старонак газет ананімныя перадавіцы, інтэрв'ю, у якіх пытанні былі загадзя падрыхтаваны, а адказы на іх пасля адрэдагаваны. Па-другое, з'явіліся новыя жанры публіцыстычных тэкстаў (дайджэсты, кароткія рэплікі, версіі, палітычныя дыскусіі, інтэрв'ю-гутаркі, круглыя сталы і інш.). Аднак дынаміка стылістычнага развіцця публіцыстыкі ўжо з 1995 г. пачала змяняцца ў напрамку да ранейшых прынцыпаў разгортвання палітычнага дыскурса: на старонкі дзяржаўных (афіцыйных) выданняў паступова вяртаюцца вытрыманыя ў адпаведным духу публікацыі, «Калонка рэдактара» пачынае выконваць функцыю перадавіцы, зноў прапагандуюцца найвышэйшыя дасягненні. І хоць калейдаскапічнасць тэм, суб'ектыўнасць у адборы і ацэнцы фактаў стасуюцца найперш з маналагічным маўленнем, тым не менш значнае месца ў сучаснай публіцыстыцы займаюць жанры з дыялагічнай формай маўлення. Напрыклад, амаль у кожным нумары газеты «Звязда» за чэрвень 1997 г. змешчана па некалькі рэпартажаў з месца падзей, гутарак ці інтэрв'ю з міністрамі, вучонымі, дзеячамі культуры, спартсменамі, кіраўнікамі вытворчых калекты-

ваў і г. д. З устаноўкай на кантакт змяшчаюцца ў газетах матэрыялы ў рубрыках «Погляд», «Жыццё», «Гасцёўня», «Надзённае», «Набалелае», «Палеміка», «Актуальна», «Прамая лінія», «Ідэі і людзі», «Версіі», «Пазіцыя», «Задумаемся», «Чулі?», «Рэзананс на «Рэзананс» і інш. Для некаторых тэкстаў характэрна нязмушанасць гутаркі, аднолькавая танальнасць і актыўны ўдзел суразмоўцаў у стварэнні агульнага тэксту, выкарыстанне розных прыёмаў яго ажыўлення, напрыклад:

*– Да гэтага ты на спорт асабліва вока не клаў.*

*– Так сабе. Пазаймаўся год плаваннем – навучыўся рукамі грэбсці, каб не ўтапіцца. У хакеі навучыўся думаць галавой.* (Звязда. – 1997. – 20 чэрв.)

Часам на цэлых газетных палосах размяшчаецца тэкст, пабудаваны па схеме рэплікацыі: пытанне – адказ. І ў многіх выпадках накладваюцца прыметы сацыяльнага кантролю і самакантролю, абумоўленыя фактарам сённяшняга гістарычнага часу, палітычнай, нацыянальнай, партыйнай, групавой і г. д. арыентацыяй як саміх аўтараў, суразмоўцаў, так і сродкаў масавай інфармацыі, параўн.:

***1. З інтэрв'ю лідэра партыі камуністаў Беларусі С. Калякіна***

*– Згодна з некаторымі прагнозамі, на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах у Расіі мае шанцы перамагчы кіраўнік кампартыі Г. Зюганаў. На ваш погляд, як можа адбіцца на ходзе інтэграцыйных працэсаў прыход да ўлады ў Расіі камуністаў?*

*– Перамога камуністаў у Расіі даволі рэальная. Усё больш людзей давяраюць КПРФ. Гэта ў сваю чаргу дае дадатковыя шанцы Партыі камуністаў Беларусі дабіцца пэўных палітычных поспехаў...*

*У абедзвюх краінах левыя з'яўляюцца адзінымі сіламі, якія ў сваіх афіцыйных палітычных праграмах ставяць задачу яднання Беларусі і Расіі на ўзаемавыгаднай аснове. Таму прыход да ўлады камуністычных сіл створыць спрыяльную аснову для паглыблення інтэграцыі.* (Голас Радзімы. – 1996. – 21 сак.).

***2. З інтэрв'ю Генеральнага пракурора А. Бажэлкі***

*– Як вы ацэньваеце работу органаў пракуратуры ў адыходзячым годзе?*

*– Вынікі работы пракуратуры будуць падведзены на пасяджэнні пашыранай калегіі ў студзені наступнага года. Нагляд за выкананнем законаў органамі папярэдняга следства і дазнання, на маю думку, быў аслаблены. Некаторыя пракуроры не праяўлялі прынцыповасці, рашучасці ў навядзенні парадку. Таму Прэзідэнтам пастаўлена задача, з улікам меркавання, выказанага на рэферэндуме, навесці парадак у нашай дзяржаве, і мы зробім усё, што ад нас залежыць.* (Звязда. – 1996. – 27 снеж.)

***3. З інтэрв'ю члена Савета Рэспублікі Л. Барабанава***

*– Леанід Васільевіч, Вы далі згоду працаваць у верхняй палаце Нацыянальнага сходу. Чым кіраваліся, робячы такі крок?*

*– Усё адбылося хутка, недзе за паўдня. Кандыдатуру маю падтрымалі прадстаўнічыя і выканаўчыя структуры Добруша, Веткі, Гомельскага сельскага раёна – дзякуй ім. А даў я згоду на працу ў Савеце Рэспублікі таму, што*

*надакучыла неразбярыха і хістанні. Усе мы дастаткова пажылі ў нестабільнай сітуацыі. Час і да працы прыступаць, жыць і выжываць у сённяшніх няпростых эканамічных умовах.* (Народная газета. – 1997. – 16 студз.)

***4. З інтэрв'ю Р. Барадуліна***

*– Рыгор Іванавіч, вы, як мне здаецца, аказаліся па-за ўвагай улад. Можа, вы пачалі пісаць вершы "новым беларусам" ці заможным палітычным дзеячам пад заказ?*

*– З падобнымі вершамі я, канешне, магу дапамагчы, але сумняваюся, што заказчыкі будуць задаволены.*

*Не так даўно адзін наіўны, але пры пасадзе чалавек папрасіў мяне пракаменціраваць БССРаўскі гімн. Маўляў, як можна адазвацца на радкі "Мы, беларусы, з братняю Руссю, разам шукаем к шчасцю дарог"? Самы халуйскі гімн! У мяне заўсёды ўзнікала пытанне: а што, мы асобна не можам адшукаць свае шчаслівыя шляхі? Я таму чалавеку адказаў: "Ну, як я буду цыраваць даўно згніўшую анучу? Ёсць у нас, у Саюзе пісьменнікаў людзі, якія гэтым прабаўляюцца. Так званыя кадры на падхваце. Звяртайцеся да іх. Не здолееце самі адшукаць – у прэзідэнцкай Адміністрацыі вам з задавальненнем параяць патрэбную асобу, якая палічыць за гонар выканаць любы заказ.*

*Калі ў нашым грамадстве ўжо з'явіліся песні пра Прэзідэнта, то тут застаецца толькі адно – у адчаі развесці рукамі і зрабіць выснову, што да раней існаваўшага паняцця "асоба каўказскай нацыянальнасці" цяпер дадалося яшчэ адно – "асоба нявызначанай нацыянальнасці". Гэта я наконт Ханка, Яроменкі, Спрынчана і ім падобных.* (Народная воля. – 1997. – 26 лют.).

Што да загалоўкаў, то з аднаго боку, з канца 1980-х гг. скарацілася ўдзельная вага такіх, што прадстаўляюць сабой няпоўную рэалізацыю структурнай схемы простага сказа, а з другога – істотна павялічылася колькасць загалоўкаў, якія паводле будовы з'яўляюцца разгорнутымі двухсастаўнымі структурамі:

а) простымі развітымі апавядальнымі сказамі, якія выконваюць інфармацыйную і рэкламную функцыі: *У гэтым годзе ў Мінскай вобласці будзе прадоўжана папярэдняя разведка радовішча жалезных руд. Рабочыя зноў пагражаюць мітынгамі. Патрыятычны саюз падвёў першыя вынікі сваёй работы ў прысутнасці кіраўніка дзяржавы. Беларуская культура і мова просяць дапамогі. Прыйшоў час пераацаніць асноўныя фонды. Іван Антановіч першым павіншаваў «чэсных» і «нячэсных» журналістаў з Новым годам і Калядамі. Якой я бачу Беларусь у трэцім тысячагоддзі*;

б) пытальнымі сказамі, якія завастраюць увагу чытача, запрашаюць яго да роздуму, з'яўляюцца, па сутнасці, першымі словамі, якімі пачынаецца размова аўтара з чытачом (найперш у недзяржаўных выданнях): *Беларусь, якім будзе твой заўтрашні дзень? Ці можам мы беларусамі звацца? Чым будзе займацца група АБСЕ ў Беларусі? Ці стане Беларусь турысцкай Меккай?*

Акрамя таго, часцей пачалі выкарыстоўвацца загалоўкі, структурна суадносныя з рознымі відамі складаных сінтаксічных канструкцый тыпу: *Што мы ведаем і як нас інфармуюць аб радыяцыйнай абстаноўцы ў Беларусі і наогул на тэрыторыях, забруджаных радыенуклідамі, – у прыватнасці. Дэпутаты хочуць, каб Еўрасаюз пачуў і іх голас. Беларуская навука – арганізм жыццяздольны, энергічны, багаты, засталося толькі зрабіць больш трывалымі сувязі з навакольнай рэчаіснасцю. Калі ў дзяржавы няма грошай, на падручнікі прыйдзецца раскашэліцца бацькам. Не, не апазіцыя вінавата, што жывём усё горш і горш. Экспарт расце, але і імпарт не адстае*.

Падобныя загалоўкі раскрываюць асноўную думку артыкула і як бы з'яўляюцца яго састаўной арганічнай часткай.

Увайшлі ў практыку газетнай публіцыстыкі апошняга часу такія двухкампанентныя загалоўкі, якія структурна складаюцца з двух сэнсава аб'яднаных сказаў, напрыклад: 1. *Ураган прайшоў хутка. Нельга марудзіць і з ліквідацыяй яго наступстваў*. 2. *У дзяржавы грошай няма. Адкуль жа яны могуць быць у маладых бацькоў*? Першы кампанент-сказ гэтых загалоўкаў з'яўляецца як бы зыходным пунктам выказвання, яго тэмай, а другі – выражае тое, што вынікае з гэтага выказвання, з гэтай тэмы. Вядомае (рэальнае) аб'ядноўваецца ў такіх загалоўках у сэнсавае адзінства. Яны выконваюць інфармацыйна-рэкламную функцыю і «ўключаюць» чытача ў працэс асэнсавання акрэсленай праблемы.

Увогуле публіцыстыка – гэта тая функцыянальная сфера мовы, якая непасрэдна і чула рэагуе на ўсе змены ў развіцці грамадства. Таму публіцыстычны стыль адлюстроўвае гэтыя змены ў першую чаргу, выпрацоўваючы адпаведныя сродкі (найперш лексічныя) і прыёмы моўнага выражэння (асабліва сінтаксічныя), што садзейнічаюць развіццю літаратурнай мовы.

## СІСТЭМА ФУНКЦЫЯНАЛЬНЫХ СТЫЛЯЎ

У сістэме функцыянальных разнавіднасцей сучасная беларуская літаратурная мова мае таксама афіцыйна-дзелавы, мастацкі і літаратурна-гутарковы стылі, кожны з якіх вызначаецца сваімі адметнасцямі і асаблівасцямі развіцця.

Гістарычныя ўмовы склаліся так, што беларуская літаратурная мова ў неспрыяльных сацыяльна-палітычных варунках на працягу ўсяго XIX і пачатку XX ст. не дапускалася ў сферу афіцыйнага ўжытку, таму не магла сфарміравацца такая яе структурна-функцыянальная разнавіднасць, як афіцыйна-дзелавы стыль. У выніку да сярэдзіны 1920-х гг. заканадаўчыя акты ўрада, адміністрацыйныя распараджэнні выдаваліся на рускай мове. «Хоць розныя пастановы, указы, распараджэнні ў перакладзе на беларускую мову і друкаваліся ў прэсе, ва ўрадавых весцях, усё ж першы *Збор законаў БССР* паралельна на рускай і беларускай мовах быў выдадзены толькі ў 1925 г.»[1].

[1] *Шакун Л. М*. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 1984. – С. 285.

Па меры ажыццяўлення мерапрыемстваў, звязаных з палітыкай беларусізацыі, сацыялема беларускай мовы пачала аваладваць адміністрацыйна-справавой сферай і пачаў складвацца пэўны набор адпаведных тэкстаў на беларускай мове. З'явіліся першыя дапаможнікі, спецыяльна прысвечаныя справаводству: *Дзелавод* С. Серады (1926), у якім прыводзіліся ўзоры афіцыяльных папер, слоўнік тэхнічна-канцылярскіх выразаў, *Падручнік справаводства сельскіх і местачковых саветаў. Выпуск першы* (1926), *Падручнік справаводства раённых выканаўчых камітэтаў. Выпуск першы* (1926)[1]. Гэта садзейнічала пашырэнню беларускай мовы ў сферы ўнутрырэспубліканскіх адміністрацыйна-справавых зносін, у сістэме народных камісарыятаў, ведамстваў, устаноў навукі, культуры, асветы, дзяржаўных і грамадскіх арганізацый, кантор на фабрыках і заводах і г. д. Выпрацоўваліся і адпаведныя прыёмы і формы моўнага выражэння, тыповыя для названай сферы. Аднак у сувязі з контрбеларусізацыяй, якая разгарнулася на рубяжы 1920–1930-х гг., гэты працэс запаволіўся.

Сфера адміністрацыйна-справавых зносін у пасляваенны перыяд стала двухмоўнай. Пры гэтым на міжрэспубліканскім і міжнародным узроўнях справаводства ажыццяўлялася на рускай мове, якая ва ўмовах пераходу ад палітыкі дэнацыяналізацыі да палітыкі русіфікацыі інтэнсіўна выцясняла беларускую мову і з унутрырэспубліканскай сферы. Напрыклад, пленум ЦК КПБ, які адбыўся ў чэрвені 1953 г., быў першым і апошнім у пасляваенны час, які праходзіў на беларускай мове. І хоць пастановы, рэзалюцыі, рашэнні пленумаў і з'ездаў КПБ і КПСС, Вярхоўных Саветаў БССР і СССР, справавыя і заканадаўчыя дакументы друкаваліся на старонках беларускамоўных газет і беларуская мова выкарыстоўвалася ў справаводстве асобнымі міністэрствамі (адукацыі, культуры) і часткова некаторымі ўстановамі (АН БССР, ВНУ і інш.), яна амаль цалкам была выцеснена рускай мовай са сферы судаводства і заканадаўства. Гэта прывяло да таго, што ўсё радзей і радзей сталі выдавацца на беларускай мове законы, пастановы, статуты і т. д., ва ўстановах і арганізацыях – афармляцца распараджэнні, рашэнні, дагаворы, загады, інструкцыі, пратаколы, акты, даведкі, дакладныя і тлумачальныя запіскі, службовыя лісты, анкеты, лісткі па ўліку кадраў, заявы, аўтабіяграфіі і інш. Вынікі сацыялінгвістычнага даследавання, аналіз перыядычнага друку паказалі, што на тэрыторыі Беларусі руская мова ў сярэдзіне 1980-х гг. ужо займала непадзельнае становішча ў сферах грамадска-палітычнага, адміністрацыйнага і вытворчага жыцця[2]. І калі справядліва сцвярджэнне, што той ці іншы стыль «існуе пастолькі, паколькі існуе пэўны аб'ём тэкстаў пэўнага зместу адпаведна патраба-

[1] *Каўрус А. А.* Дакумент па-беларуску: Справаводства. Бухгалтэрыя. Рыначная эканоміка. – Мінск, 1994. – С. 16–17.

[2] *Булыка А.* Да родных вытокаў // Літаратура і мастацтва. – 1989. – 2 чэрв. – С. 5.

ванням данага грамадства на даным этапе яго развіцця»[1], то можна канстатаваць, што афіцыйна-дзелавы стыль беларускай літаратурнай мовы ў сярэдзіне 1980-х гг. спыніўся ў сваім развіцці.

У другой палове 1980-х – пачатку 1990-х гг. у сувязі з нацыянальным адраджэннем, прыняццем Закона аб мовах і Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў пачаўся складаны працэс пашырэння сфер ужывання беларускай мовы, у тым ліку ў службовым справаводстве рэспубліканскіх і мясцовых органаў улады, на прадпрыемствах і ўстановах. Не выпадкова амаль праз 70 гадоў з’явіліся для практычнага выкарыстання *Дапаможнік па справаводству* (1993), *Дакумент па-беларуску: Справаводства. Бухгалтэрыя. Рыначная эканоміка* (1994) А. А. Каўруса. Аднак пасля рэферэндуму 1996 года, калі рускай мове быў нададзены статус другой дзяржаўнай мовы, умовы функцыянавання беларускай мовы рэзка пагоршыліся. Дзяржаўныя служачыя, у тым ліку тыя, хто свабодна валодае беларускай мовай, дэманстратыўна перасталі карыстацца ёю, і яна пачала зноў выганяцца з канцылярый устаноў і арганізацый, з кантор прадпрыемстваў і г. д. У выніку такой палітыкі беларуская мова не стала «службовай у большасці ўстаноў, на яе не пераводзіцца справаводства, не пераходзяць суды і міліцыя, гандаль і банкі»[2]. Гэта азначае, што афіцыйна-дзелавы стыль беларускай літаратурнай мовы зноў пазбаўлены паўнакроўнага развіцця і ўдасканалення.

Мастацкі стыль – гэта «самая багатая моўная разнавіднасць сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Мастацкая літаратура – тая сфера, дзе беларуская літаратурная мова жыве паўнакроўным жыццём, тая лабараторыя, праз якую праходзяць сотні абласных, тэрытарыяльна абмежаваных слоў, моўных наватвораў, сацыяльна і прафесіянальна абмежаваных слоў і выразаў»[3]. Моўныя адзінкі і катэгорыі ў мастацкім творы як эстэтычным аб’екце своеасабліва ўзаемадзейнічаюць, набываюць спецыфічныя характарыстыкі і разам з тым захоўваюць свае агульнамоўныя ўласцівасці. Мастацкі стыль – адна з форм існавання і развіцця літаратурнай мовы, найбольш агульнае выражэнне літаратурнай мовы адпаведнай эпохі. Разнастайная ў сваіх індывідуальна-мастацкіх варыянтах беларуская мастацкая літаратура пасляваеннага перыяду асвойвала і асвойвае розныя жыццёвыя пласты, розныя эстэтычныя сферы. Мове і стылю беларускіх пісьменнікаў, іх ролі ва ўзбагачэнні літаратурнай мовы прысвечана шмат прац, а некаторыя асаблівасці мастацкага стылю ў гістарычным аспекце асвятляюцца ў манаграфічным даследаванні М. В. Абабуркі «Развіццё мовы беларускай мастацкай літаратуры» (Мінск, 1987).

---

[1] *Журавлев В. К.* Социолингвистический аспект истории литературных языков. – С. 105.

[2] *Мечковская Н. Б.* Языковая ситуация в Беларуси: Этические коллизии двуязычия. – С. 317.

[3] Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы. – Мінск, 1994. – С. 343–344.

У падручніках і дапаможніках па стылістыцы і культуры мовы вылучаецца гутарковы, або размоўны стыль. Аднак, як адзначаюць некаторыя даследчыкі, «гісторыя беларускай літаратурнай мовы склалася такім чынам, што яе гутарковы варыянт так і не выпрацаваўся з-за хуткага звужэння сфер яе ўжывання»[1]. Адносна гутарковага стылю сцвярджаецца, што яго функцыянаванне «абмежавана сферай сям'і, сяброўскіх зносін, інтымных і дзелавых размоў у асяроддзі беларускамоўнай інтэлігенцыі – пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, настаўнікаў-моваведаў і інш.»[2]. Сапраўды, інтэлігенцыя карыстаецца беларускай мовай у названай сферы. Але іх вусная мова – гэта варыянт кніжнай літаратурнай мовы, які, на нашу думку, мэтазгодна разглядаць як літаратурна-гутарковы стыль беларускай літаратурнай мовы. Моўныя сродкі гэтага стылю, як правіла, адпавядаюць літаратурнай норме, хоць пры гэтым абмежавана могуць выкарыстоўвацца размоўныя і прастамоўныя сінонімы стылістычна нейтральных агульнанародных слоў, жарганізмы, дыялектызмы, аказіяналізмы, дэрываты з эмацыянальна-ацэначнымі суфіксамі. Беларускае літаратурна-гутарковае маўленне ў нейкай меры адлюстроўваецца ў творах мастацкай літаратуры (прозе і драматургіі), аднак пакуль што застаецца слаба вывучаным.

Адраджэнне духоўнай культуры ў наш час немагчыма без адраджэння культурнай ролі традыцыйных для Беларусі хрысціянскіх канфесій. Праўда, пакуль што і праваслаўная царква, і каталіцкі касцёл, і пратэстанцкія канфесіі ў багаслужбе не карыстаюцца шырока беларускай мовай. Але ўжо з'явіліся пераклады Святога Пісьма, што сведчыць аб выпрацоўцы пэўных спосабаў і прыёмаў моўнага выражэння ў новай функцыянальнай сферы – сферы рэлігійнага жыцця. Наколькі плённым акажацца фарміраванне канфесіянальнага стылю беларускай літаратурнай мовы, будзе залежыць ад сацыяльных фактараў, ад нацыянальна-культурнай і нацыянальна-моўнай палітыкі дзяржавы.

## НЕКАТОРЫЯ АСАБЛІВАСЦІ МОВЫ НАВУКОВЫХ ПРАЦ Ф. М. ЯНКОЎСКАГА[*]

Адной з галоўных тыпалагічных прымет, якія характарызуюць літаратурную мову як вышэйшую, узорную форму агульнанароднай мовы, з'яўляецца яе стылістычная дыферэнцыяцыя, яе функцыянальна-стылістычная варыятыўнасць.

[1] *Падлужны А.* Работа над памылкамі 1933-га // Беларуская мова і літаратура ў школе. – Мінск, 1991. – № 3. – С. 4.

[2] Лексікалогія сучаснай беларускай літаратурнай мовы. – С. 335.

[*] Першая публікацыя ў выданні: Жыццём слугуючы Айчыне: матэрыялы навук. канф. да 80-х угодкаў праф. Ф. М. Янкоўскага. – Брэст, 1999. – С. 214–219.

У беларускім мовазнаўстве вылучэнне функцыянальных стыляў літаратурнай мовы ажыццяўляецца з апорай на камунікатыўныя сферы моўных зносін (М. Я. Цікоцкі, Л. М. Шакун, А. А. Каўрус, А. К. Юрэвіч). У сферы пісьмова-кніжнага выкарыстання беларускай літаратурнай мовы звычайна вылучаюць мастацкі, публіцыстычны, навуковы, афіцыйна-дзелавы (афіцыйна-справавы), гутарковы (размоўны, літаратурна-гутарковы) стылі. Такім чынам, пры вылучэнні і класіфікацыі функцыянальных стыляў зыходным крытэрыем з'яўляецца карэляцыя «камунікатыўная сфера – функцыянальны стыль», г. зн. існуе пэўная адпаведнасць паміж сферай грамадска-палітычнага жыцця і публіцыстычным стылем, сферай літаратурна-мастацкай творчасці і мастацкім стылем, сферай справаводства, заканадаўства і афіцыйна-дзелавым стылем, сямейна-бытавой, пазаслужбовай сферай і гутарковым стылем.

Функцыянальны стыль – гэта найбольш структурныя і асноўныя сацыяльна значымыя разнавіднасці літаратурнай мовы. У сваю чаргу ў межах кожнага стылю вылучаюцца свае падстылі, для якіх уласцівы пэўныя прыёмы і формы адбору і арганізацыі моўных сродкаў, што адпавядаюць таму ці іншаму тыпу тэкстаў. Так, у сферы навукі ствараюцца навуковыя, вучэбныя і навукова-папулярныя тэксты, што дае падставы вылучаць асобныя падстылі: уласна навуковы, навукова-вучэбны і навукова-папулярны. Кожны з іх можна падраздзяліць на функцыянальныя варыянты па суадносінах з адпаведнымі галінамі навукі – фізікай, хіміяй, біялогіяй, гісторыяй, мовазнаўствам, літаратуразнаўствам і г. д. Значыць, функцыянальныя разнавіднасці мовы маюць іерархічную структуру. Аднак што датычыць унутрыстылявой арганізацыі беларускай літаратурнай мовы «ў межах пералічаных вышэй разнавіднасцей іерархіі і ўзаемадзеяння адных і другіх, набору спецыфічных для кожнага стылю з яго падстылямі моўных сродкаў, магчымасцей пранікнення гэтых сродкаў у "чужыя" стылі і падстылі і г. д., то ўсё гэта пакуль што слаба вывучана ў беларускім мовазнаўстве»[1].

Асаблівасці фарміравання і развіцця навуковага стылю беларускай літаратурнай мовы закранаюцца ў самым агульным плане ў падручніках і навуковых дапаможніках па гісторыі літаратурнай мовы, стылістыцы і культуры маўлення. У наш час увага беларускіх даследчыкаў скіравана на вывучэнне навуковай тэрміналогіі, шляхоў яе развіцця і ўдасканалення, але пры гэтым навуковы стыль у розных яго праявах не аналізуецца. Вядома, тэрміналогія і навуковы стыль – паняцці суадносныя, але ж не тоесныя, таму праблематыкай тэрміналогіі такая шматпланавая катэгорыя, як навуковы стыль, далёка не вычэрпваецца. Па сутнасці, гісторыя мовы беларускай навукі пакуль што застаецца па-за ўвагай вучоных-лінгвістаў. Не праяўляюць цікавасці даследчыкі і да індывідуальнай творчай манеры знакамітых вучоных.

[1] *Шакун Л. М.* Да характарыстыкі функцыянальных стыляў беларускай мовы // Культура мовы журналіста. – Мінск, 1982. – Вып. I. – С. 5.

Зразумела, што ва ўмовах Беларусі, калі родная мова ў сферы навукі пачуваецца «падчарыцай», калі ў галіне філасофіі, палітычнай эканоміі, сацыялогіі, электронікі, аўтаматыкі, тэлемеханікі, кібернетыкі, семіётыкі, інфарматыкі, матэматычных, біялагічных і хімічных навук на працягу дзесяцігоддзяў не выдаваліся кнігі на беларускай мове, не даводзіцца гаварыць аб паўнакроўным развіцці навуковага стылю. Але ж з'яўляліся і пакуль што з'яўляюцца працы па гуманітарных навуках (найперш па мовазнаўстве, літаратуразнаўстве, гісторыі), ствараюцца падручнікі і дапаможнікі, друкуюцца артыкулы ў спецыяльных навуковых часопісах. І хоць спецыфіка асобных галін ведаў у той ці іншай меры накладвае свой адбітак на стыль навуковага выказвання, аднак тыя асаблівасці мовы, якімі адрозніваюцца асобныя функцыянальныя варыянты навуковага стылю, не парушаюць яго адзінства, яго агульных тэндэнцый, інакш мы павінны прызнаць існаванне асобных «мовазнаўчага», «літаратуразнаўчага», «гістарычнага» навуковых стыляў. Як падкрэсліваў Р. А. Будагаў, стыляў маўлення (стылі, якія залежаць ад сітуацыі ці ад самога матэрыялу выкладу) з іх больш хісткімі градацыямі[1].

Гістарычна спосабы і прыёмы навуковага выказвання складаюцца і развіваюцца ў працах вядомых вучоных. Кожнаму вучонаму ўласціва індывідуальная манера выказвання. Але па меры з'яўлення навуковай прадукцыі і развіцця літаратурнай мовы выпрацоўваюцца адпаведныя агульныя і ўстойлівыя рысы, якія і ствараюць адметнасць мовы навукі як своеасаблівай катэгорыі стылістыкі.

Ф. М. Янкоўскі больш 50 гадоў верай і праўдай служыў беларускай навуцы. Яго талент вучонага і педагога яскрава праявіўся ў шматлікіх навуковых працах, але асабліва выразна – у створаных ім падручніках і дапаможніках для студэнтаў-філолагаў «Сучасная беларуская мова» (СБМ, 1984) і «Гістарычная граматыка беларускай мовы» (ГГБМ, 1989). Названыя кнігі адносяцца да навукова-вучэбнай літаратуры, г. зн. рэпрэзентуюць навукова-вучэбны падстыль, які па сваіх асаблівасцях знаходзіцца паміж уласна-навуковым і навукова-папулярным падстылямі.

Спецыфічная функцыя навучання, сутнасць якой заключаецца ў развіцці пазнавальных і творчых здольнасцей будучых спецыялістаў і асэнсаваным засваенні імі пэўнай сумы навуковых ведаў, прадвызначае метад выкладу матэрыялу ў навукова-вучэбнай літаратуры. Арганічная сувязь навукі і педагогікі дазволіла Ф. М. Янкоўскаму выпрацаваць такі метад навуковага выкладу матэрыялу, які актывізуе лагічнае мысленне чытача, робіць больш даступнай для асэнсавання навуковую інфармацыю, палягчае яе засваенне. Ніжэй мы і спынімся на некаторых асаблівасцях мовы навуковых прац вядомага вучонага і педагога.

---

[1] *Будагов Р. А.* Литературные языки и языковые стили. – М., 1967. – С. 220.

Ф. М. Янкоўскі як спрактыкаваны аўтар навуковай літаратуры, прызначанай для навучання, канкрэтна і паслядоўна, пазбягаючы абстрактнасці, выкладае навуковыя веды па курсе сучаснай беларускай мовы і гістарычнай граматыцы, з аднаго боку, з улікам мэты навучання, а з другога – пазнавальных і творчых здольнасцей студэнтаў-філолагаў. Якія ж адзнакі характарызуюць метад навуковага выкладу вучонага?

Іншы раз звычайны факт, які меў месца ў жыцці, умела выкарыстоўваецца для таго, каб актывізаваць увагу чытача, выклікаць у яго цікавасць да тэмы. Напрыклад, пры асвятленні асаблівасцей беларускага і рускага сінтаксісу прыводзіцца выпадак, як адна студэнтка ўзяла кніжку і сказала сяброўкам: «Вы пагаварыце, а я пачытаю пра сябе». Гаспадар хаты, той самы «начытаны і вельмі кемлівы дзядзька», адразу сказаў: «А што ж вы такое зрабілі, што пра вас і ў кніжцы пішуць?» (СБМ, *20*). Або другі факт: «Студэнткі ўзяліся гатаваць абед. «Ты абірай бульбу, а я <u>за вадою пайду</u>», гаворыць адна. «Кепска будзе, калі за вадою пойдзеш, за вадой да дабра не дойдзеш», – заўважыў гаспадар» (Тамсама). Такія яркія факты выклікаюць у чытача адпаведныя наглядна-вобразныя ўяўленні, і ў той жа час інтрыгуюць, актуалізуюць жаданне ўнікнуць у сутнасць памылкі, спасцігнуць адметную асаблівасць беларускага сінтаксісу.

Нярэдка, Ф. М. Янкоўскі выкарыстоўвае пытанне як сродак ажыўлення навуковага выкладу, напрыклад: «Ці ёсць што агульнае ў фраземах тыпу <u>абое рабое, пальцам</u> <u>не кіўне, язык (языком) аб зубы біць, пытлю даць</u> і ў народных прыказках (прымаўках), прыгаворках, у крылатых выразах?» (СБМ, *83*); «Што не аддзяляе і дарэшты не адмяжоўвае фразем ад словазлучэнняў, ад іншых сінтаксічных адзінак?» (СБМ, *87*); «Але ці можна лічыць састаўныя ў фраземах проста словамі, звычайнымі лексічнымі адзінкамі?» (СБМ, *92*); «Як і нямецкае <u>Arbeit</u>, наша <u>робіш</u> пачыналася спалучэннем *орб (ці *арб): як і нарвежскае <u>olda</u>, пачыналася з *<u>old</u> слова лодка; як і літоўскае <u>ortojas,</u> пачыналася з *<u>орт</u> (ці *<u>арт</u>) <u>ратай</u>. Што ж адбылося?» (ГГБМ, *84*). Такія пытанні арганічна ўваходзяць у тканіну твора, у адказе на іх аўтар як бы ўслых выказвае свае думкі і тым самым скіроўвае думкі чытача, засцерагае яго ад пераходу да напаўмашынальнага чытання, калі ён успрымае асобныя моўныя факты ці з'явы, але не асэнсоўвае іх у сістэме.

Часам Ф. М. Янкоўскі карыстаецца параўнаннем, напрыклад: «Фразеалагічныя зрашчэнні – гэта… семантычна непадзельныя фразеалагічныя адзінкі, значэнне якіх нематываванае і зусім не залежыць ад значэнняў кампанентаў… Можна дапусціць, з пэўнай агаворкай, такое параўнанне: значэнне фразем-зрашчэнняў <u>лынды біць</u>, <u>шчылінкі прыняўшы</u>, <u>на чым свет стаіць</u> не вынікае са значэнняў кампанентаў <u>лынды</u> і <u>біць</u>, <u>шчылінкі</u> і <u>прыняўшы</u>, <u>на</u>, <u>чым</u>, <u>свет</u>, <u>стаіць</u>, як уласцівасці хімічнага злучэння не адпавядаюць уласцівасцям тых элементаў, з якіх утворана хімічнае злучэнне. Так, на-

прыклад, у малекуле вады два атамы вадароду і адзін атам кіслароду ($H_2O$); вадарод гарыць, кісларод забяспечвае гарэнне – а вадою тушаць агонь, спыняючы гарэнне» (СБМ, *96*). Такое выразнае параўнанне дае магчымасць аўтару падкрэсліць, а чытачу больш выразна асэнсаваць адметнасць фразеалагічных зрашчэнняў.

Для метаду навуковага выкладу Ф. М. Янкоўскага ўласціва моўнае афармленне думкі ў такой форме, быццам яна выказана аўтарам і чытачом сумесна, напрыклад: «Афрыката дж сустракаецца галоўным чынам у дзеясловах і дзеяслоўных назоўніках ( яна адпавядае тут праславянскаму спалучэнню dj: агледжу, ваджу… Ае мы сустракаем таксама ў такіх словах, як дрожджы, дажджы…; у такіх запазычаных словах, як джунглі, джэм, Джакарта» (СБМ, *44–45*).

У некаторых выпадках Ф. М. Янкоўскі, нібы прадчуваючы пытанні, сумненні ці нават пярэчанні чытача, як бы непасрэдна звяртаеца да яго і цярпліва даводзіць сутнасць той ці іншай моўнай з’явы, напрыклад: «У сказе Паслухаць вас – усе вы хваты! А чуць да дзела – душа ў пяты. (Я. Колас). Фразема душа ў пяты мае значэнне «сполах» або «палохаецеся», «спалохаліся». Душа ў пяты паводле значэння ўспрымаецца як назоўнік ці дзеяслоў (гэтага не скажаш пра словы ніва, літара, спалох: яны – толькі назоўнікі, пра словы спалохацца, засмяяцца: яны толькі дзеясловы). Выслоўе душа ў пяты не назавеш назоўнікам ці дзеясловам па іншых асаблівасцях: назоўнік мае сталую граматычную прымету – род, ні да аднаго з трох родаў фразему душа ў пяты не аднясеш; назоўнікі скланяюцца ў адзіночным і множным ліку, гэта фразема не скланяецца; ёй уласціва катэгорыя адушаўлёнасці-неадушаўлёнасці; падзельна аформленая моўная адзінка мае застылую форму – прыназоўнікавае спалучэнне аднаго кампанента ў форме назоўнага склону і другога ў форме вінавальнага. Не назавеш фразему душа ў пяты і дзеясловам, бо яна не мае, напрыклад, трывання, ладу, часу. Паказанае дае падставу лічыць: фраземы не належаць да лексіка-граматычных разрадаў слоў, якія называюцца часцінамі мовы; фраземы паводле свайго значэння і сінтаксічнага ўжывання адпавядаюць часцінам мовы, суадносяцца з імі» (СБМ, *103*). Як бачым, з’ява характарызуецца з розных бакоў. Пры гэтым дзеясловы ў спалучэнні з адмоўнай часціцай не (не скажаш, не назавеш, не аднясеш) паказваюць, што разважанне аўтара адрасуецца непасрэдна ўяўнаму чытачу, як бы абвяргае яго сумненні, падкрэслівае адназначнае разуменне разглядаемай праблемы. Такім прыёмам аўтар пераконвае чытача, сваёй аргументацыяй нязмушана развейвае яго сумненні, падводзіць да адзіна правільнай высновы.

Іншы раз даецца магчымасць чытачу самому выбраць тое тлумачэнне, той погляд на з’яву, які ён палічыць больш верагодным, напрыклад: «У сучаснай беларускай мове паралельна сустракаем: кветка, квецень, квітнець і цвісці, зацвітаць, адцвітанне. Бытаванне слоў з праславянскім *кв* побач са змененым усходнеславянскім *цв* (*кв → цв) можна растлумачыць суседст-

вам беларускай мовы з польскаю і ўплывам апошняй. Можна думаць і інакш: магчыма, у старажытнасці не на ўсёй беларускай тэрыторыі *кв змянілася на цв. Прафесар Ф. П. Філін адзначае, што ў дыялектах усходнеславянскіх моў захавалася спалучэнне кв» (ГГБМ, *80–81*).

Для творчай манеры Ф. М. Янкоўскага тыповы і такі прыём, як «запрашэнне» чытача да сумеснага аналізу моўных з'яў, сумеснага пошуку адказу на тое ці іншае пытанне, напрыклад:

«Другое пераходнае памякчэнне заднеязычных, ці другая палаталізацыя, – таксама агульнаславянскае змяненне… Каб убачыць гэта палаталізацыйнае змяненне, параўнаем літоўскае слова kaina і адпаведнае старажытнае славянскае ötíà. Індаеўрапейскі дыфтонг ai (як і oi) у славян змяніўся і супаў з мяккім ц'. Такім чынам, у літоўскім kaina і старажытным славянскім ötíà ёсць адпаведнасць: дыфтонг ai і галосны h (ě), цвёрды зычны к і мяккі свісцячы ц'» (ГГБМ, *70*).

Або яшчэ: «Прыгледзімся да запісаных ніжэй слоў, звернем увагу на гукавую структуру пасля страты рэдукаваных:

| | |
|---|---|
| сьто → сто | огнь → огн' |
| чьто → что | осмъ → осм' |
| мънh → мнh → мне | гърньчаръ → горнчар…» (ГГБМ, *90*). |

Усе адзначаныя намі прыёмы выконваюць яшчэ адну істотную функцыю: не дапускаюць той хуткасці ў разважаннях, якая сустракаецца ў навуковых працах і характарызуецца хуткімі пераходамі ад адной думкі да другой, што, відавочна, стамляе розум чытача, і ён выпускае з-пад увагі агульную сувязь думак аўтара. Творчая ж манера Ф. М. Янкоўскага, дзякуючы выкарыстанню разнастайных спосабаў і прыёмаў ажыўлення моўнага выказвання, характарызуецца тым, што кожная думка так развіваецца, каб чытач мог, дакладней кажучы, паспеў успрыняць яе сэнс, перш чым пайсці за аўтарам (ці разам з аўтарам) у далейшы шлях, да лагічных вывадаў, што вынікаюць з гэтай думкі.

У плане выкарыстання спецыяльнай тэрміналогіі працы Ф. М. Янкоўскага таксама характарызуюцца разнастайнасцю спосабаў і прыёмаў. У прыватнасці, можна вылучыць наступныя прыёмы ўвядзення іх у кантэкст:

а) назва тэрміна, яго азначэнне і ілюстрацыя прыкладамі: «Бегласць галосных – гэта чаргаванне галосных з нулём гука: свісток – свісткі, кніжак – кніжка, ваўчок – ваўчка…» (ГГБМ, *91*);

б) назва тэрміна і яго азначэнне: «Фразеалагічныя спалучэнні – адзінкі, сэнс якіх вынікае са значэнняў састаўных» (СБМ, *96*);

в) вылучэнне асноўнай прыметы паняцця: «Спрашчэнне ў групах зычных, якое разумеюць як страту аднаго зычнага з групы, – агульнаславянскае змяненне» (ГГБМ, *77–78*);

г) суправаджальнае тлумачэнне тэрміна і ілюстраванне прыкладамі: «У выніку так званага эліпсісу (скарачэнне колькасці кампанентаў у фраземе: хоць граблямі заграбай → хоць заграбай, ... хоць ваўком завый → хоць завый) фразема можа стаць словам» (СБМ, *101*);

д) суправаджальнае ўвядзенне тэрміна ў дужках: «Нязмерным багаццем блізказначных слоў (сінонімаў) характарызуецца мова твораў Я. Купалы, Я. Коласа…» (СБМ, *62*);

е) паступовая падрыхтоўка чытача да ўспрыняцця тэрміна: «Як лічаць гісторыкі, выдзяленне славян з агульнаіндаеўрапейскага адзінства адбылося да пачатку III тысячагоддзя да нашай эры. Выдзеліўшыся, славяне доўгі час жылі сумесна на адносна невялікай тэрыторыі. Гэта быў агульны перыяд у гісторыі славян (агульнаславянскі). Мову славян гэтага перыяду называюць праславянскай; у навуцы ёсць і другая назва – агульнаславянская мова-аснова» (СБМ, *8*).

Такім чынам, нашы назіранні дазваляюць зрабіць выснову, што працы Ф. М. Янкоўскага вызначаюцца гранічнай дакладнасцю і прастатой выкладу навуковага матэрыялу, разнастайнасцю такіх спосабаў і прыёмаў навуковага выказвання, якія дапамагаюць у даступнай форме думкі і разважанні аўтара данесці да чытача, а чытачу – іх успрыняць. І калі веды – гэта прадукт навукі, яе элемент, яе частка, то і мова тых кніг, якія акумулююць гэтыя веды, – гэта мова навукі, яе асобная функцыянальная разнавіднасць.

# ДА ГАРМОНІІ СЛОВА І СТЫЛЮ (з працы Якуба Коласа над паэмай «Новая зямля»)*

Якуб Колас – пясняр слаўны і бессмяротны. Ён прыйшоў у літаратуру з пранікнёным поглядам Грамадзяніна і Мастака на гісторыю і жыццё свайго народа, свайго роднага краю. Усвядоміўшы пакутлівы лёс беларуса і Беларусі, Якуб Колас разам з Янкам Купалам «вызванялі лепшыя скарбныя дні» для беларускага народа. Паэт прыйшоў у беларускую літаратуру з нялёгкім і пачэсным клопатам аб развіцці ў сваім краі прыгожага пісьменства на роднай мове. «У далёкія гады майго юнацтва, калі мяне так моцна захапляла паэзія і паэтычная творчасць і я ўпотайку складаў песні моваю роднага народа аб яго долі, мяне часта браў горкі роздум: куды пайду я са сваім родным словам? Яно забаранялася, высмейвалася, яно выганялася з усіх устаноў таго часу. Ці дойдзе яно да народа, з цяжкім лёсам якога звязаў я свой лёс і якому аддаваў усё самае дарагое, што было ў маім сэрцы»[1], – успамінаў Якуб Колас.

* Першая публікацыя ў выданні: Роднае слова. – 2002. – № 11. – С. 36–40.

[1] *Колас Я*. Збор твораў : у 12 т. – Т.11. – Мінск, 1964. – С. 507.

Цяжка пераацаніць ролю народнага паэта Беларусі ў фарміраванні і развіцці сучаснай беларускай літаратурнай мовы, у выпрацоўцы і замацаванні яе лексічных, стылістычных, граматычных і іншых нормаў, бо яго плённая літаратурная дзейнасць прыпадае якраз на гады станаўлення, развіцця беларускай нацыянальнай літаратуры, беларускай нацыянальнай літаратурнай мовы, і амаль усе тыя зрухі, якія адбываліся ў мове, знайшлі сваё адлюстраванне ў творах Якуба Коласа.

Перавыданні твораў песняра розных гадоў даюць каштоўны матэрыял для таго, каб зазірнуць у творчую лабараторыю паэта, паказаць яго карпатлівую працу над словам, а таксама выявіць тыя змены, якія адбываліся ў развіцці сучаснай беларускай літаратурнай мовы на ўсіх яе ўзроўнях. Ніжэй мы і спынімся галоўным чынам на паказе таго, як вялікі пясняр клапаціўся пра дакладнасць словаўжывання, як імкнуўся ў сваёй творчасці да гармоніі слова і стылю. Свае назіранні і вывады мы зробім на аснове параўнальнага вывучэння тэкстаў розных гадоў выдання паэмы «Новая зямля», аднаго з найбольш значных і буйных твораў беларускай літаратуры.

Якуб Колас быў надзвычай патрабавальны да слова. Ён неаднаразова падкрэсліваў, што «ў літаратурнай рабоце мова з’яўляецца і матэрыялам, і інструментам. Вось чаму кожны пісьменнік павінен дасканала валодаць сваім інструментам і ведаць уласцівасці матэрыялу, пры дапамозе якога ён перадае і рэзкія рухі характару, і танчэйшыя адценні пачуцця. Без гэтага валодання і ведання мы ніколі не будзем майстрамі» [1].

Творчае крэда Якуба Коласа – простасць (але не спрошчанасць) і гранічная дакладнасць слова, погляд на мову як на самы яркі сродак жывапісу, сродак адлюстравання рэчаіснасці ў непаўторных вобразах і малюнках. Паэт заўсёды клапаціўся аб развіцці літаратурнай мовы на жывой народнай аснове, у якой ён бачыў прыгажосць і дакладнасць. Ён гаварыў: «Абмежаванасць у жывым матэрыяле, адсутнасць жывых вобразаў, узятых у народзе, вядзе да таго, што пісьменнік вымушан падмяняць іх сцёртымі словамі, і твор атрымліваецца чэзлым, малакроўным, бледным»[2] .

Аднак прыгажосць і дакладнасць слова самі па сабе не галоўнае для паэта. «Задача пісьменніка, – адзначаў Якуб Колас, – у фармаванні, адборы лепшага, у прывядзенні мовы да літаратурных норм… Мы павінны мець мову прыгожую, гучную, простую, але гнуткую і выразную»[3].

Значыць, працуючы над мовай сваіх твораў, Якуб Колас клапаціўся пра слова не толькі як пра сродак мастацкага пластычнага адлюстравання рэчаіснасці, але і як пра часцінку складанага арганізма, імя якому – беларуская нацыянальная літаратурная мова. З улікам гэтага мы і зазірнем у таямніцы коласаўскай працы над словам.

---

[1] *Колас Я.* Збор твораў : у 12 т. – Т.11. – Мінск, 1964. – С. 431.
[2] Тамсама. С. 547.
[3] Тамсама. С. 431.

Звяртае на сябе ўвагу тое, што амаль у кожнае новае выданне паэмы «Новая зямля» Якуб Колас уносіў тыя ці іншыя праўкі лексічнага і стылістычнага характару, якія паляпшалі твор з боку зместу і формы. Шматлікія тэкставыя праўкі (пераробкі, змяненні, дапаўненні, дапісванні) рабіліся перш за ўсё для таго, каб паглыбіць характарыстыку некаторых вобразаў, стварыць больш выразныя ў сваёй канкрэтнасці малюнкі, жыва і яскрава паказаць асобныя эпізоды, дасягнуць такога адзінства тону, рытмікі, стылю, якое не толькі выяўляе адносіны аўтара да апісанага, але і адпавядае гэтым адносінам.

Вось, напрыклад, апісанне лугу ў першапублікацыі раздзела «Леснікова пасада» і ў асобным выданні паэмы «Новая зямля»:

Зялёны луг, як скінуць вокам,
Абрусам пышным і шырокім
Ад хаты зараз пачынаўся
І ў шыр і ў доўж ён разсцілаўся
Ды йшоў квяцістай раўніною
З высокай мяккаю травою
І зьяў на сонцы ў пералівах
Прыгожых красак. Як на нівах
Жыта збажынка лёгка гнецца
І людзям радасна сьмяецца
Сваім прыятным дзіўным сьпевам
Пад лёгкім ветрыка павевам,
Так гнуцца, гойдаюцца травы,
Як пройме ветрык іх ласкавы
І пойдуць градкі травяные
З прыятным пахам чэрадою;
Зашэпчуць краскі між сабою,
Як бы дзеўчаткі маладые.
Эх, луг шырокі! Як жывы, ты,
Лучамі сонейка заліты,
Стаіш у мяне перэд вачыма,
Ты міл і смуцен, як радзіма,
Як наша ціхая старонка...[1].

Зялёны луг, як ськінуць вокам,
Абрусам пышным і шырокім
Абапал Нёмна расьцілаўся –
За хатай зараз пачынаўся
Ды йшоў квяцістай раўніною
З мурожнай слаўнаю травою
І ззяў на сонцы ў пералівах
Пяшчотных тонаў. Як на нівах

[1] Наша Ніва. – 1912. – № 28–29.

Жыта, збажынка лёгка гнуцца
І людзям радасна сьмяюцца
Сваім прыемным, мілым сьпевам
Пад лёгкім ветрыка павевам, –
Так гнуцца, гойдаюцца травы,
Як пройме ветрык іх ласкавы,
І пойдуць хвалі травяныя
З прыемным сьпевам чарадою,
Зашэпчуць краскі між сабою,
Нібы дзяўчаткі маладыя.
Эх, луг шырокі! Як жывы, ты,
Праменьнем сонейка заліты,
Стаіш у мяне прэд вачыма,
Ты міл і смуцен, як радзіма,
Як наша ціхая старонка...[1]

Усе праўкі лексічнага характару надаюць большую маляўнічасць гэтаму пейзажнаму малюнку, ствараюць адпаведны рытм, дзякуючы чаму радкі ў новай рэдакцыі гучаць больш эмацыйна, узнёсла, больш паэтычна. Калі гаварыць пра канкрэтнасць малюнка, то відавочна, што ў другім варыянце Якуб Колас, нібы мастак-пейзажыст, менш акцэнтуе ўвагу на асобных дэталях (параўн.: *і ў шыр і ў доўж* ён разсцілаўся – *абапал* Нёмна расьцілаўся; *высокай мяккаю* травою – *мурожнай слаўнаю* травою; *прыгожых красак – пяшчотных тонаў*; *градкі* травяные з *прыятным пахам – хвалі* травяныя з *прыемным сьпевам*). Пейзажны малюнак застаецца ўвогуле канкрэтным і выразным, і разам з тым гэтая канкрэтнасць набывае больш абагульнены характар.

Акрамя таго, замяніўшы радок *«і ў шыр і ў доўж ён разсцілаўся»* на *«абапал Нёмна расьцілаўся»*, паэт дасягнуў інтанацыйнага адзінства. З той жа мэтай Якуб Колас паправіў радок *«стаіш у мяне перэд вачыма»* спачатку на *«стаіш у мяне прэд вачыма»*, потым – на *«стаіш у мяне прад вачыма»*[2] і, нарэшце, на *«увесь стаіш перад вачыма»*[3]. Відаць, аўтара не задавальнялі розныя «паэтычныя вольнасці» ў абыходжанні са словам (ужыванне ***ў*** пасля зычнага, слова *мяне* з ненарматыўным націскам, да таго ж яны парушалі адпаведны рытм вершаваных радкоў). Таму паэт імкнуўся, наколькі гэта магчыма, знайсці такія словы і так іх арганізаваць, каб яны не парушалі не толькі адзінага рытму, адзінага эмацыйнага гучання, але і моўнага «этыкету».

Якуб Колас надзвычай клапаціўся пра тое, каб апавяданне вялося ў адпаведным рытмічным ключы. Невыпадкова многія праўкі, нават самыя нязначныя, зроблены паэтам для таго, каб стварыць такі інтанацыйны малюнак, які б у поўнай меры выяўляў характар, настрой таго ці іншага персанажа або апавядальніка. Вось толькі адзін прыклад такой працы:

---

[1] *Колас Я*. Новая зямля. – Мінск, 1923. – С. 7.
[2] Тамсама. С. 6.
[3] *Колас Я*. Збор твораў : у 7 т. – Т. 4. – Мінск, 1952. – С. 10.

Нясьліся зыкі песень здольных,
У лясох раз-па-раз адбіваліс;
Ім усюды ўзгоркі адклікаліс ...[1].

Нясьліся зыкі песень здольных,
У лясох раз-па-раз адбіваліс,
Ім узгоркі адклікаліс ...[2].

Нясьліся зыкі песень здольных,
У лясох раз-па-раз адбіваліс,
Ім узгоркі усюды адклікаліс ...[3].

Нясліся зыкі песень здольных,
У лясах раз-па-раз адбіваліс;
І ім узгоркі адклікаліс ...[4].

Спачатку, як бачым, паэт толькі памяняў месцамі словы *ўсюды* і *ўзгоркі,* але радок па-ранейшаму «спатыкаўся» на рытме. Гэта заўважалася, і тады слова *ўсюды,* якое не несла асаблівай сэнсавай нагрузкі, было зусім апушчана. Аднак і гэта не выратоўвала, таму што вершаваны радок наогул загучаў у іншым рытмічным ключы:

Ім узгоркі ўсюды адклікаліс (ямб);
Ім узгоркі адклікаліс (харэй).

Рыхтуючы паэму для Збору твораў у 7 тамах, Якуб Колас пачаў радок са злучніка *і*, і ён адразу загучаў ва ўнісон з іншымі радкамі.

Што да ўжывання ў прыведзеным вышэй апісанні лугу слоў *ззяў, прыемным, праменьнем* замест *зьяў, прыятным, лучамі*[5], то гэтыя замены абумоўлены тым, што апошнія словы не ўласцівы сучаснай беларускай літаратурнай мове, з'яўляюцца ненарматыўнымі.

Калі адны праўкі рабіліся з мэтай надаць апісанням больш абагульнены характар, то іншыя, наадварот, тлумачацца імкненнем аўтара да гранічнай канкрэтнасці малюнка, эпізода і г. д. Для прыкладу параўнаем пабытавую замалёўку з раздзела «Раніца ў нядзельку»:

Дзень быў сьвяты. Ешчэ ад раньня
Пяклісь аладкі на сьнеданьне,
І ўжо пры печы з чэпялою
Стаяла маці. Пад рукою
Таўкаліс дзеці. Заміналі,
Сьмеяліс, плакалі, сьпевалі.
Услон заняў сваё ўжо места.
На ім стаяла ражка цеста,
І апалонік то і дзела
Па ражцы боўтаў жвава, сьмела
І кідаў цеста ў скавародкі;
Давала піск яно кароткі,
Па скавародах разлівалась
І ў вочавідкі запекалось,

Дзень быў сьвяты. Яшчэ ад раньня
Блінцы пякліся на сьняданьне,
І ўжо пры печы з чапялою
Стаяла маці ... Пад рукою
Таўкліся дзеці, заміналі
Або сьмяяліся, сьпявалі.
Услон заняў сваё ўжо места.
На ім стаяла ражка цеста,
І апалонік то і дзела
Па ражцы боўтаў жвава, сьмела
І кідаў цеста ў скавародкі.
Давала піск яно кароткі,
Льючыся з шумам на патэльні,
І ў жар стаўлялася пякельны.

[1] Наша Ніва. – 1912. – № 28–29.
[2] *Колас Я*. Новая зямля. – Мінск, 1927. – С. 4.
[3] *Колас Я*. Новая зямля. – Мінск, 1923. – С. 6.
[4] *Колас Я.* Збор твораў : у 7 т. – Т. 4. – Мінск, 1952. – С. 8.
[5] Слова ззяў (замест зьяў) ужыта ў выданні паэмы «Новая зямля» 1927 г. – С. 5.

І ўжо адтуль рукою маткі
На зэдаль кідаліcь аладкі,
А дзеці іх даўно чэкалі
І на ляту блінцы хапалі
Ды маслам мазалі ці здорам.
Стаяў асобна ў місцы скорам
Сяго-таго для верашчакі.
Хоць не вялікіе прысмакі
Цыбуля, перчык – ўся прыправа,
Але ўсё-ж сьнеданьне цікава.
А для дзяцей найбольшэ сьвята
Пад'есці смачна і багата,
І звон аб прыпек скавародны
Сьпеваў у іх душах з дзіўнай сілай,
Зьнімаў з пасьцелей песьней мілай,
Так блізкі сэрцу, так ім родны[1].

І там з яго ўжо ўвачавідкі
Пякліся гладзенькія пліткі
Блінцоў, спаднізу наздраватых,
Угору пышна, пухла ўзьнятых,
І ўжо адтуль рукою маткі
На ўслон шпурляліся аладкі,
А дзеці іх даўно сачылі
І на ляту блінцы лавілі,
Заядла мазалі іх здорам.
Стаяў асобна ў місцы скорам,
Сяго-таго для верашчакі.
Хоць невялікія прысмакі –
Цыбуля, перчык, ліст бабкоў –
Ды сальца некалькі брускоў.
Мука і квас - і уся прыправа,
Але ўсё-ж сьнеданне цікава;
А для дзяцей найбольша сьвята,
Абы наесьціся заўзята.
І звон аб прыпек скавародны,
Так блізкі сэрцу, так ім родны,
У нейкім радасным настрою
Сьпяваў ім песьняю сьвятою
І лашчыў сэрцы іх і вушы
І поўніў радасцю іх душы,
Такі прыемны, мілагучны,
У тэй прыемнасці выключны,
Ён разьліваўся па усім целе
І ў момант іх зьнімаў з пасьцелі[2].

Дапрацоўваючы гэтыя радкі, Якуб Колас зрабіў перш за ўсё лексічныя праўкі. Слова *аладкі* заменена словам *блінцы* з эмацыйна-памяншальным суфіксам. Лексічны дыялектызм *зэдаль* ужываецца ў першапублікацыі як сінонім слова *ўслон.* Аднак гэта, як і ўжыванне семантычнага дыялектызма *ражка,* а таксама слоў *плакалі, кідаліcь, чэкалі,* вяло да таго, што паэтычныя фарбы бляклі. Намінатыўную функцыю гэтыя словы выконвалі дакладна, але ў творы яны неслі нагрузку чыста інфармацыйную, а не паэтычную.

Акрамя таго, і з боку стылю замалёўка не вызначалася адзінствам. Параўнаем: *«услон заняў сваё ўжо места», «а апалонік то і дзела па дзежцы боўтаў жвава, сьмела і кідаў цеста ў скавародкі», «даўно чэкалі», «ды маслам мазалі ці здорам».* З аднаго боку – незвычайны дынамізм падзей, такі калаўрот, калі ажываюць нават звычайныя побытавыя рэчы; з другога – змена настрою, рытму ў дзеяннях дзяцей. Верагодна, так яно і было. Але, стаўшы фак-

[1] Наша Ніва. – 1912. – № 39.
[2] *Колас Я*. Новая зямля. – Мінск, 1923. – С. 12–13.

там паэзіі, усё гэта павінна быць сказана на адным дыханні. Спачатку, як бачым, не зусім добра атрымалася, таму Якуб Колас, рыхтуючы паэму да выдання асобнай кніжкай, перапрацаваў гэту замалёўку: слова *плакалі* зусім апусціў, словы *кідаліcь, зэдаль, чэкалі* замяніў адпаведна словамі *шпурляліся, услон, сачылі*[1]; выразы, якія расслаблялі, запавольвалі рытм, перапрацаваў (параўн.: *«ды маслам мазалі ці здорам»* і *«заядла мазалі іх здорам»; «пад'есці смачна і багата»* і *«абы наесціся заўзята»);* сказы, што сваёй інтанацыйнай структурай не «ўпісваліся» ў адзіны рытмічны малюнак, дапоўніў новымі словамі, цэлымі паэтычнымі радкамі. І малюнак нібы ажыў, бо коласаўскае «ледзь-ледзь», свежыя фарбы, новыя дэталі ператварылі звычайную побытавую замалёўку ў паэтычны абразок, поўны мяккага гумару і замілавання. І мімволі прыходзіць на памяць крылатае выказванне знакамітага мастака К. Брулова: «Мастацтва пачынаецца там, дзе пачынаецца ледзь-ледзь»[2].

Якуб Колас быў надзвычай патрабавальным мастаком. Радкі сваёй паэмы ён правіў і перапрацоўваў да таго часу, пакуль не знаходзіў найлепшы варыянт, пакуль не дасягаў гарманічнага адзінства зместу і формы, слова і стылю. Дастаткова сказаць, што толькі ў раздзеле «Раніца ў нядзельку» аўтар зрабіў каля 100 правак лексічнага і граматычнага характару (замяняў або зусім апускаў тыя ці іншыя словы, формы слоў, змяняў парадак слоў у словазлучэннях і сказах і інш.) і дапісаў больш як 100 новых паэтычных радкоў.

Многія тэкставыя праўкі ў паэме звязаны з дакладнасцю словаўжывання. Гэта было адным з асноўных эстэтычных патрабаванняў паэта, таму што «слова для пісьменніка – гэта асноўная канва, па якой будуе ён сваю мастацкую творчасць. І не толькі паасобнае слова, як такое, павінна стаць у цэнтры ўвагі пісьменніка: ён павінен адводзіць максімум увагі і спалучэнню слоў як у сказах, так і ў агульным плане ўсіх элементаў, з якіх складаецца мастацкі твор: апісанне, дыялогі, абрысоўка характараў, падача сцэн і г. д.»[3].

Клопат пра дакладнасць словаўжывання для Якуба Коласа – гэта перш за ўсё клопат пра сэнсавую дакладнасць, імкненне знайсці такое слова і паставіць яго ў такую моўную пазіцыю, дзе б яно раскрывала ўсю гаму сваіх сэнсавых і эмацыйна-экспрэсіўных адценняў. І, працуючы над паэмай, паэт знаходзіў адпаведныя словы. Параўнаем, напрыклад:

| | |
|---|---|
| *Будоўля горш ешчэ старая*<br>(НН-12, № 28–29); | *Будоўля больш яшчэ старая*<br>(НЗ-23, *10*); |
| *Цяпер яны панаедаліс,*<br>*Гульнёй дзяцінаю займаліс*<br>(НН-12, № 39); | *Цяпер, здаволіўшысь ядою,*<br>*Дзяцінай цешыліс гульнёю*<br>(НЗ-23, *13*); |

[1] Слова дзежка (замест ражка) ужыта ў выданні паэмы «Новая зямля» 1927 г. – С. 11.

[2] *Сухотина-Толстая Т.* Друзья и гости Старой Поляны. – М., 1923. – С. 46–47; *Толстой Л.* Собрание сочинений: В 20 т. – Т. 6. – М., 1964. – С. 156.

[3] *Колас Я.* Збор твораў : у 12 т. – Т. 11. – С. 92.

| | |
|---|---|
| *Пайшла у крыніцу і помыла,*<br>*На прызьбі сохнуць палажыла*<br>(НН-12, № 39); | *Пайшла ў крыніцы спаласнула,*<br>*Сушыцца ўскінула на шула*<br>(НЗ-23, *15*); |
| *Ад Бога думкі раскідае*<br>(НН-12, № 39); | *Ад Бога думкі адкідае*<br>(НЗ-23, *16*); |
| *Чым служба больш надаедала,*<br>*Тым дужэй бацьку прыцягала*<br>*Свая зямелька ...*<br>(НН-13, № 1) | *І чым больш служба дакучала,*<br>*Тым болей бацьку прыцягала*<br>*Свая зямелька ...*<br>(НЗ-23, *24*) |

Праца над дакладнасцю словаўжывання была настолькі істотнай, што Якуб Колас замяняў не толькі адно слова іншым, але нават адну форму слова іншай формай, напрыклад:

| | |
|---|---|
| Кароўкі з лесу паказаліcь.<br>Трушком йшла ўперэдзі Красуля,<br>За ёю Лысая, Рагуля<br>Ды дзве перэзімкі-цялушкі<br>Ішлі згодна парай, як дзве дружкі.<br>А ззаду чмыхаў бык Мікіта,<br>Хвастом махаючы сярдзіта.<br>А авадні як рой пчаліны,<br>Сляпіцай лезлі да скаціны<br>І тхнуць кароўкам не давалі,<br>Галопам бегчы запраўлялі[1]. | З-за рэчкі ціснуцца каровы.<br>Ідзе паперадзе Красуля,<br>За ёю Лысая, Рагуля<br>Ды дзве пярэзімкі-цялушкі<br>Ідуць у згодзе, як дзве дружкі.<br>А збоку чмыша бык Мікіта,<br>Хвастом махаючы сярдзіта.<br>А авадні, як рой пчаліны,<br>Сьляпіцай лезуць да скаціны,<br>Гудуць драпежна, тнуць балюча,<br>Бы крапіва тая пякуча,<br>Дыхнуць каровам не даюць,<br>Каровы злосныя бягуць,<br>Адна другую б'юць рагамі<br>І толькі тухкаюць нагамі…[2]. |

У другім варыянце карціна вяртання статка з пашы выпісана больш жыва і пластычна. Гэтага паэт дасягнуў не толькі заменай адных слоў іншымі, не толькі ўвядзеннем новых слоў і радкоў, але і заменай формы прошлага часу дзеясловаў формай цяперашняга часу (*паказаліcь – ціснуцца, йшла – ідзе, ішлі – ідуць, чмыхаў – чмыша* і г. д.). У дадзеным выпадку паэт свядома выкарыстаў форму так званага «цяперашняга гістарычнага часу», каб жыва і эмацыйна расказаць пра звычайны бытавы факт і, такім чынам, ператварыць яго ў факт паэтычны.

Змены формаў трывання таго ці іншага дзеяслова таксама сведчаць пра тое, што Якуб Колас імкнуўся да выключнай сэнсавай дакладнасці. Параўнаем:

| | |
|---|---|
| Алесь не рад быў, што пытаўся,<br>У кут ён борздзенька хаваўся[3]. | Алесь не рад быў, што спытаўся,<br>І ў кут ён борздзенька хаваўся[4]. |

[1] Наша Ніва. – 1912. – № 39.
[2] *Колас Я*. Новая зямля. – Мінск, 1923. – С. 15.
[3] Наша Ніва. – 1913. – № 1.
[4] *Колас Я*. Новая зямля. – Мінск, 1923. – С. 26.

У першым варыянце выкарыстаны формы дзеясловаў незакончанага трывання (*пытаўся, хаваўся*), а ў другім форма незакончанага трывання *пытаўся* заменена формай закончанага трывання *спытаўся.* Пры гэтым форма дзеяслова *хаваўся* засталася нязменнай. Агульны сэнс кантэксту ад гэтага ўвогуле не змяніўся. Аднак відавочна, што форма закончанага трывання дзеяслова *спытаўся* тут больш да месца, паколькі для аўтара прынцыпова важна канкрэтызацыя факта як адзінкавага, чым проста ўказанне на тое, што дзеянне адбылося.

Высокая патрабавальнасць Якуба Коласа да слова на працягу ўсёй яго творчай дзейнасці звязвалася з клопатам пра чысціню мовы. Як падкрэсліваў паэт, пра гэта асабліва павінны дбаць вядомыя пісьменнікі, таму што нават «невялікія моўныя неахайнасці ў іх творах, дапушчаныя ці праз недагляд, ці праз паспешлівасць, успрымаюцца літаратурнай моладдзю як канон, пашыраюцца ў новых творах і пагражаюць небяспекай стаць моўнай нормай»[1]. Назіранні над працай Якуба Коласа паказваюць, што многія праўкі лексічнага характару зроблены з улікам моўнай нормы. Так, у працэсе працы над тэкстам «Новай зямлі» паэт замяняў дыялектныя словы і формы, а таксама словы і формы, характэрныя для рускай мовы, такімі словамі і формамі, якія набылі статус нормы ў сучаснай беларускай літаратурнай мове. Напрыклад, словы і формы *хмурны, прыятны, тэй, оздух, кождым, вагнуўшайся, мейсцэ, адчотліва, расчот, от, не акараскацца, кожын, уласць, нашчот* і іншыя, ужытыя ў першапублікацыі асобных раздзелаў, былі пазней заменены адпаведнымі словамі і формамі *хмуры, прыемны, той, паветра, кожным, вагнутаю, месца, выразна, разлік, вось, не адкараскацца, кожны, улада, наконт.*

Што да прастамоўных слоў, то іх ужыванне абумоўлівалася выключна стылістычнымі мэтамі, той мастацкай функцыяй, якую яны павінны выконваць у творы. Параўнаем для прыкладу наступныя радкі:

| | |
|---|---|
| Ну, што? Намазаліcь аладак?<br>Жартуе дзядзька тут з малымі<br>Ідучы ў хату разам з імі[2]. | – Ну, што? Наеліся аладак?<br>Жартуе дзядзька тут з малымі<br>Ды йдзе ўжо ў хату разам з імі[3]. |
| Між ім і бацькам Костусь усеўся;<br>Аладак ён даўно наеўся…[4] . | Кастусь сядзеў між ім і татам;<br>Ён да яды ня так быў падак,<br>Бо ўжо намазаўся аладак ...[5]. |

У першым выпадку прастамоўнае слова *намазаліcь* Якуб Колас замяніў пры падрыхтоўцы паэмы да друку стылістычна нейтральным словам *наелі-*

[1] *Колас Я*. Збор твораў : у 12 т. – Т. 11. – С. 432.
[2] Наша Ніва. – 1912. – № 39.
[3] *Колас Я*. Новая зямля. – Мінск, 1923. – С. 16.
[4] Наша Ніва. – 1913. – № 1.
[5] *Колас Я*. Новая зямля. – Мінск, 1923. – С. 20.

*ся.* Гэта важна было для характарыстыкі дзядзькі Антося. З другога боку, пры апісанні снедання сям'і Міхала, наадварот, слова *наеўся* паэт замяніў словам *намазаўся,* таму што яно вельмі дакладна характарызавала Кастуся, які паспяшаўся пад'есці да таго, пакуль уся сям'я сядзе за стол.

Такім чынам, аналіз карпатлівай працы Я. Коласа над мовай паэмы «Новая зямля» паказвае, што разнастайныя па сваім характары праўкі рабіліся ў адпаведнасці з тымі высокімі эстэтычнымі патрабаваннямі, якія ставіў паэт да мовы мастацкай літаратуры. Якуб Колас, карыстаючыся жывой народнай гаворкай, якая з малаком маці ўвайшла ў яго істоту, апрацоўваў гэтую мову, узнімаў яе да ўзроўню літаратурнай і на яе жыватворнай аснове напісаў класічны твор, выключны па сваёй паэтычнасці, вялікай і мудрай прастаце. Чытаеш радкі паэмы і міжволі ўспамінаеш словы Л. Талстога: «Як ні дзіўна гэта казаць, а мастацтва патрабуе яшчэ значна большай дакладнасці, precision, чым навука».

## ДА ПЫТАННЯ ТЭРМІНАЛАГІЧНАЙ НОРМЫ*

У беларускім тэрміназнаўстве нарматыўны аспект, як правіла, звязваецца з генезісам і адпаведнай ладу беларускай мовы лінгвістычнай правільнасцю пабудовы і ўжывання тэрмінаў. У такім падыходзе, безумоўна, ёсць сэнс, таму што без арыентацыі на спрадвечныя моўныя рэсурсы нельга сфарміраваць нацыянальную па форме тэрміналогію, а без уласна лінгвістычнай правільнасці – стварыць такі тэрмін, які б адпавядаў не толькі норме, што рэгламентуецца сістэмай мовы, але і сістэмнасці тэрміналогіі, г. зн. той лінгвістычнай упарадкаванасці спецыяльных слоў, што абслугоўваюць тэрміналагічнае поле. Значыць, у выбары тэрміна з ліку наяўных дублетаў, сінонімаў ці варыянтаў, у выбары адпаведнай тэрмінаўтваральнай мадэлі, тых ці іншых сродкаў тэрмінаўтварэння арыентацыі толькі на ўласна лінгвістычныя крытэрыі нормы недастаткова, бо па-за ўвагай застаюцца тыя асаблівасці, якія абумоўлены спецыфікай тэрміналагічнай лексікі і якія складаюць адметнасць тэрміналагічнай нормы. Двайная залежнасць тэрміна ад агульналітаратурнай і тэрміналагічнай нормы тлумачыцца месцам тэрміналогіі ў лексічнай сістэме нацыянальнай мовы, тым, што лексіка тэрміналагічная «як сістэма іншакшай семіятычнай сістэмы, чым сістэма натуральнай мовы, уваходзіць у яе на становішчы прыватнай і адасобленай сістэмы моўных знакаў»[1]. З гэтага вынікае, што тэрміналогія, з аднаго боку, вывучаецца як уласна лінгвістычны аб'ект, а з другога – як самастойны аб'ект, што валодае шэрагам адрозных распазнавальных прымет.

---

* Першая публікацыя ў выданні: Культура мовы і грамадства: матэрыялы міжнар. навук.-практ. канф. (Мінск, 5–6 снеж. 2002 г.). – Мінск, 2002. – С. 90–93.

[1] *Толикина Е. Н.* Некоторые лингвистические проблемы изучения термина // Лингвистические проблемы научно-технической терминологии. – М., 1970. – С. 63.

Агульналітаратурная норма прадвызначае агульную лінгвістычную правільнасць тэрмінаў, г. зн. іх адпаведнасць фанетычным, арфаэпічным, слова- і формаўтваральным, марфалагічным і сінтаксічным асаблівасцям нацыянальнай літаратурнай мовы.

Тэрміналагічная норма, акрамя таго, патрабуе, каб тэрміны адпавядалі тым істотным прыметам, якія абумоўлены асаблівасцямі тэрмінасістэмы, у прыватнасці былі сістэмнымі ў плане зместу і выражэння (структуры). Значыць, «праблему нормы неабходна разглядаць не толькі з чыста лінгвістычных пазіцый, але і як комплексны крытэрый ацэнкі тэрмінаў»[1].

Моўныя праблемы, звязаныя з упарадкаваннем беларускай тэрміналогіі караняцца ў працяглым бездзяржаўным існаванні беларускай мовы, яе сацыяльна нераўнапраўным функцыянаванні ў ценю рускай мовы, калі шматлікія тэрміны запазычваліся з рускай мовы ці ствараліся шляхам іх перакладу або калькавання, напрыклад: *аднавіцель, астатак, засельшчык, інтэгрыраванне, словаўтвараючы, крыжацветныя, параўнальная ступень, складанападпарадкаваны сказ* і да т. п. Практычнае ажыццяўленне палажэнняў тэорыі «зблiжэння моў» прывяло да значнай дэфармацыі ўсіх узроўняў беларускай мовы, асабліва словаўтваральнага і лексічнага, што непасрэдна адбілася і на тэрміналогіі.

На пачатку 1990-х гг. распачаўся працэс аднаўлення арганічных для беларускай мовы словаўтваральных мадэляў, што прывяло да сутыкнення двух супрацьлеглых прынцыпаў: а) ранейшай арыентацыі на рускую мову; б) максімальнага выкарыстання ўласных рэсурсаў. Гэта адлюстроўваюць шматлікія варыянты тэрмінаў тыпу *ўтвараючая* і *ўтваральная* (аснова), *адноўнік* і *аднавіцель*, *кіроўны* і *кіруемы*, *пенсійны* і *пенсіённы*, *прамастойныя* і *прамастаячыя* (сцяблы) і да т. п. Праўда, у сувязі з праблемай нормы пытанне варыянтнасці стала ў апошнія гады прадметам увагі мовазнаўцаў, у тым ліку і тэрмінолагаў, аднак пакуль што нельга сказаць, што яна канчаткова тэарэтычна акрэслена. Да таго ж храналогія варыянтаў практычна не вывучалася, хоць гэта мае істотнае значэнне для вырашэння праблемы нармавання.

Калі ў агульналітаратурнай мове варыянты могуць выражаць сэнсавыя, эмацыянальна-экспрэсіўныя, ацэначныя адценні, то ў тэрміналогіі кожны тэрмін павінен вызначацца інтэлектуальнай чысцінёй. Таму ў ёй варыянтнасць збыткоўная, непажаданая. Пры гэтым асноўным метадам даследавання варыянтаў пры вызначэнні тэрміналагічнай нормы, на наш погляд, з'яўляецца структурна-супастаўляльны аналіз, калі варыянты разглядаюцца ў іх парадыгматычных, дэрывацыйных і фармальна-структурных сувязях. Напрыклад, на старонках розных выданняў сустракаюцца супрацьпастаўленыя рады тэрмі-

---

[1] *Даниленко В. П.* Терминологическая норма: К проблеме типологии терминов // Проблемы разработки и упорядочения терминологии в академиях наук союзных республик. – М., 1983. – С. 91.

наў *акісляць, акісленне, акісляльнік, акісляльны* і *аднаўляць, аднаўленне, аднавіцель, адноўнік, аднаўленчы*, якія абазначаюць адпаведныя паняцці, звязаныя з хімічнымі рэакцыямі. З пазіцый агульналітаратурнай нормы як ненарматыўны ўспрымаецца ў гэтых радах толькі тэрмін *аднавіцель*. Калі ж зыходзіць з лагічнай схемы навукі, улічваць класіфікацыйную сістэму паняццяў і адпаведную ёй сістэму тэрмінаў, то высвятляецца, што тэрміны *адноўнік* і *аднаўленчы* не адпавядаюць тэрміналагічнай норме. Рэч у тым, што з пункту гледжання электроннай тэорыі хімічнай сувязі і хімічных працэсаў рэакцыі акіслення і аднаўлення з'яўляюцца ўзаемаабумоўленымі: пры акісленні якога-небудзь рэчыва адзін ці некалькі атамаў збядняюцца электронамі, пры аднаўленні – узбагачаюцца імі. Адпаведна і два рады тэрмінаў, якія павінны быць сістэмнымі ў плане зместу і выражэння. Апошняе парушана, таму што аднатыпныя паняційна-лагічныя адносіны ў структуры суадносных тэрмінаў *акісляльнік – адноўнік*, *акісляльны – аднаўленчы* выражаюцца па-рознаму. А гэта для тэрміналогіі, дзе заканамерная спецыялізацыя слова- і формаўтваральных сродкаў і мадэляў, адзнака ненарматыўнасці. Між тым, сістэмнаць у плане выражэння тэрмінаў як сродкаў намінацыі і дэфініцыі аднатыпных класіфікацыйных радоў паняццяў лёгка дасягаецца праз спецыялізацыю паводле значэння адпаведных марфем, параўн.: акісляць – аднаўляць, акісленне – аднаўленне, акісляльнік – аднаўляльнік, акісляльны – аднаўляльны.

Больш высокай акрэсленасці спецыялізацыі словаўтваральных сродкаў і мадэляў пры сістэмнай стандартызацыі тэрміналогіі вымагае наяўнасць такіх тэрмінаў (тэрмінакампанентаў) ці іх варыянтаў, як:

а) у межах аднаго тэрмінаполя: *квадратычны* (квадратичный), рэшта *квадратовая* (вычет квадратичный), функцыя *квадратовая* (функцыя квадратная); *інтэгравальны* (интегрируемый), *мажараваны* (мажорируемый); *шліфаванне* (шлифование и шлифовка); *пранікальны* (проникающий); прамяні *слабапранікныя* (лучи слабопроникающие); *двухмерны* (двухмерный), *трохвымерны* (трёхмерный) і да т. п.;

б) у межах розных тэрмінапалёў: интегрируемый – *інтэгравальны* (матэматыка), *інтэгроўны* (фізіка); седлообразный – *седлаваты* (матэматыка), порошкообразный – *парашкападобны*, сахаровидный – *цукрападобны* (нафтагазаздабыча) і г. д.

Такім чынам, пры вызначэнні нарматыўнасці тэрмінаў арыентацыі толькі на крытэрыі агульналітаратурнай нормы недастаткова.

# ХРАНАЛАГІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК ПРАЦ В. П. КРАСНЕЯ

**1967**

Беларуская спецыяльная тэрміналогія на старонках «Нашай Нівы» // Материалы межвуз. респ. конф. аспирантов и молодых ученых, посвящ. 50-летию Великой Октябрьской социалистической революции. – Минск, 1967. – С. 176–178.

**1968**

З гісторыі фарміравання беларускай граматычнай тэрміналогіі // Беларуская лексікалогія і этымалогія. – Мінск, 1968. – С. 90–92.

Некаторыя асаблівасці беларускай літаратуразнаўчай тэрміналогіі пачатку XX ст. // Праблемы беларускай філалогіі. – Мінск, 1968. – С. 62–64.

**1969**

Беларускія лінгвістычныя тэрміны пачатку XX ст. // Лексікалогія і граматыка. – Мінск, 1969. – С. 17–25.

Аб некаторых асаблівасцях мовы беларускай дакастрычніцкай літаратурнай крытыкі // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1969. – № 1. – С. 57–61.

Белорусская филологическая терминология начала XX в.: аўтарэф. дыс. … канд. філал. навук. – Минск, 1969. – 14 с.

**1970**

Роля перакладаў твораў У. І. Леніна ва ўзбагачэнні лексічных сродкаў беларускай літаратурнай мовы // Тез. докл. науч. конф., посвящ. 100-летию со дня рождения В. И. Ленина. – Минск, 1970. – С. 19–22.

Вытокі і шляхі слова // Маладосць. – 1970. – № 5. – С. 123–126.

Некаторыя аспекты аналізу беларускай тэрміналагічнай лексікі // Актуальные проблемы лексикологии. – Минск, 1970. – С. 112–113.

Усесаюзная канферэнцыя па актуальных праблемах лексікалогіі // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1970 – С. 89–90.

**1971**

Адрасуецца мовазнаўцам // Настаўніцкая газета. – 1971. – 6 лют.

З гісторыі беларускай літаратуразнаўчай тэрміналогіі // Лінгвістычныя даследаванні. – Мінск, 1971. – С. 113–117.

**1972**

Беларуская мовазнаўчая тэрміналогія // Народная асвета. – 1972. – № 9. – С. 48–52 (у сааўтарстве з І. К. Германовічам)

З назіранняў над мовай паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» // Народныя песняры. – Мінск, 1972. – С. 209–220.

**1973**

Да пытання аб параўнальным вывучэнні беларускага і рускага тэрмінаўтварэння // Тыпалогія і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур: тэз. дакл. і паведамл. рэсп. канф. (Мінск, 17–19 мая 1973 г.). – Мінск, 1973. – С. 142–144.

Из истории создания и упорядочения белорусской национальной терминологии // Научно-техническая терминология. – 1973. – № 1. – С. 33–39.

Некоторые лингвистические аспекты анализа белорусской терминологической лексики // Проблемы лексикологии. – Минск, 1973. – С. 55–63.

Некаторыя пытанні аналізу мовы мастацкага твора // Вывучэнне беларускай мовы ў ВНУ БССР. – Мінск, 1973. – С. 64–66.

Пра тыпалогію і ўзаемадзеянне славянскіх моў і літаратур // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1973. – № 3. – С. 80–82.

Тэрміналагічныя рэгіяналізмы ў беларускай літаратурнай мове пачатку XX ст. // Рэгіянальныя асаблівасці беларускай мовы, літаратуры і фальклору: тэз. дакл. рэсп. навук. канф. (Гомель, 25–26 мая 1973 г.). – Гомель, 1973. – С. 36–38.

**1974**

Месца курса гісторыі беларускай літаратурнай мовы ў сістэме філалагічнай падрыхтоўкі студэнтаў-завочнікаў // Тез. докл. и сообщ. II респ. науч.-метод. конф. вузов БССР : Проблемы высшего заочного образования. Сб. 1. – Минск, 1974. – С. 143–145.

**1975**

Аб арганізацыі работы ў спецсемінары па мове // Научная организация учебного процесса и самостоятельной работы студентов: тез. докл. и сообщ. Ч. 1. – Минск, 1975. – С. 82–84.

Беларускія матэматычныя тэрміны пачатку XX ст. // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1975. – № 1. – С. 25–30.

О специфике и анализе термина // Методы изучения лексики. – Минск, 1975. – С. 186–200.

**1976**

О терминологии школьных курсов русского и белорусского языков // Всесоюзная научная конференция по проблемам обучения русскому языку в условиях близкородственного билингвизма: материалы конф. – Минск, 1976. – С. 278–282.

Астранамічныя тэрміны ў беларускіх выданнях пачатку XX ст. // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1976. – № 3. – С. 26–31.

**1977**

Права и обязанности, быт и отдых студентов // Введение в специальность. – Мінск, 1977. – С. 39–55.

Некаторыя асаблівасці выпрацоўкі і ўдасканалення беларускай тэрміналогіі ў савецкі час // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1977. – № 2. – С. 28–33.

Прыродазнаўчая лексіка на старонках беларускіх выданняў пачатку XX ст. // Беларуская мова. – Вып. 5. – Мінск, 1977. – С. 18–27.

Аб параўнальна-тыпалагічным вывучэнні тэрміналагічнай лексікі // Тыпалогія славянскіх моў і ўзаемадзеянне славянскіх літаратур: тэз. дакл. – Мінск, 1977. – С. 185–187.

Об активизации работы студентов в языковедческом семинаре // Качество университетского образования на новую, более высокую ступень. – Минск, 1977. – С. 43–45.

**1978**

III славістычная канферэнцыя // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1978. – № 1. – С. 83–84.

[Рэц.] Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. Т. 1. – Мінск, 1977. – 608 с. // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1978. – № 2. – С. 84–85.

Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. – Мінск: БДУ, 1978. – 135 с. (у сааўтарстве з Л. М. Шакуном)

К методике преподавания дисциплин специализации на заочном факультете // Проблемы высшего заочного образования: материалы III респ. науч.-метод. конф. (тезисы докладов). – Гомель, 1978. – С. 112–113.

[Рэц.] М. Ф. Гуліцкі. Нарысы гісторыі беларускай лексікаграфіі (XIX – пачатак XX ст.) // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1978. – № 3. – С. 84–85 (у сааўтарстве з І. К. Германовічам)

**1980**

[Рэц.] Панько Т. І. Від терміна до системи. – Львів, 1979 // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1980. – № 1. – С. 75–76.

[Рэц.] Булыка А. М., Жураўскі А. І., Крамко І. І. Гістарычная марфалогія беларускай мовы. – Мінск, 1979 // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1980. – № 2. – С. 70–71 (у сааўтарстве з І. К. Германовічам).

Роля жывой народнай мовы ў фарміраванні і развіцці беларускай тэрміналагічнай лексікі // Рэгіянальныя традыцыі ва ўсходнеславянскіх мовах, літаратурах і фальклоры: тэз. дакл. II рэсп. навук. канф. (25–26 верас. 1980 г.). – Гомель, 1980. – С. 64–65.

Генетычная характарыстыка беларускай тэрміналагічнай лексікі пачатку XX ст. // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1980. – № 2. – С. 20–24.

**1981**

Лексіка-семантычная характарыстыка беларускай тэрміналагічнай лексікі пачатку XX ст. // Беларуская мова. – Вып. 9. – Мінск, 1981. – С. 20–26.

**1982**

Некаторыя асаблівасці тэрмінатворчасці ў беларускай літаратурнай мове 20–30-х гадоў //Актуальные проблемы общественных наук. Актуальные проблемы естественных наук: тез. науч. конф. проф.-препод. состава, посвящ. 60-летию университета. – Минск, 1982. – С. 57–58.

Лексіка і фразеалогія беларускай мовы. – Мінск: Нар. асвета, 1982. – 143 с.

Системная обусловленность терминообразования и ее проявление в белорусской терминологической лексике 20–30-х годов // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: тез. докл. респ. конф. (26–28 мая 1982 г.). Ч. 2. – Гродно, 1982. – С. 84–87.

З працы Якуба Коласа над паэмай «Новая зямля» // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1982. – № 1. – С. 18–23.

Некаторыя моўныя асаблівасці дакастрычніцкай паэзіі Янкі Купалы // Творчая спадчына Янкі Купалы і Якуба Коласа і развіццё славянскіх моў і літаратур: тэз. дакл. рэсп. навук. канф., прысвеч. 100-годдзю з дня нараджэння народных паэтаў БССР Янкі Купалы і Якуба Коласа (14–15 мая 1982 г.). – Мінск, 1982. – С. 155–156.

Функцыянальнае развіццё беларускай літаратурнай мовы ў савецкі час // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1982. – № 3. – С. 5–8.

**1983**

[Рэц.] Гістарычны слоўнік беларускай мовы / гал. рэд. А. І. Жураўскі. – Мінск : Навука і тэхніка, 1982–1986. – Вып. 1–6 // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1983. – № 1. – С. 74–75.

**1984**

[Рэц.] Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Вып.1 // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1984. – № 1. – С. 74–75.

Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія. – Мінск: Універсітэцкае, 1984. – 175 с. (у сааўтарстве з У. М. Лазоўскім, Я. М. Камароўскім, І. М. Шчарбаковай).

Да пытання аб вывучэнні беларускай тэрміналагічнай лексікі 20-х гадоў // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1984. – № 3. – С. 13–17.

**1985**

З клопатам пра слова // Звязда. – 1985. – 12 студз.

Некаторыя аспекты аналізу беларускай тэрміналагічнай лексікі 20-х гадоў // Региональные особенности восточнославянских языков, литератур, фольклора и методы их изучения: тез. докл. и сообщ. III респ. конф. (8–9 февр. 1985 г.). – Гомель, 1985. – Ч. 1. – С. 113–115.

Пошукі прынцыпаў і шляхоў выпрацоўкі беларускай нацыянальнай тэрміналогіі ў 20-х гадах // Беларуская мова. – Вып. 13. – Мінск, 1985. – С. 31–40.

**1986**

Грані слова: факультатыўны курс «Лексіка і фразеалогія беларускай мовы»: Вучэб. дапаможнік для 9 кл. – Мінск : Нар. асвета, 1986. – 173 с.

Тэрміны на старонках газет // Культура мовы журналіста. – 1986. – № 3. – С. 34–40.

Да роднага слова любоў праз гады // ЛіМ. – 1986. – 12 верас.

Практыкум па гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Выд. 2-е, дапрац. – Мінск : Універсітэцкае, 1986. – 208 с. ( у сааўтарстве з Л. М. Шакуном)

**1987**

Лев Михайлович Шакун: к 60-летию со дня рождения // НДВШ. ФН. – 1987. – № 1. – С. 94.

Светапоглядная накіраванасць курса гісторыі беларускай літаратурнай мовы // Совершенствование преподавания общепрофессиональных дисциплин на гуманитарных факультетах в свете требований XXVII съезда КПСС и перестройки высшей школы: тез. докл. унив. науч.-метод. конф. – Минск, 1987. – С. 75–77.

Прастамоўе // БелЭЛіМ. – 1987. – Т. 4. – С. 379.

Прастамоўная лексіка // БелЭЛіМ. – 1987. – Т. 4. – С. 379.

Прафесіяналізмы // БелЭЛіМ. – 1987. – Т. 4. – С. 384.

Слова // БелЭЛіМ. – 1987. – Т. 5. – С. 50–51.

Словы-паразіты // БелЭЛіМ. – 1987. – Т. 5. – С. 54.

**1988**

Змест і структура падручніка па мове для 4 класа // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1988. – № 7. – С. 24–29.

Тэрмін і норма // Культура мовы журналіста. – 1988. – № 4. – С. 35–44.

Беларуская мова: падручнік для 4 класа школ з беларускай мовай навучання. – Мінск: Нар. асвета, 1988. – 287 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Вывучэнне фанетыкі, арфаэпіі, графікі і арфаграфіі ў 4 класе // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1988. – № 10. – С. 31–40.

Вывучэнне лексікі ў 4 класе // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1988. – № 11. – С. 16–21.

Вывучэнне структуры слова ў 4 класе // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1988. – № 12. – С. 13–17.

**1989**

Вывучэнне назоўніка ў 4 класе // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1989. – № 1. – С.16–20.

Вывучэнне прыметніка ў 4 класе // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1989. – № 2. – С. 7–11.

Сучасная беларуская мова: практычныя заняткі. – Мінск: Універсітэцкае, 1989. – 334 с. (у сааўтарстве з Л. І. Бураком, У. М. Лазоўскім).

Семантычная дэрывацыя як спосаб намінацыі ў беларускай навуковай тэрміналогіі 20-х – пачатку 30-х гадоў // Словообразование и номинативная деривация в славянских языках: тез. докл. III респ. конф. (5–6 окт. 1989 г.). – Ч. II. – Гродно, 1989. – С. 45–47.

Народныя вытокі моўна-выяўленчых сродкаў «Слова пра паход Ігаравы» // Вечна жывое слова. – Мінск : Навука і тэхніка, 1989. – С. 126–136.

**1990**

Некаторыя віды семантычнай дэрывацыі ў беларускім тэрмінаўтварэнні 20-х – пачатку 30-х гадоў // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1990. – № 1. – С. 21–24.

Развіццё лексікі беларускай літаратурнай мовы ў савецкі перыяд // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1990. – № 4. – С. 46–47.

Беларуская мова: падручнік для 5 класа школ з беларускай мовай навучання. Выд. 2-е. – Мінск : Нар. асвета, 1990. – 287 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Стылі літаратурнай мовы // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1990. – № 8. – С. 16–21; – № 9. – С. 25–27.

Роля народна-дыялектнай лексікі ў фарміраванні беларускай тэрміналогіі // Рэгіянальныя асаблівасці ўсходнеславянскіх моў: тэз. дакл. і паведамл. навук. канф. (26–27 кастр. 1990 г.). – Гомель, 1990. – С. 63–65.

Гісторыя беларускай літаратурнай мовы: Рэферат // Беларусістыка. – № 2. – Спадчына. Вып. 1. – 1990. – С. 95–99.

Стылістычныя рэсурсы лексікі // Беларуская мова і літаратура ў школе. – 1990. – № 11. – С. 37–40; – № 12. – С. 27–28.

Беларуская мова ў 5 класе: метадычныя парады да падручн. – Мінск : Нар. асвета, 1990. – 143 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

**1991**

На шляхах да сістэмы (беларуская тэрміналогія ад нашаніўскага перыяду да нашых дзён) // Дыялекталогія і культура беларускай мовы: тэз. дакл. рэсп. навук.-практ. канф. (10–11 снеж. 1991 г.). – Гомель, 1991. – С. 68–71.

**1992**

Стылістычныя рэсурсы марфалогіі // Роднае слова. – 1992. – № 1. – С. 22–26; – № 2. – С. 24–30.

Грані слова: Факульт. курс «Лексіка і фразеалогія беларускай мовы»: Вучэбны дапаможнік для 10 кл. – 2-е выд. дапрац. – Мінск : Нар. асвета, 1992. – 175 с.

Беларуская мова: падручнік для 5 класа школ з беларускай мовай навучання. Выд. 3-е, дапрац. – Мінск : Нар. асвета, 1992. – 318 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Магутнае роднае слова Купалы: адметнасці мовы грамадзянскай лірыкі пачатку XX ст. // Роднае слова. – 1992. – № 7–8. – С. 71–74.

**1993**

Беларуская мова: падручнік для 6 класа школ з беларускай мовай навучання. – Мінск : Нар. асвета, 1993. – 270 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Русско-белорусский словарь электротехнических терминов. – Мінск : Выш. шк., 1993. – 135 с. (у сааўтарстве з Н. П. Краеўскай, Б. В. Грынбергам).

**1994**

Беларуская мова: падручнік для 5 класа школ з беларускай мовай навучання. Выд. 4-е. – Мінск : Нар. асвета, 1994. – 322 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Некаторыя праблемы тэрміназнаўства і тэрмінаўтварэння // Праблемы методыкі выкладання беларускай мовы ў нефілалагічных ВНУ: матэрыялы навук.-метад. канф. (19–20 чэрв. 1993 г.). – Горкі, 1994. – С. 40–42.

Стылістычныя рэсурсы лексікі // Слова беларускае: З гісторыі лексікалогіі і лексікаграфіі. – Мінск : Нар. асвета, 1994. – С. 24–32.

Некаторыя асаблівасці беларускай навуковай тэрміналогіі нашаніўскага перыяду і 20-х гадоў // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1994. – № 2. – С. 30–35.

Комплекс падручнікаў і дапаможнікаў па роднай мове для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы // Беларуская мова і літаратура: Праблемы навучання і выхавання ў сярэдняй і вышэйшай школе: матэрыялы рэсп. навук.-практ. канф. – Мінск, 1994. – С. 40.

**1995**

Беларуская нацыянальная тэрміналогія: Некаторыя пытанні фарміравання і сучаснага стану // Беларусістыка. Беларусь: Гістарычны лёс народа і куль-

туры: матэрыялы навук. сесіі 16–17 ліст. 1994 г. Аддзяленне гуманітарных навук. – Мінск, 1995. – С. 289–292.

Беларуская мова, V–XI класы: праграмы для сярэдняй школы. – Мінск : Асар, 1995. – 54 с. (у сааўтарстве).

Беларуская мова: падручнік для 5 класа школ з беларускай мовай навучання. Выд. 5-е, перапрац. – Мінск : Нар. асвета, 1995. – 464 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Аб сінонімах, дублетах і варыянтах у тэрміналогіі // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1995. – № 1. – С. 25–27.

Сучасная беларуская мова. Выд. 2-е, дапрац. – Мінск : Выш. шк., 1995. – 334 с. (у сааўтарстве з У. М. Лазоўскім, І. М. Шчарбаковай і інш.).

**1996**

Мастацка-выяўленчыя сродкі паэтычнага сінтаксісу // Роднае слова. – 1996. – № 7. – С. 75–81.

Грані слова. Выд. 3-е, дапрац. і дап. – Мінск : Нар. асвета, 1996. – 272 с.

Беларуская мова: падручнік для 6 класа. – Мінск : Нар. асвета, 1996. – 260 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Тэрмін як мастацкае слова // Пісьменнік – мова – стыль: тэз. дакл. і паведамл. міжнар. навук. канф., прысвеч. 70-годдзю з дня нараджэння Л. М. Шакуна (17–19 верас. 1996 г.). – Мінск : БДУ, 1996. – С. 64–66.

На шляхах тэрмінатворчасці // Актуальные проблемы социально-гуманитарных и естественных наук. Т. 1. – Мінск, 1996. – С. 87–88.

Слова развітання // Настаўніцкая газета. – 1996. – 20 лістап.

Пісьменнік – мова – стыль // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1996. – № 3. – С. 72–73.

**1997**

Беларуская мова: падручнік для 3 класа школ з беларускай мовай навучання. – Мінск : Нар. асвета, 1997. – 246 с. (у сааўтарстве з А. М. Рудэнка).

Літаратуразнаўчыя тэрміны на старонках «Нашай Нівы» // Янка Купала і «Наша Ніва»: міжнар. навук. канф. (7–8 кастр. 1996 г.). – Мінск : Беларускае выдавецкае таварыства «Хата», 1997. – С. 78–83.

Лінгвістычны конкурс: XI клас // Роднае слова. – 1997. – № 11. – С. 75–84.

Прафесар Леў Міхайлавіч Шакун: рэфератыўна-бібліяграфічны даведнік па беларускаму мовазнаўству. – Мінск, 1997. – 143 с. (у сааўтарстве з Б. А. Плотнікавым, В. П. Трайкоўскай).

Беларуская мова ў табліцах і схемах: вучэб. дапаможнік для вучняў старэйшых класаў сярэдняй школы. – Мінск, 1997. – 188 с. (у сааўтарстве з Г. М. Валочка, Я. М. Лаўрэлем, В. У. Протчанкам, С. А. Язерскай, С. М. Якуба).

Беларуская мова ў другой палове XX ст. // Весн. БДУ. Сер. IV. – 1997. – № 3. – С. 80–81.

Пошукі прынцыпаў і шляхоў распрацоўкі беларускай нацыянальнай тэрміналогіі на пачатку XX ст. // Тэрміналагічны бюлетэнь. – 1997. – № 1. – С. 8–15.

**1998**

На службе роднаму слову (Да 5-годдзя кафедры гісторыі беларускай мовы) // ЛіМ. – 1998. – 29 мая.

Функцыянальна-стылявая дыферэнцыяцыя беларускай літаратурнай мовы // Беларуская мова. Najnowsze dzieje języków słowiańskich. – Opole, 1998. – S. 223–260.

Беларуская мова: 5 клас: эксперыментальны падручнік для школ з беларускай мовай навучання. – Мінск : Адукацыя і выхаванне, 1998. – 282 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Навуковы стыль сучаснай беларускай літаратурнай мовы // Беларуская мова ў другой палове XX ст.: матэрыялы міжнар. навук. канф. (Мінск, 22–24 кастр. 1997 г.). – Мінск, 1998. – С.16–19.

Змест і структура падручніка для 3 класа беларускамоўных школ // Пачатковая школа. – 1998. – № 10. – С. 6–8.

Беларуская мова ў табліцах і схемах. Выд. 2-е. – Мінск : Полиграфмаркет, 1998. – 186 с.

Слова як адзінка мовы // Святло сакавіцкага сонца: да 60-х угодкаў прафесара Г. М. Малажай. – Брэст, 1998. – С. 204–211.

Беларуская мова: падручнік для 6 класа школ з бел. мовай навучання. – 2-е выд. – Мінск : Нар. асвета, 1998. – 256 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

**1999**

Вывучэнне прыметніка ў 6 класе // Роднае слова. – 1999. – № 1. – С. 117–124; – № 2. – С. 150–157; – № 3. – С. 153–159.

Беларуская мова: падручнік для 2 класа школ з беларускай мовай навучання. – Мінск : Нар. асвета, 1999. – 270 с. (у сааўтарстве з А. М. Рудэнка).

Да пытання аб ролі Ф. Скарыны ў дэмакратызацыі мовы рэлігійнай літаратуры // Скарына і яго час: матэрыялы I міжнар. навук. канф.. – Гомель, 1999. – С. 22–26.

Паўтарэнне вывучанага ў 5 класе (Метадычныя парады да падручніка «Беларуская мова: 6 клас») // Беларуская мова і літаратура. – 1999. – № 3. – С. 35–56.

Беларуская мова: 6 клас: эксперыментальны падручнік для школ з беларускай мовай навучання. – Мінск : Полібіг, 1999. – 286 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Беларуская мова ў 6 класе. – Мінск : НІА, 1999. – 134 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Некаторыя асаблівасці мовы навуковых прац Ф. М. Янкоўскага // Жыццём слугуючы Айчыне: матэрыялы навук. канф. да 80-х угодкаў прафесара Ф. М. Янкоўскага. – Брэст, 1999. – С. 214–219.

Для добрага навучання: рэц. на кн.: Бадевич З. И. и др. Русско-белорусский словарь. – Минск, 1999 // Роднае слова. – 1999. – № 12. – С. 112–115.

Беларуская мова ў табліцах і схемах: вучэб. дапаможнік для вучняў ст. кл. сярэд. шк. – Мінск : Юніпрэс, 1999. – 192 с. (у сааўтарстве з Г. М. Валочка, Я. М. Лаўрэлем).

**2000**

Слова і яго лексічнае значэнне: метадычныя парады да раздзела «Слова» новага падручніка для 2 класа беларускамоўных школ // Пачатковая школа. – 2000. – № 1. – С. 10–11.

Экзамен па беларускай мове: дапаможнік для абітурыентаў і вучняў старэйшых класаў. – Мінск : ТетраСистемс, 2000. – 160 с. (у сааўтарстве з І. С. Роўдам, І. Р. Шкраба).

Беларуская мова ў 6 класе. – Мінск : Нар. асвета, 2000. – 128 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Беларуская мова, V–XI класы: праграмы сярэднеадукацыйнай школы з беларускай мовай навучання. – Мінск : НМЦэнтр, 2000. – 128 с. (у сааўтарстве).

Алімпіяды па беларускай мове: дапаможнік для навучэнцаў агульнаадукацыйных школ, гімназій, ліцэяў. – Мінск : Аверсэв, 2000. – 240 с. (у сааўтарстве з Г. М. Малажай).

[Рэц.] Плотнікаў Б. А. Беларуская мова ў сістэме славянскіх моў: вучэб. дапаможнік // Весн. БДУ. Сер. IV. – 2000. – № 1. – С. 90–91.

Састаў слова // Пачатковая школа. – 2000. – № 12. – С. 11–14.

**2001**

Здаём экзамен па беларускай мове. – Мінск : Асар, 2001. – 240 с. (у сааўтарстве з І. С. Роўдам, І. Р. Шкраба).

Слова як аснова лексічнай сістэмы // Роднае слова. – 2001. – № 4. – С. 68–70.

Прыметнік: метадычныя парады да раздзела «Прыметнік» новага падручніка для 2 класа беларускамоўных школ // Пачатковая школа. – 2001. – № 5. – С. 13–14.

Адчуўшы слова таямніцы: рэц. на кн.: Прыгодзіч М. Р. Словаскладанне ў беларускай мове. – Мінск : ВЦ БДУ, 2000 // ЛіМ. – 2001. – 29 чэрв.

Беларуская мова: падручнік для 4 класа агульнаадукацыйных школ з беларускай мовай навучання. – Мінск : Нар. асвета, 2001. – 415 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Ах, алімпіяда, алімпіяда… // Роднае слова. – 2001. – № 7. – С. 66–71.

Семантычная характарыстыка слова // Роднае слова. – 2001. – № 10. – С. 73–76.

Алімпіяды па беларускай мове. Выд. 2-е. – Мінск : Аверсэв, 2001. – 242 с. (у сааўтарстве з Г. М. Малажай).

Экзамен па беларускай мове. Выд. 2-е, дапрац. – Мінск : ТетраСистемс, 2001. – 160 с. (у сааўтарстве з І. С. Роўдам, І. Р. Шкраба).

Прастамоўе // БелЭн. – 2001. – Т. 13. – С. 19.

Прафесіяналізмы // БелЭн. – 2001. – Т. 13. – С. 29.

Прадмова // Шакун Л. М. Карані роднай мовы. – Мінск, 2001. – С. 3–4.

**2002**

Беларуская мова: праграмы для агульнаадукацыйных устаноў з 12-гадовым тэрмінам навучання. – Мінск : НМЦэнтр, 2002. – 120 с. (у сааўтарстве).

Беларуская мова: падручнік для 5 класа агульнаадукацыйнай школы з беларускай мовай навучання. – Мінск : Нар. асвета, 2002. – 383 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Беларуская мова ў 5 класе: метадычны дапаможнік для настаўнікаў. – Мінск : Нар. асвета, 2002. – 141 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Асноўныя тыпы лексічных значэнняў слова // Роднае слова. – 2002. – № 7. – С. 52–54.

Ex professo: каментар лінгвістычнага конкурсу: IX клас // Роднае слова. – 2002. – № 7. – С. 66–69.

Ex professo: каментар лінгвістычнага конкурсу: X і XI класы // Роднае слова. – 2002. – № 9. – С. 79–82.

Ex professo: пераклад. X і XI класы // Роднае слова. – 2002. – № 10. – С. 53–55.

Да гармоніі слова і стылю: з працы Якуба Коласа над паэмай «Новая зямля» // Роднае слова. – 2002. – №11. – С. 36–40.

Да пытання тэрміналагічнай нормы // Культура мовы і грамадства: матэрыялы міжнар. навук.-практ. канф. (5–6 снеж. 2002 г.). – Мінск, 2002. – С. 90–93.

Слова //БелЭн. – Мінск, 2002. – С. 10.

Беларуская мова ў 4 класе: вучэб.-метад. дапаможнік для настаўнікаў агульнаадукацыйнай школы з 12-гадовым тэрмінам навучання. – Мінск : Нар. асвета, 2002. – 159 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Мікалай Рыгоравіч Прыгодзіч // Весн. БДУ. Сер. IV. – 2002. – № 3. – С. 111.

**2003**

Тэсты па беларускай мове: 4 клас. – Мінск : Сэр-Віт, 2003. – 136 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Тэсты па беларускай мове: 5–6 класы. – Мінск : Сэр-Віт, 2003. – 80 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Беларуская мова: праграмы для I – III класаў 12-гадовай агульнаадукацыйнай школы з беларускай мовай навучання. – Мінск : Пачатковая школа, 2003. – С. 6–10.

Беларуская мова: падручнік для 5 класа агульнаадукацыйных школ з беларускай мовай навучання. – Мінск : Нар. асвета, 2003. – 323 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Дыдактычны матэрыял па беларускай мове: 4 клас. – Мінск : Нар. асвета, 2003. – 137 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Што ні онім – то вобраз: рэц. на кн.: Шур В. Анамастычная лексіка ў беларускай мастацкай літаратуры. – Мінск, 2003 // Роднае слова. – 2003. – № 3. – С. 81.

Новы навучальны дапаможнік па мовазнаўстве: рэц. на кн.: Плотнікаў Б. Кароткая гісторыя беларускай мовы і мовазнаўства. – Мінск, 2002 // Роднае слова. – 2003. – № 5. – С. 67 (у сааўтарстве з В. П. Трайкоўскай).

Лексіка і фразеалогія беларускай мовы: праграма курса на выбар // Беларуская мова і літаратура. – 2003. – № 3. – С. 12–15.

Слоўнікавае і фразеалагічнае багацце беларускай мовы // Роднае слова. – 2003. – № 8. – С. 67–69.

Слова як адзінка мовы. Адназначныя і мнагазначныя словы // Роднае слова. – 2003. – № 9. – С. 77–81.

Некаторыя пытанні нарматыўнасці тэрміна // Слова і час: Навуковыя пытанні, прысвечаныя памяці прафесара У. В. Анічэнкі: Зб. навук. прац. – Гомель, 2003. – С. 46–53.

Амонімы. Амаформы. Амографы. Амафоны. Выкарыстанне іх у мове // Беларуская мова і літаратура. – 2003. – № 5. – С. 114–127.

**2004**

Беларуская мова ў табліцах і схемах. Серыя «Усё для школы». – Мінск : Юніпрэс, 2004. – 193 с. (у сааўтарстве).

[Рэц.] Рамза Т. Р. Сінтаксіс: Тэарэтычны курс: вучэб. дапаможнік. – Мінск : БДУ, 2003 // Весн. БДУ. Сер. IV. – 2004. – № 2. – С. 110–111.

Беларуская мова: праграмы для ўстаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання з 12-гадовым тэрмінам навучання: I–IV класы. – Мінск : НІА, 2004. – С. 36–49.

[Рэц.] Казлова Р. М. Беларуская і славянская гідранімія. Праславянскі перыяд. У 2-х т. – Гомель : ГДУ. Т. 1, 2000; Т. 2, 2002 // Весн. БДУ. Сер. IV. – 2004. – № 1. – С. 100–101.

Некаторыя лінгвістычныя аспекты нармавання тэрміналогіі // Праблемы развіцця, функцыянавання і нармавання лексікі беларускай мовы: міжнар. навук.-метад. канф.: Зб. навук. артыкулаў. – Гомель : ГДУ, 2004. – С. 26–34.

**2005**

З кагорты рупліўцаў // Працы кафедры сучаснай беларускай мовы. – Мінск : РІВШ, 2005. – С. 7–10.

Сінонімы // Беларуская мова і літаратура. – 2005. – № 3. – С. 42–51.

Жывыя струны чулага сэрца // Роднае слова. – 2005. – № 6. – С. 91–93.

Дыдактычны матэрыял па беларускай мове: 6 клас. – Мінск : Сэр-Віт, 2005. – 144 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Антонімы. Антонімы ў мастацкіх творах // Беларуская мова і літаратура. – 2005. – № 6. – С. 46–50.

Паходжанне лексікі беларускай мовы // Беларуская мова і літаратура. – 2005. – № 9. – С. 41–46.

**2006**

Агульнанародная лексіка і лексіка абмежаванага ўжывання // Роднае слова. – 2006. – № 7. – С. 48–50.

**2007**

Лексіка абмежаванага ўжывання ў мастацкай літаратуры // Роднае слова. – 2007. – № 6. – С. 42–44.

Зборнік экзаменацыйных матэрыялаў па беларускай мове для агульнаадукацыйных устаноў (узровень агульнай і сярэдняй адукацыі): Тэксты для пераказаў і водгукаў (базавы, павышаны і паглыблены ўзровень). – Мінск : НІА; Аверсэв, 2007. – 317 с. (у сааўтарстве з У. І. Куліковічам, А. А. Радзевічам, Т. М. Саўчук).

Актыўная і пасіўная лексіка // Беларуская мова і літаратура. – 2007. – № 10. – С. 38–42.

Беларуская мова: падручнік для 3 класа. У 2 частках. – Мінск : НІА, 2007. – 1 ч. – 144 с.; 2 ч. – 136 с. (у сааўтарстве з А. М. Рудэнка).

Беларуская мова ў 3 класе. – Мінск: НІА, 2007. – 124 с.

Беларуская мова: поўны школьны курс: Тэорыя. – Мінск : Аверсэв, 2007. – 268 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем).

Стылістычныя разрады лексікі // Беларуская мова і літаратура. – 2007. – № 12. – С. 10–13.

**2008**

Эмацыянальна-экспрэсіўная лексіка // Беларуская мова і літаратура. – 2008. – № 1. – С. 12–14.

Беларуская мова ў табліцах і схемах. – Мінск : Аверсэв, 2008. – 174 с.

Беларуская мова: поўны школьны курс: Тэорыя. Выд. 2-е. – Мінск : Аверсэв, 2008. – 268 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем)

Беларуская мова: вучэб. дапаможнік для 5 класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання. У 2 частках. – Мінск : НІА,

2008. – 1 ч. – 144 с.; 2 ч. – 160 с. (у сааўтарстве з Л. С. Васюковіч, Я. М. Лаўрэлем, В. І. Несцяровічам).

Беларуская мова ў табліцах і схемах для малодшых школьнікаў. – Мінск : Аверсэв, 2008. – 108 с.

**2009**

Зборнік экзаменацыйных матэрыялаў па беларускай мове для агульнаадукацыйных устаноў (узровень агульнай сярэдняй адукацыі): тэксты для пераказаў. – Мінск : НІА; Аверсэв, 2009. – 445 с. (у сааўтарстве з У. І. Куліковічам, А. А. Радзевічам, З. І. Падліпскай).

Беларуская мова: вучэб. дапаможнік для 6 класа для агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання. – Мінск : НІА, 2009. – 304 с. (у сааўтарстве з Я. М. Лаўрэлем, С. Р. Рачэўскім).

# ЗМЕСТ

Навуковае выданне

**Красней** Віктар Пятровіч

**БЕЛАРУСКАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ**

**Зборнік артыкулаў**

У аўтарскай рэдакцыі

Мастак вокладкі *Т. Ю. Таран*
Тэхнічны рэдактар *Т. К. Рамановіч*
Карэктар *А. А. Заяш*
Камп’ютарная вёрстка *А. А. Мікулевіча*

Адказны за выпуск *Г. В. Мыцык*

Падпісана да друку 30.03.2011.
Фармат 60×90/16. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 13,5. Ул.-выд. арк. 12,55.
Тыраж 200 экз. Зак.

Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.
ЛВ № 02330/0494425 ад 08.04.2009.
Пр. Незалежнасці, 4, 220030, Мінск.

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка.
Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Выдавецкі цэнтр
Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта».
ЛП № 02330/0494178 ад 03.04.2009.
Вул. Чырвонаармейская, 6, 220030, Мінск.